А коняй капыты капыцяць рунь,—
вярнулася дзікунская пара.
Хвасты зьвіняць у сотні струн,—
музыка-сівер сеў за іх іграць.

Даўно, даўно ня чуў такой ігры,—
на сэрцы стала ’шчэ цяжэй і горш.
Ўхапіцца-б мне за хвалі грыў
і слухаць конскіх жылаў дрож.

Ўхапіцца-б і ў бяспамяцьці гукнуць:
імчы, гарачы, жвавы мой пэгас,
імчы мяне к разьбітаму акну!
Прышоў, настаў для нас трагічны час.

Жыве на поплаве сям‘я, радня,
накрыўшы туманом жалобны стол.
Гараць грамніцы ноч усю да дня;
капае брат сястры азглелы дол.

У гэты год закляты і ліхі
каму у радасьці сьмяяцца, жыць?
Скапаны на магілы ўсе шляхі;
усюды й скрозь панурыя крыжы.

Пад імі кленчаць зоры і вятры,
пад імі кленчыць выгнаны народ;
сьпяваюць псальмы раніцай віхры:
— бясслаўна гіне чалавечы род...

Поэтам трудна быць у час такі,—
душа заходзіцца ад горкіх слоў.
Калі гарматамі грымяць вякі,—
ня ўскінуць песьні дымавых заслон.

Яна пад імі ў змрочным забыцьці
праходзіць ночы ціхаю хадой.
Змаўкае кананада у жыцьці
Зьяўляецца й яна страшной, худой.

А мне ў агідны і крывавы дзень
Мары песьні суджана дарыць.
Людзкая плача пры дарозе цень,
старыя сосны плачуць у бары.

IX

Зьмяніўся Менск ня шмат:
віюцца вуліцы ўсё тыя-ж;
глядзіць гандляр з-за крат
і лічыць сотні залатыя.

Зайздроснаю рукой
аблапаў ён зямлі багацьце.
Косьцюма модны крой
адсьвечвае ангельскім глянцам.

Індустрыі пару
ён праслаўляе ў час вячорны;
ён воін і патруль
славутай цені—біржы чорнай.

Валютчыкі вайны
у банк нясуць свае рахункі,—
не дарам-жа яны
зьбівалі цэлы год чыгункі.

Дзе вуліц зьбег, разьбег,
там паліцмэн з дубінай ёмкай.
Па рэечнай разьбе
ўсё тая-ж мчыцца рысьсю конка.

Ўсе шыльды тых-жа фірм,—
ў провінцыяльным стылі рускім:
без футурыскіх рыфм,
не ў маякоўскім рытме трускім.

Іронія жыцьця,
даволі быць такою кплівай!
Нам трэба рытм шаўца,
каб песьні сходзіліся клінам.

Нам трэба шмат чаго,
нас гэтае і тое рупіць.
Ў заводах згас агонь,—
гарланяць ўсе ў гарматны рупар.

Панэляй я іду,
гляджу, сабак як ловяць гіцлі;
ў грудзёх займае дух,
а хочацца на ўсё дзівіцца.

І неяк міма ўсё,
ў ваччу адзіны сьветлы вобраз.
Няўжо ён мара, сон?
Няўжо ён ласка, страх і грозьба?

Ня ведала Зямля
яшчэ такое гэроіні.
Дзе ты, дзе ты мая,
краса юнацкая—Марыя?

Ўвесь дзень і ноч усю
цябе я зваць і клікаць буду,—
хоць ведаю,—касу
не расплятуць прадаўцы-‘юды.

Ты выйдзеш да мяне,
на рысы твару ўнікла глянеш.
Мой ціхі сум міне,
разьвеецца ў вятрох ільняных.

Нэрвовы непакой
ў суставах курчыцца каляных;
дрыжачаю рукой
ірву агідную рэкляму.

Вачмі сьвідрую рух,—
ў ім скарб нязгублены шукаю.
У сузмрочную пару
ліхтарні рот бяззубы скаляць.

Пад імі моўчкі я
ўступаю на квартал цэнтральны.
Вунь постаць нейчая
дрыжыць на пляцы тэатральным.

Юнацкія гады
ў баях на фронце ўсе знасілі...
Хутчэй пайду туды,—
магнэсавая цягне сіла.

Пры ўходзе у тэатр
яна хаду сваю спыніла.
— Бывае шмат утрат...—
і вусны сьціснула жахліва.

— Чужыя песьні тут
мне раны сэрца разьдзіраюць.—
Сыгнал... агонь патух...
Дрыжыць у вопратцы дзіравай.

Прашу, скажэце мне,
крывавых ружаў дзе нарвалі?
У якой яны імгле
маглі укрыцца ад навалы?

Дзе вырасьці маглі
з такім паневам сьнежным астры?
У якіх садох? Калі
народ пайшоў па сьвеце з кайстрай?

*Марыя*

Палёў нізінных шыр
апырскана крывёй гарачай.
Запушчаны пустыр
акроплены сьлязой бядачай.

Вось там Курган-гара,
вось там скрозь сьвежыя магілы;
замоўкла струн ігра,
там ружы й астры вецер хіліць.

*Лірынін*

Якога роду вы,
што словы працінаюць сэрца?
Шалёны вецер выў...
ня мог раней я з вамі стрэцца.

Скажэце, хоць і чуў,
завуць як вас, як вы на імя?
Я ведаць, знаць хачу
у гэты вечар хмельна-сіні.

*Марыя*

Бязродная, адна;
ня ведаю сваіх я продкаў.
Няйначы ўжо віной вайна,
што я спаткала дзень гаротны.

Ішла жыцьцё пазнаць
і думала, што горад прыме...
Мяне іначай зваць,—
завуць-жа ўсе—Марыя

*Лірынін*

Прабачце, я іду
спаткаць знаёмых за заслонай.
О, колькі, колькі дум
яна ўзбудзіла чулым словам!

Я раскажу сябрам
аб сёньняшняй сваёй сустрэчы.
Каб толькі ўсё сабраць...
Я раскажу ня раз, а трэйчы.

X

Вось тут, за рогам блізка,
даўнейшых дзён піўная.
Вось там, агонь дзе бліснуў,
прайшоў хтось у панаме.

Хадою жвава-лёгкай
ў суцемень проста смаліць.
Ў суцемні рот галёкнуў,
і зубы сьцялі палец.

Начуе вечна й днюе
на ганку сын сабачы...
Зайду і я ў піўную
знаёмага пабачыць.

Я калісь тут спаткаўся
з расьсеяным музыкам;
сказаў яму: раскайся,
што стаў чужым заікам.

На разьвітаньне шчыра
ён мне руку пацiснуў.
Паўзьлі, паўзьлі са шчылін,
паўзьлі нямыя мысьлі.

Зайду, былое ўспомню,
забудуся пад хмелем;
спачну ад дзікай бойні;
на сьвет зірну праз вэлюм.

Цераз парог ступаю,—
рукою насьцеж дзьверы.
Зялёны дым слупамі
над чалавекам-зьверам.

Ня ўсьпеў вачмі абвесьці
прытулак гэты п‘яны,
як нехта раптам з месца
у радасным зіяньні:

— Адкуль? Якім парадкам?
Сядай за гэты столік!
Расказывай-жа, братка!
Ня бачыліся столькі.—

Абняліся раптоўна
у братні пацалунак,—
я толькі тут успомніў,
што Руцэрн так цалуе!

*Руцэрн*

Знаём-жа будзь з колегам:
Антокаль,—Ю. Лірынін.
Я горад ўвесь абегаў,—
шукаў твайго прыпыну.

Дачуўся, расказалі,
што ты у грудзі ранен...
Душа сьцякала жалем
і вечарам, і раньнем.

Ня мог знайсьці шпіталю,
ў якім ляжаў, лячыўся.
Самоты дні насталі,
і сум між слоў сачыўся.

*Лірынін*

Ніхто мяне з знаёмых
ніразу не наведаў.
Акно ў сукне зялёным
не прапушчала сьвету.

За гэтаю заслонай
міналі дні ў халаце.
Два месяцы з паловай
адлежаў я ў палаце.

Пасьля—агляд комісій,
і месяц мне папраўкі.
Пятлёй пуціны завіліся,
ўпіліся ў ногі п‘яўкай.

Хадзіў я штодзень імі
і ў муках страшных тросься.
Аб гэтым успаміны
ня здолеюць забросьнецьь.

Я звалакаўся ў поле,
я стаў сабакам збродным,
я выць пачаў ад болю
за лёс краіны роднай.

Каму жыцьцё ручыла?
Хто быў з людзей шчасьліўцам?
У каго ня нылі жылы
ад дзікай навальніцы?

*Антокаль*

Між нашага народу
такіх няма, ня знойдзеш.
Увесь ён гэтым годам
у край чужацкі сойдзе.

Сыны-ж яго на фронце
за Русь сьвятую гінуць;
ня знаюць, што пад сонцам
ёсьць недзе іх краіна.

Ды й што з таго, што знаеш,
а йдзеш, ідзеш пакорна.
Што сталася вось з намі?
ўздыхаем толькі горна.

Ўздыхаць так доўга будзем
і наракаць бясслаўна,
хапаць рукой за грудзі
і вершам слаць пасланьні.

Занадта гнеў лірычны,
а часам холад, сьцюжа.
Мы да ўсяго прывычны,—
наш дух зямлёй кантужан.

Мне хочацца пароюю
гарою стаць вялізнай,
Каб засланіць сабою
ад бур навальных бліжніх.

*Руцэрн*

Хацець—яшчэ ня значыць,
што хопіць сілы зьдзейсьніць.
Мы маем многа мачых
і ім складаем песьні.

За іх часамі робяць
лісьлівую нам міну.
Сябры, здаецца, дробязь,
а ўсё-ж як горна сыну!

Як цяжка ў хворых лёгкіх,—
разьеў іх газ атрутны.
Жыцьцё прайсьці нялёгка,
а вельмі й вельмі трудна.

Для нашага вось брата,
які заўсёды ўзрушан,
Утрата за утратай
ў нялюдзкай гэтай калатушы.

Ў тональным гуку, слове,
ў расплыўчатае фарбе
кладуцца сьцені слоем
і рытм у сьценях зябне.

Хацеў я словы сёньня
на музыку пакласьці,
і вышла вяла, сонна,—
душа была хоць насьцеж.

Ну сорамна ды й годзе...
Яна-ж такой прыгожай
на сьвет хоць зрэдзь выходзіць,
а зрок людзкі трывожыць.

*Лірынін*

Што кажаш ты? Што чую?
Каго назваць ты хочаш?
Ніяк я ня ушчуну
уцехі ў пылкіх вочах.

Зірні, як я зьмяніўся,—
увесь ахоплен шчасьцем:
і боль суціх зьмяіцца,
і пульс біцьцё учасьціў.

Няйначы ты гаворыш
аб тэй, што краскі носіць,
што вырасла у горы
і зябне ў гэту восень?

Няйначы аб Марыі
ты нам хацеў напомніць?
Гатоў я кінуць-рынуць
і гойкнуць скрозь сутоньне.

*Антокаль*

Чакай, мой дружа слаўны,
што я скажу, паслухай!
Туманам сінь заслана,
зара ў палёх патухла.

У далях абліваха,—
пад ёй азглелі людзі,
а ноч зайшлася яхам
і шлях сьлізготай лудзіць.

Куды, куды ты гойкнеш?
усюды пуста, дзіка:
лісьцё у садзе мокне,
а ў хатах смага ікаць.

Цяпер яе ня стрэнеш,—
яна ў сьлязах нішчымных...
Адна, бяз родных стрэньніх,
ўшчыняе дзьверы шчыльна.

Я вобраз гэты бачу,
ён у ваччу заўсёды.
Я не магу іначай
узьняцца на‘т на ўсходы.

Мне вобраз гэты сьветлы
ня раз сюжэтам будзе,
на выстаўцы сусьветнай
яго пазнаюць людзі.

*Руцэрн*

І я вам тут клянуся,
што прысьвячу ёй творы;
з такой, няйначы мусіць,
каменьне й то гаворыць.

Яна такой нязвыклай,
яна такой таемнай;
таму ня быць музыкам,
хто гэтага ня ўкеміў.

*Лірынін*

Сябры, сябры мае вы,
як весела мне з вамі!
Ў раі, напэўна, Еве
так ня было з Адамам.

Калі лятуць... у вырай,—
люблю сачыць за лётам.
Кахаю я Марыю
усёй сваёй істотай.

Калі-ж я чую часам
яшчэ чыё прызнаньне,—
тады душа ня гасьне,
тады душа ў сьвітаньні.

Вы тут переда мною
нядаўна прысягнулі;
я веру,—не з манюю-ж
зайшлі сюды вы з вуліц.

Прысягу—абяцаньне
з вас зьдзейсьніць кожны, кожны.
Пагодны дзень настане,
мы выйдзема на пожні.

Там стрэнемся па-брацку,—
ў зямлю вачэй ня ўтупім.
Уцехай разгарацца
настроі у наступным.

Народ мы апавесьцім
аб вобразе мастацкім:
той музыкай, той песьняй,
а трэці ў фарбе яснай.

Узьнімем шклянкі вышай
і чокнемся за творчасьць!
Мы дні наноў расьпішам:
у яснасьць і узорнасьць.

*Руцэрн, Антокаль*

За тост мы піць гатовы,
за тост і за мастацтва.

*Усе*

Радзеюць ночы бровы,
пара і нам растацца.

XI

Зьвякае, лязгае зброя,—
лязгам па сталі, па броні.

Лушчыць галовы, бы зёрны;
хвалі чырвоняць азёры.

Ў гневе народныя зборні,—
рвуцца спрадвечнасьці корні.

Іх разгрызаюць зубамі;
прышлыя дні іх ня збавяць.

Прышлыя дні неўзабаве,—
цемру крывёю разбавяць.

Казку суровую збаюць,—
ліцьме кроў з белага збана.

Многа заўсёды на згоне
бруду бывае і гною.

Будуць імчацца ў пагоню
з кодэксам новых законаў.

Цяжка паверыць сягоньня,—
раны-ж ачысьцяць, загояць.

Слаўлю я гэнымі днямі
повеі косаў ільняных.

Палкасьць—ажогі агнямі
я не дазволю спаганіць.

Выйду к табе на спатканьне,—
ўзлокчуся моўчкі на камень.

Буду чакаць твайго выйсьця,—
ў сіні супуцяцца лісьця.

Смутак ня будзе імгліцца
ў лесе з хваёвых ігліцаў.

Зоры па іншаму бліснуць,—
шчодра рассыплюць іскрыстасьць.

---

Ты не мадонна, Марыя,
граю табе я на ліры.

Самыя кволыя словы
ў тонах музычнай асновы.

Ўслухайся, ўслухайся толькі,
шчырасьці сэрца ў іх колькі!

Вечарам гэтакім сінім
першая ты між усімі.

Рукі к табе прасьціраю,—
хочу зямнога я раю.

Тут прыгажосьць і пякнота,
ўзьлёты людзкія ў ясноты.

Тут найвялікшая творчасьць
з хлебам пракіслым і чорствым.

Ўсё падарыць ты у моцы;
гэткія бровы! а вочы!..

Зналі поэты прыгожых,—
славіў па своему кожны.

Кожны ў сьвятым захапленьні
слаў свае песьні—маленьні.

Сёньня такім я шчасьліўцам,—
маю каму памаліцца.

Песьня мая не загіне,—
слаўлю Багіню Багіняў.

Толькі зямную, зямную...
Сьцюжы у полі зімуюць.

Ў сэрцы ня сіверыць вецер,—
зоры і сонца ў ім сьвецяць.

Ў іхніх яснотах праменных
слоў залатыя імгненьні.

---

Вецер павеяў паўночны
ў вочы, блакітныя вочы.

Скроні нітуюцца шчыльна,—
вецер над сьцежкаю пыльнай.

Вецер такі неахайны,—
хоча разьвеяць каханьне.

Радасьць апошнюю вырваць;
кінуць на беразе жвірным.

Ходзяць дзе чорныя птахі,
быццам пустэльні манахі.

Вецер паўночны, суціхні!
Годзе ўжо гойсаць на зьвіхах.

Дзень учарайшы успомніў,—
хіба таму й неспакойны?

Хіба сьпяваеш па ім ты
гэтак працягла, інтымна?

Заўтрашні дзень прыгажэйшы,—
лепш прывітай яго першым.

Ўрэжся прарэзьлівым сьвістам
лепш у туманную мглістасьць.

Вецер—гайсун мой заўзяты,
ў слове і песьні узьнятасьцы!

Будзь-жа крыху ласкавейшым,—
дай ёй прайсьціся па сьцежках.

Глянуць у чыстыя далі,—
з ёю краса маладая.

Так-жа—і дні маладыя—
з творчым запалам, уздымам.

Сонца, ўсьміхніся ігрыва,
сонца, ўсьміхніся Марыі!

---

Родны народ у выгнаньні,
што яму песьні каханьня.

Ў рваным, дзіравым адзеньні
зглее, трасецца штодзенна.

Сьлёзы, жалоба, хаўтуры,—
стаў ён панурым і хмурым.

Галошаньні ў полі курганным
чутны на змроку й сьвітаньні.

Чорныя, чорныя ночы...
Колькі ў душы чэрваточын!

Як яна можа сьмяяцца?
Гнойныя раны у лямцах.

Іх аніхто не загоіць,—
боль у магілу загоніць.

Дзікая жудасьць, адчайнасьць,
горач пячэ надзвычайна.

Ў гэтакім часе жахлівым
песьні складаю Марыі.

Я ня умею іначай
дзён гаратлівых адзначыць.

Можа мой грэх і сьмяртэльны?
Можа я вырадак, шэльма?

Што-ж, няхай сына прабачаць,
сын ня умее іначай.

Сьцежкай ні йшоў-бы якою,
песень ніяк не ўспакою.

Песьні ў гармоніі дзіўнай
змрочнай вячорнай гадзінай.

Музыкай вобразаў стройных
рвуць, разрываюць настроі.

---

Шэрань спадае, радзее;
ў сэрцы квітнеюць надзеі.

З імі ня знаеш трывогі,
ўзносішся духам убогім.

Ў целе бадзёрасьць ня гасьне,
ў зроку імклівасьць і яснасьць.

Вобразы ў сьмелых абрысах
гордыя голавы высяць.

З імі лягчэй і мучэньне,—
радасьць ня так яно чэрніць

Плашч свой ускіну, адзену,
покуль ня зьвялі надзеі.

Зоры цярусяць мякіну,
выйду й вачыма акіну.

Квола настаўлю прыгоршні
ў сіні засмучаны водшыб.

Буду зьбіраць гэту россып,
быццам гаючыя росы.

Хай сабе буду дзівачным,—
дзе-ж мне такому дзявацца?

Зоры ў сузор'ях начуюць,—
голас з зямлі не пачуюць.

Радасьці смутак ня муціць;
зоры ня маюць пачуцьцяў.

Імі-ж ахоплен я сёньня,
быццам вясновы дзень сонцам.

Песьню яны выклікаюць
ў рытме музычным, цікавым.

Ў слове хілюся на персі,—
вобраз Марыі у песьні.

---

Чулая й скромная духам;
цела—гармонія рухаў.

Гэтакай лёгкасьці грацый
дзевы ніколі ня знацьме.

Дзевы—мадонны музэяў,
голавы ніжай наземце!

Вы пры жыцьці бессаромным
лёгка растрачвалі скромнасьць.

Кожнаму ў палкай пасьцелі
вы аддаваліся целам.

Кожны хацеў стаць шчасьліўцам,—
з персямі й вуснамі зьліцца.

Сталі таму і бясьсьмертны,—
славяць вас людзі і ветры.

Дзевы, чало нахіліце!
дзевы, пападайце ніцма!

Будзе праходзіць між вамі
дзева у косах ільняных.

Нізкім паклонам вітайце,—
дні яе толькі сьвітаюць.

Прыдуць красы яе творцы
з воляй няўломнай і моцнай.

Ўжо ім ня скажуць:—Ня слаўце,
ў нашай ня будзеце ласцы.—

Гэтакіх слоў не пачуюць;
ведаць ня будуць ушчунку.

Дні будуць сонцам лістацца,
дні будуць ў сьветлым юнацтве.

Радасьць—Марыя і шчасьце,
песьні з табой не расстацца!

---

Заўтра канчаецца месяц,—
тэрмін пабыўкі і песень.

Серца зноў гора ахопіць,—
духу стрымацца ня хопіць.

Ў далях скрыжуюцца тропы,—
імі прайду я ў акопы.

Хрусьне пад крокамі крэмень;
ў плечы урэжацца рэмень.

Зьвіснуць патроны на грудзі,—
смутак іржою забрудзяць.

Пояс абвесяць гранаты;
будзе таварышам ратнік.

Ноччу пад сьвісты і шумы
пойдзем ў атаку страшную.

Новы, мой любы таварыш,
што мне тады ты параіш?

Пэўна, ня зможаш даць рады,—
будуць ірвацца снарады.

Тысячы гострых багнэтаў
будзе мігцецца ў агне тым.

Нас разарвуць яны люта,—
кроў успаветраць салюты.

Годзе, даволі прароцтваў...
Сумам авеецца ростань.

Нізка я, нізка схілюся,
горкай сьлязою зальлюся.

Ўзойдзе змардованы месяц;
прыдзеш мяне ты уцешыць.

Вусны прыложыш да раны;
горача ў вочы я гляну.

Будзе апошняя стрэча
ў заўтрашні, заўтрашні вечар.

**З. Бядуля**

# Язэп Крушынскі

*Аповесьць*

## I.

Злажы пальцы ў кружок, настаў перад вокам, як шкелка з акуляр, і зірні.

Усё вакол нібы намалявана.

Лес, стромкі, густы, застыўшымі грамадамі кучаравіцца на краі мутнаватай бляхі неба.

Водаль аграмаднай посьцілкай раскідана жаўтаватае жытняе поле. Сьвежай зяленіваю, нібы густая мяккая шэрсьць, разгарнуліся вузкія палоскі аўсу. Бліжэй да вёскі на шараватых агародах расьце нэндзны бульбоўнік, які, здаецца, толькі нядаўна, пасьля дажджу, выскачыў з глебы.

З боку прытулілася да вуліцы некалькі хатак, абтрушаных зьверху бруднаватай саломай.

Над хаткамі кружацца вераб'і, крычаць на розныя галасы і часта апускаюцца на зямлю шукаць спажывы.

На дарозе стаіць селянін. Такога часам можна бачыць на малюнках.

Вочы—вузенькія, загойстраныя, бліскучыя ільдзінкі. Барада—прыклеены жмуток пакульля. Чупрына—насунуты кавалак аўчыны. Яна брындзьлямі вісіць з-пад старой барашкавай кучмы. Кажуронак — замыцганы, у дзірках рознага выгляду і памеру. З гэтых дзірак вылазяць, як мышы, каўтуны сіваватай шэрсьці.

Старому і ўлетку холадна пасьля вялікага дажджу. Ён дрыжыць і ў кажушку.

Дарога прарэзана каляінамі, патузгана і пакалечана калёсамі, у глыбокіх выбоінах. Яна зьвязвае селяніна, як вяроўкай, з усім сьветам, далёкім ад гэтай глухой мясьціны, нібы казка, нібы няясны сон.

Чаго-чаго ня бачыў тут стары за капу гадоў! Усё-усё запісана ў яго памяці, нібы выразана сцызорыкам на гладкай бярэзіне.

Дарога—гэта газэта, кніга, унівэрсытэт, тэатр для старога.

Вельмі часта бачыць ён тут падарожнікаў. Кожны з знаёмых і незнаёмых людзей баіць старому аб усім тым, што на сьвеце дзеецца. Кожны з іншага рэшата прасейвае сваю гутарку. Стары зьбірае ўсе думкі людзкія, як жабрак скарынкі. Ён убірае іх у сябе, нібы сухое поле сьвежы дожджык.

Многа дзесяткаў гадоў ведае селянін гэту дарогу. Вось тут пры дарозе жыў яго бацька, дзед. Тое, што стары бачыў і чуў на тутэйшай дарозе да гэтага лета 1924 году, не зьмясьцілася-б у вялікай кнізе.

І цяпер селянін чакае, можа хто праедзе, можа хто наведаецца... А то нуда, як моль, заела. Суседзі даўно ўжо надакучылі. У кожным з іх ён бачыць, як у люстэрцы, самога сябе. У гутарцы кожнага з іх ён чуе свой уласны водгаласак.

Стары наставіў вушы, як дьзве трубкі, схіліў галаву ў бок дарожнага бязбрэжжа—і давай прыслухоўвацца з вялікай рупнасьцю да далёкіх гукаў, да ледзь прыкметнага шуму.

Здавалася, што гэта доктар прыслухоўваецца да стукатаў сэрца хворага чалавека.

Селяніна ахапіла вялікая смага—паслухаць рэха ні-то блізкага, ні-то далёкага сьвету...

Ён стаяў, як анямелы. Ня рухаўся з месца.

Прыслухоўваўся.

Нарэшце, нешта ўлавіў...

Няясныя гукі людзкога голасу. Хлюпат конскіх ног па топкай грэблі. Рупатлівае чопканьне па гразі.

Па старым твары, між пісанінай глыбокіх зморшчын, зацьвіла, расплылася ледзь прыкметная ўсьмешка.

Няясныя гукі жывых істот здаваліся яму надзвычайнай прыемнай музыкай, нявідочным концэртам з замураваных туманнай вільгацьцю далячынь.

Нядоўга разважаючы, стары пабрыў туды—на гукі і галасы.

Ногі, у прасторных атопках, рухаліся лёгка і мерна. Нібы поўным крокам за сахою дыбае араты.

З кожным крокам голас з далячынь рос яму насустрач разам з вільгацьцю праждлівага дню.

На выгане біліся два пеўні. Яны ўвайшлі ў такі азарт бітвы, ажна пер'е з іх сыпалася ва ўсе бакі, нібы з парванай падушкі. Разыйдуцца, наскочаць адзін на аднаго, стукнуцца моцнымі дзюбамі і давай скубсьці. Нібы ў іх адна мэта—павырываць адзін ў аднаго вопратку-пер'е, каб голымі гуляць-спацыраваць па нудным выгане.

У іншы раз стары спыніўся-б і доўга сачыў бы за гэтай пятушынай бітвай з вялікай зацікаўленасьцю, са смакаваньнем, з крытыкай, з падбухторваньнем. Але цяпер нават увагі не зьвярнуў на гэтае дармовае прадстаўленьне: ён бачыў сягоньня гэты бой ужо тры разы.

Ён шыбаў наперад на людзкія галасы, на паратунак ад маркоты.

Спачатку ён пабачыў няясную плямку. Пасьля вырысоўваўся конь, каламажка, чалавек на высокім сядзеньні ў каламажцы, другі—пры кані.

Стары працёр вочы, каб пільней угледацца, каб яшчэ здалёку пабачыць, каго ён тут сустрэне на сваю пацеху.

Яшчэ ярчэй выступалі перад яго вачыма на гразкай грэблі каламажка і двое людзей.

Часам так ува сьне паўстаюць вобразы—спачатку мутныя, неакрэсьленыя, а пасьля такія жывыя і яркія, што на доўгі час не забываюцца.

Ён падышоў блізка, як гаспадар, як уладар гэтай мясцовасьці.

— Во то-та-ж!—буркнуў ён.

Яму здавалася, што казаў вельмі ціха, але вышла так гулка, ажна чуваць было, мабыць, на сто крокаў вакол.

Гэтыя словы былі сказаны з такою пэўнасьцю і рашучасьцю, нібы ён вырашыў неразгаданую цікавую загадку.

— Во то-та-ж!—перадразніў яго фурман, які трымаў каня за аброць, чырвоны здаравяка гадоў пад трыццаць,—чаго крычыш?

— Я ня крычу, а кажу!—апраўдваўся селянін яшчэ галасьней.

— Чаму грэблю ня правіце?

— А я тут адзін рукі пад яе падлажу, ці што?

Конь па бруха ўграз і ня мог выцягнуць каламажкі.

Стары гэтаму ня зьдзівіўся. Застаўся вельмі спакойным. На гэтым месцы ён бачыў такія прыгоды тысячы разоў. Гэта для яго было старым, надакучлівым трафарэтам.

Ува ўсіх тутэйшых коняй ногі і бруха назаўсёды абрасьлі карою гразі, што служыць жывёле як-бы тэрытарыяльнай адзнакай.

Грэбля-цёнгля ладзіць такія кпіны і над сваімі і над падарожнікамі без усялякай розьніцы.

Фурман ляскаў па кані пугаўём, змарыўся, спацеў.

Конь тузгаўся, рваўся, вочы крывёй наліліся. Нарэшце ён прысеў задам у балотнай кашы, нібы кот на падушцы, і ня мог выбрацца з топкага месца.

Конь цяжка соп і азіраўся навакол вільготнымі вачыма, шукаючы паратунку.

Тут стары выйшаў з роўнавагі супакойнасьці:

— Гэй, чалавеча, ачмурэў, ці што? На што жывёліну мардуеш?

— А што?—ажывіўся фурман,—мо' паможаш? Ты вазьмі каня пад аброць, а я па ім—пугай!

— Э-гэ-гэ-э-э! Вучоных вучыць? Дык ты тут першы раз едзеш, ці што? А калы навошта ляжаць—во! Гэта-ж нашы струмэнты!

Стары паказваў на кучу жэрдак, што ляжалі водаль.

Яны былі так сама, як і тутэйшыя жывёлы, да паловы ў гразі: спэцыяльна служылі для выцягваньня вазоў з балота.

Селянін з гордай усьмешкай глядзеў на „струмэнты“.

Фурман спачатку не разумеў, а пасьля стральнуў сабе закарузлым пальцам у ня менш закарузлы лоб.

— Ах ты, чорт! Не здагадаўся!

Стары жыва ўзяўся за камандаваньне—не ў пяршыню:

— Вось трэба папрасіць дзядзьку, каб з воза зьлез, ці што. А то каню цяжка.

„Дзядзька“, які сядзеў на возе ціха, раптам заёрзаўся, але нічога не сказаў.

За яго загаварыў фурман:

— Ды яны запэцкаюцца ў гразі.

— Нічагуткі. Можна „іх“ вынесьці з гэстай жыжы, ці што.

Стары зарупіўся і з захаванай няпрыязьню зірнуў у бок седака.

— Не, не, таварышы, што вы?!—запротэставаў „дзядзька“ на возе.

— Так як вы мой пасажыр, — загаварыў фурман да седака, — я вас далжон даставіць сухім.

Пры гэтых словах фурман рашуча падышоў блізка да каламажкі.

„Дзядзьку“, відаць, пераканаў просты довад фурмана. Абапёрся рукамі аб сядзеньне і падняўся.

Фурман схапіў яго на рукі і вынёс на сухое месца, паставіў асьцярожна, нібы вялізную шкляную бутыль.

„Пасажыр“ быў гадоў пад сорак. Круглы твар каляраваўся бліскучым сінім дымком у тых мясцох, дзе шмаравалі па ім брытвай. Вызначаліся пульхныя губы. Вочы былі зацягнуты павалокай лянівай рахманасьці. У руцэ ён трымаў новы бліскучы портфэль.

Ён стаяў на сухім месцы, як на востраве ў моры. Паглядаў навокал з тупою нудою.

У гэты час селянін і фурман падсунулі калы пад каламажку, прыпаднялі яе і крыкнулі разы два каню.

Конь лёгка выбраўся з гразкага месца.

Слова „пасажыр“ глыбока ўрэзалася селяніну ў памяць.

— Значыць, па-са-жыр! А-га-а-а!

У думках стары паўтарыў гэтае слова шмат разоў, аж пакуль не дабраўся да яго „праўдзівага“ сэнсу:

— Пасе-жыр! Лоўка! Зноў зьявіліся ў нас такога роду людзі, ці што? Ня йначай—панок.

Селянін зірнуў на „пасажыра“ з асаблівай зацікаўленасьцю і ўбачыўшы ў яго руцэ портфэль, супакоіўся.

Людзей з портфэлямі ён за апошнія гады нагледзіўся шмат, бо часта хадзіў на сходы ў сельсавет. Гэтыя людзі самыя цікавыя штукі гавораць. Некаторыя з іх сыплюць такімі мудронымі словамі, ажна галава хадыром ходзіць.

Старому заўсёды здавалася, што ўвесь спрыт іх гутарак, уся моц іхніх дзеяў зьвязана з портфэлямі ў адно, нібы лапці з аборамі.

Нагледзіўся ён іх многа—і людзей і портфэляў: рознага выгляду, гатунку і колеру.

Усе яны (людзі, а не портфэлі) па рознаму гаварылі.

Усе яны (портфэлі, а ня людзі) былі рознай таўшчыні—і пузатыя, і худыя. Іх выгляд гаварыў аб зьмесьце, аб значнасьці сваіх гаспадароў.

Гаварылі гэтыя людзі аб такім жыцьці, аб якім дзяды толькі ў байках чулі калісьці.

Селянін пачаў лічыць па пальцах:

У начы будзе сьветла, як у дзень—„лектрафіскацыя“. Аб такіх жар-птухах, як быў яшчэ малым, ад бабулькі чуў.

Самалёты будуць людзей насіць над воблакамі—ёсьць такі Кашчэй-чараўнік, які ў байцы каршаком лунае над зямлёю.

Нейкія „тарарахтары“ будуць поле араць, а селянін толькі паглядай ды пагульвай, ды люльку піпкай. Такія фокусы таксама ў байках дзеюцца. Вось „аграмон“ прывёз-бы нам такі „тарарахтар“!

Часам чалавек з пяці скур вылязае, як певень змокне, пакуль усё растлумачыць.

Старому прадстаўляецца—нібы бачыць ён, як гарадзкі „раратай“ скідае з сябе скуру за скурай, гаворачы перад вяскоўцамі надзіва мудроныя штукі.

Калі ён, стары, аднаго разу „раратаю“ казаў, што аб гэтым усім у старасьвецкіх байках даўно ўсё говорыцца, дык той казаў: „байкі — гэта людзкая хвантазія, а тут рэяльна, матарыалізма!“.

Стары тады ажна спалохаўся гэтых слоў. Яны здаваліся яму назвамі страшных нявідочных зьвяроў.

Аднаго разу такі самы „раратай“ прывёз некалькі вазоў добрага насеньня, дык у таго ў портфэлі былі як раз ня мудроныя рэчы, а рукавіцы.

Той гаварыў зусім проста—без „хвантазіі“, без „рэяльна“ і без „матарыялізмы“.

А другі з гэтых самых, які малодшага сына селяніна ў нейкі рабфак забраў (дай яму, бог, здароўе, бо дзяцюк вучыцца), дык зусім портфэля ня меў.

Думкі аб людзях і портфэлях мільганулі ў галаве селяніна раптоўна - як маланка ў рабінавую ноч. Хутка ён адарваўся ад іх—глядзеў на „пасажыра“ з портфэлем, як на сваю новую кнігу, якую будзе сягоньня чытаць. Ён будзе ўдумвацца ў кожнае слова „пасажыра“, будзе лавіць гукі голасу, кожны рух рукі, жмураньне вачэй і ўсе многазначныя мігапісы на твары гарадзкога чалавека.

Аднак, ня гледзячы на такую зацікаўленасьць, стары глядзеў на „пасажыра“ з апаскай.

— Гэтаму нельга верыць!—падсказваў яму сялянскі інстынкт.

Стары пачаў сваім камэртонам спробваць новы інструмант:

— Пэўна, дзядзька заначуе ў нас?

— Можна!—сказаў „пасажыр“ лагодным аксамітным тонам.

Фурманка пад‘ехала да „пасажыра“. Ён асьцярожна ўлез у каламажку.

Фурман сьцебануў каня.

Сонца вырвалася з-пад ваўняных хмар і накасурылася на ваколіцу загарэлым тварам.

Полымя заходу заяскравілася на вяршынах лесу, запаліла салому на хатках і вагністымі скурамі невядомых зьвяроў расьцілалася па зямлі.

Паветра паружавела, пералівалася празрыстым вінам. Па гразі ішло з поля невялічкае вясковае стада—таксама ружовае ад заходняга сонца. Усе каровы былі да бруха ў закарэлай гразі.

— Ну й гаспадары!—зьдзівіўся фурман,—у вас асобая парода жывёл. А з гэтай гразі вы, мабыць, спэцыяльны сыр на продаж робіце.

— Ат!—адмахнуўся селянін, як ад кусьлівай мухі. Досыць жартаваць, ці што?

Золата заходу, якое блiснула на сьпінах кароў, заіграла на твары і портфэлю „пасажыра“ апошнім зьзяньнем.

Надыходзілі змрокі.

Яны павольна насоўваліся на ваколіцу, сіняватымі пластамі нагортавліся над лесам. Расьлі цені, выцягваліся ўздоўж па абшарах лугоў і палёў. Паўставала цішыня вечара. Задумёнасьць адзіноты лунала над палямі. Тупат стада і скрыпы каламажкі як-бы зусім не перашкаджалі гэтай цішыні—яшчэ больш вызначалі яе.

Селянін ішоў побач з каламажкай і вёў гутарку пакуль што толькі з фурманом.

„Пасажыр“ наставіў каўнер і скомкаўся ў сваім новым паліце.

Селянін час-ад-часу касурыўся на профіль „пасажыра“.

Цямнела з кожнай хвілінай.

Каля сваёй хаты стары спыніў фурманку і адчыніў скрыпучыя вароты двара.

Фурман пакіраваў у браму.

З хаты на двор выскачыла старая гаспадыня.

— Гэй, маці,—заклапаціўся гаспадар,—запалі лучыну, ці што?

З суседніх двароў высунуліся зацікаўленыя людзі.

— Нехта прыехаў да Цыпрука Ярэмчыка!—передавалася з вуснаў у вусны

У гэты час стары Цыпрук ня ведаў, дзе дзецца з сваёй шчырай гасьціннасьцю да гасьцей.

Іх было трое: „пасажыр“, фурман і конь.

Першым чынам, кіруючыся адвечнай сялянскай спагадлівасьцю да жывёлы, ён падышоў да каня. Пагладзіў яго, падсунуў руку пад хамут, каб памацаць, ці не спацеў, памог фурману распрэгчы і бягом кінуўся пад гумно. Прынёс ахапак сьвежага сена.

На людзей Цыпрук зьвярнуў увагу ўжо толькі тады, калі конь стаяў пад паветкай недалёка ад дрывотні і спакойна хрумсьціў пахучае сена.

„Пасажыр“ яшчэ сядзеў на каламажцы ў нейкай паўдрымоце.

— Калі ласка, у хату пойдзем, ці што?—зьвярнуўся Цыпрук нясьмелым голасам да „пасажыра“,—пане таварыш!

„Пасажыр“ штосьці мэкнуў нявыразнае і паволі зьлез з каламажкі.

Фурман схапіў за ім жоўты чамаданчык.

Пайшлі ў хату.

— У вас праўдзівая электрыфікацыя,—пажартаваў „пасажыр“.

Цыпрукова „электрыфікацыя“ чадзіла і дыміла.

На чорных сьценах і на столі мільгаліся фантастычныя сьвета-цені ад лучыны, якую трымаў каля стала малы сьветлагаловы хлопчык, унук Цыпрука.

Звычайнае месца лучыны было толькі над прыпечкам у шчыліне, спэцыяльна выкалупанай для гэтага. Але ў чэсьць гасьцей старая гаспадыня загадала хлопчыку сьвяціць пры стале.

Каля печы сьвяціла другая лучына. Пры такім асьвятленьні хата выглядала ўнутры патаемным падзямельлем. Куты хаты трохі скрадваліся. Іх у цяні ня відаць было, дзеля чаго здавалася, што тут вялікі прастор, што ён разыходзіцца ў нявідочнай далі, а толькі маленькія часткі яго асьветлены лучынамі: адна—каля стала, другая—каля печы.

Хлопчык, акружаны яркім златаблескам лучыны, меў напружны ўрачысты выгляд. Вызначаліся яго ільняныя валасы, сінія, як-бы спалоханыя, вочы з пашыранымі зрэнькамі.

Уся ўважлівасьць хлопчыка была скіравана на агонь лучыны.

Ён цікаваў за пералівамі аганька, за маленькімі зьмейкамі полымя з такой павагаю, нібы ад гэтага залежыў лёс усяе хаты. Як толькі абвугліцца трохі лучына, хлопчык зараз-жа сьціраў вугольле другой лучынай і стараўся лавіраваць лучынай так, каб агонь сьвяціў роўна—без перабояў.

Спачатку, як „пасажыр“ увайшоў у хату, ён заўважыў толькі гэтага хлопчыка з паходняй і невялікія дзьве пляміны сьвятла.

Густое, душнае паветра біла ў нос моцным пахам сьвежага кажуха, чалавечага поту і кісьляціны ад астаткаў яды, якая зьбіралася ў цэбры каля печы.

„Пасажыр“ паморшчыўся, пакруціў носам і стаў сярод хаты, нібы заблудзіўся і ня ведаў, дзе спыніцца.

Цыпрук рупліва падскочыў і папрасіў яго садзіцца на лаве каля стала.

Ён азірнуўся па бакох і сеў, палажыўшы портфэль на лаве каля сябе.

Звыкшыся трохі з асьвятленьнем хаты, „пасажыр“ цяпер заўважыў, што на ложках і каля печы сядзелі і стаялі ў цяні рознага ўзросту і выгляду члены вялікай сям'і селяніна—дзеці і ўнукі. Яны маўчалі і ў напружнай зацікаўленасьці глядзелі на яго з гэтых цёмных куткоў.

Фурман паставіў перад ім на лаве дарожны чамадан.

— Трэба павячэраць і—спаць!—казаў „пасажыр“ да фурмана.— Заўтра чуць сьвет паедзем у Курганішча да Крушынскага.

Стары Цыпрук лавіў кожнае слова негутарлівага „пасажыра“, каб зразумець, па якіх справах едзе гэты незнаёмы чалавек. Як раз гэтымі днямі сюды павінен прыехаць з гораду таварыш наконт дзяльбы лесу на будову. Відаць, ня той. Мабыць, у часе вячэры што-кольвечы выведаю ў яго.

— Маці! Маці!—крыкнуў стары да жонкі,—можа тав... пану таварышу сьвежага малачка дасі, ці што?

— Дзякую! У мяне свае харчы з сабою,—адказаў „пасажыр“ і давай распакоўваць чамадан.

Ён раскладваў на стале розныя пакуначкі, абвернутыя паперай, розныя бутэлячкі, нож і відэлец, белую сарвэтку, маленькую сарвэтачку і іншыя рэчы.

Усё гэта раскладвалася паволі, у строгім парадку, нібы ён рыхтаваўся наладзіць тут балюшку, прынамсі, на чалавек дзесяць.

„Пасажыр“ зьняў паліто і давай разварочваць пакуначкі з такойжа павагай і асьцярожнасьцю, нібы з сваіх пястуноў-дзяцей здымаў дарожную вопратку.

На белай сарвэце цяпер красаваліся смажаная курыца, сыр, масла, яйкі, радыскі, соль і перац у спэцыяльных пудэлачках, булкі, булачкі, бутэлька з наліўкамі, бутэлька нарзану і нават бутэлька з малаком.

Усё гэта стаяла цяпер абцёртае і бліскучае.

„Пасажыр“ займаўся сваім дарожным буфэтам з такім захапленьнем, ажна нават забыў, што многа пар вачэй пільна паглядаюць на яго з розных куткоў хаты. Адпала ранейшая застыгласьць і замкнёнасьць яго твару, у вачох зьявіўся жывы блеск, увесь ён стаў паваротлівым, рухавым. Прытульнасьць стала, нібы ў люстэрцы, адбілася на яго круглым твары. Нават адценьньне нейкага захаванага дабрадушша замільгала ў яго вачох, якія нібы толькі цяпер праясьнелі пасьля сну. Здавалася, што ён хоча нават расказаць пры такім настроі пару сьмехатлівых анэкдотаў, але чамусьці стрымліваецца.

Меншую сарвэтку ён прыладзіў пад барадою да шыі і грудзей, нібы рыхтаваўся галіцца.

„Пасажыр“ прыняўся за яду.

Тут ў яго і гутарлівасьць зьявілася.

— Я вось аграном,—адрэкомэндаваўся ён перад гаспадаром,—а аграномы любяць пад'есьці!

— Аг-ра-мон!—нібы паправіў неправільнасьць вымовы „пасажыра“ стары Цыпрўк,—аг-ра-мон, вось што! ага-а!

Стары як-бы ўрэшце здагадаўся, ў чым рэч. Кплівым вокам ён зірнуў на „аграмона“. Наслухаўся і „аграмонаў“ за апошнюю пару гадоў. Ведае ён пра многапольлі, лубін, канюшыну.

Сярод іх ёсьць такія, што ня сеюць і ня жнуць, а хлеб смачны ядуць,—падумаў стары.

У адказ на яго думку аграном накінуўся на смажаную курыцу і наліўкі.

Хлопчык-электрыфікацыя мяняў лучыну за лучынай. У яго быў такі спрыт, што аграномаўскі дарожны буфэт быў увесь час асьвечаны роўным сьвятлом.

На гэты раз на стале старога Цыпрука, як на экране ў кіно, паказвалася сытасьць і здаволенасьць.

Аграном еў, мяняў пакуначкі і пасудзінкі адно за адным з мэтодычнаю акуратнасьцю і старанасьцю. Пры гэтым чытаў цэлую лекцыю па сельскай гаспадарцы.

Хлопчык-электрыфікацыя, як зачараваны, глядзеў яму ў самы рот, аблізаваўся, глытаў сьліну.

Ня лекцыя агранома яго захапляла, а тыя смачныя кавалкі, што „дзядзя“ глытаў з прагнасьцю чалавека, які тры дні галадаў.

— Мама! булачку!—застагнала ў поцемках малое дзіцё.

— Ціха, ты!—супакойвала яго кабеціна.

Дзіцё залівалася ў плачу, а кабета злосна шлёпала яго, прыгаварваючы:

— Во табе... во табе! во табе!!

Аграном у гэты час расьпісваў перад гаспадаром трактар і высьмейваў старасьвецкую саху.

— Але як-жа ты яго купіш?—пытаўся селянін.

— Грамадою, цэлай грамадою!—казаў аграном запэўніваючым тонам, запіваючы гэтыя словы малаком,—трэба вясьці гаспадарку, прынамсі, так, як хутаранін Язэп Крушынскі, да каго цяпер еду. У яго культурная гаспадарка.

— Трактар, адборнае насеньне, многа жывёлы, шматпольле — вось адзіны паратунак для сялянства!—рэзюмаваў сваю лекцыю аграном, выціраючы губы сарвэткай.

— Усё гэта сьвятая праўда!—згадзіўся стары Цыпрук,—але сіл на гэта няма. А нашы мужыкі яшчэ вельмі ўпарты народ. Вось што! А хто-ж ён, гэты Язэп Крушынскі?

— Селянін, як усе сяляне, але разумны чалавек.

Аграном прыбіраў са стала пустыя бутэлькі і пасудзіны. Гэта ўсё зноў заварочваў у паперу і клаў у чамадан з ранейшай акуратнасьцю.

Увесь час каля маленькага ваконца на дварэ мітусіліся зацікаўленыя суседкі. Калі-ні-калі якая-колечы з іх прыклейвалася носам да шкла і паглядала ў хатку.

— А цяпер спаць!—кончыў аграном сваю гутарку.

— Можна вот тут на лаве, а то і на сене, ці што?—казаў гаспадар.

— Лепш на сене!

— Маці, дай кажух і пасьцілку!—закамандаваў гаспадар.

Аграном адзеў паліто. Узяў у рукі портфэль і чамадан.

Гаспадар павёў яго на сена.

Цыпрук хутка вярнуўся.

Зірнуў на яго фурман і засьмяяўся.

— А цьфу! ці што?—плюнуў стары Цыпрук,—такога аграмона першы раз у жыцьці бачу. Гэта-ж дзіцё плача булачку, а ён хоць-бы што, ну й сьвіньня!

— А хвор быў гаспадара гарэлкай пачаставать!—падбухторваў старога фурман.

— Ліха яго бяры з яго гарэлкай! Чаму ён цябе, свайго фурмана, не пачаставаў?

— Ён сам толькі з пачастункаў жыве. Па ўсіх кулацкіх хутарох і фальварках яго частуюць.

— Так. Хто бярэ, той не дае,—па-філёзофску сказаў гаспадар.

— Няўжо-ж ня бачыш, што гэта панок, панскай косткі? —як-бы апраўдваў агранома фурман.

Стары махнуў рукой.

— Маці!—крыкнуў ён,—дай вячэраць! Хоць з чалавекам пагутарым, ці што!

Хутка ўся сям'я сядзела за сталом. Вячэраў з імі і фурман. Па сярэдзіне стала стаяла бутэлька самагону.

Гутарка аб сялянскіх справах між гаспадаром і фурманом вялася доўгая і жывая.

Толькі час-ад-часу малое дзіцё, якое сядзела на руках у кабеціны, у дачкі старога Цыпрука, енчыла жаласьлівым галаском:

— Мамка, бу-у-улачку...

Яно цяпер расхныкалася на ўвесь голас, пачало моцна плакаць.

— Вось як буду ехаць другім разам—шмат булачак прывязу!—пацяшаў малое фурман.

— Ціха ты,—зазлаваўся на ўнучку стары Цыпрук,—а то аграмон зьесьць!

Дзіцё спалохалася. Толькі ціха ўсхліпвала.

Цяпер сьвяціла толькі адна лучына, якая тырчэла над камінкам у печы.

Цені на сьценах скакалі і расьлі.

Хатнія жартавалі з белагаловага хлопчыка, які нядаўна сьвяціў заграмону" ў самы рот, каб панская яда не заблудзілася, каб у вуха, „амест роту, не папала.

II

Агранóму кепска спалася.

Ён часта прачыхаўся. Ёрзаўся, кідаўся з боку на бок. Нешта кусала яго. Ён дзівіўся, што ў сене могуць быць блохі.

Доўга думаў над тым, як гэта можа быць, каб і сена было нячыстае? Як гэта мужычго ўмудраецца апаганіць такое мурожнае пахучае сена? Вось цемра вясковая!

Але хутка аграном дагадаўся, ў чым рэч. Блохі былі ў сялянскай пасьцілцы і кажуху.

Ён адкінуў на бок гэтыя рэчы, лёг проста на сена і прыкрыўся сваім палітом. Але спаць усёроўна ня мог. Аглядаўся па бакох. Вакол была цемра. Ён нават ня можа сабе ўявіць, як выглядае пуня.

Яму пачало здавацца, што, як у хаце, і тут з усіх куткоў на яго глядзіць многа мужыцкіх вачэй — прыкрыя, пранізваючыя вочы...

— Чаго добрага, чамадан нехта ўкрадзе,—падумаў ён.—І што мяне накруціла аставацца тут нанач?

Занепакоены аграном ускочыў, намацаў чамадан і палажыў побач з сабою разам с портфэлем.

Аднак месца сабе не знаходзіў.

Ён падлажыў левую руку пад галаву.

Затуркаў у самое вуха гадзіньнік, які быў прышпілены да рукі вузкім раменчыкам.

Гадзіньнік казаў яму сакрэт мэталёвым звонам:

„Тур-тур-тур-тур“.

У гэтым аднагуковым слове адчувалася маленькая хрыпотка, нібы ў чалавека, які застудзіў горла. Хрыпотка надавала нейкі таемны сэнс бязупыннаму турканьню. Здавалася аграному, што часы яго дабрабыту лічаныя. Нехта нявідочны бязьлітасна за ім цікуе, вядзе падрахунак усім яго дзеям і ўчынкам. Гэты „нехта“ некалі выкрые яго, паставіць перад людзьмі зусім ня ў тым выглядзе, ў якім цяпер яго ўсе бачуць. У яго зьменіцца постаць, твар, голас. Ён стане ня тым, якім ёсьць цяпер.

Вельмі палохаўся аграном гэтага „нехта“, ненавідзеў яго ўсёй істотай.

Аграном сарваў гадзіньнік з рукі і палажыў у кішэнь штаноў якіх ня зьняў перад сном.

Турканьне гадзіньніка, хоць заглушанае, але ўсё роўна чуваць было. Слова нават выразнейшае было.

У цішыні чуваць было:

„Ён... ён... ён... ён...“

Нібы з лёгкім стогнам, з ледзь прыкметным водгаласкам раздавалася гэтае слова. Яно калола вострым шылам і доўга не давала заснуць.

Аграному пачало здавацца, што ён сам маленечкі, маленечкі, як саломінка, як травінка, а гэтае слова „ён“ расьце, вырастае ў гучны крык, у звон. Гэты звон аглушае, чаруе, гіпнотызуе, запаўняе сабою ўсе куткі цёмнай пуні. Можна ўтапіцца ў гэтым крыку, нібы ў глыбокім возеры.

Ён падняўся ў другі раз, выняў гадзіньнік з кішэні, палажыў у чаравік і зарыў яго глыбока ў сене. Тады ў паўдрымоце пачало яму здавацца, што ён сам расьце; ад галавы да ног некалькі сажняў. Прыкра яму ад гэтага казачнага росту. Яшчэ болей палохаўся, што ў яго раптоўна пачала расьці барада, вырасла калматая, чорная, здрадная нейкая.

Ён мацае рукою гладка выгалены твар, зьнімае з яго валасінкі калючага сена.

Аграном заснуў і хутка зноў прачнуўся ад нейкага няпрыемнага сну.

— Мабыць, замнога еў перад сном,— падумаў ён.

Ён сьніў, што вакол яго шэпчуць:

— Вось ён... вось ён... вось ён...

Адусюль тыкаюць на яго пальцамі. Людзей ён ня бачыць, а толькі паадзіночныя пальцы мільгаюць у паветры ў яго бок, і блішчаць вочы.

Аграном кідаецца на сене з боку на бок. Сена шорхаецца пад ім. Гэты шорх зноў яму здаецца шэптам:

— Вось ён... вось ён...

Няўжо-ж баяцца яму гэтых двух слоў? Ці-ж яны такія страшныя? Першым чынам, пасьля рэволюцыі ён згаліў бараду—ніхто яго не спазнае; а, па-другое, гэта было далёка ад Беларусі. Ніхто з ранейшых знаёмых яго тут ня сустрэне. Даўно гэта было—у завірусе 1905 году. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, вось ужо некалькі гадоў як часта над вухам чуе гэты шэпт:

— Вось ён... вось ён...

Пасьля рэволюцыі 1917 году ён выехаў далёка з роднага гораду М. і жыве пад чужым прозьвішчам.

Удалося яму набыць фальшывы пашпарт, дзе запісана Іван Мацьвеевіч Шапавалаў.

Аднак яшчэ па сягоняшні дзень ён добра памятае сваё праўдзівае імя і прозьвішча: Антон Сяргеевіч Мятлоў.

— Вось ён... вось ён...

Гэта значыць, не цяперашні Іван Мацьвеевіч Шапавалаў (голены, круглы аграном), але Антон Сяргеевіч Мятлоў (малады чалавек з чорнай аксамітнай бародкай).

Цяжка было яму спачатку ў сувязі з новым докумэнтам і новым аблічам. Як ад цырульніка прышоў да хаты, дык Аграфена Макараўна (яго жонка) спалохалася, у роспачы заламала рукі і крыкнула:

— Ты, Анцік, звар'яцеў? Гэта-ж цябе не пазнаць. Нашто бараду згаліў?

Яго вельмі ўзрадавалі словы жонкі: „гэта-ж цябе не пазнаць!“ Але разам з радасьцю была і няпрыемнасьць. Жонка прыставала да яго, навошта гэта зрабіў, калі з бародкай ён прыгажэйшы.

Некалькі тыдняў жонка лемантавала над ім, шкадавала згінуўшую бародку.

Шмат ён ужыў краснамоўства, пакуль угаварыў жонку, што барада была яму не да твару.

Ён апавядаў жонцы сваю ўласную легэнду пра „вечнага жыда“.

Ён сам, дзякуючы сваёй аксамітнай бародцы і худому твару, перажываў гэту легэнду.

З бародкай быў вельмі падобным да сэміта. У сувязі з гэтым на сваіх плячох перажыў „историю евреев“ у царскія часы. Пры пагромах пасьля 1905 году яго ня раз білі, як „жыда“. Аднаго разу нават ледзь ад сьмерці выратаваўся.

У часы процэса Бэйліса яго называлі „Бэйлісам“.

Пры імпэрыялістычнай вайне яго называлі „нямецкім шпіёнам“. У цягніку аднаго разу да таго над ім кпілі, што хацелі выкінуць з вагона, калі цягнік імчаўся поўным ходам.

Выратоўвалі кожны раз толькі докумэнты.

— Досыць насіць гэтае жыдоўскае абліччa! Многа здароўя і прыкрасьцяй каштавала бародка!

— Дык чаму-ж ты, Анцік, не абгаліўся яшчэ тады, а то цяпер калі гэта зусім непатрэбна? Ніхто-ж цяпер яўрэяў не чапае!

— Вось як раз тады я лічыў патрэбным перажываць усе жудасьці гэтага народу, каб глыбей разумець яго нядолю, каб не адыходзіць ад слабага. А цяпер гэта лішняе.

Прайшло трохі часу і жонка звыклася бачыць мужа з голеным тварам.

— Ты, Анцік, падобен цяпер да актора,—гаварыла жонка.—Усе акторы безбародыя!

З барадою справа была наладжана добра. Тады вылезла на верх яшчэ цяжэйшая бяда: жонка яго называла „Анцік“ у той час, калі (паводле документу) яна павінна яго называць „Ванька“.

Аграному тады прыходзілася двайцца: у ўстановах, на вуліцы, з новымі знаёмымі ён быў Іванам Мацьвеевічам, а дома перад жонкай—Антонам Сяргеевічам.

Трэба было мець вялікую напружанасьць думкі, каб часта ператварацца ў іншую асобу. Часам сярод новых знаёмых, калі хтосьці скажа „Іван“—ён адварочваўся, думаючы, што гэта адносіцца да яго. А дома, бывала, часам як жонка скажа „Антон“, дык не зьвяртаў увагі, нібы не яго завуць.

— Што ты, Анцік, аглох?—дзівілася жонка.—Рэволюцыя на цябе кепскі ўплыў зрабіла. Ты стаў нейкім грубым. Я цябе заву, а ты не адклікаешся.

— Выбачай, дарагая, я задумаўся і ня чуў.

— Над чым ты думаеш, калі без цябе ўсё абдумана?—жартавала жонка.—Кепская ў цябе, Анцік, прывычка так задумвацца. Гэта ўжо не ў пяршыню. Ты, Анцік, нейкім мэлянхолікам зрабіўся.

Ён стараўся рознымі жартлівымі слоўцамі затушоўваць жончыны заўвагі і пачынаў гутарку на іншую тэму.

Слова „Анцік“, якое жонка часта ўжывала, калола яго нявідочнымі голкамі, пранізвала сэрца, торгала нэрвы, і ён часта імпэтна адварочваўся, ці няма нікога чужога ў пакоі.

Выходзячы з хаты, ён пакідаў дома гэтае імя Анцік, нібы хатні халат. На вуліцы быў Іванам.

— Я—Іван, Іван Мацьвеевіч!—кожны раз паўтараў ён у думках некалькі разоў, пры гэтым аглядаючыся з апаскай па баках, каб часам не натрапіць на знаёмага з таго гораду, дзе быў Антонам Сяргеевічам... Пры гэтым мацаў рукой свой голены твар.

— Ніхто не пазнае. Сама жонка ледзь пазнала, калі першы раз агаліў бараду!

Ён рабіўся болей спакойным і стараўся па магчымасьці мяняць паходку, манеры, гэсты. Ва ўстановах нават голас мяняў: гаварыў гарлавым басам, выціскаў словы адрывіста, ненатуральна, нібы вечна трымаў у роце неразжованыя гарошыны.

Заўсёды пры знаёмстве выразна выгаварваў: „Іван Мацьвеевіч Шапавалаў!“ і такім тонам, нібы кліча гэтага Шапавалава сабе на дапамогу ад нявідочных ворагаў, якія яго апанавалі.

А спачатку сваё новае імя і прозьвішча гаварыў хутка, мармочучы пад нос, як-бы саромаючыся няпрывычных слоў. Часам, калі хто, не дачуе, пытаўся ў другі раз:

— Як? Як? Выбачайце, не дачуў.

На такога чалавека ён глядзеў з падазронасьцю і прывучаўся гаварыць сваё імя заўсёды галосна.

Паходку і манеры таксама раз назаўсёды зьмяніў пасьля аднаго прыкрага выпадку.

Аднаго раз ён ішоў па вуліцы зусім спакойна і забыўся пра сваё новае імя, ажна нехта з-заду крыкнуў:

— Пачакайце, Антон Сяргеевіч!

Ён уздрыгануўся і хацеў уже спыніцца, але ўспомніў, што ён Іван Мацьвеевіч і пасунуўся далей.

Зямляк (гэта быў блізкі сусед з роднага гораду) нагнаў яго і пасяброўску палажыў яму руку на плячо, але як глянуў яму ў твар, дык папрасіў прабачэньня:

— Выбачайце, паходка так напомніла мне аднаго знаёмага Антона Сяргеевіча, ажна я памыліўся і аклікнуў вас, але ў таго барада.

— Бываюць памылкі,—сказаў аграном зьмененым голасам і ўвесь пакрыўся халодным потам.

З таго часу ён зьмяніў і сваю паходку і ўвесь ранейшый знадворны выгляд.

Ён стараўся зьмяніцца да таго, каб ніякіх памылак болей не траплялася, каб родны бацька ня мог яго, Івана Мацьвеевіча, зблытаць з Антонам Сяргеевічам.

Ён пачаў зварочваць увагу на самыя драбніцы свайго абыходу: трэба зрабіць так, каб нічым ня быў падобным да ранейшага сябе. Насіў іншую вопратку. Зьмяніў характар пісьма. Дзеля гэтага пачаў пісаць пяром „рондо". Падпісваўся раней неразборліва: „А. С. Мят..." з рознымі круцёлкамі, а цяпер—„Іван Мацьвеевіч Шапавалаў" поўнасьцю, выразна, літару ў літару, ажна дзіцё магло чытаць.

У канцалярыі ўсе дзівіліся на яго „почарк", які выглядаў арыгінальным і харашэйшым за друкаванае. Почарк Івана Мацьвеевіча служыў прыкладам для дробных чыноўнікаў...

Гэта ўсё было за сьценамі сваёй кватэры.

Пры жонцы ён зноў накіроўваў усю сілу, каб стаць дарэволюцыйным „Анцікам". Яму трэба было ў сваёй кватэры быць ранейшай істотай, з ранейшым голасам, манерамі і ўсімі іншымі адзнакамі „Анціка".

Такая двуіснасьць даводзіла яго да таго, што пачаў марнець, сохнуць і нідзе сабе месца не знаходзіў. Яго становішча не давала яму магчымасьці прасіць да сябе гасьцей, альбо пайсьці куды-колечы з жонкаю—у госьці ці ў тэатр, бо тады выйдзе няпрыемная блытаніна між „Антонам Сяргеевічам" і „Іванам Мацьвеевічам".

Жонка заўважыла, што яе „Анцік" стаў нейкім дзіўным чалавекам, што з ім чыніцца нешта благое.

Колькі яна ні наракала на такое замкнёнае жыцьцё, на тое, што яна жыве, як у вастрозе,—нічога не памагала. Муж быў вельмі ўпарты.

Колькі разоў ён ні думаў вытлумачыць ёй прычыну гэтага, каб яна раз назаўсёды ведала, што ён цяпер не Антон Сяргеевіч, а Іван Мацьвеевіч, але нават сваёй роднай жонцы баяўся выкрыць сэкрэт, бо яна ня ведала яго дзейнасьці і да рэволюцыі. Апрача таго, пры малых дзецях гэтага нельга было рабіць. Яны бы вельмі зьдзівіліся-б, каб яна, маці, яго звала новым імем.

Даходзіла ў іх да вельмі прыкрых гутарак, да сварак. Жонка не пазнавала свайго ранейшага любага „Анціка". Як-бы хто яго падмяніў.

— Можа ты тут каханку маеш?—казала яму аднаго разу жонка,—дык кажы. Навошта таіць.

— Якія ў мяне могуць быць каханкі? Я-ж па вечарох заўсёды дома бываю,—крыўдзіўся ён.

— Мала там, у Наркомземе, гэтых стрыжаных машыністак,—не адставала жонка, недаверліва на яго паглядаючы.—Слухай, Анцік, нам трэба сур'езна пагаварыць!

Гэтае „сур'ёзна пагаварыць" паўтаралася бадай кожны дзень. Але ён заўсёды адкладваў „сур'ёзную" гутарку.

У гэты самы час новыя знаёмыя, таварышы па службе, часта прыставалі да яго:

— Ванька, чаму ня ходзішь да нас у госьці і чаму да сябе ня просіш?

„Ванька" чырванеў, бянтэжыўся.

— Бачыце, у цяперашнія часы,—адказваў ён трафарэтна,—калі рэволюцыя толькі заваёўваецца, калі многа крыві льлецца, не да гасьцяваньня.

Пры гэтым ён рабіў такі посны выгляд, што знаёмыя адставалі.

Але горш было з жонкай.

Аднаго разу пасьля „сур'ёзнай гутаркі" з ім, яна паехала з дзяцьмі ў глыб Расіі да сваіх старых бацькоў на некалькі месяцаў, аднак, абяцаючы яму часта пісаць лісты.

На другі дзень пасьля выезду жонкі ў яго зьявілася новае зане пакоеньне: лісты. Прозьвішча Мятлоў будзе красавацца на конвэртах яе лістоў, якія абяцалася часта прысылаць. Паштавік як раз прыходзіць сюды а гадзіне адзінаццатай раніцаю, калі яго, былога Мятлова, ўжо няма дома. Вось тут і пачнецца новая блытаніна. Паштавіку скажуць, што ў гэтай кватэры жыве не Антон Сяргеевіч Мятлоў, а Іван Мацьвеевіч Шапавалаў.

Небясьпечна блытаць гэтыя імёны і прозьвішчы.

Наогул, яму хацелася, каб Антон Сяргеевіч Мятлоў быў выкрэсьлены навекі-вечныя з памяці людзкой, нібы такі ніколі і не радзіўся. А то колькі людзей будзе чытаць гэты адрэс. Чаго добрага натрапіцца такі, хто добра ведае мінулае Антона Сяргеевіча Мятлова...

Мароз праходзіў па сьпіне ад гэтых думак.

А калі яна пачне ва ўстанову пасылаць лісты на такое прозьвішча з запытаньнем, дзе дзеўся Антон Сяргеевіч Мятлоў, які займаў такую-то пасаду? Яшчэ падазронасьць зьявіцца ў таварышаў. Пачнуць шукаць гэтага нібы-то незнаёмага чалавека.

Галава хадыром хадзіла ад страху.

Што рабіць? Навошта ён адпусьціў жонку? Няхай бы тут сядзела. Гэта-ж ад раптоўнай радасьці вызваліцца на некалькі месяцаў ад цяжкай ролі падзяліцца на дзьве асобы (быць на службе Іванам Мацьвеевічам, а дома—Антонам Сяргеевічам) ён забыўся аб сытуацыі з лістамі.

Цяпер яшчэ болей жыва, чым да гэтага часу, ён бачыў у сваім уяўленьні бурны 1905 год. Ён тады малады студэнт, Антон Сяргеевіч Мятлоў, быў арыштаваны з іншымі таварышамі з сэкрэтнага сходу соцыялістаў-рэволюцыянэраў. На допыце жандарскі афіцэр абыходзіўся з ім вельмі ветла, проста як родны бацька. Пачаў яго, студэнта, шкадаваць, што такі малады чалавек назаўсёды загубіў сябе. Дзіўна зрабілася тады на душы Антона Сяргеевіча. Жандар яго шкадуе, а ён ня можа сам сябе пашкадаваць...

Таварышаў выслалі на вечную ссылку ў Сібір, а ён астаўся дома.

Да высылкі ён сядзеў у турме разам з імі.

— Між намі ёсьць здраднік..—часта шапталіся тады яго таварышы.—Следчы ведае такія рэчы, аб якіх мог дазнацца толькі ад сябра нашай партыі.

Язэп Крушынскі іх ледзь супакоіў, паабяцаўшы чуць не для ўсіх Драздоў і Дзятлаў купіць новыя косы.

Баляда аб косах скончылася мірна.

Касцы зноў узяліся за працу.

Сонца пякло патыліцы. Скошаная трава выдавала хмельны пах.

Язэп Крушынскі хутка пабег на гумно. Яму трэба было ўсюды пасьпяваць: і на сенажаці, і на полі, і на гумне, і ў хаце.

Сягоньня ў яго быў сапсуты настрой. Ён пачаў успамінаць, што гэтаму паслужыла прычынай.

— Ага!—успомніў.—Учора ён з бацькам родным, з Чарнюком, пасварыўся.

Колькі разоў ён гаварыў бацьку, каб кінуў сваю закураную хатку, каб яму, сыну, сораму не рабіў варажбою, каб перабраўся ў Курганішча. Упарты стары. Ня хоча і думаць аб гэтым. Бацька напрарочыў яму такога ліха, аж страх.

Ад таго самага часу, калі Язэп Крушынскі яшчэ малым хлопчыкам застаўся жыць у багатага дзядзькі ў Менску, ён бадай парваў усялякія зносіны з бацькам. Праўда, спачатку ён засумаваў у Менску і пехатой уцёк да хаты. Але яго пацягнула тады не да бацькі, а да месца, дзе жыла яго матка, дзе ён жыў у дзівосных абставінах бацькавых запасаў на „чорны дзень".

Маці—ціхая, напалоханая кабета—вельмі песьціла свайго Язэпку. Ціхачом ад бацькі яна брала з патаемных кублаў сушаныя яблыкі для сынка. Язэпку тады здавалася, што смачнейшых рэчаў на сьвеце няма. Смак гэтых сушаных яблыкаў, назапашаных бацькам к дню „сканчэньня сьвету", ён яшчэ і цяпер памятае. Увесь час у Менску ў рэстаране дзядзькі, дзе было многа гарадзкіх смачных цястак, цукерак, крымскіх і заграцічных садавін, Язэп памятаў сушаныя яблыкі. І цяпер ён іх любіць есьці. Жонка спэцыяльна для яго іх сушыць.

Паводзіны сына ня вельмі зпадабаюцца Сымону Чарнюку. Па ягоным сын павінен быў рабіць запасы на „чорны дзень", а ў яго ніякага толку з іх няма.

Успомніўшы сварку з бацькам, Язэп Крушынскі трохі паморшчыўся. Нічым бацьку задабрыць нельга: ня хоча стары пакідаць сваіх „запасаў", у Курганішчы жыць ніколі ня згодзіцца.

Язэп Крушынскі пусьціўся бягом у гумно. Пры гэтым не забыўся падумаць аб тым, што прыдзецца гэтымі днямі быць у Менску. Там ён купіць для Драздоў і Дзятлаў паабяцаныя косы.

Ужо другі год, як у яго працуе воўначоска. Зімой яна стаіць у маленькай хатцы побач з лазьняй, а летам яе прымайстроўвае да малатарні, нацягвае пас і ня трэба круціць машыну рукамі. Працуе конь.

Язэп Крушынскі паглядзеў, як ідзе праца. Ня гледзячы на час сенакосу, на гумне стаяла некалькі фурманак з воўнай. Каля вазоў тупаліся бабы Воўначоска гудзела манатонным прыдушаным гудам. Гэты шум быў для яго вуха прыемнай музыкай. Крушынскі любіў „фабрыку". У яго галаве ўвесь час, нібы пчолы, роіліся мары аб „фабрыках". Ён марыў аб тым, каб пабудаваць у Курганішчы паравы млын разам з невялічкай лесапілкай.

Язэп Крушынскі ўскочыў у будыніну паглядзець, як працуе машына, і нарабіў крыку на баб.

— Чаму вы мне на казалі? Машыну трэба пачысьціць!

Ён загадаў спыніць працу, і сам узяўся за чыстку машыны спэцыяльнымі шчоткамі. Кончыўшы з гэтым, ён пайшоў у другі будынак, дзе поўным ходам працавала другая „машына“. Яе мэталёвы рытмічны стукат яшчэ здалёку чуваць было Крушынскаму. Тут працаваў ужо другі дзень местачковы кравец Мотка. Хаця гэты кравец жыў у мястэчку, але быў сялянскім краўцом. Хадзіў ад вёскі да вёскі з машынай за плячыма і з вялікімі ножніцамі у руках. Тоўстым драўляным самадзялковым аршынам Мотка вельмі спрытна бараніўся ад сабак.

Цяпер Мотка спыніўся на некалькі дзён у Крушынскага, дзе шыў вопратку для аднаго з рабочых Курганішча.

Яшчэ месяцы два таму назад сам Крушынскі езьдзіў у сваты з сваім рабочым да аднэй дзяўчыны. Трэба было яшчэ да жніва наладзіць вясельле.

Крушынскі апекаваўся над сваімі рабочымі. Сам прымаў удзел у наладжваньні іхняга сямейнага дабрабыту.

— Чаму, Мотка, у пакоях не працуеш?—запытаўся Крушынскі.

— Там сьпякота вялікая.

— Працуй тут!—даў ему Крущынскі спозьнены дазвол і прылёг у цяньку на кулях леташняй саломы.

Мотка шыў для рабочага шлюбны гарнітур—фрэнч і „філігей“ (галіфэ).

Рыгор (жаніх) часта заходзіў да яго на прымерку і на вайну.

Ён вёў з старым краўцом бязьлітасную вайну за кішэні. Яму вельмі хацелася, каб у „хрэнчы“ былі кішэні. Мотка артачыўся і ўсялякімі стратэгічнымі способамі адгаварваў Рыгора ад кішэняў—ад гэтага „гарадзкога балаўства“.

Мотка ўжо дваццаць пять гадоў краўцом. Славіцца па ўсёй ваколіцы добрым майстрам. Але ў яго профэсіі ёсьць адна маленькая трагэдыя—ніяк не налаўчыўся рабіць кішэняў. Гэтая мудроная штука па сягоньняшні дзень засталася па-за межамі яго мастацкасьці. Дзеля гэтага ў Моткі з кожным годам расьце і павялічваецца шчырая нянавісьць да кішэняў. Ён іх крытыкуе рознымі способамі, з надзвычайнай злосьцю.

— Ну, на якое ліха табе патрэбны кішэні?—пытаецца Мотка у Рыгора.

— Як на якое ліха?—бянтэжыцца Рыгор.—Усе цяпер носяць кішэні. Так палагаецца!

— Што? Па закону палагаецца?—уваходзіць у злосьць Мотка і пачынае даводзіць Рыгору непатрэбнасьць гэтых абрыдлых, паганых чуць не контрэволюцыйных кішэняў.

— Скажы мне, Рыгорка, такую штуку! Ну на вошта табе гэтыя кішэні даліся? Навошта? Ідзеш працаваць на поле—бярэш торбачку. Ездеш на кірмаш—бярэш торбачку з харчамі! Навошта табе кішэні?

З застыўшым запытаньнем у вачох Мотка глядзіць на зьбітага з панталыку Рыгора.

— Навошта табе кішэні?

І Мотка дае адказ на сваё запытаньне:

— Хіба красьці думаеш і крадзенае ў кішэнях хаваць?...

— Я—ня злодзей!—кажа Рыгор саромлівым голасам. Ховай, божа, я—ня злодзей.

Мотка ўсьміхаецца ў сваю рэдзенькую казьліную бародку. Ён перамог сваімі довадамі.

Пад рытмічны стукат краўцовай машыны Язэп Крушынскі заснуў на прухкай саломе. Але не пасьпеў ён праспаць і пяці хвілін, як прыбегла яго маленькая дачушка і давай яго тармашыць абедзьвюма ручкамі.

— Татка! Татка! уставай!!

Язэп Крушынскі ўскочыў.

— Што, Настачка, трэба?

— Аграном прыехаў. Пытаецца, дзе тата.

— Аг-ра-но-о-ом!—на сьпеўны лад зацягнуў Язэп Крушынскі.— Вось як!

Язэп Крушынскі сьпешнымі крокамі пайшоў да хаты.

За ім пабегла, падскакваючы на аднэй назе, маленькая дзяўчынка.

(*Працяг будзе*).

Надаслаў нядаўна верш
Мне адзін знаёмы з вёскі.

. . . . . . . . . . . . . . .

«Дарагому Крапіве.
Піша сябар твой Яворскі.

Сябрам быў калісь—але.
(Мо' цяпер такім ня лічыш?)
На адным жылі катле—
Памятаеш Смалявічы?

Помніш, як за гарнец груш
Бульбу ў склеп, бывала, турым?
Я цяпер забраўся ў глуш
Ды „насаджваю культуру“.

Кінуў, брат, зямлю сваю,—
Досыць з ёю нэрвы тузаў;
Тлумяць голаву маю
У школе трыццаць карапузаў.

Ну а ты, я чуў, тае?..
Лаўры там і ўсё такое?
Вось, браток, яны твае
Не даюць і мне спакою.

Так... Здараецца ў жыцьці...
Што ты, сядзеш, будзеш баяць?
Дні пасьпелі адцьвісьці,
А надзеі зацьвітаюць.

Трыццаць пяты-ж год ідзе,—
Нек аж сорамна, дапраўды...
Вось адна з маіх „надзей“,—
Прачытай ды дай парады».

. . . . . . . . . . . . . . .

Прачытаў я твор, пагладзіў,
А што вышла—вось паглядзім.

## Шкірута

### I.

Эх, і чортаў жа настрой!
Не ляжыцца, не сядзіцца,
Уецца думак цэлы рой,—
Мае нешта нарадзіцца.

Ды ніяк іх ня сабраць—
Разьбягаюцца дый годзе.
Мусіць ноччу не з дабра
На дварэ хаджу, бы злодзей.

Трэйці дзень ня п‘ю, ня ем,
Ныю, ходзячы галодны:
Вунь у Скалкі том поэм,
А ў мяне яшчэ ніводнай.

Бач, поэму напісаць
Цяжкавата бяз прывычкі...
Трэба, мусіць, зачасаць
Ды паставіць зразу тычкі.

Каб сюжэт удала рос—
І ня коса, і ня крыва,
А за гэтым трэба воз
Усялякіх там мотываў.

На разгатым іх гальлі
Панавешаць трэба тропаў,
Перазвоны каб былі
Ды каб сіні не прахлопаў.

Потым трэба слова „ой“
Сорак тысяч экзэмпляраў,
Каб відаць быў твой настрой
Бяз ніякіх акуляраў.

А няхай бы яго хвор:
Тут ад рознай гэтай „сіні“,
Пакуль той напішаш твор,
Станеш сам, як пуп гусіны.

Ня пісаць мне, знаць, поэм,—
Не з маім, як бачу, ротам.
Вось я хіба трохі зьем
Ды гарбаты вып‘ю потым.

Раскажу тагды ўжо вам
Пра адно сваё здарэньне.
Дай што-небудзьзь, жонка, там!
Пірага нясі, варэньня!

II

Замарыўшы чарвячыну,
Раскажу цяпер я вам
Пра глыбокі гэты шрам,
Што дастаў я праз дзяўчыну.

Эх, дзяўчаткі! Я ў той час
Вельмі спрытны быў да вас.
Вось цяпер, сказаць-прызнацца,
Кроў ня так ужо кіпіць.
Так—вы можаце сьмяяцца,
Калі хочаце, і кпіць.
Я люблю ваш сьмех дзявочы
Ды гарэзьлівыя вочы,
Вашы кпінкі, вашы жарты,
Ды... куды цяпер я варты?
Зараз буду—лысы дзядзя,

Зараз горб на сьпіну сядзе,
Ды падагра ногі скруціць,
Зараз... годзе баламуціць.
Так,—што дзень, то бліжай к сьмерці...
Толькі вы ня надта верце:
Я жартую. Я нарокам.
Хай-жа хто з вас кіне вокам,—
Ці падобны я на дзеда?
Калі хочаце вы ведаць—
Яшчэ я ня цьвік іржавы,
Яшчэ я „дзядуля“ жвавы,
Яшчэ я... ды што хавацца!—
Мог бы нават закахацца.
Вашы ручкі, вашы ножкі,
Рух брывей капрызны трошкі,
Ваша стрыжка пад хлапца,
Лепет, лепет без канца,
Завіруха слоў вясёлых,
Паўсукенкі лёгкі шалах
(Не—наўрад ці апішу!
Ты жвавей скрыпі, пяро!)
Так мне кратаюць душу!
Пранікаюць у нутро
Аж да сэрца, аж да нырак...
Эх, шкада, што я ня лірык!
Я тагды, дзяўчаткі, вам бы
Пеў такія дыфірамбы
Ад відна і да відна,—
„Душу-б выпеяў да дна“.
А то я... Чаго я варт?
Такі, бачыце, мядзьведзь:
Бухнуў слоўца й сам ня рад,—
Аж вачэй няма дзе дзець.
Рад паправіць, ды ўжо што там...
Я-ж кажу—ня з нашым ротам.
Але годзе заляцацца,
Каб бяз чуба не астацца:
Вунь за мною людзі сочаць,
Маёй жонцы сказаць хочуць.
Яна-ж дрэнны звычай мае—
Мяне ў цуглях скрозь трымае.

III

Прабягаюць год за годам...
Я калісьці быў вайсковым.
Маладым служыў камзводам
У шаснаццатым стральковым.
У тылу быў і на фроце
У сваёй вось тут старонцы.
З палякамі меў я справу
І ў адным паходзе слаўным
Чуць ня ўзяў у іх Варшаву
І чуць Менску не аддаў ім.
Сілы болей не хапала

Бараніць куток свой родны.
Як я жыў? Ды як папала:
Дзень—ня еўшы, два—галодны.
Дзе скарынку раздабудзеш,
Трохі „супам“ рот прамочыш,—
Жыць, як кажуць людзі, будзеш,
А кахацца не захочаш.
Надышла тым часам восень.
Беларусь пачалі рэзаць.
Без мяне тут абышлося,—
Там „бацькі“ на поўдні лезуць.
„Бацька“ Булак-Балаховіч
Рэжа Рэчыцу і Лоеў.
Давялося іх ахоўваць,
Бараніць „жыдоў“ ад „гоеў“.
Частавалі „бацьку“ й „дзетак“,
Выдыгалі так і гэтак,
Ушаноўвалі гасьцей,
Каб прыходзілі часьцей.
Госьці болей не схацелі,
Госьці дужа папацелі:
Бачыў Лоеў, Бачыў Брагін
На тварох крывавых рагі.
„Бацька“ думаў—верне славу,
Ды каб ён так толькі дыхаў!
Як зрабілі з „бацькам“ справу,
Аддыхаць пашлі мы ў Быхаў.
Тут увесь быў полк сабраны.
Залізалі трохі раны
Ды ахаяліся з бруду—
Акапалі трохі вошы.
(Бачу я, што для эстэта
Рэжа вуха месца гэта,
Выбачайце! Больш ня буду!
Пашукаю слоў харошых,—
Я-ж і сам цяпер стаў чыстым).
З дому ліст, пасьля другі мне.
Адным словам—ліст за лістам:
„Гаспадарка, значыць, гіне.
Бацька нешта нездаровы—
Ні на поле, ні ля дому.
Конь стары, няма каровы.
Як і будзем—невядома.
Быў атрад у нас заўчора—
Усё шукаюць дзязяньціраў.
Перарыў усю камору,
Палатно ўсё з куфра вырыў.
Год такі цяжкі ды жорсткі.
Мне ўсё сон нялюдзкі сьніцца.
Некі агент з продразьвёрсткі
Дык забраў маю й спадніцу.
Кажа—многа трэба войску.
Ну, а што-ж мы вінаваты?
Наваліліся на вёску...

Прыяжджай скарэй да хаты,—
На франтах здаецца-ж ціха...“
Сам я думаў, ды куды там:
На табе другое ліха—
Чорт узьняцца даў бандытам.
І ганяйся тут за імі,
Як за воўкам паляўнічы.
Неўзабаве перайшлі мы
У мястэчка Смалявічы.

IV

Многа буяных адважных галоў
Скацілася з плеч у бандытаў.
Многа і нашых было з-за вуглоў
Ды з цёмнага лесу забіта.

Помню я плямы крыві на сьнягу,
На шматы скрамсанае цела,
Мяса крывавае ў чорным кругу—
На баль вараньнё прылящела.

Слаўся, клубіўся крывавы туман.
Адным і другім было крута.
Быў у бандытаў тагды атаман—
Бядовы Захарка Шкірута.

Блазан гадамі, прыгожы хлапец,
Ды вось праз яго ў тую восень
Там не адзін быў насыпан капец
Вазёры крыві пралілося.

Сябар нагана, брат родны нажа—
Быў спрытны такі-ж, як і люты.
Кожны ў акрузе ад жаху дрыжаў,
Прачуўшы пра ўчынкі Шкіруты.

Віхрам няжданым бандыт налятаў,
Сьляды замятаючы чыста.
Многа з жыцьцём ён людзей разьвітаў,
А болей за ўсіх—камуністаў.

Зловяць у лесе, разьдзенуць суздром
Ды шкуру зьдзіраюць на лыкі.
Сэрца ня кратаюць дзікім зьвяром
Ні мольбы, ні немыя крыкі.

Выражуць молат на сьпіне і серп,
Крывавую зорку наверсе,
Літары выражуць—РСФСР
І цела на ўзгорку павесяць.

Зьверства такога ў тутэйшых мясцох
Ня бачыў ніхто і ніколі.
Агента неяк злавілі ў кустох,
Забілі, жывот распаролі,

Грэчкі насыпалі, жыта, аўса,
А ў рот далі ўласную костку.
У рукі запіску бандыт напісаў:
„Таварыш, прымі продразьвёрстку“.

Страшную памяць крывавых падзей
Пакінуў Шкірута ў народзе.
Зараз яшчэ між тутэйшых людзей
Лягэнды жахлівыя ходзяць.

Там і цяпер, калі ўночы йдзяце,—
За вамі скрамсаныя трупы.
Маткі дагэтуль пужаюць дзяцей
Там жудасным імем Шкіруты.

---

Раз паклікаў камполк мяне ў штаб—
Заўжды спакойны і строгі:
— Вось вам карта—дзьвёхверстны маштаб,
Вось вам на карце дарогі.

Радыус возьмеце—трыццаць вёрст.
Вы за два тыдні павінны
Весткі сабраць мне пра кожны мост—
Насьціл, быкі, падваліны.

Колькі ў шыркі ён, мацунак які,
Ці можна праехаць гарматам.
Зьмераць глыб і цячэньне ракі.
Броду ці блізка няма там.

Здайце работу, каб быў з яе толк.
Можаце ўзяць ордынарца.
— Зроблена будзе, таварыш камполк!
— Жарце!

## V

Мы едзем, гаворым;
Шум ветру ў вушах.
Дзе-недзе прышпорым
Ды зноўку—на шаг.

Размову з Пятровым
Пра полк завялі.
Ня звонкі падковы
На волкай зямлі.

На сустрач паляны,
На сустрач лясы.
Кастрычнік расплявіў
Лясом валасы

Пад золата, мосендз,
Ды цёмную медзь.
Не,—гэтак, як восень,
Дзяўчатам ня ўмець!

Дрыжаць і лапочуць
Чародкі асін:
Пад ветрам паўночным
Азяблі зусім.

А граб ужо голы,
Дажджамі набрак;
Працягвае гольле,
Як рукі жабрак.

Шапочуцца елі
Іголкамі губ
Аб воўчым вясельлі
У глыбокім сьнягу.

Гадуюць авечкі
Цяпло сівых рун—
Драпежаць ля рэчкі
Зялёную рунь.

На ўзгорку тут бліжай
Іржэўнік руды,
Як стрыжаный рыжай
Кусок барады.

Мы едзем ды едзем.
Дзе моськік ці гаць,
Я злажу агледзець,
Пятроў—памагаць.

Самотна канае
Сухотны ўжо дзень.
Паўзе па канаве
Сьмяротны ўжо цень.

Тануць у сутоньні
Абрысы прысад.
Змарыліся коні
І просяць аўса.

Дый самі-б мы елі,
Каб ежа была.
Сырыя шынелі
Гнятуць да сядла.

А зьлезем, дык ногі
Аж чуць валаком.
Эх, бульбы-б з дарогі
Цяпер з малаком!

— Ну што, мо' на хутар
Заедзем, Пятроў,
Калі нам Шкірута
Ня зрэжа галоў?

Пятроў забіяцка
На хутар глядзіць:
— Як воўка баяцца,
То ў лес не хадзіць.

Я так яго стрэў бы,
Аж быў бы ня рад:
Пры нас-жа дзьве стрэльбы
Ды пара гранат".

Вунь купаю дрэвы,
Між іх—журавель.
Кіруем налева
Па збляклай траве.

Нас выбеглі брэхам
Вітаць ваўкары,
Ĭ гойсае рэха
Ў суседнім бары.

VI

Так праз хвіліны тры ці дзьве
(Вайсковец ня прывык марудзіць)
Ĭ коні нашы ўжо ў хляве,
Ĭ самі ў хаце мы, як людзі.

Тут зараз міскі ды збанкі...
Дзед нам, мы дзеду нешта хлусім.
— Сядайце,—кажа ён,—панкі,
То-бок таварышы, закусім!

Капусты місу нам на стол,—
Сабака-б мо' не пераскочыў.
Ĭ верне пара аж у столь,
Ĭ смачным пахам нюх ласкоча.

Пасьля гладышык малака
Ды бульбы чыгунок гарачай.
Вось тут—ня то, што ля пайка—
Мы можам пахадзіць іначай.

Падсела дзедава сям'я—
Нявестка з дзіцем ды старая.
На хлеб павёў атаку я,
Пятроў на бульбу напірае.

Гаворку дзед пра трудны год
Ды пра ўраджай пачаў заводзіць,
А ў нас бяда—заняты рот...
Тут зараз дзеўчына ўваходзіць.

Маланкі-вочкі. Стройны стан.
Пад барадою рожкі хусткі.
Хоць формы скрадвае мультан,
А грудзі просяцца з-пад блюзкі.

Прышла і села пры стале,
Нэрвова мне абрус кужэльны.
— Дачка?—пытаемся.—Але.
Часьцей бывайце, то пажэнім.

Спусьціла вочкі ўніз хутчэй,
Хутчэй абруса складкі мнуцца.
Ніяк ня зловіш зірк вачэй,—
Хацеў бы я перамігнуцца.

Маргнуў—усьмешка зьбегла з губ,
Прывабна глянула і кпліва.
Ага, сьмяешся! Значыць—люб.
Бадай з табою зварым піва.

Лажымся мы. Старая прэч
Пашла праз сенцы спаць з нявесткай.
Стары палез сабе на печ.
Дзяўчына тут за занавескай.

Нячутна дыша ня сплючы.
Удвух мы—на адной пасьцелі.
Нас мелі, праўда, разлучыць,
Ды толькі мы не захацелі.

Тут стрэльбы нашы ў галавах
Пяцьма патронамі набіты,—
Каб ня было часамі—шwах,
Калі абмацаюць бандыты.

Заснуць хацеў я, ды ня мог.
Які тут сон! Ня сон, а сьлёзы:
У разварушаных мазгох
Жанчын расьпешчаныя позы.

— Пятроў, ты сьпіш?—Ён шэпча: „Не.
Чаму?—пытае.—Што такое?
— Пятроў, ня сьпіцца нешта мне,—
Дзяўчына не дае спакою.

Храпі, браток, як бытцам сьпіш...
Апанавалі, брат, жаданьні...“
І крадуся ў начную ціш
Лягчэй туманнай белай здані.

Прышоў. Гляджу. Ня сьпіць яна.
Прылегчы пораўні хачу я.
— Адстань ты,—шэпча,—сатана!
Вунь бацька сьпіць—яшчэ пачуе.

Сама хіхікае.—Адстань...
Каб бацька чуў—ото зырнуў бы!..“
Але абвіў я моцна стан
І губы напаткалі губы.

Камечыць пазуху рука.
„Што будзе, думаю, то будзе.
Хоць буду зяцем кулака...“
Ды што за чорт? А дзе-ж бо грудзі?

Пераканацца дай, аднож...
Акамянеў ураз ад жаху:
У змроку цьмяна бліснуў нож
І рэзнуў па твары з размаху.

Тут заліла мне вочы кроў.
Хацеў паклікаць на падмогу,
Ды толькі крыкнуўшы—Пятроў!—
Як сноп, скаціўся на падлогу.

Ляжу зьмярцьвелы пры сьцяне,—
Мурашкі бегаюць па целе.
Бандыт-жа, кінуўшы мяне,
К Пятрову сунуўся з пасьцелі.

Ня ведаю, што там было-б,
Каб той хоць каплю правароніў,
Але прыкладам стрэў у лоб—
Гатовы быў да абароны.

Зьвязаў старога, потым баб;
Перавязаў мне трохі рану.
Бандыт ажыў. Усіх у штаб
Адвезьлі мы назаўтра рана.

Разбойнік жаласна стагнаў,
Калі дзе па карэньнях трośся.
Маўчаў затое, як сьцяна,
У камісара на дапросе,—

Ня мог ці не хацеў казаць...
А дзед, калі прыперла крута,
Прызнаўся: хлопец—яго зяць,
Крывавы, жудасны Шкірута.

---

Дык вось цяпер вядома вам,
Праз твар увесь з якой прычыны
Такі ў мяне глыбокі шрам.
Яго дастаў я ад „дзяўчыны“.

Тым сапсаваў сабе я густ.
Здаецца мне цяпер загэтым:
Калі ў каго высокі бюст,
Дык то—бандыт пераадзеты.

**Кузьма Чорны**

# Сястра

*Роман у чатырох частках*

## Частка трэйцяя

### I.

Інакшым тварам глянула на яе зямля.

Хвойныя лясы былі зялёнымі і маладымі, нават у старасьці сваёй. Іх бяскрайнасьць поўніла чалавека спакоем і ціхаю воляй. І з іх зялёных нетраў, з дажджавых хмар над імі, з палёў за імі і перад імі адчувалася прастора, дзе раскашэльваўся жытамі і дрэвамі той забыты хутар. Ён здаваўся блізкім, вось тут за першымі сьценамі лясное гушчырні, у жаўтаватых і вымаклых за прадвесьню палёх.

Хмурны быў той дзень, калі Маня зьявілася тут. Хмурны вясёлаю веснавою хмурнасьцю, мяккаю і лагоднаю. Цёплыя хмары нізка плылі над зямлёю, у далечы асядалі на вострыя верхавіны лясоў. Размашыстаю прытульнасьцю поўнілася ўсё. Зямля радасна чакала кіпучых удараў дажджавое вады, каб пасьля ў адзін дзень усьцешыць жывое вока густатою маладых усходаў. І чакаючы, шырока і вольна дыхала паўнатою грудзей сваіх.

Хмурыліся дарогі, чарнелі каляіны. Маўклівы камень пры дарогах абростаў вясёлым аксамітам.

Так тут было шырока і вольна.

Некалькі раз у дзень грымелі тут паязды, і Панкрат Малюжыч цяпер цікаўна аглядаў гэтую мясцовасьць, востра паглядаючы паверх прыдарожных зарасьнікаў і зьбіраючы на твары сваім усю сілу свайго захапленьня.

Накрыты саломаю, сіняваты пастарэлым дрэвам сьцен сваіх, расчурхана ўглядаўся ў поле і лес нізкі будынак вясковае школы. Ад яго, да высока ўзьнятага мосту на чыгунцы, над вузкаю рэчкай, бегла вузкая сьцежка, і па адкосе ўзыходзіла на зарослы дзірваном насып. Другая, уздоўж паўз адкос, ішла на станцыю—прытульную і спакойную тут; радасную гэтым-жа спакоем сваім. Паабапал чыгуначнае лініі гусьціліся пасёлкі, вёскі і хутары—людзкія прытулкі былі сьціплымі і выглядам сваім не жадалі раскашэльвацца і крычаць пра сябе.

Неба хмурылася чатыры дні, на пяты-ж дзень хмурнасьць стала мокраю ад дажджу. Пад вечар, калі зямля пад нагамі абцягнулася ад вільгаці, Маня хадзіла на станцыю спатыкаць поезд. Ён тут стаяў адну хвіліну, і за гэты час Маня ўсьміхнулася Панкрату Малюжычу, адказваючы гэтым на яго вясёлы бляск белых вачэй. Цяжка ўзрушыўшы поезд і пускаючы яго далей, ён памахаў ёй рукою і нешта гукнуў здалёк, чаго яна з-за грукату поезду не пачула. Яна прайшла некалькі крокаў побач з паравіком, нясучы ў сабе жаданьне ўскочыць у гэтую чорную нору. Пасьля, як паравік мінуў яе, і выпярэджваць пачалі вагоны, яна прыпынілася і крыкнула ўсьлед:

— Што, Панкрат, што?!

Ужо апошнія вагоны прабягалі паўз яе, і яна сама ледзьве пачула свой голас. Яна не сьпяшалася ісьці адсюль. Увесь адвячорак яна праходзіла па палёх, адчуваючы, як родная ласкавасьць поля канчаткова залечвае сьляды нядаўняй хваробы. Бязлюдная станцыя поўнілася змрокам, калі яна ішла праз яе назад. Жоўтыя дзеравяныя будынкі, разам з дрэвамі, зямлёй і вадой, здавалася, поўніліся ўсім і слухалі ўсё маўчаньнем сваім.

Маня паволі дайшла сьцежкаю да школы.

Так праходзілі гэты час дні яе тут. Яна сама сябе ўпікала, што дагэтуль не сабралася напісаць нікому ў горад, нават Казімеру. Пісацьжа ёй не хацелася фізычна. Якбы яна адпачывала гэты час нават ад сваіх блізкіх людзей, што засталіся ў горадзе. У часе ад'езду Казімер з Абрамам праводзілі яе на вагзал, а больш за ўсіх клапаціўся Радзівон Цівунчык. Трымаючы рукі ў кішэнях, ён стаяў перад вагзальным пад'ездам і, міргаючы вачмі, гаварыў, сьпяшаючыся выказаць чым хутчэй усё:

— Хаця-ж якую-небудзь вестку давайце аб сабе, а то цяперашнія людзі такія, што калі ад'ехаў куды, дык і забываецца.

І ён ня думаў пра тое, што ледзьве быў знаёмы з Маняю, бачучы яе толькі два ці тры разы.

Апынуўшыся адна сярод палёў, яна ў ціхім захапленьні аддалася гэнай цішыні, набіраючыся ў ёй сіл для далейшых дзён сваіх.

Кожны дзень зьбіраліся ў школу дзеці. І спачатку няпрывычна было ёй, але слаўна важдацца з імі. Але хутка справа гэтая пачала рабіцца як-бы знаёмаю здаўных. Яна думала пра малую Анцю, бачачы дзяўчатак у шарачковых андаракох; яна ўспамінала Казімера на хутары, бачачы хлапчукоў у кароткіх парудзелых і вышмарганых суконных вопратках. Цяпер успамінала яна паасобныя драбніцы ў сваіх даўнейшых адчуваньнях думкамі. Фактычна ня любячы тады, ў малыя гады, Казімера, яна дзіцячым сэрцам сваім чула, што як-бы нейкая безнадзейная туманнасьць засьцілае шлях перад ім. Аб Анці-ж зьяўлялася жальба. Гледзячы-ж цяпер на гэтых малых вучняў сваіх, яна чула ў іх і вакол іх радасную сілу і сьветлую волю.

— Будзем патроху пераварочваць ўсё,—гаварыў раз бацька аднае дзяўчынкі, палічыўшы патрэбным пагаварыць з настаўніцаю. І ў гэтых словах яго пачула яна ўсю шырыню справы, якую хацеў выказаць чалавек.—Што і зямля будзе больш радзіць, і поту можна будзе менш ліць на яе, і іншыя андаракі, лепшыя і мякчэйшыя, будуць насіць дзяўчаты. І Анця, якая народзіцца, ня будзе бегчы босая па халоднай ральлі, завучы бацьку, які прыйшоў да сваякоў прасіць старое вопраткі пасьля нейкага памерлага. А калі й прыйдзе ён па яе, дык скажа, адразу, чаго прыйшоў і чаго яму патрэбна, і ня будзе крывіць душою сваёю, топячы сваё вялікае хараство ў непраходных нетрах дробных хітрыкаў і ўласнае прыніжанасьці.

„Будзем патроху пераварочваць усё"—ён, гэты чалавек, затульваючы на грудзёх старую жыкетку бяз гузікаў, гаварыў пра выкарчоўваньне кустоў на нявыкарыстанай дагэтуль ялавіне, пра равы, якія выкапаны на ўзбалоцьці, каб пасушэлі паплавы, пра тое, што дзяўчына яго ня будзе да канца хадзіць у школу, а спачатку траўня пакіне, бо без яе вясною дома як бяз рук...

„Будзе такім-жа самым сінім неба і такою-ж чорнаю зямля, поўнаю задумёнасьці і колераў суму ўвосень і лёгкай вясёласьці ўвясну. Будуць ісьці і ціхія і бурныя дажджы, прыносячы зямлі ўраджаі. І будзе таксама сонца асьвечваць нараджэньне і сьмерць чалавека і ў яго

сьвятле ў людзей будуць блішчэць сьлёзы смутку і жалобы і сьлёзы радасьці. Бо жыў чалавек! Жыве і нанава ўваходзіць у жыцьцё, абнаўляючы яго. Сам жа ён будзе радасным і вялікім, бурна жывучы прыгажосьцю сваёю, абноўлены, за доўгія гады нанава перарадзіўшыся".

І яна жыла і працавала тут.

Яна доўга стаяла перад сваім ганкам, бачачы, як прачышчаўся захад. І рада была, што нейкі час тут ніхто яе ня будзе трывожыць. Буры заціхлі і аслабанялі ад сябе чалавека.

Маўчала трава, лясы і поле.

Яна ўжо хацела ісьці ў хату, як заўважыла, што па сьцежцы са станцыі нехта сьпяшаўся, высокі і да прыкрасьці знаёмы постацьцю і паходкаю. Яна бачыла яго кожны дзень, як ён разносіў па вакольных вёсках і хутарох лісты і газэты, праходзячы паўз школу.

— Мне?—запытала яна.

— Вам... Добры вечар.

Яна думала, што ліст ад Казімера. Павольна пайшла яна ў пакой свой, запаліла пяцінумяровую лямпу на высокім століку ў кутку. Сьцены ў пакойчыку былі пабелены, географічная карта вісела побач дзьвярэй. Была яшчэ нізенькая шафа, каля яе два крэслы і, замест стала, каля дзьвярэй школьная лаўка.

На конвэрце характар пісаньня быў незнаёмы, не Казімераў. Конвэрт быў пажаўцелы і памяты, відаць яшчэ да таго часу, калі скарысталі яго. „Недзе з глушы", падумала яна спакойна. Разгледзела пячатку і дату на ёй. Пячатка была аднэй з суседніх станцый, на гэтай самай чыгунцы. Паводле даты, ліст быў высланы у той-жа самы дзень. Не стараючыся здагадацца, ад каго ліст, Маня разарвала конвэрт і пачала чытаць. Тут, у гэтым спакою, дзіўным было ёй, што павеяла раптам ад ліста гэтага тымі, пакінёнымі кагадзе, бурамі. Ваця Браніславец пісаў:

„... Я знаходжуся на суседняй, ува ўсякім разе на блізкай ад Вас станцыі. Можа я ня маю права, ці магчыма, й патрэбы навязваць Вам весткі пра сябе, але мне хочацца сказаць, што я перажываю нейкі неспакой. Праўда, тут я вельмі аддаўся працы, і гэта дапамагае мне, але ўсё-ж прымушан прызнацца я, што большага чакаў ад свайго выезду сюды. Вы нічога гэтага ня ведаеце, што і як было са мною і як я жыў. Пра гэта я нікому не даводжу да ведама і Вам таксама, бо ня цікава гэта і можа нават непатрэбна другому чалавеку. Але Вы самі ведаеце, чаму я пішу Вам і раней пісаў. Мне хочацца быць блізкім да Вас, пабачыцца з Вамі. Перад выездам сваім, калі я меўся выжджаць сюды, я чакаў адказу на той свой кароткі ліст. І не дачакаўшыся паехаў, даведаўшыся ад нашых агульных знаемых,дзе вы будзеце. І цяпер я пішу затым, каб Вы назначылі мне час, калі прыехаць на вашу станцыю пабачыцца і пагаварыць. Я не надакучаю Вам, гэта я ведаю хоць мо' хто іншы, ці можа нават і Вы думаеце адваротнае. Нашы лясныя вучасткі даходзяць да вашай станцыі, і магчыма, што мне давядзецца ненаўмысьля быць там... Я ніколі не задумваўся над тым, чаму Вы мне не адказалі на мой ліст. На гэта ў вас свае прычыны. А ўчынкі чалавека, калі нават на іх часам і няма цьвёрдых прычын, я паважаю. (Можа, Вы і адказалі мне, пасьля таго як я паехаў. Магчыма). Я думаю што Вы адкажаце мне цяпер. І прашу аб гэтым"...

Трохі ўсхваляваўшыся, алё ўсё-ж спакойна, палажыла яна на стол прачытаны ліст, ня ведаючы, што ёй рабіць з ім.

І от яна зноў пайшла ў веснавы вечар. Цёмна было. І ў далёкіх і блізкіх людзкіх прытулках блішчэлі чырвоным сьвятлом вокны. Зыкі

былі безутрапёныя і гулкія. Лясы аддавалі іх для ўсяе прасторы. Яна прайшла да чыгуначнага насыпу і назад. Пад мостам задумённа скардзілася на каменьнях звонкая рэчка і вострым халаднаватым паветрам цягнула ад яе.

І тады, у гэты вечар, зноў сьціснулася сэрца яе навалаю ўспамінаў, для якіх думкі саступалі сваё месца, адступаючы перад адчуваньнямі. Тады ў яе пачало сьпець пераконаньне патрэбы ў пэршы-ж вольны дзень паехаць у блізкае Дараганава да Анці.

Доўга ня спала яна. Дастала з століка здымак, дзе была яна сфотографавана з бацькам. Нізкі і моцны на выгляд чалавек сувора глядзеў з-пад густых брывей. І барада яго, густая і кароткая, была падобна да высушанай сонцам ральлі. Ён стаяў поплеч з ёю, відаць, у няпрывычных для яго абставінах і мусіць адчуваў сябе як-бы зьвязаным—так нязграбна віселі яго рукі, так жорстка прывыклыя да зямлі і дрэва. Яна сама напроці яго была ўвасабленьнем нічым ня прыкрытай мяккасьці, тады як мяккасьць яго была глыбока захавана пад хмурнасьцю брывей, цьвёрдасьцю і цяжкасьцю рук і суворай маўклівасьцю твару. Яна доўга, ня спускаючы вочы, глядзела на гэты здымак, змагаючыся з жаданьнем цалаваць гэтую халодную паперку.

— Паеду да Анці,—сказала яна моцна.

І азірнулася па пустым пакоі. Глядзела палявая ноч у вокны.

## II

Вясёлая піжма расла на межах, чабор і ажыньнік слаліся пад ёю. Сонца ўсходзіла і заходзіла над маладою жытняю руньню. Рунь сінела да самае сьцяны лесу і над ёю ляжала неба—глыбокае, палявое. Сонца хмурылася і зноў ясьнела.

Было гадзін сем раніцы, як Маня пакінула поезд і пайшла вузкаю палявою дарогаю, распытаўшы на станцыі пра хутар. На станцыі было ўсяго чалавек два ці тры выпадковых падарожнікаў. Роснае поле драмала.

Хутар той стаяў каля дарогі, увесь абвеяны цішынёю сонечнае раніцы ў палёх.

Маня адчувала ў сабе вялікія прылівы сіл і чыстаты радасных настрояў.

На хутарскім дварэ, даволі шырокім, але ня прыбраным, шумна клапацілася ўсялякае хатняе птаства—ляманталі гусі, сьцьвярджалі нешта качкі, абгаварвалі нешта ці нейкага куры. Вераб'і і вароны нішкам наглядалі за ўсёю гэтаю гаспадаркаю.

Маня адчыніла брамку і ўвайшла ў двор. Пахла на дварэ саломаю, травою і мокрым старым дрэвам. Нізкая старая хата—тры вакны ў двор і два ў агарод, высокі ганак, з старых дубовых плашак—за хатаю зразу-ж жытняя рунь да самага лесу. Яна йшла па дварэ, шукаючы вачыма каго жывога.

Каля хлявоў цераз нізкі плот з жэрдак пералезла жанчына, з дайніцаю малака ў руках. Саматканая спадніца на ёй была падаткнута, белая хустка была завязана рагамі назад. Яна прыперла дайніцу да жывата і, леваю рукою закрыўшы над вачыма ад сонца, пільна ўглядзелася ў Маню, не пазнаючы яе. Маня таксама нічога не пазнала ў гэтай, цяжкаватай на выгляд у постаці, жанчыне.

Маня папытала, чый хутар. Жанчына адказала і як-бы ад нейкай падазронасьці твар яе пасьвятлеў.

— А вы гаспадыня тут?
— Гаспадыня.
— Анця?
— Но але.

Жанчына паставіла на зямлю малако, падыйшла бліжэй, зусім здагадаўшыся, але ня сьмеючы выказаць ящчэ свае здагадкі. Твар у яе быў шырокім і прывабным, мяккія валасы прыгожа выбіваліся з-пад хусткі, рукі былі закарэлыя, закасаныя, ў сухім цесьце.

— Анцячка, пазнала?
— Пазнала, але ня верыцца.
— Дык пазнала Маню?
— Маня!
— Бачыш-жа, я знайшла цябе.
— Я ня ведаю, што мне й думаць.. Якім-жа парадкам, так раптоўна? Ну як-жа ты?.. Маня!..

Раптам Анця, уся порсткая і здаровая, моцна абхваціла Маню рукамі за шыю і пацалавала ў губы. На твары яе цьвіла шчырая ўсьмешка, доўгая і радасная, як і тая сонечная і росная раніца, і твар яе як-бы сьвяціўся бясхмарным, чыстым сонцам, якое для людзкое радасьці жыло і гарэла ў ёй. Маня чула гэтую людзкую яснасьць і сама поўнілася ёю.

— Манечка... Божа-ж мой міленькі!..
— Неспадзявана, праўда?
— Дзе-ж ты цяпер?
— Недалёка ад цябе. За дзьве станцыі. Настаўніцаю.
— І можа даўно?!
— Не, вельмі нядаўна перабралася.
— Ці надоўга-ж ты да мяне!
— Да вячэрняга поезду.
— Сёньня?!
— Заўтра-ж у мяне праца... А ў тую суботу ці нядзелю я йзноў магчыму прыехаць. Вельмі зручна тут.
— А божа-ж мой... Мая-ж ты сястрыца.

Анця зноў абняла яе за шыю і пацалавала ў губы і павяла ў хату.

Хата была ў сярэдзіне прастарнейшаю, чым здавалася знадворку. Пахла ў ёй вяроўкамі, малаком і капустаю. Яловыя дрэвы ляжалі каля печы на падлозе, рашчыненае цеста стаяла на заслоне. Кульгавая качка варушылася пад сталом, ляпаючы крыльлямі і ня могучы выявіць у вачох болі ў перабітай назе. Анця зразу-ж заклапацілася была. Пасьля, як-бы адумаўшыся, села на край лавы, проці печы і засьпяшалася гаварыць.

—Чым-жа цябе частаваць, сястрыца, чым-жа... Ну то расказвай, сястрыца, як-жа ўсё гэта здарылася, што якраз-жа папалася табе так пасуседзку, можна сказаць, пажыць са мною... Ці надоўга-ж ты перабралася сюды, як-жа родныя нашы, бо я-ж чула, што тату свайго ты забірала ў горад з сабою. Ці жыў ён хаця, бо ў мяне-ж, дык з родных нікога за ўсе гэтыя гады не засталося...

—Тата памёр ў горадзе.
— А можа?
— Памёр.
— Сястрыца-ж ты мая, а я-ж нічога і ня ведала. Родная-ж ты мая. Разьдзявайся-ж хаця ды садзіся. Можа ўтамілася вельмі? А не— ляж пасьпі, дзень цяпер вялікі, адпачыць ёсьць часу.

— Не, я хоць нагаваруся з табою... Дзе-ж твае ўсе?

— Ён каня недзе павёў каваць у кузьню, і хлапчук меншы паволокся з ім, а большы на пастаўнік каровы выгнаў.

— А як-жа ты жывеш, Анцячка?

—От жывецца. Няма чаго богу грашыць. Яно вядома, што й лепш можна, але адразу—хто яго... І горш жылося, і то нейк кідаліся. Зімою кашляла я, коклюш душыў, а гэта вылечылася...

— Колькі-ж дзяцей у цябе?

— Двое. Два хлопцы.

— Малыя яшчэ?

— Малыя! Дзеці. Калі-ж ім быць вялікімі? Унь большы ўчора з качкаю пагуляў—вытнуў нечым па назе, дык от качаецца пад сталом, мусіць, рэзаць давядзецца... А ўлетку ў тым годзе карова ў нас была прапала. Такое няшчасьце спасьцігла было. Выгадавалі, думалі паправіцца, а тут—на табе. Цяпер гумно перасыпать трэба, а гэта ўсё-ж грошы патрэбны. А дзеці, каб ім на карысьць ішло, здаровы, няўрокам кажучы, слаўныя хлапчукі... Можа-б ты зьела чаго, Маня? Я табе так чаго халоднага дам, пакуль у печы падпалю ды прыгатую што. Папраўдзе.

— Не, ты не клапаціся, я так рана не хачу.

— Зараз і ён павінен падыйсьці... Я то часамі думаю, дзе-ж ты на сьвеце паварочваешся? Ці даўно гэта было, што мы малыя былі! Папраўдзе. Так чалавечы век і зжываецца. Ты, можа, замужняя ўжо?

— Не.

— Дык я буду ўходжвацца, а ты ўсё-ж адпачні... Летась папробавалі за хатаю сад засадзіць, ды, мусіць, у брыдкае надвор'е падабралі як-раз—усе шчэпы павысыхалі. А шчэпы ён даставаў здалёк, на чыгунцы езьдзіў. Так-жа шкодна, столькі патрачана клопату й часу. Паглядзі унь...

Яны з Маняй глянулі праз вакно ў агарод. Засталося яшчэ некалькі высахлых шчэп, былі пароблены сьвежыя грады, чорныя яшчэ ад вільгаці. Каля плоту зелянілася купчастая, сіняватая трава.

Маня заўважыла, стоячы блізка да Анці: каля вачэй у Анці адценьні ўтомленасьці, але сілаю сьвеціцца яе твар, і крыніцы нявычэрпнай сьвежасьці адчуваюцца ў ёй. Скрозь задумённасьць, на твары ляжаць сьляды заклапочанай усьмешкі, нявыразнай, якая надае няпрыметным рухам рыс на твары ўражаньне сілы ўва ўсім чалавеку.

Анця пачала ўпраўляцца каля печы. Маня за кароткі час агледзела хутар—жытнія засевы, чорныя палосы сьвежай ральлі...

Яшчэ адно вакно было ў глухой сьцяне хатняга будынку, па той бок сяней. Яно было адчынена аднэй форткаю, зелень вазону відаць была на ім.

— У вас на дьзве палавіны хата?—заўважыла Маня Анці.

— Летась прыбудавалі. Цяпер там лясныя два каморнікі жывуць.

— Хто?

— Нейкія лясныя каморнікі, ці як іх. Лес тут мераюць. У нас і сталуюцца. Ды вельмі-ж людзкія хлопцы.

— Два іх?

— Два. І плацяць добра. Вельмі простыя і памяркоўныя. Адзін адразу нейк пасьля зімы прыехаў, а другі нядаўна.

Маня сядзела за сталом. Анця чакала мужа, паглядаючы ўсё ў акно. І ўсё весела гаварыла.

Думка, што гэта мог быць тут Ваця Браніславец, праімчалася ў Мані, аднак, гэта цяпер для яе было абыякавым—так моцна панавала над ёю асалода спакою ў гэтую сонечную раніцу на Анціным хутары.

Муж Анці прыйшоў неўзабаве.

— Анця мне некалькі разоў расказвала пра вас...—сказаў ён.

Пасьля прыбраў з-пад стала ў сенцы качку з перабітаю нагою і, усьміхаючыся, сказаў:

— Рыхтуй-жа, Анця, сьнедаць хутчэй, можа сястра з дарогі есьці хоча... Вы надоўга прыехалі?

Твар у яго быў абветраны, няголены. Рыжаватыя валасы густа шчаціліся да самага каўняра салдацкае сарочкі. Шапкі ён ня скідаў, і яна скураным казырком нудна закрывала лоб яго. Ён дастаў з паліцы газэту, расьцёр у пальцах сухі лісток тутуну і закурыў пыльным дымам. Сядзеў на лаве, сашчаміўшы пальцамі рукі, і, гледзячы ў адно месца, гаварыў:

—...Так і жывом. Жыцьцё ў нас, можна сказаць, ціхае, спакойнае. Валачэцца ўсё паволі, не сьпяшаючы; так яно і трэба ў нашым, можна сказаць, палажэньні. Хлопцы падрастуць, навучу іх грамаце і прыўчу да гаспадарства; а ім, шэльмам, гаспадарыць куды лепш будзе, зручней будзе жыцьцё выходзіць. Бо я сам толькі некалькі год як пачаў жыць па-чалавеччы, можна сказаць, а то ўсё—то ваяваў, то на свой уласны куток агорваў. А ім ужо ня прыдзецца. Вайна, скажам—дык яно, можна сказаць, так: пакуль яны падрастуць, дык ваякі наваюцца па горла, аж рваць з іх будзе. Ня можа быць, каб ня ўтхланіліся! На сьвеце павінна паспакайнець, гэта як два ды два—чатыры. .

Анця ўздыхнула:

— Бог яго ведае, што яшчэ будзе.

— Яно вядома, што ніхто ня можа ведаць, што наперад будзе. Кажуць, што ў сто год на зямлі зьяўляецца адзін чалавек, які ведае наперад, што на зямлі будзе. Дык іншы з іх сядзіць сабе, рукі склаўшы, ды глядзіць, як яно ўсё робіцца так, як ён прадбачыў, і іншы паглядзіць—дык-жа яно нешта ня так, як яму здавалася. От тут ён і пачынае арудаваць. Каб, канешне, было па ягоным... Можна сказаць, моцныя ёсьць людзі на сьвеце...

Анця перабіла яго:

— Меншага трэба будзе вучыць, ён слабейшы за большага, дык няхай хоць адзін на лягчэйшы хлеб узаб'ецца.

— Гэта як ён сабе тады захоча, падрасьце, у гады і ў сілу ўбярэцца, тады свой розум мецьме. Я яго няпісьменным не пакіну... А от большага гадоў праз колькі прывучаць пачну да гаспадаркі. Бо заўсёды мне аднаму, дык сіл ня хопіць. От я цяпер яшчэ здаровы, дык пакуль і вухам не вяду, а пасьля, калі пастарэю?! А пакуль-жа ўсё да ладу давядзеш! Не, дзецям лепш будзе жыцца, як нам. Нашы гады пройдуць от так—усё ўсталёўвацца, можна сказаць, будзе... Гэта правільна... Вядома, што так.

— Ну, а тады што?

— А тады йначай будзе.

— Усё адно, акуратнасьці ніколі, як мае быць, ня будзе.

— Ня будзе. Але чалавек-жа ўсё й даганяе, каб як найлепш. Вядома, што ніколі ня будзе ўсё дагнана так шчыльна, што каб нават і вецер не падзьмуў. Шчыліны заўсёды былі і будуць. А ня будуць—дык знойдуцца такія майстры, што самі наробяць іх, або прыдумаюць. Бо гэта мы дык от жывом сабе павольна, і жыцьцё наша ціхае, а ёсьць-жа такія, што ніколі ён табе спакойным ня будзе. Як той казаў,

палажы ты яго ў магілу, дык ён і там пачне раскалупваць ўсё... Але я кажу пра тое, што ім тады і раскалупваць будзе спрытней. Гэта я пра дзяцей нашых. Вядома што. Праўда ці не, сястра?

Ён паволі падлажыў недакурак пад падэшву боту на падлогу раздушыў яго; пасьля адышоўся да парогу і плюнуў цераз парог у сенцы

Маня добра адчувала сябе тут. Роўная, як хутарскія дні, філёзофія Анцінага мужа, задумённая расчуленасьць Анці і навакольная цішыня навявалі ціхую радасьць і забыцьцё на ўсе ранейшыя трывогі. І як-жа яна была падсьвядома ўдзячна Панкрату Малюжычу за яго нядаўны клопат аб ёй!

Пахла ў хаце смажаным салам і блінцамі. Анця напроці печы, на лаве, перамывала сухія грыбы. На дварэ не пакідала крычаць птаства, ахрыпла нудзілася на ўвесь двор цялё.

— Ад каровы адлучыла,—сказала Анця,—дык яно ўсё от і крычыць. Аж ахрыпла, ніяк прывыкнуць ня можа.

Хлопцы ўвайшлі ў хату. Меншы, замурзаны, з чорнымі кропкамі цікаўных вочак, заплакаў раптам:
— Дзе тата качку падзеў?
— У сенцах.
— Ня тлеба яе лезаць!..

Мірна было вакол. Адчувалася, як жыве вялікаю ласкавасьцю поле пад сонцам. Расла трава, і ў хаце пахла прасторамі поля. Глуха грымеў поезд, мінаючы за лесам станцыю.

III

Яшчэ абвеян быў чалавек вятрамі нядаўніх дзён, калі ламаў і крышыў ён сьляпыя адчуваньні свае аб сьвеце і шчасьліва поўніўся пачаткам новых думак аб ім. Яшчэ ня зьніклі тыя новыя пераконаньні і жаданьні, што асьвяжалі галаву і радавалі ўсю істоту. А тымчасам новыя ўзрывы непакою нанава ўзьнімалі чалавека на хвалях бурнае свае няміласэрднасьці: „Не магу без яе!“ І Ваця Браніславец не стараўся, як раней, перамагчы гэтае непакойнае паўнаты свае, аддаваўся ёй і с востраю асалодаю думаў пра Маню, уяўляў яе. Ён шкадаваў толькі таго, што ў часе хваробы яе тады не зайшоў да яе. Бо нават былі цяпер пачаткі думак, што ён праціўны, можа, для яе: тое, што ня было ад яе ніякага адказу, прымушала яго адчуваць сумную трывогу гэтага.

Поезд імчаўся сярод змрочнага поля.

Поле было туманнае і, мусіць, шумнае ад цішыні свае. Захад вялікаю ружовасьцю сваёю больш чарніў яшчэ далёкія прасторы зямлі.

Ваця Браніславец пагойдваўся ў кутку вагона, усьпёршыся локцямі на столік і гледзячы ў вакно. Беглі кусты, мільгалі чорнаю зялянінаю сваёю; здавалася, моцна і востра пахлі яны. Балелі вочы ад разглядваньня іх няспыннага руху.

У вагоне было мала людзей. Высокі вайсковы чытаў газэту, сагнуўшыся ў бок сьвятла. Ваця быў рад пагаварыць з ім ці з кім іншым, абы каб ня мучыла так напружанае стаяньне настрояў яго. Некалькі разоў чамусьці ўзьбягаў на памяць член тэй ці сэкратар, з вечнаю тэорыяй сваёю аб чалавечым руху і аб месцы ў ім Ваці Браніслаўца. Крывая і атрутная ўсьмешка трымалася ў гэтыя хвіліны на Ваціным твару, і вочы больш прасілі нярухомасьці ўсяго навакольнага. Яму хацелася—узбуджанаму Вацю Браніслаўцу—нечага ці некага сталага і

зусім спакойнага,хто-б халоднай хоць лёгікай пераконаньняў і словаў сваіх ўраўнаваў бы яго думкі, заспакоіў бы сьляпыя ўзрывы пачуцьцяў, і хто-б далікатна уразумеў бы чужую цікаўнасьць да рэчаў і зьяваў.

Нарэшце вайсковы адлажыў у бок газэту і сьвежымі вачыма паглядзеў у бок Ваці, рыхтуючыся, мусіць, якраз-жа загаварыць аб чым-небудзь з ім.

Твар вайсковага здаўся Вацю Браніслаўцу разумным і таму прывабным. Нават задаваленьне адчуў Ваця, што чалавек от з ім загаворыць зараз.

— Дрэнна чытаць,—сказаў вайсковы.

— Цёмна,—адказаў Ваця.

— Ня то, што цёмна, але дрыжыць вельмі газэта, а надрукована дробна. Так папсаваць вочы—раз плюнуць .. Вы далёка едзеце?

— Некалькі станцый.

— Усяго?

— Усяго.

Вайсковы памаўчаў.

— А я езьдзіў здаваць казённыя лыжы.

— Лыжы?

— Лыжы. Усяе свае роты.

— А вы ротны камандзір?

— Накшталт гэтага... Цяпер зіма скончылася, лыжная пара прайшла.

— Ну, пэўна, на чорта летам лыжы.

Расчараваньне гэтым чалавекам адразу апанавала Вацю. І ён яшчэ падліваў масла ў агонь, поўнячыся ўсё больш і больш радасным і лёгкім скэптыцызмам:

— Летам на лыжах нікуды не заедзеш.

— Затое зімою.

— Ого! Зімою...

— Зімою ў нас папрацавалі цяпер.

— Гэтаю зімою?

— Гэтаю.

— І вы?

— Я камандаваў.

— Ну як?

— Я й сам прыз атрымаў. Атрымаў прыз сам, у Маскве. Нашы ўзялі другое месца. Тула трэйцяе. А Аранбург падгадзіў.

— Зусім?

— Зусім. Канфуз быў.

— Цяпер бабы таксама на лыжах лоўка ходзяць.

— Ходзяць! У Маскве дык быў такі выпадак. Я сам бачыў...

— Гэтаю зімою?

— Гэтаю... Ішлі навыперадкі. Дык яна ідзе наперадзе ўсіх А тут пояс у яе расшпіліўся. Дык ўсё з яе і валіцца.

— На хаду?

— На хаду.

— Чаму-ж ёй не памог ніхто?

— Як?

— Як-небудзь здагадацца можна было.

— Як жа ты ёй паможаш?

— А гэта ўжо справа лыжнікаў.

— Але як?! Што тут лыжнік зрабіць можа?

— Раз ён, можна сказаць, стаіць пры гэтай справе, дык яму відней. Можна было, што-небудзь прыдумаць.

Вайсковы раптам змоўк і адвярнуўся, мусіць за нешта пакрыўдзіўшыся або раскідаючы думкамі над чым. Ваця зноў пачаў глядзець у вакно. На дварэ зусім зьмеркла, і разьмяклая сьвечка больш пачала даваць сьвятла. Ваця зусім хаваўся ў цёмным кутку вагона. Вайсковы раптам зноў загаварыў:

— Памятаю, што мароз быў вялікі.

— Калі гэта?

— Як на лыжах навыперадкі йшлі. Я йшоў трэйцім.

— Трэйці прыз узялі?

— Не, трэцім па ліку... Дык адмарозіў быў твар і пальцы на руках. Пасьля гусіным салам цёр... Вы жывіцё ў горадзе ці ў вёсцы?

— У вёсцы.

Вайсковы памаўчаў і зноў загаварыў:

— Калі на хаду спатыкнецца ды ўпадзе хто з провінцыялаў, дык масквічы крычаць: „далоў, гатова!“.

— А калі іхні хто?

— Калі іхні, дык маўчаць.

— Чаму?

— Усякі за свайго. З гэтым трэба змагацца.

Зноў вайсковы змоўк, маўчаў з паўгадзіны і зноў парушыў стук амаль пустога вагону моцным голасам сваім. Ён бліжэй прысунуўся да Ваці і глядзеў яму ў твар.

— Невядома, як у наступную зіму будзе лыжная кампания.

— Так, невядома.

— У нас цяпер новыя лыжы на ўсю каманду рыхтавацца будуць. Зусім новыя.

— На старых ня добра.

— Ня зусім так. Старыя лыжы, калі яны... Але я тут павінен пазнаёміць вас з адным выпадкам, які быў гэтаю-ж зімою, і які вам шмат што пакажа новае ў лыжнай справе. Калі вы чыталі ў газэтах пра... Вы газэты акуратна чытаеце?

— Акуратна.

— Ну, дык от... За трыццатае студзеня гэтага году, у аддзеле фізкультуры, быў надрукаваны артыкул...

— Я чытаў.

— Пачакайце, можа якраз ня чыталі.

— Чытаў.

— Як-жа вы ведаеце?

— Ведаю. Ня мог ня чытаць, калі я кожны нумар газэты ад пачатку да канца перачытваю.

— А ў якой газэце чыталі?

— Такое важнае пытаньне асьвятляцца павінна ўва ўсіх газэтах адразу. Іначай ня можа быць.

Вайсковы задумаўся, палажыўшы два пальцы на губу.

— М-гу,—сказаў ён сам пра сябе.

І да нечага стараўся дадумацца. Пасьля адвярнуўся ад Ваці, пасядзеў так і адыйшоўся да процілеглага вакна. Ваця выйшаў за дзьверы і закурыў.

І зноў, але цяпер даўжэй і выразьней, думаў пра члена таго ці сэкратара.

— Ты думаеш, што ўвесь сьвет павінен пераламляцца ў табе,— успамінаў ён яго словы ў адзін з мінулых дзён.

— Чаму я думаю?!

— Ну, ня думаеш, Ваця, а створан ты так, што такую позіцыю займаеш на сьвеце, у адносінах да яго.

— Што ты хочаш гэтым сказаць,—апраўдваўся Ваця:—і чаму сьвет не павінен пераламляцца ўва мне, для мяне самога. Для цябе ён пераламляецца ў табе самім. Зразумей, што гэта так.

— Ня так ты зразумеў мяне.

— А як?

— А так, што хацеў я сказаць, што ты сябе аднаго ставіш напроці ўсяго сьвету.

— А ты?

— Не, тут прынцып. Тут я гэта аб пэўнай зьяве..

— Клапоцішся!

— Пачакай. Ізноў ня тое... Ня можаш ты увайсьці ува ўсё і растаць ува усім.

— Каб няпрыметным быў?

— Чаму няпрыметным?!

— А як-жа?! Скажы выразна і ня блытайся на хітрых дарогах сваіх думак. Гавары зараз-жа!

— А што ты лічыш сябе важнейшым за целы сьвет?

— Не важнейшым.

— Ну то лепшым... Я гавару груба...

— Што, што?!

— Лепшым.

— А можа як іначай?

— Чужым.

— Гэта калі лічыць цябе за сьвет. Калі ты так лічыш, то яно, можа, і праўда. Магчыма, што ты ня зусім памыліўся...

Гаворка гэтая была спакайнейшаю за ўсе іншыя іх гаворкі; і адбывалася яна даўно. У наступныя разы яна ішла далей, у розных формах паўтараючыся і разьвіваючыся. Але была яна тэй адзінай, ад якое адыходзіў Ваця ўспамінаючы заусёды члена таго ці сэкратара.

— Я чужы ўсяму сьвету?!

Ён моцна, сказаў гэта сам сабе і зьдзіўлена паглядзеў у вакно, дзе веяла прытульным размахам веснавога вечару. Вайсковы ўзбудзіў у ім разуменьне самога сябе—што глыбейшы ён, чым сам сабе ўяўляўся і здаваўся таму члену. Думка гэтая была нявыразна акрэсьленаю, але цьвёрдаю і важнаю для яго. І скрозь яе, і скрозь тое пачуцьцё, якое вызначалася як смутак па Мані, выкрадвалася новае: адзнакі далёкай радасьці свайго існаваньня на сьвеце. Адчўваньне надыходзячай нейкай дзейнасьці свае падкрадвалася лёгкай трывогай. Затуманеныя засьціламі яшчэ новых і большых трывог, калаціліся і кружыліся думкі, ажыўляючы і ўзбуджаючы. І раптам у падсьвядомасьці закалацілася ў ім радаснае і так часта вядомае нявыразнасьцю сваёю дагэтуль: найвастрэйшыя ўздымы вядуць яго ўсё бліжэй і бліжэй да аўладаньня самым важным дня—цэнтрам, адкуль выйдзе яго радаснае, важнае, патрэбнае і вялікае ўмацаваньне на сьвеце. Тады ўпартая радасьць дамаганьня Манінае блізасьці запанавала над ім.

Цяпер ён сам ішоў да таго вайсковага, зноў пачаць з ім гаворку, лыжную гаворку, няцікавую самою ў сабе і цікаваю процэсам сваім і абставінамі.

— ... Дык вы хочаце ведаць, ці доўга адчуваў я адмарожанасьць пальцаў сваіх і твару?

— Ня толькі гэта.

— А што?

— Ці організуе лыжны спорт чалавечыя прывычкі і думкі? Праўдзівей кажучы—ці дысцыплінуе?

— Вам-жа няцікава гэта. Што я буду вам гаварыць?

Вайсковы пакрыўджана і хітравата паправіў пад сабою коўдру і лёг тварам да сьцяны. Ваця вострай усьмешкай акінуў зьверху доўгую постаць вайсковага і заўважыў:

— Я гэта сказаў так, ведаючы, што вам ужо усёроўна няма чаго больш мне гаварыць.

— Чаму?

— Бо вы мне ўжо ўсё перагаварылі. Нават, здаецца расказалі, якога колеру ў вас былі анучы ў ботах тады, калі вы ішлі трэйцім у лыжнай кампаніі, ці як там яно завецца.

Вайсковы заплюшчыў вочы і пасунуўся бліжэй да сьцяны. Ваця зноў закурыў, нецярпліва чакаючы хуткага канца падарожжа свайго.

Так адбылося і скончылася падарожжа яго, даўно чаканае і важнае. І назаўтра ўжо ён асудзіў сябе за сваю гаворку з вайсковым. Асудзіў сябе так жорстка, першы раз на жыцьці сваім.

Дні тыя першыя былі заняты клопатам пачынаньня работы—разглядваньне лясных плянаў у лясьніцтве, вывучэньне мясцовасьці (хоць апошняе рабілася больш па ўласнай цікавасьці, чым па патрэбе). Былі яшчэ спатканьні ў гэтыя дні, спатканьні досьць вясёлыя, з былымі таварышамі па інстытуту - з маладымі мэліоратарамі, што з самых першых дзён вясны пачалі работу сваю на тутэйшых балотах. Пасьля ўсталяваўся ён жыць на хутары, разам з другім таварышам сваім па рабоце, які прыехаў сюды некалькі ўжо тыдняў таму назад. Закватараваў тут на ціхім хутары, ня ведаючы новае гаспадыні свае, Анці; не сдагадваючыся нават аб ёй. Бо, можа, калі й бачыў быў яе дзе-небудзь у сваіх родных мясцох, бачыў, можа, раз ці два, але ня было ні прычыны ні выпадку заняць ёй якое-небудзь месца ў ім.

Новы таварыш яго, пасьля дзённае работы скідаў з ног салдацкія чаравікі, добра прыстасаваныя да доўгіх спацыраў па лясных і балотных куп'ях, запальваў агонь і лажыўся на пахучы аўсянаю саломаю сяньнік, падбіваў угару пад галавою падушку, з асалодаю працягваў стомленыя ногі і радасна адпачываў. Даставаў з куфэрка кнігі і чытаў іх. Вяця-ж садзіўся за свае лясныя вылічэньні. Калі-ж ня было іх, хадзіў на суседнюю вёску; калі-ж быў вельмі ўтомлены, соўваўся па хутары, гаворачы што-небудзь з гаспадаром, або нават дапамагаючы яму рабіць якую-небудзь дробную, заўсёды бясконцную работу. Так ішоў яго час. А раз глянуў у кнігу, якую чытаў таварыш яго. У хаце хмурна было ад блізкага вечару.

— Вершы чытаеш?—сказаў Ваця.

— Чытаю.—адказаў той і задумённа паглядзеў на Вацю.

## IV

У той вечар даўно сьцямнела, і даўно гаспадары за тоўстаю сьцяною з круглых бярвеньняў павячэралі і паляглі спаць, а яны ўсё гаварылі, не запальваючы агню.

— Вершы чытаеш?

— Чытаю.

Таварыш яго адлажыў у бок кнігу і павярнуўся тварам у бок Ваці. Ня думаючы, што гаворка можа зацягнуцца, Ваця сказаў яшчэ, сказаў, зьбіраючыся нават зараз-жа пайсьці ў абоймы ціхага вечару, у адзіноце пахадзіць па двары:

— Шмат чытаеш.

— Шмат.
— Любіш чытаць?...
— Ня то што люблю...
— А сам ня пішаш?

І скэптычная ўсьмешка зазьмяілася на нэрвовым і тонкім, сьветлым Ваціным твары. Той-жа павольна адлажыў у бок кнігу, памаргаў чорнымі вачыма, гледзячы на свае выцягненыя ногі і сказаў:

— Як быў яшчэ ў інстытуце—грашыў гэтым. Пісаў, але ня друкаваўся... Стараўся – страх як.

— А чаму пакінуў?

— Асьмеяў сам сябе за гэтую работу.

І ён таксама скрывіў губы ўсьмешкаю:

Бо няма горшае мізэрнасьці на сьвеце, як выпінаць з жывата рыфмаваныя радкі... А чытаю шмат.

— А я нічога ніколі ня чытаю.

Той памаўчаў. Чорныя вочы яго поўнілі твар жорсткай лагоднасьцю, сам-жа ён здаваўся Вацю прывабным і моцным для самога сябе. Ён запытаў:

— Ніколі ня любіў кніг?

— Я іх ніколі не ня любіў, але ніякае прывабнасьці не адчуваю ў іх. Не ў самых кнігах, а ў тым, што хаваецца ў гэтых вось самых радкох. Ты як, чытаеш толькі тое, што напісана?

— Не, ты ўгадаў. За чытаным адчуваецца большае, што, як мора, затапляе мяне.

— Любіш жыць, значыцца?

— Люблю радавацца жыцьцём, і радуюся... От сёньня, як ішлі з табою па саломе за вясковымі гумнамі, як вецер пробаваў халадзіць босыя ногі. Ты ведаеш, як гэта ўсё слаўна. Вецер, салома, пясок.. Лес, поле, дым ад папяросы, дым на вуліцы раніцаю. І я сам сярод гэтага..

— Не стаўляеш сябе, значыцца, супроць усяго, у чым вінаваціў мяне яшчэ нядаўна адзін член у горадзе.

— Які член?

— Член сэкцыі нейкае, ці обэрсэкцыі... Што я, кажа, стаўлю сябе асобна ад усяго. Натура мая, кажа, такая, што я хачу, каб сьвет быў такім, якім мне хочацца...

— Ну, то што тут дрэннага? Можа гэта й важна.

— Важна, ты думаеш?

— Важна. Калі ня можаш зрабіць усё, такім якім хочаш, значыцца...

— Значыцца сам рабіся такім, якім усё?!

— Ня спыняйся і шукай таго, што такое, як ты хочаш.

— Гэта значыць страціць самога сябе. Нічога не зрабіць, а толькі знайсьці. Нават калі і заспакоішся на гэтым, усё-ж гэта будзе самаашуканства, бо гэта будзе толькі прыстасаваньне. Адна з зьяваў тупое задаволенасьці.

— Чым?

— Тым, што ёсьць, а каб апраўдаць сябе, дык можна сказаць сабе—я-ж гэта сам знайшоў.

— Не, ты паслухай. От я люблю—і салому, і вецер, зацягнуся папяросаю, і мяне радуе гэты востры пах дыму. Я адчуваю яго больш, чым толькі курыльшчык. Гэта хіба прыстасаваньне?

— Не, бо ў цябе гэта непасрэдна. А тымчасам, каб ты пасьля доўгага раскідваньня розумам дайшоў да гэтага—што-б гэта было, калі не ашукваньне сябе.

— Гэтым ні сябе, ні каго іншага не ашукваюць!

— Не ашукваюць?! І сябе, і іншых, колькі хочаш. Спэкулююць на гэтым.

— Бачыў іх?

— Жыў з імі!

— А от ты сам, напрыклад, ну хоць работаю сваёю цяперашняю захоплены? Падабаецца яна табе?

— Як табе сказаць... З гораду я рваўся сюды...

— А цяпер?

— Пакуль добра тут мне. Але што значыць, урэшце ўсяго, добра ці ня добра, калі ёсьць што-небудзь іншае ў чалавека, што перамагае ўсё... Будзем так гаварыць. Нявырашаная якая-небудзь справа ці што іншае падобнае, што ўвесь час непакоіць.

— Высьветліць прычыны гэтае зьявы.

— І тады што?

— А тады пастарацца зжыць гэты непакой.

— Ліквідаваць, значыцца. Зусім, браце, ты цудоўную праўду сказаў. Вельмі проста і праўдзіва. Каб той мой адзін знаёмы малады чалавек, з якім я раз выпіваў быў і які там у горадзе лічыцца поэтам, чуў, дык сказаў-бы: „зразумела для нас“.

Цяпер той маўчаў. Ваця гаварыў:

— Прычына вядома, а калі сама зьява, не зьява, а непакой мой, не ліквідуецца?!

І ён востра ўсьміхаўся.

— Не ліквідуецца—і хоць ты што хочаш.

Тады той раптам усхваціўся з пасьцелі.

— Непакой не ліквідуецца? А ты хочаш спакою?

— Якога?

— Звычайнага. Які надыдзе тады, калі непакой ліквідуецца.

— Можа такога й не хачу.

— Сам значыцца ня ведаеш! Не, брат, жыві лепш непакоем. Дамагайся, калі табе трэба чаго ці каго. Ведаеш? Разумееш? Ідзі напралом, а не жадай спакою...

— А ўсё-ж ісьці напралом у імя спакою?

— Калі навучышся ісьці, значыцца заўсёды будзеш ісьці. І дасягнуўшы аднаго, створыш вышэйшае і зноў пойдзеш. Радасна і магутна! Ведаеш? Разумееш?

„Раскажу яму пра самае важнае, пра Маню“, думаў Ваця.

А той ўсё гаварыў і глядзеў на процілеглую сьцяну чорным бляскам прывабных вачэй.

## V

— У бальніцу хадзіў,—сказаў чарнявы дзядзька, няспрытна пералазячы гразкую грэблю сярод нізкіх зарасьнікаў пакалечанае бярозы, асіны і алешыны.—У бальніцу, браткі, таму й спазьніўся. Неназнарок... Ну, як-жа тут у вас?

— Жонка хворая, ці што?—запытаў Ваця.

— Жонка.

— А што ў яе,—дапытваўся Ваця.

— Ат, там бабская справа.

— Малое нарадзілася?

— Не, здаўных гэта ў яе. Даўно хварэе, і мусіць нічога ўжо ня будзе... Я, прызнацца, й сам крыху вінават.

Пачуліся жартаўлівыя галасы:

— Ну, пэўна, што без цябе тут не абышлося.

— А можа й абышлося, хто ведае?

— А што, тваё гэта дзела ведаць усё?

Чарнявы дзядзька пакруціў галавою, моцна плюнуў у ядлаўчовы куст і растлумачыў:

— Пасьля першага дзіцяці апаранілася яна вельмі ўстаць. Яшчэ ляжаць трэба было, а яна ў печы пачала паліць і чыгуны паднімаць на прыпек.

— Нашто-ж ты дазваляў?!

— От гэта-ж і вінават я, а яна вельмі-ж руплівая. Што ты ёй зробіш?

— Ваш брат заўсёды-ж тут ня пры чым; чысты як анёлак,—заўважыла высокая цётка, апіраючыся на новую рыдлёўку у чорнай балотнай зямлі.

Зноў зажартавалі галасы:

— Так, так, давядзі яму. Што тут з ім доўга бібікі біць. Валі, цётка. Гавары...

— От ты трохі адвакатам, Марыля, пабудзь.

— Яйб-богу, маладзец.

— А што-ж, папусьціся адно вашаму брату, заўсёды вінаватаю застанешся. Што, ня праўда?

— Праўда!

— Твая заўсёды праўда!

— Хэ, хэ!...

Ваця стаяў у вялікім натоўпе на краю нізкарослага лесу, густа зарослага зарасьнікамі ядлаўцу і крушыны. Было хмурна і цёпла. Было мокра ад туманнага дажджу ўночы. На небе яшчэ плылі абрыўкі чорных хмар—астатку дажджу і веснавое бязьветранасьці. Пахла лесам, зямлёю, гнілою фашынаю на грэблі, мокрае зяленіва прыгожага ядлаўцу весяліла вочы.

Ваця слухаў гаворкі, курыў разам з усімі чужую махорку і глядзеў, як на сіняватых даляглядах усё ясьней вырысоўваюцца радасныя абрысы зямлі, новыя, затуманеныя, істужкі лясоў, тонкія постаці асобных дрэваў.

Адпачынак гэты цягнуўся некалькі хвілін. Чарнявы дзядзька падышоў да Ваці:

— А от скажам, калі лес мясцовага значэньня адмяраецца як мае быць, колькі я тады маю права з яго вазоў дроў за зіму ўжываць?

Ваця тлумачыў яму, і думкі яго было лёгкімі, абветранымі мала калі вядомаю радасьцю мокрага дню і веснавое хмурнасьці.

„Адчуваю пясок, і дым, і салому. Куру і чую дым іначай, чым чуць павінен толькі курыльшчык“.

Яны стаялі ў ім, гэтыя ўчарашнія словы таварыша яго. Стаялі ня зусім абдуманыя, але моцна адчутыя.

Той-жа таварыш камандаваў двома хлапчукамі, якія палезьлі на мокрую хвою, да нечага дадумаўшыся ў сваёй вечнай дзіцячай клапатлівасьці. Ён стаяў, тонкі, высокі, у мокрых салдацкіх чаравіках. Ваця глядзеў на яго і любіў яго.

— Можа, й нядобра, што я спазьніўся, — прыставаў чарнявы дзядзька.

— А чаго-ж ты пазьніўся?

— Нікога я хаця не падвёў тут?

— Усіх падвёў.

— Чаго ты апраўдваешся? Каб маўчаў, дык ўсё гладка было-б, а то ўсім у вушы ўводзіш. Тут табе маўчаць трэба. От чалавек!

— Цябе абдзялілі тут.

— Ну, ты жартуеш?

Такога настрою даўно ня было ў Ваці. Як-бы назаўсёды ўлягліся ўсе трывогі, як-бы знайшлося што важнае, чаго доўга шукаў ён і нарэшце знайшоў. І перад усім радавала адно: у першы-ж вольны дзень напісаць пра ўсё Казімеру і распытаць пра Маню.

Ён падыйшоў да таварыша свайго:

— Слаўана!

— Што? На дварэ?

— Усюды. Памятаеш, учарашнюю нашу гаворку, — усяму мне слаўна цяпер. Памятаеш, як ты гаварыў пра дым і салому.

— Дым і салому?

— Тады, як пакінуў кнігу чытаць.

— Дык слаўна?

— Слаўна.

— Часта ў цябе бывае?

— Часта, узрывамі. Толькі словамі ня мог вызначыць я дагэтуль гэгага. Ты мне памог.

— Немагчымы ты чалавек, Ваця.

— Чаму?

— У цябе на аднэй хвіліне сотню перамен. Гэта ведаеш што, гэта хваравітасьць.

— А ты?!

— Тут пра мяне памаўчым. Гаворка йдзе пра цябе. Ты што-ж, ведаеш выразна, чаго ты так?

— Выразна ня ведаю.

— Чаго-ж ты шукаеш на сьвеце? Таксама ня ведаеш? От так, выразна каб ты сказаў. Ну?

Ваця думаў.

— От так падумай і скажы.

— Нашто табе гэта ведаць?

— Не, ты скажы. Можаш ўсё гаварыць. Усё, што толькі ёсьць. Што, няўдача якая, ці што? Ці чым ты пакрыўджаны з самых малых дзён сваіх? Гэта бывае, але-ж што такое крыўда, як, нарэшце, ня ўмоўнасьць.

— Крыўда? Умоўнасьць?! Падумай, што ты гаворыш. Сам ня думаеш, што прапаведуеш.

— Ну, добра, ня ўхіляйся ў бок... У чым тут справа ў цябе? Ты-ж здаецца, зьверху паглядзеўшы на цябе, здаровы.

Пасьля ён памаўчаў, углядаючыся ў туманныя поплавы за дарогаю і раптам як-бы прыпомніў. Твар яго быў такі-ж самы спакойны, тонкі і сталы:

— А можа тут жанчына ўмешана ўва ўсё гэта? Няма тут гэтага граха? Ты скажы.

— Што значыць, жанчына ўмешана? І ці ня можа гэта быць толькі голаю, безадказнаю прычынаю, на якую ўсе шышкі валяцца. Нашто так гаварыць?

— От ты амаль што й прызнаўся.

У чым я табе прызнаўся?

— У самым галоўным. Гэта ня то, што твая расплыўчатая, туманная філёзофія пра голую прычыну. Заўсёды прычына застаецца голаю, якія-б яна зьявы за сабою не цягнула. У гэтым дык я пераконан.

— Ну хоць-бы сабе й так.

— Значыць ёсьць?

— Ну, ёсьць. Але ўсёроўна тут усё стаіць шырэй.

— Ты думаеш?

— Думаю.

— А я думаю—зьнішчы ты гэтую прычыну, або атрымай паводле сваіх імкненьняў, і сам тады іначай будзеш думаць. Загартуйся, як мае быць, і папробуй.

— Туманна ўсё гэта.

— А от настрой-жа ў цябе сёньня добры?

— Добры.

— А доўга ён будзе такім?

— Ня ведаю.

— Дык от-жа. А ты павінен ведаць. Настроямі жыць нельга, калі яны толькі адны і ёсьць. Гэта называецца—ануча, туман...

— Ты й сапраўды гатоў мне сапсаваць настрой.

— Гэта толькі давядзе тое, што ты сапраўды туман.

— Чаму-ж ты не сказаў—ануча?

— Ну, ануча.

— От табе й раз, Адзін там, у городзе, вінаваціў мяне ў тым, што я чуць ня вораг рэволюцыі, а гэты толькі ў тым, што я ануча. Як-жа разумець вас усіх?!

— Нічога, пастарайся толькі каля тае голае прычыны. Пасьля-ж, наагул, патрымай сябе нейкі час ў жалезных абцугох. Дзе ты радзіўся і рос, ці не на паветры?

— Можа й на ім.

— Гэта відаць. Апусьціся на зямлю. Твой бацька хто?

— Мужык... Самы заядлы.

— А ты ў мужыка ня ўдаўся. А трэба было ўдацца. цьвярдзей і сьмялей. Лепш.

— Мужык-жа просты курыльшчык, і дым ён адчувае, як толькі ён махорачны дым.

— Што ты гэтым хочаш сказаць мне?

— Нічога, бо ўсёроўна выдумаеш новую праўду, колькі ні гавары табе.

Той весела засьмяяўся. Ваця адыйшоўся да натоўпу.

Радасна чуў Вяця гул галасоў, жарты і скаргі. Чарнявы дзьдзька яшчэ пагаварыў з ім. Паскарадзіўся:

— Выпадкам чаго, ня дай бог якое гора можа спасьцігнуць. Каб нікому добраму.

— Якое гора?

— Я-ж расказваў Вам, як кагадзе прыйшоў.

— Гэта што з бальніцы?

— Адтуль.

— А сям'я вялікая?

— Дзяцей малых шмат. А дзеці—адно пад адным... Як боб, малыя ўсе. Што ты парадзіш! Бяда.

І чарнявы памаргаў вачыма і адышоўся ўбок.

Пачалі работу. Ваця паказаў чарняваму, куды забіваць межавы калок. Людзі паразыходзіліся—хто на патрэбныя вучасткі і нявызначаныя яшчэ лясныя межы, хто пайшоў дадому ў вёску... Ваця быў захоплены працаю. Твар яго быў зьлёгку ўзбуджаны, сьветлы.

І адчуваў ён, што як-бы нешта новае і вялікае стаіць перад ім, што прыходзіць мала калі і поўніць чалавека нязьведанаю паўнатою шырокіх даляглядаў і радаснаю дарогаю перад імі і чалавекам. Сьвет шырыцца, і нязьлічанымі чалавечымі багацьцямі поўніцца ўсё і поўніцца.

Ваця паказваў і камандаваў. Чарнявы дзядзька весела клапаціўся каля яго з тычкаю ў руках.

-- Жывом сабе,—сказаў чарнявы дзядзька, калі ўганяў у зямлю межавы калок.

Ваця паглядзеў на яго.

Пахла ядлоўцам, лесам, зямлёю.

(*Працяг будзе*).

**Максім Лужанін**

# Гоманы сьнежнай белі

Пушча, зялёны сасоньнік
сьняць залацістыя сны,
сьпіць сівізна ў іх на скронях—
згасьлі пялёсткі вясны.

Сыплюцца ў даль амаранты,
ў зорах бяроз валасы,
раніца стыгне ў туманах—
кроплямі белай расы.

Кветкамі тчэ заранiца
сіняга неба рушнік.
Сьпелая радасьць бруіцца
ў занізях сьпелых брусьніц.

* * *

Мусі, яшчэ ня зіма—
лебедзі селі на луг.
Толькі пялёсткавы мак
перагарэў і патух.

Крадзецца сівая муць,
шкло на вадзе зазьвінела.
Песьні маёй не заснуць
ў роспачы золкай і белай!

Словы даўно расьцьвілі,
зоры тугі дагарэлі,
слухаюць сёньня палі
гоманы сьнежнай белі...

Слухаюць, думаюць, помняць,
сьняць залацістыя сны.
Клічуць на радасьць загонаў
подыхі кволай вясны.

* * *

Гоманы сьнежнай белі
чуюцца сэрцу майму...
Крылы вятроў у завеях
некаму шчасьце нясуць.

Кружацца лёгкія мжынкі,
звоняць у сінюю мглу,
сьцелюць тугу на сьцяжынках,
што адплываюць у глуш.

...Сьцелюцца...

...Звоняць...

...Кружацца...

...Падаюць...

* * *

Вейныя ўсхліпы,
цьвятлівае поле...
Белымі вабамі
падае сьнег.

Мёрзлыя ліпы
выпростваюць гольле,
сьнежнымі лапамі
клічуць мяне.

Дрэвы асьнежаны
белымі ніткамі,
зорнымі сьцежкамі
просіні вытканы.

Просіні вытканы
белымі ніткамі,
дрэвы асьнежаны
зорнымі сьцежкамі...

* * *

Плакала восень
у садзе галосячы...

Лісьце пад стрэхамі —
жоўтымі плямамі...

Восень і рэха,
і стогны і ляманты...

Ночы васеньнія
смутак расьсеялі,

тонкімі сітамі,
ціхімі сьвістамі,

ціхімі сьвістамі
вэлюмы восені

ткаліся лісьцямі,
ў садзе галосячы.

* * *

Восень далёкая
ў буславым клёкаце...

Ці за гарамі ты,
ці за даламі ты?

Восень зьвінела
у шыбы вакон...
Сьнежна і бела
і пуста вакол...

Слухаю, слухаю
срэбную скруху...

Гоманы белыя
казкі навеялі...

Веі прыбеглі
пад вочы вакон...
Сьнежна і бела
і пуста вакол...

Сьцелецца, сьцелецца
ў полі мяцеліца —

косамі сьветлымі
па-над палеткамі...

Ветры пабеглі
ад цёмных вакон...
Сьнежна і бела
і пуста вакол.

* * *

Кінуў вечар сьпевы над далінай белай,
над далінай белай кінуў вечар сьпевы...
І апала радасьць на сьняжысты вэлюм,
і застыла ў далях перацьветам сьпелым.

Ціха ў гэты вечар; па-над вёскай соннай,
ходзіць з белай палкай дзед стары мароз,
а на лёгкіх санках заліліся бомы,
і завісьлі гукі ў шэрані бяроз.

Зазьвінелі ветры белымі крыламі,
паляцелі сьцежкай паміж ніў-палёў,
расказаць разлогам, што ім нашапталі
трысьнягі на рэчцы, звонам іхных слоў.

Расказаць прасторам, што дамоўку еду,
быў які калісьці і які цяпер,
што ў баі жыцьцёвым гэтак многа зьведаў,
каб ня ўкрыла сьцежкі абрусамі бель.

А насустрач вербы, трохі палахліва,
пасылаюць гольле паглядзець мне ў твар
і шапочуць скаргу: восень утапіла
залатое лісьце па дарозе ў твань.

Па шляхох бярозы белай галавою
хіляцца ў пояс, ў сівую імглу,
а мне хмеліць душу сьнежнае прывольле,
абымае сэрца ціхім звонам глуш.

Дыямэнты сыплюцца на каўнер, на шапку,
і, здаецца, еду на другім кані.
І зьвісае шэрань на кляновых лапках,
і мігцяцца ў полі сінія агні.

Падарунак чысты—сьлёзы-дыямэнты
Затаю у сэрцы да вясеньніх рос,
і тады рассыплю новым сакрамэнтам
па зялёных травах каля тых бяроз.

Паляцелі ветры да пахілай хаты,
паляцелі ветры ў дзьверы зазьвінець...
Там мяне сустрэнуць любыя дзяўчаты,
там яны пацешаць песьняй, як даўней.

І на тых вячорках, у пылу кудзелі,
паплыве гаворка, як вясной вада...
Словы мітусяцца, словы заірдзелі,
бо душу за словы я даўно аддаў!

Пэўна, запытаюць: як жывеш радзімы?
Простыя дарогі, ці сьцяжыны ў бок?
А ці спатыкаеш на шляхох ты дзіды,
можа кплівы рогат, можа дзікі боль?

Пэўна, будзе слова, ціхае дакорам,—
што забыў я вёску, жыта і аўсы,
а чужыя песьні, ў ласкавых прасторах,
па радзімых сьцежках узьвіліся ў сінь.

Укруга пасядуць на дубовых лавах
праганяць вясёлкай смутак і жуду:
будзе гэтак вольна, будзе гэтак слаўна,
будзе так спакойна ад трывожных дум!

Заснуецца ціха песьня тонкай ніткай,
быццам бы кудзеля з прасьніц у дзяўчат,
покуль туманамі золак далі вытча
і разьвее вецер мутнай ночы чад.

* * *

У марознай сіні, ў проседзі туманаў,
недзе медзь зьвінела, быццам з дрэў цякла.
Ружавела сонца пацалункам раньня,
і блішчалі далі адлюстроўкай шкла.

Толькі ў высі ціха дагаралі зоры,
прападалі зоры ў крохкую крышталь,
і у сінім моры, у бязьмежным моры,
вецер-валацуга штосьці ім шаптаў...

Кінуў ранак сьпевы над далінай белай,
над далінай белай кінуў ранак сьпевы,
і апала радасьць на сьняжысты вэлюм,
і застыла ў далях перацьветам сьпелым.

Случчына.
Студзень 1928 г.

**Крапіва**

# Хвост

Яшчэ Джэром К. Джэром, калі жыў-быў, заўважыў, што зусім ня шкодзіла-б, каб у чалавека быў хвост. Але ёсьць людзі, якія яшчэ да гэтага часу не разумеюць гэтай выгады. Мне расказвалі пра аднаго чалавека, які меў гэта шчасьце ў руках (ці то-бок ня ў руках, а на азадку). Але-ж ён быў просты, някультурны селянін і таму ня мог выкарыстаць гэтага свайго шчасьця, а, наадварот, лічыў яго няшчасьцем.

Расказваў мне пра гэтага чалавека адзін вясковы настаўнік. Раз гэты настаўнік выцяў вельмі моцна нагу, самую галёнку. Спачатку, здэцца, нічога страшнага й ня было, але што далей, то болей, болька пачала гнаіцца, нага апухла і прышлося легчы ў бальніцу. Доктар сказаў, што трэба опэрацыю рабіць. Пераадзелі яго, палажылі ў палату. А там ужо ляжыць адзін хворы, чакае опэрацыі. На пагляд дык ён настаўніку і ня хворым здаецца: ляжыць сабе спакойна, ня стогне і ня крывіцца; твар загарэлы, чырвоны, здаровы, бародка русенькая. І не стары—гадоў пад трыццаць чалавеку. Сталі гаварыць сёе-тое. Настаўнік расказаў сваю прыгоду з нагою дый пытаецца:

— А ў вас, выбачайце, якая хвароба? Што вам будуць рэзаць?

Спусьціў той чалавек вочы ды й кажа:

— А дайце-ж вы рады. У мяне дык такое, чаго й на сьвеце нідзе ня чуваць. Аж нават і гаварыць сорам... Хвост у мяне вырас...

— Жартуеце, мусіць?—не паверыў настаўнік.

— Не жартую,—кажа,—чалавеча.—І рад бы жартаваць,ды не наўме. Заўтра адразаць будуць. Можа і вы пабачыце... А ўрэшце, што-ж там ўжо хаваць,—сказаў ён, памаўчаўшы. Ужо-ж усёроўна ведаеце, вось паглядзеце, калі хочаце.

Ён раскрыўся і закасаў калошу споднікаў на правай назе. І настаўнік сапраўды ўбачыў хвост, прывязаны аборкаю да нагі вышэй калена. Ён увесь абросшы быў рыжаватымі валасамі, а на канцы дык і кутасік быў з цямнейшага воласу. Даўжынёю хвост быў якраз да калена.

Настаўнік, які аж да апошняга часу думаў, што той жартуе, так зьдзівіўся, убачыўшы хвост, і так зьбянтэжыўся, што ня мог зразу нічога сказаць, і толькі мацнуўшы, пераканаўся, ці няма і ў яго такой штукі. А хвастаты расказваў тым часам:

— З маленства гэта ў мяне. І нарадзіўся з хвосьцікам. Бабка, што пры роду была, першая ўбачыла. Папужаліся ўсе. Маці дык тры дні плакала. Задушыла-б, казала, каб ня людзі ўведалі. Але бабка была лёгкая на язык і ўсім расказала. А хвосьцік невялікі быў спачатку—вось як у маленькага парасяці. Гаравала маці са мною, хавала ад людзей, каб ніхто ня бачыў, сьмерці мне жадала. А я патом рос. Хвосьцік таксама рос. Бывала, як разгуляюся ды стану бегаць па хаце, весела мне зробіцца, дык і хвосьцік угару падымаецца, аж кашульку падымае. А як падрос трохі ды ўвазнаў, дык сам асьцярагаўся, каб хто хваста ня ўбачыў. Найбольш усё ў сваёй хаце гуляў, ды на

сваім панадворку – нікуды не хадзіў. Але ці ўсьцеражэшся-ж у вёсцы? Гадоў мне дзесяць стала. Пара ўжо й за работу брацца. Пагнаў я каровы пасьвіць. А пастушкі-ж вясковыя—самі ведаеце, якія распусьнікі. Вядома, без нагляду старэйшых цэла лета—што хочуць, тое й робяць. Вось і прысталі яны да мяне з першага дня: „пакажы хвост". Я бажуся, клянуся, што ў мяне ніякага хваста няма, а яны такі сваё: „Ня хочаш паказаць, дык хоць скажы, які ён у цябе. Ці гэтакі, як у Зьмітравага Мурзы—закручасты, на люльку падобны, ці як у казы, ці гэтакі, як у Тодаравага каня—сівы з доўгаю валасьнею?"... Жыць яны мне не давалі. А аднаго разу дурэць завінуліся. Знарок, мусіць, згаварыліся. Зловяць гуртам аднаго, паваляць ды, расшпыліўшы партачкі, напхаюць яму моху ды шышак хваёвых (у лесе каровы пасьвілі). Пасьля другому гэтак сама. Бачу я, што й да мяне зараз чарга дойдзе Устаў я гэта,—думаў ісьці нібы-та каровы завярнуць. Дык дзе-ж, ого! Злавілі, павалілі ніцма, двое на плечы ўсьселі, а тыя хваста шукаюць. Агалілі азадак дый зьдзекуюцца: палкамі поруць, за кутасік скубуць. Як вырваўся я ад іх, дык і кароў сваіх адрокся, плачучы дадому пабег. Вечарам бацька хадзіў сварыцца з бацькамі тых хлопцаў, якія мяне пакрыўдзілі, але ці гэта-ж мне памагло? Яшчэ горш па ўсёй вёсцы гаварыць сталі. Сорамна мне й на вуліцу выйсьці, не хачу й каровы гнаць пасьвіць. Бацькі прашу, рукі цалую: „Адсячы, ты, кажу, мне хвост. Я сам і на калодку палажу, а табе толькі сякераю раз цяпнуць. Паглядзіш, што я і не заплачу нават, а яшчэ падскочу ад радасьці. Дык не паслухаў мяне бацька. „Баюся, кажа: яшчэ калекаю зраблю, або саўсім памрэш, тагды й цябе шкода будзе і самога мяне па судох будуць цягаць". А каб да доктара павезьці ды рапарацыю зрабіць, да гэтага бацька не дадумаўся. Дый ня чуваць было ў нас тагды, каб каму рапарацыю рабілі. Вёска глухая (з Лепельшчыны я); доктар толькі за дваццаць вёрст, у мястэчку. І езьдзілі да яго толькі, калі хто моцна хворы. А ён нікому рапарацыі і не рабіў, толькі прымочкі, ды парашкоў даваў. Так і давялося мне і надалей з хвастом хадзіць ды каровы пасьвіць. Зажыў гора—няма чаго казаць. Палягчэла троха толькі тагды, як падрасла меншая сястра ды пагнала пасьвіць, а я крыху пасталеў. Цяпер хоць у вочы мне нічога не гаварылі, толькі вечарамі дзеці не давалі супакою. Падбягуць чарадою пад вакно: „Косьцік, пакажы хвосьцік", дый урассыпную. А мяне, як на тое ліха, яшчэ й завуць Кастусём Але я ўжо цярпеў зубы сьцяўшы, бо стань ганяцца за імі, дык яшчэ горш... Пачалася вайна. Памёр мой бацька. Стаў я сам сабе гаспадар. „Ну, думаю, цяпер я расквітаюся з сваім няшчасьцем. Паўгаспадаркі рашу, паеду ў Віцебск, у Менск. Там цяпер дактары ўсякія рапарацыі робяць раненым. Папрашу, каб яны мой хвост адрэзалі". Як сказаў аб гэтым матцы, дык яна—у плач, у сьлёзы: „Ня пушчу. Зарэжуць цябе там, што я буду рабіць з дзецьмі? А калі й выжывеш,—кажа,—дык скора прызывацца, у салдаты возьмуць. Заб'юць на вайне. А так мо' збракуюць па калецтву. Пачакай троха". Хацеў я спачатку не паслухаць маткі. А пасьля шкода стала. А як падумаў, дык яна трохі й праўду казала. Вось і адлажыў я гэту справу. „Папакутую, думаю, яшчэ год-другі, можа яно й паспакайнее". Але паспакайнела ня скора. Вось так яно й былося аж да гэтага часу, пакуль маці не памерла. А цяпер жа трэба гаспадыня ў хату: сястра, што пада мною, замуж пашла. Нехаця жаніцца трэба. Шмат ёсьць добрых дзяўчат і ў нашай вёсцы і ў суседніх, але-ж не мае,—ведаюць усе пра маю ганьбу. Яшчэ калі дзе за працай, або па якой справе загаворыш з катораю,

дык нічога—гавораць, як з чалавекам, а як толькі на вечарыне дзе папробуеш зачапіць, дык ні прыступу, як чорта, пужаюцца. Бачу я, што нічога ня будзе—блізкая ня пойдзе. Узяў я швагра за свата і сталі мы езьдзіць па далёкіх вёсках, вёрст за дваццаць, за трыццаць. Увойдзем гэта ў хату, прывітаемся, пачнем аб справе загаворваць. „Адкуль-жа вы?“—пытаюцца.—„Ды з такой вось вёскі“,—адкажа сват.—„Можа-ж чулі?“—„Ды чаму ня чулі,—адказваюць.—Гэта-ж тая самая вёска, дзе людзі з хвастамі вядуцца. Хоць бы вы нам на паказ аднаго прывезьлі“. Сват пачне тут гаварыць, што гэта ўсё людзі выдумалі, а я як на вугольлях, сяджу. І дзяўчына мне не наўме. Так вось чуць ня ў кожнай вёсцы было. Здаралася, што й высватаеш дзе часамі, дык не пасьпееш дадому прыехаць, як ужо наказ ідзе: „Не прыяжджай, не пайду“. Нехта, мусіць, перасьцерагаў. Езьдзіў я, езьдзіў, дый годзе сказаў. Усёроўна нічога ня выходзіць. Вось я й прыехаў сюды ў Менск рады шукаць. Сорам было—выказаць вам не магу. Але адважыўся нарэшце, паказваю дактаром. Падзівіліся, праўда, яны. Сказалі, што гэта вельмі рэдка бывае—мо‘ раз ці два ў паўсотні гадоў на ўсёй зямлі. Але казалі, што страшнага тут нічога няма: калі адрэзаць, дык праз тыдзень—два й зажыве. Заўтра рана рэзаць будуць. Праўда, што маёй справе гэта ня надта паможа. Не пакажаш-жа кожнай, шануючы вас, што ў мяне ўжо хваста няма. Але я папрашу, каб мне паперку далі такую, што я ўжо чалавек, як мае быць. Толькі мне ня так гэта важна, як тое, што я нарэшце сорам свой скіну з сябе. Не дачакаюся, каб скарэй заўтрашні дзень“...

---

Так і адчыкалі хвосьцік таму небараку. Няхай сабе ўжо без хваста скача, калі ня здолеў чалавек выкарыстаць такой выгады. А мы з вамі, дарагі чытач, давайце трошкі пафантазіруем. Страх, як люблю фантазіраваць.

Іншы раз як зафантазіруюся, дык забудуся, што й раблю. Помню гэта раз, як яшчэ на вёсцы жыў. Пашоў я ў гумно па трасянку каровам. Наклаў вязку, узяў на плечы ды йду сабе памаленьку. Іду, а сам думаю, ды такое нешта цікавае ды прывабнае. Так задумаўся я тагды моцна, што адчыняю, дык мая вязка ня лезе за мною. Гляджу—дык я ня ў хлеў, а ў хату трасянку прыпёр. Бацька ўбачыў, лаецца, а мне сорам. А то вось і цяпер. Пашле часамі жонка па ваду. Я вазьму вядро дый пайду. Як пайду, дык і зайду, бывае, у суседнюю кватэру. Там глядзяць мне ў вочы, а я ім, пакуль расшалопаем, што тут такое. А тагды я—ходу, а яны—у рогат... Пра што, бок, мы цяпер хацелі? Ага - пра хвост.

Вось вучоныя хоць і гавораць, што хвост у чалавека - гэта атавізм, перажытак даўно мінулага, зусім у наш час непатрэбная рэч, але гэта таму, што яны прывыклі ідэалізаваць чалавека. Ды яшчэ таму, што вучоны—чалавек мала практычны: закапаецца ў сваю там біолёгію, антраполёгію, ці іншую якую „лёгію“ і ня бачыць, што наўкол яго робіцца. А калі бліжэй прыглядзецца да цяперашняга чалавека, дык хвост яму вельмі патрэбен. Які хвост—вось гэта ўжо другое пытаньне, і аднаго адказу на яго быць ня можа. Выбірайце сабе па спэцыяльнасьці, бярэце, які вам больш да твару.

Ну, уявеце сабе на хвілінку, дарагі чытач, што вы, шануючы вас, падхалім. Тут ужо што вы ні кажэце, а без хваста вам вельмі цяжка абыходзіцца. Бо што вы цяпер робіце? Выгінаецеся, выдыгаеце,

хіхікаеце, паціраеце ручаняты ды ляпечаце ўсякія прыемнасьці. А прыемнасьць—гэта штука тонкая, дыплёматычная, шмат такту і нават розуму патрабуе. Можа здарыцца, напрыклад, такая рэч.

Вы „ім“:

— Ах, як вам да твару ваш новы гарнітур! Вы ў ім—ну, сапраўдны-ж прынц Іоркшырскі.

А „яны“ Вам:

— Самі вы, грамадзянін, падсьвінак няскрэбены. І прашу на вочы мне больш не пападацца.

Вы й пашлі, як мыла зьеўшы. І цяпер толькі схамянуліся, што й самі добра ня ведаеце, ці ёсьць Іоркшырскія прынцы, але затое добра ведаеце, што ёсьць Іоркшырскія парсюкі. Вось вы тут і дагадваецеся... Такім чынам марна прапала і ваша выдыганьне, і ваша хіхіканьне, а з „прыемнасьці“ зрабіліся вялізнае наадварот. А калі-б у вас быў хвост, дык тагды справа зусім іншая. Ніякіх хіхаканьняў тагды зусім ня трэ‘ было-б, прыемнасьцяй гаварыць—таксама. Адзінай і дасканалай прыладай вытворчасьці ў вас быў-бы хвост. Падышлі вы гэта да „іх“ ды толькі сабе: віль-віль-віль, а „яны“ глянулі на хвост і бачаць, што гэта ён ад паўнаты пачуцьцяў ды ад вялікай адданасьці так, і што ніякае мыла вам ужо непатрэбна. Які вам хвост патрэбен быў бы, вы, напэўна, самі дагадаецеся; я з далікатнасьці тут памаўчу.

Але, калі вы, дарагі чытач, зусім не падхалім, калі вы чалавек солідны, забясьпечаны, здаволены заўсёды сам сабою і жыцьцём (бо вас ня мучаць ніякія „праклятыя“ пытаньні—усе яны ўжо даўно вырашаны аўторытэтамі), калі ў вас падбародак на тры паверхі, а заміж шчок—здобныя булкі, калі процілеглыя полюсы вашай асобы вельмі падобны адзін да другога, то тагды—выбачайце—сабачы хвост будзе вам зусім не да твару. Тагды вам патрэбен хвост іншай конструкцыі. Вам тагды да твару будзе хвосьцік невялічкі, але зграбны і жыцьцярадасны; такі, каб ён адным сваім завіткам выказаваў усю вашу сутнасьць. Па форме ён павінен быць накшталт коскі добрага пісара... Не, гэта параўнаньне слабаватае: у ім мала плястычнасьці. Можа скарэй накшталт корбы ад калаўрота, што прасьці. Але гэта не перадае яго кволасьці і пяшчотнасьці. Скарэй, можа, ён падобен быў бы на вусік маладой фасолі. Колер? Лепш за ўсё, калі ён будзе беленькі.

Зусім іншага сорту патрэбен хвост, калі вы, так сказаць, зорка першай вялічыні сельсавецкага, раённага, ці акруговага маштабу, але калі вы заняты вырашэньнем проблем абавязкова сусьветнага маштабу. Вы, напрыклад, напамяць ведаеце плошчу балота па ўсім СССР, за колькі год яно можа быць асушана, і колькі мільёнаў дзяржава ад гэтага будзе мець прыбытку, але балота пад вашым уласным носам—дык гэта-ж глупства, дробязь; ці варта на яго зварачаць увагу, калі яно і ўсяго якіх-небудзь трыццаць-сорак квадратовых кілёмэтраў? Вы таксама дасканала ведаеце настроі ўсіх слаёў кітайскага грамадзянства, настроі індусаў, афрыканскіх нэграў, полінэзійцаў, можаце да капейкі падлічыць бюджэт кожнай іх сям‘і і можаце рабіць (і робіце) аб усім гэтым трохгадзінныя даклады. Вядома, што пры такім вашым розуме і шыраце кругагляду—што дла вас бюджэт кучкі батракоў суседняга саўхозу, і іх настроі, якое значэньне яны маюць у сусьветным маштабе? Няцікавы для вас і такія дробязі, як нястача апалу ў сялянства, як няправільны падлік об‘ектаў падатковага абкладаньня. І вось калі з такімі дробязямі да вас усё такі лезуць; лезуць, ня гледзячы на тое, што вы зачыніліся ў габінэт, што на дзьвярах напісана „без дакладу

не ўваходзіць“; лезуць у засмальцованых куртках, у кажухох, чаго добрага—ў лапцях, дык тут вам і патрэбен хвост. Хвост,—адпаведны вашаму палажэньню і маштабу, хвост салідны, як у добрага біцюга, каб адным махам вы маглі адагнаць ад сябе, вымесьці з габінэту ўсю гэту назолу, ўсю драбніцу. Зноў-жа асабліва эфэктна выходзіць, калі гэтакі хвост трымаць трубою, што таксама вельмі адпавядае вашаму палажэньню і поглядам. Толькі глянуўшы на такі хвост, грамадзянін ужо да самых вантроб прасякаўся-б павагаю і пашанаю да яго.

Пра зоркі вышэйшага маштабу за акруговы я тут не гавару; і не таму, дарагі чытач, што ім не ўласьцівы сусьветны маштаб, або што ў іх не зьяўляецца жаданьне панасіць хвост трубою, а таму што яны і пісаніны нашай ня чытаюць: для іх—гэта занадта дробны маштаб.

А можа вы, дарагі чытач, зусім нават і ня чытач? Можа вы—чытачка? Можа вашым ідэалам у жыцьці зьяўляецца, напрыклад, грацыя? Тагды з вамі зусім асобная гутарка. Пашукаем хваста, адпаведнага вашаму ідэалу. Перш за ўсё—што зьяўляецца прыкладам грацыёзнасьці? Як нам вядома, з даўных часоў самым грацыёзным стварэньнем лічаць казу. Самі-ж можа чулі ня раз, калі пра дзяўчыну гавораць: „грацыёзная, як козачка“? Цяпер другое пытаньне—дзе гэта грацыя ў казы знаходзіцца? Ногі?—авечыя. Морда?—таксама. Вымя?—нічога асаблівага. Барада? - у кожнага, напрыклад, папа ёсьць, і ніхто яго за гэта ўзорам грацыі ня лічыць. А вось хвост—гэта ўжо нешта асаблівае. У ім вось уся грацыя і знаходзіцца. Значыцца, увесь ваш ідэал як бы у казіным хвасьце зьмяшчаецца. І паверце,—гэты хвосьцік вам бы вельмі да твару быў. І выгадна: напрыклад, які-небудзь там рэveranс, кніксен (вось слова, ведаеце, некае... нібы кот начхаў, аж цяжка выгаварыць), дык ня трэба ўжо ножкамі выраблядь, а толькі хвосьцікам—ківель—і гатова.

А калі ў вас іншыя ідэалы дык і хвасты-ж усякія ёсьць. Напрыклад—павы, індыка, сарокі. Некаторыя і цяпер ужо ходзяць з птушынымі хвастамі страуса, тае-ж павы. Але-ж ведаеце куды яны гэтыя хвасты ўтыкаюць? Гэта зусім нек ужо дзіка: ні у аднае-ж жывёлы на галаве хвост не расьце. А можа вы такая жанчына, што вам зусім хвост не да твару? Дык калі ласка—будзьце сабе без хваста.

Так. Шмат у якой справе хвост мог бы быць вельмі карысным. Апрача вышэй паралічаных выпадкаў, можа вам трэба калі-небудзь, напрыклад, „сьляды замесьці“. Тут хвост якраз да рэчы.. А то можа вы пазычылі ў каго-небудзь што-небудзь, ды вам ня хочацца ад ь, ці дакляравалі што, ды ня думаеце зрабіць; тагды вельмі карысна „хвастом накрыцца“. Нарэшце, на хвасьце можна і экономію сякуютакую загнаць. Калі вам, напрыклад, цэла лета няма чаго рабіць і калі вы любіце вісець у гамаку, дык вы-б маглі й зусім гамака ня куляць, а зачапіцца хвастом за галіну і пакалыхвацца сабе цэлыя дн ў скверы ці гарадзкім садзе. Робяць-жа так малпы з пароды гультаёў

Да гэтага часу мы разглядалі хвост, як чыньнік, значыць, як суб‘ект. Але гэтым яго значэньне яшчэ ня вычэрпваецца. Ня меншае значэньне мае і хвост, як об‘ект; як об‘ект розных учынкаў з боку іншых людзей. За хвастом, напрыклад, можна валачыцца. Зноў-жа можна: „хвост накруціць“, „хвост намыліць“.

У хвост можна яшчэ „грэць“. Гэты спосаб ужываецца найчасьцей у дачыненьні да людзей, якія выяўляюць халодны тэмпэрамэнт у адносінах да службовых абавязкаў. Пры гэтым для роўнамернага награваньня раіцца грэць адначасна ў два канцы: і ў хвост і ў грыву.

Яшчэ ёсьць адзін вельмі добры спосаб дачыненьня да хваста. Гэты спосаб мае вялікае грамадзкае значэньне. Яго вельмі ня любяць бюрократы, валакітчыкі, растратчыкі і іншае зьвярь'ё, але затое ім вельмі часта карыстаецца РСІ і прокуратура. Гэта спосаб—„за хвост ды на сонца“.

Нарэшце, можна на хвост нават солі насыпаць. Гэты спосаб ужываецца ў тых выпадках, калі ўсе іншыя спосабы недаступны. Хвасту, між іншым, гэта ніякай шкоды ня зробіць, але затое таму, хто сыпле, гэты спосаб дае поўнае моральнае задаваленьне.

Яшчэ хвасты карысны былі-б для таго, каб расьцягваць ахвотнікаў „до журнальной драки“ і ўсякіх іншых дыскусыянэраў. Асабліва калі яны ў захапленьні забываюцца нават, за што яны гыркаюцца, і. такім чынам, выходзіць гырканьне дзеля гырканьня (сваеасаблівае мастацтва для мастацтва). Цяпер за што ты яго каторага ўхопіш? А тагды-б за хвост ды сюды,- аддыхні троха, чалавеча.

Але каму найбольшая выгада была-б ад хвастоў, дык гэта некаторым „ідэолёгам“, якія паставілі сабе заданьне наглядаць, каб усе людзі былі вясёлыя і ачышчаць грамаду ад невясёлых. Тут перш за ўсё трэба-ж пазнаць, вясёлы гэты чалавек ці не. Для гэтага ім цяпер трэба наглядаць, зьбіраць, вывучаць і гэтак далей. А каб былі ў грамадзян хвасты, дык нічога гэтага рабіць ня прышлося-б,—хвост быў-бы самым найлепшым баромэтрам. Калі ў грамадзяніна хвост угару служыць,—скажам, хвост кручком, хвост завітком, хвост трубой, хвост дудкай, хвост абаранкам,—дык значыць чалавек вясёлы і няхай здаровенек жыве. А калі ў яго хвост наадварот, дык тагды рабі сабе markdownрознастайныя вывады.

Але ці не пара мне скончыць, дарагія чытачы? Я баюся, каб вы, не пазнаўшы жартаў, мне самому не захацелі хвост прышчаміць. Былі ўжо такія спробы, дабіраліся да майго хваста, толькі пакуль што „оного не оказалось“. Але ці я-ж упэўнен, што калі хто захоча абавязкова знайсьці ў мяне хвост, дык ня знойдзе яго? „В писании бо сказано есть: ищите и обрящете“.

**Пятро Глебка**

# Агні сусьвету

* * *

Жыцьцё—гэта песьня, шырокі размах,
акорды складаюцца ў гамы.
А крыльлі імкненьняў так цяжка узьняць,
калі іх патопчуць нагамі.

Даўно, мо' як толькі паўстаў Чалавек,
даўно, як запомніць ён можа,—
праходзілі людзі па чыстай траве,
таптаалі і мялі прыгожасьць.

У прагным імкненьні стварыць абсолют—
адвечную тайну сусьвету—
галовы складалі на жвір, на зямлю,
а ўсё-ж не засталася сьледу.

Вятры у вяках замяталі сьляды,
таму узрастала напорнасьць.
Адны прападалі і чэзьлі, як дым,
другіх уцяшала пакорнасьць.

І трэція толькі ішлі ды ішлі
да мэты—імкнуцца каб вечна.
І так вось папросту на чорнай зямлі
скавала людзей супярэчнасьць.

Яна тады крыльлі зламала нашчэнт,
іх людзі стапталі нагамі,
як быццам ня зналі, што рухі плянэт
заўсёды нязьменны над намі.

Жыцьця выпадковасьць ня сьцісьне ніяк—
законам разьмераны формы—
і думка твая, ці яго, ці мая
сусьвет не парэжа па норме.

Жыцьцё—гэта песьня, шырокі размах,
акорды складаюцца ў гамы.
Абломаных крыльляў мо' й нам ня узьняць—
стаптаны нашчэнт пад нагамі?!

* * *

І сонца гарэла, і зоры цьвілі,
і падалі ўніз мэтэоры,
а людзі прыпалі да цьмянай зямлі,
каб выплакаць скруху і гора.

У сэрцах паслаўся няведамы гнеў—
бязьмежнасьць абняць не магчыма.
Як вецер каліны ня зломіць—нагне,
разьвее лісты па лагчынах.

Вось так і ў шалёнай пагоні людзей
сусьвет пашчапаць на кавалкі...
Прыходзіла ноч арадзіць новы дзень,
прыносіла думак навалы.

І чыннасьць людзкая—вар‘яцкія сны—
згарала ў адных лятуценьнях.
І продкаў сваіх праклінали сыны—
народ стаў тварцом без тварэньняў.

Паклалі надоўга прымусу пячаць
на працу, на думку, імкненьне..
Расьпялі Хрыста, каб сябе апраўдаць,
прыдумалі рай для збавеньня.

Нібы у пакутах—людзкі ідэал,
а мэта—ў імкненьнях бязмэтных.
Віталі, хто цела й душу прадаваў,
прарочылі гэным бясьсьмертнасьць.

А вобраз вялікі, як існасьць і сон,
стапталі нагамі, пабілі,
(дагэтуль ‘шчэ сочыцца кроў на пясок)
Сакрата яны атруцілі.

Праз выдумку—вобраз пакорны Хрыста,
праз тысячы сьмерцяй Сакратаў
хацелі вялікасьцю сьвету паўстаць,
каб сонца рукамі ім кратаць.

* * *

Гады праміналі, сталецьці ішлі,
зьнікалі, як сон, пакаленьні.
Ці ў колерах яркіх залочаных ліп
згарала людзкое сумленьне?

Ці ветры разносілі ў скаргах яго,
ці хмары мачылі дажджамі?..
Так тысячы тысяч нялічаных год
жалоба зьвісала над намі.

Панурая цемра ляжала наўкол...
Гадалі і ў ночы, і ў дзень.
Згадае ўсялякі, ня зьіншыць ніхто
ані гістарычных падзей.

Адны вось загэтым паўзьлі па зямлі,
другія з пагардай таптали.
Трывожныя пошчакі ў змроку ляглі
ад звону завостранай сталі.

Ізноў узьнімаліся людзі з магіл
і гінулі ў бойках нялюдзкіх.
Адна за другой рэволюцыі йшлі,
чакалі яшчэ рэволюцый.

Чакалі, што прыдзе, народзіцца дзень,
запаліць агні над сусьветам.
Бы рукі разьняў чалавечыя сьцень,
высока ўзышоўшы над сьветам.

А можа паўстаў ідэал-Чалавек,
загнаны пагоняю лютай?—
Ён такжа напорна ад веку у век
ішоў да свайго абсолюту.

І месяц выходзіў з-пад хмараў і з лёх,
глядзеў на худыя на рукі,
і доўга ён, доўга стаяў над зямлёй,
як вобраз сусьветнае скрухі.

* * *

Вайна, як здань, прасьцерла рукі,
як сьцень, над сьветам бродзіць сьмерць...

Ад таго над рэчкай
зашумелі вербы,
а лясы на ўзгорках
шалясьцяць.
І туманы нешта
ахінулі неба...
(Дапівалі горкасьць
ад жыцьця).

Заламаля рукі,
заламала Маці:
— Сынку, ты загінуў!...
Як?!. І дзе?!.
Засталаса скруха
на уцеху ў працы,
на карысьць краіны
у бядзе.

Страчалі дзень, ня лічачы калецтваў,
а сьмерці сьцень заўсёды рос;
здавалася, няма, ня будзе чалавецтва,
і на зямлі суздром хаос.

І заўсёды на жвір,
распаляючы зірк,
сыпаліся сьлёзы,
      сыпаліся ціха:
— ці мінецца гора,
      ці мінецца ліха?!

Прамiналi гады,
скавыталi вятры...
Галасiла Мацi-Беларусь
спрадвеку
I чакала сына,
сына-Чалавека.

Ападалi лiсты,
усьцiлалi масты:
перайсьцi да шчасьця,
перайсьцi на бераг,
акавiты выпiць
i агню наберацъ.

Зацьвiталi сады,
прападалi сьляды...
сумавала Мацi,
сумавала часта:
— А цi сын забiты,
а цi сын прапашчы?!

Надзеi змрочныя i мары чорныя,
i крыкi дзiкiя, i дзiкi лямант...

* * *

Змаганьне ня моўкне, змаганьне шумiць,
змаганьне вiтаюць поэты.
Змагалiся продкi, змагалiся мы,
ды толькi за iншыя мэты.

Адно вось ня знаю—за вошта яны
змагалiся наскаю сiлай?
(Як сьведкi нядаўна мiнулай вайны,
травой зарастаюць магiлы).

Яны, пэўна, мелiся зьнiшчыць сусьвет
i тым дасягнуць абсолюту;
забылiся, мусiць, што вечнасьцю сьвет
паб'е дарагую валюту.

Забылiся такжа спрадвечны закон
(ён ляжа у нас у аснову):
ня скрышацца формы на цягу вякоў,—
сусьвет ужо гэтак заснован.

Яны меркавалi: стаптаны нашчэнт
ня ўстане да працы напорнай.
Аднак-жа, праз ноч араджаецца дзень,
i гiне самота i горнасьць.

Закованы гэтак народ-Промэтэй
паўстаў i штандары узьвеяў:
— Ня трэба нам тысячы подлых iдэй—
адзiная наша iдэя:

„Мы ўсё збудавалі—разбурым наўсьцяж,
пакінуўшы грунт непарушным,
каб зноў збудаваць, дзе ў эмблему жыцьця
тварцы пакладуць свае душы“.

* * *

Зоры мае, залатыя мае,
асеньняя ясная зорнасьць!..
Ці гэта агні пачалі палымнець
у шатах маўклівасьці чорнай?

У марных патугах сусьвет пашчапаць,
каб вытварыць форму трыкліні—
яны толькі здолелі сьвет разгадаць,
ня здолеўшы сувязь адкінуць.

І гэта ня дзіўна: сусьвет—абсолют,
а людзі ягоная частка;
ня створыць-жа сотая доля зямлю,
а цэлае долю - дык часта...

Гарадь і палаюць сусьвету агні,
каб грунт абярнуць ў перагасу—
з яе нараджаецца ў нашыя дні
у руху няспыненным шчасьце.

**Юрка Лявонны**

# Крыштальнай цьвеценьню заружавелі далі

Крыштальнай цьвеценьню заружавелі далі,
І ціхі поўдзень кволы пах прынёс.
Маю краіну цемрай агарталі,
І груганы прарочылі ёй лёс...

Мая краіна сьветлых дзён ня знала,
Яе удзел—спрадвеку боль і зьдзек.
Таму ў змаганьні—іскарка запалу
На полымя мяняецца ў людзей!

І веру я, што прабягуць сталецьці—
І заквітнеюць ружамі сады,
І злучацца сусьвету гарады.

І чалавек ня будзе сьніць аб леце,
Шукаючы прытулку на плянэце,
Бо ўсюды лета будзе ўжо тады...

Сьнежань, 27 г.
Магілеў.

**Валеры Маракоў**

* * *

Доўга, доўга стаяў над вакном я і марыў.
Беглі хмары кудысьці на поўдзень і ўсход.
Дарагія, як песьня, празрыстыя хмары,
Ап'янілі вы грудзі нязнанай тугой.

Захацелася жыць,
                    І імкнуцца і верыць.
І пражытага раптам мне стала шкада,—
Нехта стукае ўпарта ў дубовыя дзьверы,
Нехта просіць мяне сваю песьню аддаць.

Уваходзьце усе,
                    Ёсьць віно і гарэлка,
Буду ўсіх дарагіх частаваць да відна.
Калі нехта ў жыцьці перавёў адну стрэлку,
То нахлынуўшых мук не жадаю кранаць.

Сёньня сьвята маё,
                    Сёньня я багацейшы
Ў сотні раз гэтых буйных трывожных людзей,
Не шкада мне для іх, ў барацьбе дагарэўшых,
Ні жыцьця, і ні дум,
                    І ні песьні надзей.

Ад мяне не пасьмее ніхто прыгажосьці
Гэтай любай прыроды і песьні забраць...
Я між іншых прайду зачарованым госьцем,
Бяручы, што дае мне мой радасны край...

1927 г.

**Ізраіль Плаўнік**

# Калі заход палошчацца ў азёрах

Калі заход палошчацца ў азёрах
І цені дрэў цалуюць бляскі хваль,—
Цьвіце вада, праменяцца узоры...
Музычны шум разносяць ветры ўдаль.

І шыр нябёс—бліскучы сонца хорам—
Абрысы хмар прыгожаць у крышталь...
Спляценьні лоз імкнуцца у прастору—
Глядзець на сінь, на пурпур, на эмаль!...

А я тады сьпяшу у захапленьні
Вясёлкі дум, пачуцьцяў, лятуценьняў
Плясьці—снаваць у стройны верш-сонэт...

І шэпты траў, і шэлесты дубровы
Раняюць сьпеў: „Шчасьлівы ты, поэт,
Калі адчуў мэлёдый звоны-словы!..“

24/V—27 г.

**Ант. Адамовіч**

# Максім Гарэцкі

(*Спроба монографіі аб творчасьці*)

Сьветлай памяці без пары памёршага дарагога тавары-ша і друга, дапаможніка і супрацоўніка першых пачаткаў гэтае працы і шчырага прыхільніка творчасьці М. Гарэцкага— Арсеня Дэкера.

## I

Літаратурная вядомасьць і прызнанасьць таго ці іншага пісьменьніка—рэч вельмі а вельмі няпэўная і мала залежная ад чыста-літаратурных прычын. Ува ўсякім разе яна ня можа зусім азначаць соцыялёгічнай ці мастацкай каштоўнасьці гэтага пісьменьніка, бо ў гісторыі літаратурнага разьвіцьця розных эпох і народаў зусім нярэдкі выпадкі, калі пэўнага пісьменьніка, які мае ўсе дадзеныя на поўнае прызнаньне, усе правы на азначанае месца ў літаратуры, дзякуючы тым ці іншым прычынам, абыходзяць, закідаюць, забываюць аж да літаратурнага абумерця, а то й сьмерці яго ў дадзеную эпоху, аж да канечнасьці свайго роду археолёгічных раскопак, вынахаду і пераацэнкі гэтага пісьменьніка ў наступным.

Такая пракудная зьява, якая, як можа здавацца з першага погляду, зусім ня можа мець месца ў нашай, маладой яшчэ, літаратуры, нажаль, ня чужая і ёй. За разьлівымі прыкладамі, пацьвярджэньнямі яе часам і ня дужа далёка хадзіць...

Вось перад намі пісьменьнік Максім Гарэцкі.

Ягонае імя ў нас шырака вядома, як імя аўтара ці суаўтара розных практычных слоўнікаў, як імя першага і адзінага пакуль летапісца нашае літаратурнае гісторыі. Але, калі толькі заходзіць гутарка аб ім, як аб нашым выдатным пісьменьніку, кола вядомасьці значна звужаецца. Калі, з аднаго боку, знаёма, а часам і прыемна, гучыць гэтае імя для вуха кожнага дасьледчыка ці ахвотніка (аматара) беларускае літаратуры, кола якіх у нас яшчэ ня дужа шырокае, дый, наагул, ня можа быць дужа шырокім, дык, з другога боку, гэтае гучаньне, праверанае на шырокіх гушчах нашых чытачоў—беларускае працоўнае інтэлігэнцыі (ня кажучы ўжо пра работніцка-сялянскія масы), дае зусім нечаканыя вынікі, якія часам даходзяць ажно да кур'ёзаў: бывае, што творчасьць Максіма Гарэцкага прыпісваюць расійскаму пісьменьніку Максіму Горкаму, карыстаючыся гукавым падабенствам іменьняў гэтых двух, зусім розных, пісьменьнікаў.[1]).

Чаму гэта так? Чым вытлумачыць гэткую неасьвядомленасьць нашага грамадзтва ў дачыненьні да пладавітага прозаіка яшчэ з нашаніўскай пары, аўтара першых вялікіх рэчаў у нашай літаратуры

---

[1]) Часам такія курьёзы праскакваюць нават у друк. Так, нядаўна, у № 7 (2814) газэты „Зьвязда" за нядзелю 8 студзеня 1928 г. грам. Я. Ліманоўскі (арт. „Новатворы і жывая мова"), які чуў, мабыць, звон аб тым, што „у творах Максіма Гарэцкага ёсьць багата слоў народнай мовы", залічае гэтыя словы да слоў... Заходняй Беларусі, тымчасам як асноўная моўная стыхія М. Гарэцкага—Усходняя Беларусь. Яшчэ горш, калі гэты кур'ёз аднесьці на рахунак няведаньня бел. мовы аўтарам артыкулу.

(„Антон“, „Дзьве душы“), таленавітага мастага-псыхолёга, пра раньнія творы якога нават такі скэптык у дачыненьні да беларускай літаратуры, як акадэмік Карскі, у свой час сказаў, што ў іх „ёсьць усе дадзеныя, каб з аўтара з часам разьвіўся добры пісьменьнік з самародным талентам.[1]) Можа, прыпісаць яе да тэй акалічнасьці, што большасьць пісьменьнікавых твораў была выдадзена ў цяжкі для беларускага друку кругабег, у Заходняй Беларусі, у ня дужа вялікім ліку паасобнікаў, часам нават раскідана па розных часопісах і выяўляе з сябе ў наш час бібліографічную рэдкасьць?—Адылі-ж гэта не датычыць ня ўсіх пісьменьнікавых твораў, адылі-ж ня ўсіх іх пасяг гэткі лёс: частка была надрукована зусім нядаўна, і, значыцца, такое тлумачэньне справы, часткова і маючы сваю слушнасьць, ня можа нас цалком задаволіць. А можа гэтага тлумачэньня трэба шукаць проста ў чытачовай абыякавасьці да пісьменьніка?—Але тады, чым-жа выклікана яна, і чым выкліканы той факт, што ўсе лепшыя пісьменьнікавыя творы, надрукованыя перад рэволюцыяй і ў часе яе, як было ўжо сказана, суздром разышліся? Можа тут мае месца зьмена ці розьніца чытачовых густаў? Але гэта аргумэнт нямоцны і няпэўны, што зразумела кожнаму... А калі нават і дапусьціць наяўнасьць чытачовай абыякавасьці, дык, ізноў-жа, у чым яе прычына?

„У чытачовым роўнадушшы трэба вінаваціць перш за ўсё пісьменьніка, а затым—нашую крытыку“—маем гатовы адказ на нашае запытаньне ў вядомага расійскага сучаснага крытыка А. Варонскага.[2]) Калі нават і прыняць гэты адказ, дык усё роўна застаецца няясным, у чым-жа вінаваціць Максіма Гарэцкага ў нашым дадзеным конкрэтным выпадку? Можа, у „незразумеласьці“, якою так любяць цяпер страляць пісьменьнікам у вочы?—Не, Максім Гарэцкі сам вялікі вораг гэтае „незразумеласьці“ (гл. ягоную былую полеміку з „Маладняком“.[3]) Можа, абвінаваціць яго ў няжыцьцёвасьці, у невыстарчальнай мастацкай дасканальнасьці?—Таксама не, бо супраць гэтага сьведчаць водгукі акадэміка Карскага аб тым, што рэалізм у пісьменьніка „даходзіць да дэталічнай анатомікі, да фотографаваньня атомаў“,[4]) З. Жылуновіча пра тое, што гэроі М. Гарэцкага—„выразныя тыпы, жывыя, праўдзівыя“[5]). Адпаведныя цьвярджэньні, якія могуць паўстаць у дачыненьні да мовы ці стылю М. Гарэцкага, яшчэ лягчэй адкідаюцца як водгукамі вышэйпамянёных асоб, так нават і вышэйуспомненым водгукам Я. Ліманоўскага.

Такім чынам, застаецца другая, высунутая А. Варонскім, прычына „чытачовага роўнадушша“—нашая крытыка, і такім чынам, само гэтае „роўнадушша“ набывае незалежны ад пісьменьніка характар. Віна нашае крытыкі перад Максімам Гарэцкім, сапраўды, вялізная. Яна ў тым, што гэтая крытыка, ганячы на ўсе лады ягоную „Гісторыю беларускае літаратуры“, дагэтуль не паклапацілася бадай высунуць з свайго асяродзьдзя годнага намесьніка яму ў чужой для яго ролі гісторыка літаратуры, якую яго змусілі ўзяць на сябе тыя цяжкія абставіны, што да нядаўняга яшчэ часу прымушалі беларускіх дзеячоў сумяшчаць у сабе часта несумяшчальныя нават абавязкі, перагружвацца свайго роду „совместительством“. Мала гэтага, яна ў тым, што пры ўсім адмоўным

---

1) Е. Ф. Карский „Белорусы“, том III, выпуск 3, стр. 373.

2) А. Воронский.—„Литературные записи“, арт. „О том, чего у нас нет“, стр. 58

3) Артыкул „Маладняк“ у газэце „Савецкая Беларусь“, № 5 (1303) за сераду 7-га студзеня 1925 г.

4) Е. Ф. Карский. - Белорусы, том III, выпуск 3, стр. 373.

5) Артыкул у зборніку „Беларусь“—„Беларускае пісьменства“, ст. 313.

дачыненьні нашае крытыкі да вышэйзгаданага падручніка Максіма Гарэцкага, яна ў аснову ўсіх бадай сваіх дасьледзін у галіне нашае літаратуры пакладала ўсё-т'кі яго, асабліва ягонае абыймо, куды сам Максім Гарэцкі, як пісьменьнік, па зусім зразумелых прычынах, не ўваходзіў. Гэтым нашая крытыка, можа сама і ня хочучы таго, дапамагала ўстанаўленьню і замацаваньню за Максімам Гарэцкім славы гісторыка беларускае літаратуры, зацяняючы і выцясьняючы з літаратурнай сьвядомасьці яго пісьменьніцтва. Апошняе стварала як-бы замоўчваньне гэтага пісьменьніцтва Максіма Гарэцкага, бо тыя лічаныя асобы, якія часам згадвалі яго, рабілі гэтае неяк, здавалася, нехаця, мімабегам, „патолькі-паколькі", што ў значнай меры адносіцца і да водгукаў цытаваных вышэй асоб. Часам гэтае рабілася, чамусьці, проста наўзьдзіў недарэчна: пісьменьніка залічалі бяз дай-прычыны да... правага крыла беларускай літаратуры (sic! І такое знайшлі!), або „астаўлялі" яго—„аднаго са старэйшых пры мотывах жуды і суму"—прыймаючы мінулыя пісьменьнікавыя творы за сучасныя. Але нават і такія „водгукі" блізка што гэтым і абмяжоўваюцца. У большасьці—маўчаньне, глухое маўчаньне крытыкі...

Праўда, апошняе праяўляецца ў гэтай нашай крытыцы ў дачыненьні не да аднаго толькі Максіма Гарэцкага і не становіць яе выключнае ўласнасьці. На гэтае хварэе наагул уся сучасная крытыка. „Я таксама—крытык",—пісаў цытаваны ўжо намі А. Варонскі пра сучасную расійскую крытыку,—„і мне цяжка пісаць аб нашай крытыцы і нашай бібліографіі. Але я цьвёрда ведаю—мы пазяхаем".[1]) Так „пазяхае" і нашая беларуская крытыка на полі нашае літаратуры. Аб гэтай ужо як-бы прывычцы яе надзвычайна ўдала выславіўся яшчэ тры гады таму назад Ул. Дзяржынскі—„Скупая на словы беларуская крытыка. Ня любіць яна залішне песьціць нашых поэтаў і пісьменьнікаў. Ня прывыкла адгукацца яна хоць-бы на выдатнейшыя праявы беларускае літаратуры. Навісае яна дамоклавым мячом свайго ўпартага многазначнага маўчаньня над нашымі літаратурнымі корыфэямі і поэтамі ніжэйшай катэгорыі, гняце іх трывогай чаканьня, непакоіць, дражніць, абурае... і маўчыць. І гэтае злавешчае маўчаньне ўпіраецца, як асінавым калом, знакам запытаньня ў творчасьць кожнага з мастакоў беларускага слова. Бы крыжоў на могілках—гэтых знакаў запытаньня на постаці беларускага пісьменства! Так, бы крыжоў на могілках"[2]).

Я сумысьля прывёў такую доўгую выпіску з Ул. Дзяржынскага таму, што хвароба як нельга лепш аказваецца вуснамі таго, хто на яе нядужае. І ня гледзячы на тое, што мы крышку пасвойму, ня так узвышана, як Ул. Дзяржынскі, разумеем „многазначнасьць" маўчаньня нашае крытыкі, нельга не зьвярнуць увагі на злавешчасьць гэтага маўчаньня, бо як ні шмат адмоўных бакоў, якія даволі нізка зводзяць яе палажэньне, мае нашая сучасная крытыка, а ўсё-ж яна можа прычыніцца да тэй канечнасьці літаратурна-археолёгічных раскопак у будучыні, аб якіх мы казалі на пачатку гэтага артыкулу. Як ні просты знак—пытальнік, а перажыўшы фазу клічніка, і ён можа абярнуцца у самы звычайны, самы натуральны пункт. Нам ня йдзе тут аб тую славу, якую няўхільна будзе мець нашая сучасная крытыка ў наступным—яе ўсё роўна ўжо не направіць, дый, наагул, няма патрэбы ў такой направе—нам ідзе аб нашую крытыку наагул. Нам здаецца, што перад

[1]) А. Воронский.—Литературные записи, арт. „О критике и библиографии (ответ на запрос"), стр. 110.

[2]) Ул. Дзяржынскі.—Беларуская літаратурная сучаснасьць (1920—1925 г.) Зарысы і нататкі—„Полымя" 1925 г., № 2, ст. 161.

ёю стаіць у сучасны момант адна з самых неадкладных, надзённых і першарадных задач—даць тыя ці іншыя адказы на шчодра расстаўленыя ўжо гэтай крытыкай „знакі запытаньня“.

З тае прычыны, што, бадай, самы буйны і самы недарэчны „знак запытаньня“ нашая літасьцівая крытыка паставіла на творчасьці Максіма Гарэцкага, я й бяру на сябе сьмеласьць паспрабаваць так ці іначай зьнішчыць яго шляхам монографічнага разгляду творчасьці пісьменьніка, і разам з гэтым, хоць у нязначнай меры, прычыніцца да разьвязаньня пастаўленай кагадзе задачы.

Гэтае і становіць мэту дадзенае монографіі, якую і прадстаўляю на ласкавы чытачоў суд зараз.

II

Звычайна разгляд творчасьці таго ці іншага пісьменьніка прынята пачынаць з таго паступовага апісаньня ягонага жыцьцёвага шляху, якое мае назоў біографіі. Далучаючыся цалком да ак. В. Н. Перэтца ў тым, што „веданьне біографіі пісьменьніка важна і каштоўна... патолькі, паколькі яна высьвятляе процэс ягонае літаратурнае творчасьці і абмалёўвае ягоную пісьменьніцкую фізыёномію“ [1]), мы й думаем абмінуць гэты традыцыйны пачатак, тым больш, што жыцьцяпіс М. Гарэцкага, які зьяўляецца нашым сучасьнікам, яшчэ не напісаны, калі ня лічыць кароценькай аўтобіографіі, пададзенай пісьменьнікам у „Выпісах з беларускае літаратуры“ Ул. Дзяржынскага. Адсылаючы чытача да гэтай аўтобіографіі, мы й думаем распачаць зараз нашыя дасьледзіны з некаторых перадумоў, так сказаць, літаратурнага жыцьцёпісу М. Гарэцкага,—з гісторыі ўваходу яго ў нашае пісьменства.

Максім Гарэцкі, бадай-што адзін з нашых старэйшых пісьменьнікаў-адраджэнцаў, можа ганарыцца сваім „вяскораўскім“ паходжаньнем. У дачыненьні да гэтага ён ужо бліжэй стаіць да пісьменьнікаў маладзейшых і, паміж іх, да другога нашага прозаіка і псыхолёга Кузьмы Чорнага, з якім, дарэчы сказаць, ён мае шмат чаго агульнага, і які таксама выйшаў з вяскораўскіх гушч.

Сваю корэспондэнцкую дзейнасьць Максім Гарэцкі пачаў у 1912 годзе на шпальтах „Нашае нівы“, дзе за подпісам „Максім Беларус“ (або „М. Беларус“, „М. Б.“, „Беларус“) ён пісаў хронікерскія нататкі аб жыцьці ў Горках, у якіх вучыўся, пісаў на тэмы аб вясковай цемры, някультурнасьці, п‘янсьцьве, аб розных „цікавых здарэньнях“ у родных ваколіцах Амсьціслаўшчыны [2]). Пісаў ён і даволі ўдалыя фэльетоны на балючыя ў той час тэмы аб тых вясковых сялянскіх выхадцах, што адыходзілі ад вёскі, і, пераймаючы надворнасьць чужое культуры, станавіліся яе ворагамі і няпрыяцелямі. За гэткім-жа подпісам з 1913 году пачынае зьмяшчаць Максім Гарэцкі і мастацкія прозаічныя творы [3]), а за тым ужо цалком пераходзіць да мастацкае творчасьці, зусім закідаючы сваю корэспондэнцкую работу [4]). За недаўгі, параўнальна, час (за адзін 1913 год) ён пасьпеў нагэталькі вылучыцца з асяродзьдзя нашых тагочасных пісьменьнікаў (праўда, прозаікаў у нас

[1]) В. Н. Перетц—Краткий очерк методологии истории русской литературы Петроград, 1922 г.

[2]) Першы допіс М. Гарэцкага быў, здаецца, зьмешчаны ў № 37 „Нашае Нівы“ за 1912 г. пад загалаўкам „Г. Горкі“ і за подпісам „Беларус“.

[3]) Першае апавяданьне „У лазьні“ было зьмешчана ў № 4 „Нашае Ніва“ за 1913 год.

[4]) Гэтае здарылася пасьля надрукаваньня большага з першых апавяданьняў—„Роднае карэньне“. Сваю корэспондэнцкую работу М. Гарэцкі аднавіў ужо ў пару імпэрыялістычнае вайны ў 1914 годзе, калі пісаў „Лісты з фронту“.

ў той час было дужа-дужа мала), што шмат хто пачаў на яго „пакладаць вялікія надзеі", як гэта адзначыў Максім Багдановіч у сваім крытычным „аглядзе беларускай краснай пісьменнасьці за 1911-13 гады", зьмешчаным у „Каляднай Пісанцы" за 1913 год[1]). Такое „вылучэньне" дайшло да таго, што, надрукаваўшы ўсяго 6 рэчаў, Максім Гарэцкі дабіўся і рэдкага для нашых пісьменьнікаў у тагдышніх умовах шчасьця—выданьня сваіх твораў асобным зборнікам, які і выйшаў у сярэдзіне 1914 году пад назовам „Рунь", і куды ўвайшлі як друкаваныя, гэтак і нядрукованыя яшчэ пісьменьнікавы творы, напісаныя ім за час 1913 г. і пачатку 1914 г.[2]). У борздым часе пасьля выхаду „Руні" ў сьвет, на яе зьявілася і рэцэнзія Власта[3]), якая з захапленьнем адзначала яе тварца і ў асноўным правільна ацэньвала яе вартасьць: „Гарэцкі прамаўляе, як „маючы сілу"—пісаў В. Ластоўскі—„Рунь" М. Гарэцкага—гэта вялікі ўклад у беларускую літаратуру як па глыбіні і багацьці думак, так і красе мовы". Такім чынам, Максім Гарэцкі адразу ўвайшоў у нашую літаратуру, прыветліва і прыхільна спатканы В. Ластоўскім, якому нельга адмовіць наагул у здольнасьці крытычнага прадчуваньня і прадбачаньня (што біскуча пацьвярджаецца і на вядомым і аналёгічным прыкладзе з Максімам Багдановічам).

„Рунь"—гэта сапраўды рунь творчасьці Максіма Гарэцкага, і рунь буйная, каласістая. З яе, можна сьмела сказаць, вырасла ўся далейшая пісьменьнікава творчасьць. Асаблівы свой адбітак налажыла яна на першы кругабег гэтае творчасьці, які хронолёгічна цягнуўся да вайны 1914 году і які даў, апрача „Руні", драматычную аповесьць „Антон", першую вялікую рэч у нашай прозе, ды некаторыя драбнейшыя апавяданьні, як „Тамашы" і „Патаёмнае"[4]). З тае прычыны, што „Рунь", паўтараем яшчэ раз, самым цесным парадкам зьвязана як з усімі гэтымі творамі, так і з далейшымі, аж да самых апошніх (як нават, прыкладам, „Досьвіткі"), мы й павінны зараз прыступіць да падрабязнага разгляду яе. Падрабязнасьць гэтага разгляду вымагаецца яшчэ й тэй акалічнасьцяй, што „Рунь" належыць да такіх твораў М. Гарэцкага, якія, як мы ўжо заўважалі, выяўляюць з сябе цяпер бібліографічную рэдкасьць і асабліва незнаёмы нашаму чытачу.

Уважліва прыглядаючыся да тэматыкі „Руні", адразу-ж можна ўявіць яе сабе ў выглядзе як-бы трохпаверхавай будоўлі. Ня гледзячы на тое, што гэтая трохпаверхавасьць і не супадае з сваеасаблівай архітэктонікай зборніка, яна цалком блізка спраўджваецца тэю паступовасьцю, у якой ён быў напісаны[5]).

---

[1]) М. Багдановіч—„За тры гады"—„Калядная пісанка". Вільня, 1913 г.—ст 11.

[2]) Друкаваліся: „У лазьні", „Атрута" (№№ 8 і 9 „Н. Н" 1913 г.), „Роднае карэньне" ( (№№ 31—34), „У панскім лесе" (№ 37), „Красаваў язьмін" (№ 39) і „Страхацьцё № 46); першыя тры за подпісам „Максім Беларус", апошнія тры за подпісам „М. Г." Поўнае імя аўтара зьявілася ўжо на „Руні", куды ўвайшлі, апрача гэтага, яшчэ і нядрукованыя рэчы: „Лірныя сьпевы", „Што яно?", „У чым яго крыўда?" і загалоўнае апавяданьне „Рунь".

[3]) В. Ластоўскага—„Нашая Ніва", № 39, за 1914 год.

[4]) Гэтыя рэчы, хоць і былі надрукованы значна пазьней за „Рунь" („Антон" у 1919 г., „Патаёмнае" у 1917 г. у часопісі „Варта" і у 1920 у зборніку „Нашая Ніва", „Тамашы" ў 1920 г. у № 1 „Вольнага Сьцягу"), напісаны былі ўсё-ж да вайны 1914 г. („Антон" датаваны 22/II—1914 г., „Патаёмнае" напісана яшчэ у 1912 ці 13 г., улетку і толькі перапрацоўвана 19/X—17 г. і 18/V—20 г., „Тамашы", па сьведчаньні аўтара належаць да гэтае-ж пары).

[5]) Вось парадак напісаньня твораў зб. „Рунь", ласкава паведамлены нам самым пісьменьнікам: „У лазьні" (напісана 31/XII—1912 г.—1/I—1913 г.), „Атрута" (6/II—1913 г.), „Роднае карэньне" (лета 1913 г.), „У панскім лесе" (лета 1913 г.), „Красаваў язьмін" (лета 1913 г.), „Страхацьцё" (канец лета 1913), „Што яно?" (восень 1913), „Лірныя сьпевы" (пачатак 1914 г.), „У чым яго крыўда?" (да вясны 1914 г.), „Рунь" (вясна 1914 г).

Першы такі тэматычны паверх „Руні“ становяць, уласна кажучы, тры рэчы: апавяданьне „У лазьні“, драматычны абразок „Атрута“ і невялічкі малюнак „У панскім лесе“, якія трактуюць пытаньні чыста соцыяльна-бытавыя, як—сяляне і іхныя выхадцы на фоне агульнай някультурнасьці нашае вёскі („У лазьні“), вядомае вясковае п'янства („Атрута“), дачыненьні між сялянамі і „панскімі сабакамі“—прыслужнікамі („У панскім лесе“). Сюды-ж далучаецца вялікае апавяданьне „Роднае карэньне“, якое разьвівае тэму, блізкую да тэмы першага апавяданьня „У лазьні“, і як-бы завяршае сабою ўвесь першы паверх. Па-за гэтым, хоць і ў сувязі з ім, яно закранае і ўжо больш разьвівае проблемы наступнага паверху - проблемы, так сказаць, космогонічна-гносэолёгічныя, вядомыя звычайна пад назовам „праклятых пытаньняў“, якія Максім Гарэцкі формулюе ў выглядзе аднаго агульнага пытаньня: „адкуля ўсё і што яно?“. Да гэтага паверху ўжо належаць: апавяданьне-прымітыў „Страхацьцё“, пабудованае на аснове шырокавядомага народнага анэкдоту, і лірычныя імпрэсіі „Што яно?“, у якіх шуканьне адказаў на „праклятыя“ пытаньні дасягае найвышэйшага свайго напруджаньня. Сюды-ж можна далучыць малюнак „Красаваў язьмін“, які, распрацоўваючы новую тэму—тэму каханьня і толькі некаторымі паасобнымі ноткамі супадаючы з тонам другога (а часткаю й трэцяга) паверху, займае ўсё-ткі асобнае месца ў „Руні“, і апавяданьне „Лірныя сьпевы“, якое, будучы зьвязаным з другім паверхам сваім агульным фонам, у сваю чаргу зьвязуе на гэтым фоне сучаснае з вобразамі нашай гістарычнай мінуўшчыны і высоўвае на першы плян пытаньні нацыянальна-беларускія, характэрныя для эпохі нашага адраджэньня. Гэтыя пытаньні і выяўляюць з сябе астрыжань тэм трэцяга паверху, куды ўваходзяць два апавяданьні; „У чым яго крыўда?“ і „Рунь“. Але разам з тым апавяданьні гэтае катэгорыі падагульняюць ды завойструюць пытаньні першых двох паверхаў, якбы сынтэзуюць усю „Рунь“. Значную, хоць і пабочную ролю адыгрывае ў іх тэма каханьня, якая, як ужо было сказана, бярэ свой пачатак з апавяданьня „Красаваў язьмін“. Апрача таго, дадзеныя апавяданьні зьбліжае падабенства формы ды схожае архітэктонічнае палажэньне канцавых апавяданьняў у зборніку („Рунь“ пачынае, а „У чым яго крыўда?“ канчае яго, ня гледзячы на тое, што абодвы яны былі напісаны аўтарам узапар, прычым, „Рунь“ нават пазьней за „У чым яго крыўда?“ [1]), што ўжо належыць да формальнага боку творчасьці [2]).

Трохпаверхавасьць тэматычнае пабудовы „Руні“ мае пад сабою пэўныя асновы. Надбудова другога паверху над першым слушна і ўдала мотывуецца самым пісьменьнікам у словах аднаго з пэрсонажаў апавяданьня „Роднае карэньне“, як адпаведнае перарастаньне пытаньняў соцыяльных у „праклятыя“. Што-ж да наступнага пераходу—пераходу ад другога паверху да трэцяга, дык ён ужо хоць і не мотывуецца самым аўтарам, як у папярэднім выпадку (хоць мы і адзначылі апавяданьні „Красаваў язьмін“ і „Лірныя сьпевы“, як пераходныя), але затое лёгка можа быць мотываваны звычайнаю зьяваю, якая даўно была адзначана дыялектычным вывучэньнем гісторыі: нацыянальныя пытаньні заўсёды зьяўляюцца пазьней і на грунце пытаньняў соцыяльных. Тое ўскладненьне гэтай марксыцкай формулы, якое М. Гарэцкі робіць праз увядзеньне прамежных „праклятых“ пытаньняў, лёгка можна растлумачыць, як адбітак тэй рэакцыйнай (пасьля 1905 г.) эпохі агульнага

[1]) Апавяданьне „Рунь“ было напісана адмыслова для зборніка.

[2]) Разгляд формальнага боку творчасьці М. Гарэцкага складае заключны момант дадзенае працы; пакуль-што ўсюды маецца на ўвазе разгляд тэматычны.

захапленьня містыцызмам, у якую тварылася „Рунь“. Гэтая „надзённасьць“, так сказаць, праклятых пытаньняў надае творам гэтай катэгорыі асаблівае значэньне.

Добрым рэфрэнам, запевам да ўсяе „Руні“, і ня толькі да „Руні“, а і да ўсяе творчасьці М. Гарэцкага, зьяўляецца першае ягонае апавяданьне „У лазьні“, якім ён удала дэбютаваў у № 4 „Нашае Нівы“ за 1913 г. Тут М. Гарэцкі праз фігуру свайго галоўнага гэроя, „вучня апошняе клясы каморніцкага вучылішча, казённага стыпэндыянта Кліма Шамоўскага“, кідае як-бы празор на „Рунь“ і далейшую сваю творчасьць, вызначаючы яе ў асноўным. Ня гледзячы на тое, што гэтае апавяданьне пасьля ў перарobленым выглядзе было ўключана пісьменьнікам у перарobленае-ж (таксама з „Руні“) апавяданьне „У чым яго крыўда?“ і выпушчана нядаўна асобнаю кніжачкаю[1]) а таксама і на тое, што апошняе будзе разгледжана намі ў свой час, мы павінны хоць абегла суняцца на ім, каб мець выпадак выказаць некалькі заўваг, якія разам з тым будуць зьяўляцца ўступнымі заўвагамі для ўсяе творчасьці М. Гарэцкага, і асабліва для „Руні“ ды вельмі а вельмі спатрэбяцца нам у далейшым.

Кідаючы, як мы сказалі, празор на ўсю „Рунь“, М. Гарэцкі ў апавяданьні „У лазьні“ назначае і ўстаноўленыя намі яе тэматычныя паверхі. Так, у думках галоўнага гэроя Кліма аб сялянскім жыцьці мы бачым галоўную тэму першага паверху, разьвітую найбольш поўна (чаму твор і залічаны намі да гэтага паверху); у расказе дзеда Банадыся пра ваўкалака—зародак тэм другога паверху, у заключных рэфлексіях Кліма, якія сынтэзуюць усё апавяданьне—выразна азначаныя нацыянальныя мотывы трэйцяга паверху, які адыгрывае як-бы сынтэтычную ролю ва ўсёй „Руні“. Тут, як бачым, яшчэ блізка-што не парушаецца тая марксыцкая формула, пра якую мы нядаўна казалі, бо элемэнт другога паверху найслабей выражаны: Клім ня выказвае сваіх дачыненьняў да расказу дзеда Банадыся, проста абыходзячы яго: „Йшчэ далей нешта гаварыў Банадысь, але Клім ня слухаў больш і пайшоў з лазьні“...[2]). Тут яшчэ не адчуваецца таго „павеву часу“, які налажыў такі глыбокі і характэрны адбітак на „Рунь“ і першы кругабег творчасьці М. Гарэцкага. Затое выразна выступае ў гэтым апавяданьні тая асноўная асаблівасьць гэтае творчасьці, якую адзначыў ужо В. Ластоўскі, гэтак вызначаючы месца „Руні“ ў беларускай літаратуры: „Рунь“—гэта ня зборнік апавяданьняў мляўка-стагнальных і не скалазубства з вяскоўца, з яго мазалёў і цемнаты,—гэта першы ў нашай літаратуры поэмат-трагэдыя Маладой Беларусі. Першы голас беларускай, маладой, набалелай душы „на ўвесь сьвет, на Белу Русь“. І сапраўды, Максім Гарэцкі першы з беларускіх пісьменьнікаў парваў з традыцыйным „мленьнем і стагнаньнем“, а таксама з няменш традыцыйным бытавізмам, які часта-густа даходзіў, можа і незалежна ад волі пісьменьнікаў, да скрайнасьцяй—да „скалазубства з вяскоўца, з яго мазалёў і цемнаты“. Заміж усяго гэтага ён высунуў паглыблены псыхолёгізм, пачаў, скажам перафразуючы крыху словы таго-ж В. Ластоўскага, маляваць трагэдыю і боль душы... не павярхоўна, а заглядаць углыб, пад карэньне. Гэты псыхолёгізм адразу-ж кідаецца ў вочы і ў разгляданым творы. Пачаўшы паказваць беларускую вёску ў традыцыйным бытавым разрэзе, „у лазьні“, даючы шэраг сакавітых фігур „сялян у густой пары“ (карыстаючыся ўдалым выразам Кузьмы Чорнага, які зрабіў гэтае-ж з мяшчанамі), пісьменьнік далей разразае яе

[1]) Максім Гарэцкі—„У чым яго крыўда?“ Апавяданьне. БДВ, Менск, 1926 г.
[2]) „Рунь“, ст. 27.

псыхолёгічна ў думках і развагах яе выхадца—свайго галоўнага гэроя Кліма. Гэтае адразу-ж і прыводзіць гэроя да трагэдыі: „ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб „заграбаць грошы“... ён іншы... ён-жа ня чураецца вёскі, любіць яе і шануець, як родны сын... ён хочаць кіравацца ўсімі сіламі, каб бачыць яе цьвярозай, сьветлай, здаволенай жыцьцём ды сумленнай“, а стыкнуўшыся з гэтаю вёскаю непасрэдна сам-на-сам „у лазьні“, пачуўшы ад яе „дурацкае: „запанеў, запышэў, гардзіцца“ [1]), губляе ўвесь свой ідэалізм і ўжо ня можа „уцяміць, пазнаць, зразумець“ яе, ён ужо „ня ў згодзе“ з родным краем [2]). Гэтая трагэдыя і робіць Кліма духова-раздвоеным, надае яму глыбокай рэфлексыйнасьці. І хоць у выніку апошняе і зьяўляецца, як бачым, тое-ж „мленьне і стагнаньне“, сякі-такі налёт пэсымізму ў Кліма, але яно ўжо псыхолёгічна-апраўданае, а, да таго-ж, не становіць галоўнага элемэнту твору.

Нарэшце, у гэтым апавяданьні выступае і яшчэ адна, бадай што самая характэрная асаблівасьць творчасьці М. Гарэцкага, якая рэзка вылучае яго з асяродзьдзя сучасных яму нашых пісьменьнікаў. Яна зьмяшчаецца ў самай фігуры галоўнага гэроя, які зьяўляецца гэроем і носьбітам ідэй „Маладой Беларусі“. Такім і ёсьць Клім, гэты „прымач у пансьцьве“ і „пасынак вёскі“, а апошняе яго палажэньне—палажэньне сялянскага беларускага выхадца, які ўжо так ці йначай адарваўся ад роднага грунту, але ня „прырос у іншым стане людзей, паркалёвых людзей“ [3]), як удала выслаўляецца аўтар у другім апавяданьні „Роднае карэньне,“—і ёсьць, зразумела, галоўнаю прычынаю ўсяе трагэдыі з такімі вынікамі, як духовае раздвоеньне, рэфлексыйнасьць і пэсымізм. Падагульняючы ўсё сказанае пра апавяданьне „У лазьні“ і пашыраючы вывад на ўсю „Рунь“ і творчасьць М. Гарэцкага, можна вызначыць такія характэрныя асаблівасьці гэтае творчасьці: 1) паглыблены псыхолёгізм, 2) трагэдыйнасьць у выніку гэтага псыхолёгізму, з ухіламі у бок духовага раздвоеньня, „двудушша“ і пэсымізму і 3) характэрная фігура сялянскага выхадца-адраджэнца ў ролі, пераважна, галоўнага гэроя і носьбіта папярэдніх адзнак. Цяпер мы й павінны прасачыць, як і ў якой ступені ўсе гэтыя асаблівасьці праяўляюцца ў іншых творах „Руні“. Пачнём з першае асаблівасьці, з паглыбленага псыхолёгізму.

Найлепшай ілюстрацыяй накіраванасьці М. Гарэцкага ў бок паглыбленага псыхолёгізму можа быць невялічкае апавяданьне-малюнак „У панскім лесе“. Уся фабула яго—забойства старога лясьніка маладухаю, якую ён засьпеў у панскім лесе і пачаў прыставаць з няпрыгожымі жартамі—вылажана ў некалькіх сказах. Соцыяльны элемэнт, які даў нам повад аднесьці гэтую рэч да першага тэматычнага паверху „Рунь“, бадай што абмяжоўваецца адзіным выразам „панскі сабака“, а большую частку гэтага невялічкага апавяданьня займае псыхолёгічна-надзіўленае апісаньне душэўнага стану забойцы, зробленае надзвычайна экономна і, разам з тым, поўна: „Забаўтаўся стары лясьнік, пахіліўся, раскірэчыў ногі і саўсім няпрыгожа асеў к зямлі. Дрыгнуў шабадранымі ботамі, пацягнуўся. Чорная, гідкая, страшная кроў паплыла з яго галавы, пэцкала новы жупан, стрэльбу. Маладуха астаўпянела, з жахам вытрашчыла вочы, тупы шчапель, што карэньне капала, шмякнуў з рук на зямлю. Ой! Тошна, дрэнна... Няма як аджывіць. Тое ўжо навекі. Бежч... бежч... О-ё-ё-ёй... Што гэта? Дрэвы нядобра заківалі макоўкамі, прытулілася трава, ледзьве трэснуў сучок,

1) „Рунь“, ст. 25.
2) Там-жа, ст. 28.
3) Там-жа, ст. 64.

лёгкая болачка ўцякла з аднаго боку неба на другі"[1]). Тут сумысьля выпісана большая частка мініятуркі, каб чытач мог атрымаць навочнае ўяўленьне аб яе памеры і велічыні наяўнага ў межах гэтага памеру таго псыхолёгічнага элемэнту, які цяпер цікавіць нас.

Яшчэ выразьней выступае псыхолёгізм М. Гарэцкага ў апавяданьні „Рунь". Тут ужо гэрой твору, паміма нашэньня ў сабе глыбокай псыхолёгічнай трагэдыі, сам зьяўляецца псыхолёгам. Прыводзячы два апавяданьні („Войт" і „Княгіня"), якія пісьменьнік прыпісуе свайму гэрою, і якім уласьціва тая-ж псыхолёгічная надзіўленасьць, ён у заўвазе да іх, дадаaccount ужо ад сябе правільна адзначае гэтую асноўную накіраванасьць іх і выказуе цікавы погляд на самую ролю псыхолёгізму ў мастацтве: „Апавяданьні сьведчаць, што яго займалі ня токма што грамадзянска-палітычныя пытаньні, але і пераЖываньні чалавека, яго псыхолёгія. *Значыцца тож, любіў ён хараство, прыгожасьць*[2]) (курсыў мой. А. А)—кажа М. Гарэцкі пра свайго гэроя і, такім чынам, выказуе пагляд на псыхолёгію, як на элемэнт „хараства", прыгожасьці", ставячы яе гэтым на першы плян, паколькі канцовай мэтаю мастацтва, як вядома, якраз і зьяўляецца гэтае хараство. Тут-жа пісьменьнік сам адзначае і падчырквае пераважную ролю псыхолёгізму ў сваёй творчасьці, бо апавяданьні, пра якія ён кажа, належаць ўсёткі бясспрэчна яму, што сукосна пацьвярджаецца прыраўнаваньнем апавяданьня „Войт" да пазьнейшага апавяданьня „Панская сучка" (у „Досьвітках").

Ставячы на першае месца ў сваёй творчасьці псыхолёгізм, Максім Гарэцкі не абмінае і псыхолёгіі ненормальных людзей, людзей—хворых псыхічна, што часта становіцца нават мэтаю мастакоў-псыхолёгаў, як, прыкладам, Дастаеўскага і што збліжае яго з гэтым апошнім. Так, той-жа гэрой апавяданьня „Рунь" адчувае і ўсьведамляе сваю псыхічную хваробу, якая ледзь не даводзіць яго да самагубства; гэроіня апавяданьня „Красаваў язьмін" проста сама заяўляе: „Я—ненормальна"[3]); рэзка-ненормальнай псыхолёгіяй надзелены і некаторыя пэрсонажы з апавяданьня „Што яно?", як, прыкладам, люнатык з другога ўрыўку, „дурны" з пятага ўрыўку і г. д. Апошняе апавяданьне наагул больш за ўсе апавяданьні „Руні" насычана псыхолёгізмам, якім пісьменьнік завойстрвае тыя „праклятыя" пытаньні, што ў ім трактуюцца.

Другая рыса творчасьці М. Гарэцкага—трагэдыйнасьць—найбольш яскрава выступае ў адным з першых ягоных твораў—у драматычным абразку, ці, як сам аўтар назваў яго, у „кароткім жалобным абразку"—„Атрута". Тут гэтая трагэдыйнасьць памацняецца яшчэ і самою драматычнаю формаю, у якой напісаны твор. Перад намі праходзяць дзьве трагэдыі: трагэдыя п'яніцы Рамана і трагэдыя ягонай сям'і, даведзенай гэтым п'янствам да скрайніх рубяжоў бядноты і нядолі. Дзеяньне разьвіваецца хутка, але надзвычайна напруджана, дужа жвава, як быў заўважыў у свой час і акадэмік Карскі[4]). Самое п'янства, якое зьяўляецца тэмаю гэтае рэчы, закранаецца блізка ўва ўсіх творах „Руні" ды адыгравае значную ролю ў наступным за „Руньню" творы М. Гарэцкага „Антон", які праз гэта цесна зьвязаны з дадзенай рэччу. Яно даецца тут, ізноў-жа, у чыста-псыхолёгічным разрэзе. Гэтым „Атрута" адрозьніваецца ад падобнага драматычнага твору Тараса Гушчы (Якуба

[1]) „Рунь", ст. 87.
[2]) Там-жа, ст. 10.
[3]) Там-жа, ст. 83.
[4]) Е Ф. Карский—Белорусы, т. III, вып. 3, стр. 372.

Коласа) „Антось Лата“, дзе псыхолёгічна надзіўлена (і то ня зусім) адна фігура галоўнага гэроя Антося Латы, а іншыя фігуры п'яніц дадзены ў чыста-бытавым разрэзе, у абстаноўцы карчмы. Яшчэ адна важная розніца паміж гэтымі двома творамі палягае ў тым, што Антось Лата, дадзены, як п'яніца, які знайходзіцца ў канцы свайго шляху, загубіў усю сваю сям'ю і сьпіўся ўшчэнт, тымчасам як гэрой М. Гарэцкага Раман стаіць якраз на самым найвышэйшым пункце гэтага шляху, і трагічны працэс разбурэньня сям'і праходзіць на ваччу ў гледача. Гэтай другой розьніцай можна растлумачыць і трэцюю розьніцу між творамі — малую наяўнасьць трагэдыйнасьці, драматызму ў творы Т. Гушчы пры перагружанасьці ім твору М. Гарэцкага, што адзначалася й акадэмікам Карскім[1]). Такім чынам, гэты конкрэтны прыклад лішні раз падкрэсьлівае правільнасьць вызначанага В. Ластоўскім месца Максіма Гарэцкага ў нашай літаратуры.

Трагэдыя галоўнага гэроя „Атруты“ Рамана зьмяшчаецца ў хістаньні яго між гарэлкаю і абавязкам перад сям'ёю, якое раздвойвае яго духова, у чым ужо і праяўляецца вынік трагэдыі, які быў адзначаны намі, як характэрны для ўсяе творчасьці М. Гарэцкага. Гэтая раздвоенасьць паказана ў дадзеным выпадку надзвычайна аголена і завойстрана, што зусім мотывуецца п'яным станам гэроя, у якім ён выводзіцца аўтарам на сцэну. Так, Раман надзвычай рэзка пераходзіць ад жаданьня „назаўсёды зрачыся“ піць гарэлку да проста процілежнага жаданьня „прапіць усё“, „прагуляць“ ці „хоць апахмяліцца“; ад пяшчотных далікатных зваротаў да хворай жонкі („Ганна! Ганначка! Жоначка мая любая! (тужліва) хварэеш? (жаласна і безнадзейна). Усё хварэеш. Пара ачуняць! Лепшай, галубка мая...[2]) да рэзкіх выпадаў супроць яе „Не стагні! Голая костка! Ад заможнага бацькі браў, а што ты мне ў гаспадарку прынесла? Сабаку печанага... Во захварэла, падла! І здохнеш хутка, падажджы...[3]); ад звычайнага апраўданьня п'яніцы: „Што хачу-то й раблю“, або „П'ю,—дык я-ж вас і кармлю“ да поўнага разуменьня свайго палажэньня (Татуля! Ганна! Ці яж нічога не розумею? Ці мне-ж не баліць?—І ці я-ж не заракаўся? Але-ж яна—як тая салодкая атрута... як тое сьвятло бягучае купальскае, заводзіць яна чалавека ў такую круч, адкуль няма звароту,.. Адбярэць і разум, і сумленьне і жаласьць. Ці я-ж не разумею, тата?“[4]) П'янства і сапраўды адбірае ад яго ўсё гэта, а да таго зусім атрафуе ягоную волю, што й прыводзіць да катастрофы: ва ўрачыстую хвіліну даваньня зароку кінуць п'янства ён, заўважыўшы на паліцы грошы, прынесеныя і паложаныя там дзецьмі, раптам просіць даць іх яму „толькі апахмяліцца“, а не атрымаўшы, вырывае з бацькавых рук, пры чым забівае сваё меншае дзіця, якое было на руках у бацькі, а цяпер скаўзанулася з іх і ўпала, а таксама жонку, якая ня здолела перанесьці ўсяго гэтага, ды сам падпадае пад бацькаў праклён. У гэтай сцэне трагізм дасягае свайго найвышэйшага пункту і разьвязкі. Разьвязуецца як трагэдыя самога Рамана, які зьнікае са сцэны, аддаўшы такім чынам перавагу гарэлцы перад сям'ёю, так і трагэдыя ягонай сям'і, якая канчаткова разбураецца. Асабліва трагічнаю фігураю гэтае сям'і зьяўляецца Раманава жонка Ганна. Сцэна, дзе яна гутарыць з сваёю дачкою Аўдулькаю аб сьмерці (праява 3-я),

---

[1]) Е. Ф. Карский—Белорусы, том III, в. 3., стр. 372 (пра „Атруту“) і 312 спра „Антося Лату“).

[2]) „Рунь“, ст. 35.

[3]) Там-жа, ст. 36.

[4]) Там-жа, ст. 38

пакідае вялікае ўражаньне сваім трагізмам. Трагічна й фігура „дзеда" Раманавага бацькі: ён адчувае сваю спадчыннасьць у Рамане („Пакараў ты мяне, справядлівы божа! За грахі мае брудныя пакараў ты мяне, бо калісь і я ня меў сумленьня, цягнуў-піў зельле паганае, будзь яно проклятае навекі..."[1]) і дужа мучыцца гэтым. Ён ад самага пачатку рэчы прадчувае трагічную разьвязку („Будзе грэх, чую, усімі думкамі чую"...[2]), чым яшчэ больш напруджвае дзеяньне.

Як бачым, носьбітамі трагэдыі ў дадзеным творы зьяўляюцца выключна сяляне. Але, як мы ўжо заўважвалі, галоўнымі носьбітамі яе ў творчасьці М. Гарэцкага зьяўляюцца не яны, а іхныя выхадцы, якіх, як дзейных асоб у „Атруце" няма (адно за водгук іх можна лічыць таго каморніка, які даў дзецям грошы і забараніў ім цалаваць у руку „Я-ж, кажаць,—ня поп і ня абраз"), і ў якіх гэтая трагэдыя праяўляецца найбольш глыбока. Да разгляду гэтых выхадцаў у ролі гэрояў твораў „Руні", да разгляду трэцяй вызначанай намі асаблівасьці творчасьці М. Гарэцкага мы і зварачаемся.

Характэрныя фігуры гэрояў-сялянскіх выхадцаў так ці йначай выводзяцца бадай што ўва ўсіх творах „Руні". Цікава, паміж іншым, адзначыць, што творы, у якіх гэныя героі адыгрываюць галоўныя ролі, па часе свайго напісаньня правільна чаргуюцца з творамі, дзе галоўныя ролі адыгрываюць іншыя гэроі—іхныя бацькі-сяляны. Так, у першым апавяданьні „У лазьні" бачым у ролі галоўнага гэроя ўжо знаёмага нам выхадца Кліма Шамоўскага; у другім творы—„Атрута"—таксама знаёмага сяляніна Рамана; у трэцім апавяданьні „Роднае карэньне"—студэнта-мэдыка з сялян Архіпа Лінкевіча, у чацьвертым творы—„У панскім лесе"—маладуху-сялянку; у пятым—„Красаваў язьмін"—выразна-сялянскага выхадца Юрку, у шостым—„Страхацьцё"—селяніна Гаўрылу Пячкура; у сёмым—лірычных імпрэсіях „Што яно?"—галоўным гэроем выразна фігуруе сам аўтар, які таксама зьяўляецца сялянскім выхадцам, у восьмым—„Лірныя сьпевы"—селянін Янка Пракляты і ў дзевятым—„У чым яго крыўда?—сялянскі выхадзец Касьцянцін Зарэмба. Дзесятае апавяданьне „Рунь", дзе ізноў выступае сялянскі выхадзец—беларускі адраджэнец Уладзімер З., будучы напісаным, як ужо заўважвалася, адмыслова для зборніка і, па сьведчаньні самога аўтара, дужа хапаючыся,—яўна, дзеля гэтага, парушае гэткі правільны парадак. Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць заўвагу, што гэроі-сяляне, нават у тых апавяданьнях, дзе яны дзеюць самі адны, не зьяўляюцца самамэтнымі ў мастацкім выяўленьні Максіма Гарэцкага, а як-бы „зьвернутымі" да галоўнага гэроя—сялянскіх выхадцаў,—гэтага цэнтру ўсіх апавяданьняў зборніка.

З усіх кагадзе пералічаных гэрояў-сялянскіх выхадцаў найбольш тыповымі, найбольш характэрнымі, поўна-абмалёванымі і наогул, цэнтральнымі, зьяўляюцца тры асобы: Клім Шамоўскі з апавяданьня „У лазьні", на якога ўжо зазначалася вышэй, Архіп Лінкевіч з апавяданьня „Роднае карэньне" і Уладзімер З. з апавяданьня „Рунь". Гэтыя тры гэроі як-бы ўвасабляюць у сабе тыя тры тэматычныя паверхі, якія мы вызначылі. Дзеля такога іхнага важнага палажэньня ў творах зборніку, мы і зьвернемся перш-на-перш да падрабязнага аналізу гэтых тыпаў—галоўнае часткі нашага разгляду „Руні".

---

[1]) „Рунь", ст. 30.

[2]) Там-жа, ст. 33.

### III

Калі разгледжаны намі з большага гэрой апавяданьня „У лазьні“ Клім Шамоўскі зьяўляецца носьбітам соцыянальна-бытавых пытаньняў „Руні“, дык такім-жа носьбітам пытаньняў космогонічна-гносэолёгічнага парадку зьяўляецца гэрой апавяданьня „Роднае карэньне“ Архіп Лінкевіч. Абодвы гэтыя гэроі—прадстаўнікі вучнёўскай моладзі, што выйшла з вёскі (Клім—вучань каморніцкага вучылішча, Архіп—студэнт-мэдык)—дадзены пісьменьнікам прыблізна на аднолькавых прабегах свайго разьвіцьця і ні ў якім разе не зьяўляюцца працягам адзін аднаго, як гэта можна было-б памылкова падумаць, зважаючы на кагадзе сказанае пра іхную ролю ў тэматычных паверхах „Руні“. Абодвы яны, кажучы словамі Кліма, „ня чураюцца вёскі, любяць і шануюць яе, як родныя сыны“ [1]), а часам нават і ідэалізуюць гэтую вёску, асабліва яе працоўную аснову—працу на зямлі. Так, Архіп з захапленьнем кажа: „Люба жыць сярод працы, сьвяцейшай усіх прац: працы земляроба“ [2]), а ў другім месцы называе гэтую працу—„ня мужыцкай“,—сялянскай... справядлівай [3]). Падобна-ж выказваецца і Клім, прызнаючы вялікую „вагу... векавечнае працы мужыцкае“, але ўжо ў самым тоне ягонага выказваньня можна заўважыць розьніцу між ім і Архіпам. „І лацьвей *ім* (курсыў пісьменьніка)“, кажа Клім пра сялян, „страляць у вочы: „запанеў“, ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае“ [4]). Для яго, як бачым, сяляне—гэта ўжо нейкія „яны“, „уцяміць, пазнаць, зразумець“ якіх ён у значнай меры ўжо ня можа, бо, як ужо заўважалася ў папярэднім разглядзе, зьяўляецца адарваным ад вёскі. Праўда, і Архіп таксама, як Клім, ня любіць гутарак пра тое, што ён „запанеў“, паводля Кліма, або „панам зрабіўся, папанску жыць захацеў“, паводля слоў яго самога [5]), але ён стараецца як-небудзь запабегчы, каб гэткіх гутарак аб ім зусім ня было, і з апавяданьня мы ведаем, што сяляне сапраўды не адзываюцца аб Архіпу так, як аб Кліму. Такая розьніца паміж абодвума выхадцамі паходзіць ад таго, што Архіп яшчэ не адарваўся ад вёскі і ад сялян, пра што сьведчаць словы ягонага бацькі, які гэтак кажа ў думках аб сваім сыне: „Сам земскі, сам к яму з рукою здароўкацца першы падходзіць. І мужыкоў, сваіх людзей, сынок ня чураецца, земляка, калі трэба, усюдых абароніць і чужога ня скрыўдзіць...“ [6]). Як бачым, для Архіпа сяляне яшчэ „свае людзі“, а ня Клімавы „яны“. Не адарваўся ён яшчэ і ад з‘ідэалізаванай ім працоўнай асновы вёскі, а бярэ самы чынны ўдзел у ёй, прыносячы гэтым немалую радасьць свайму бацьку, чаго пра Кліма пісьменьнікам не адзначана: „Радавалася сэрца старога бацькі яго, як пойдуць на сенакос яны: хлапец работнік Восіп, сын і сам стары Нупрэй... Восіп унерадзе, а студэнт ззаду не паддаецца, гонар мае... Скіне студэнт і брыль з галавы, і расшпіліцца, і расьперажэцца, хочаць плячо-ў-плячо з работнікам харошым іці“ [6])... Да гэтае, чыста знадворнае, розьніцы між абодвума гэроямі дадаецца яшчэ і ўнутраная розьніца між імі, абумоўленая рознасьцю іхных характараў. Так, калі ў характары Кліма ўсё-ж пераважае волявы, актыўны пачатак, які й прымушае яго рабіць сякія-такія спробы прышчапленьня культуры роднай і любай вёсцы (як, прыкладам, спробы чытаньня кніжак), — дарма, што гэтыя спробы

[1]) Гл. „Рунь“, ст. 25.
[2]) Там-жа, ст. 63.
[3]) Там-жа, ст. 57.
[4]) Там-жа, ст. 26.
[5]) Там-жа, ст. 61.
[6]) Там-жа, ст. 62.

разьбіваюцца аб глухую сьцяну вясковай інэртнасьці, у значнай меры прычыняючыся да прычапленьня Кліму крыўднай мянушкі „запанеў“ і душэўнай трагэдыі раздвоеньня,—дык у Архіпавым характары пераважае пачатак сузіральны, пасыўны, які прымушае яго проста баяцца мянушкі „запанеў“, запабягаючы прычапленьне яе простым няўмешваньнем у сялянскія справы, хоць вясковая інэртнасьць, адсталасьць яму ня менш за Кліма вядома і няпрыемна, непажадана („як многа слаўнага ў нашых вёсках, сёлах, а тымчасам як яны непарушна-мёртвы ў жыцьці“ [1]), думае ён). Гэтая Архіпава пасыўнасьць, якая асабліва выявілася ў ягоных развагах пра вядомы сялянскі рух „на хутары“ (гл. „Рунь“, ст. 60-61), можа як-бы даць нам повад да абазваньня яго „мешчанінам“, асабліва, бяручы на ўвагу ягоныя развагі пра тое, „чаго прыехаў? А вось... бацькоў даведацца. Люба тут!.. Люба раніцай у рацэ, у рацэ з вадою лёгкаю, ня дужа халоднаю, пакупацца. А днём гуркоў у градах пашукаць, пасмакаваць, або яблык салодзенькіх, мядуначак невялічкіх пакаштаваць. А ўраньні ў сьвяты дзень устаць і ў лес пайці, грыбоў насабіраць... а потым—у цэркву, у госьці пайці, а вечарком, скрыпку ўзяўшы, на вуліцы пад хатай пасядзець, сыйграць скокі-танцы ды песьні-весялушкі розныя“ [2]). Але гэтае апошняе цалком адкідаецца тым фактам, што Архіп, ізноў ткі, у адрознасьць ад Кліма, які ня выказаў свайго дачыненьня да расказу дзеда Банадыся аб ваўкалаках, а проста „ня слухаў больш і пайшоў з лазьні“ [3]), пачынае захапляцца і вельмі моцна г. зв. „праклятымі“ пытаньнямі: „Адкуля ўсё і што яно?“. Пасыўнасьць-жа проста можна вытлумачыць сузіральнасьцю Архіпавага характару і наяўнасьцю ў ім некаторых „эстэцкіх“ нахілаў, якія адзначае і сам пісьменьнік, яшчэ раней называючы свайго гэроя „ласуном да красы“ [4]).

Усе гэтыя асаблівасьці Архіпавага характару робяць з яго ўзьдзячны фон для пастаноўкі касмогонічна-гносэолёгічных проблем другога тэматычнага паверху „Руні“. Сюды далучаецца яшчэ і Архіпава соцыяльнае палажэньне, якое для папярэдняга гэроя Кліма пісьменьнікам ізноў-такі бадай што ня дадзена, калі ня лічыць заўвагі аб тым, што Клім „вучань апошняга клясу каморніцкага вучылішча, казённы стыпэндыят“ [5]), тым часам як Архіп—студэнт-мэдык і часам „ладна зарабляе вурокамі“ [6]). З іншых паасобных рыс гэтага Архіпавага соцыяльнага палажэньня, пададзеных у вапавяданьні, мы даведваемся, што Архіпавы бацькі маюць батрака, купляюць у паноў сенажаць, будуюць новую хату, хоць, праўда, і не без некаторай дапамогі з сыновага боку. Архіпава прыналежнасьць да больш заможных сялян выражаецца і ў ягоным станоўным поглядзе на хутарскі рух і ў выказаных побач поглядах на ніжэйшыя соцыяльныя пласты вёскі, на „вузка-шнуровых, адходжых“ сялян. У гэтым да Архіпа нават далучаецца, як відаць, і сам пісьменьнік, што лёгка можна вытлумачыць уплывам тае кампаніі за хутары, якую вяла ў свой час і „Наша Ніва“, асабліва праз свайго рэдактара Ўласава. Адылі, як ужо гаварылася, дзеля свае пасыўнасьці, Архіп баіцца дапамагчы, або проста нават выказаць свае думкі наконт гэтага руху. Гэтая-ж згаданая пасыўнасьць азначае і тое, што ўсе Архіпавы думкі пра палепшаньне сялянскага жыцьця выяўляюцца толькі

[1]) Гл. „Рунь“, ст. 63.
[2]) Там-жа, ст. 42.
[3]) Там-жа, ст. 27.
[4]) Там-жа, ст. 46.
[5]) Там-жа, ст. 20.
[6]) Там-жа, ст. 52.

ўва сьне, у выглядзе нявыразных, цьмяных лятуценьняў у духу наіўнага сялянскага соцыялізму: „У спрэчкі з чорным страшным-няправым ідуць музыкі-скамарохі ў граньні сваім,—і кіпіць-б'ецца сэрца хлапецкае... Эх! Пайці і сілу сваю на ўвесь сьвет паказаць, прагнаць крыўдзіцялёў, вытурыць іх ад людзей бедных, шчырых, зьмірных і пакорліва-прыяючых, людзей родных і балюча-скрыўджаных. І добра на зямельцы будзе ўсім! Усе родныя, радыя, усе дужыя, ладныя. Сьвеціць сонейка, а ў гайку птушачкі пяюць вясёла так, ладненька, а красачкі цьвітуць, пахі-араматы прыемныя, любыя носяцца, шуміць жытцо высокае, доўгакалосае, шэпчаць думу сьвятую, ціхую каласамі буйнымі, падзяку пяе працы мужыцкай, а ня „мужыцкай",—сялянскай працы, справядлівай"[1]) Гэты Архіпаў соцыялістычны ідэал, як відаць па тым захапленьні, з якім яго пісьменьнік малюе, і па тых яскравых хварбах, якія ён на гэтае ўжывае, шмат блізак і яму самому, ды як-бы завяршае ўсе соцыяльныя мотывы твораў першага тэматычнага паверху, пераход ад якіх да мотываў другога паверху якраз адбываецца, як гаварылася ў сваім месцы, у дадзеным апавяданьні „Роднае карэньне"[2]).

Такім парадкам, Архіпаў характар і ягонае соцыяльнае палажэньне не маглі скіраваць вялікай увагі яго на соцыяльныя пытаньні, а наадварот, спрыялі надзвычайнаму захапленьню „праклятымі" пытаньнямі. Захапленьне гэтае адбываецца чыста стыхійна, шляхам цэлага щэрагу непасярэдніх сутыкаў з паасобнымі, на першы погляд незразумелымі, праявамі жыцьця й прыроды. З гэтага боку і тут назіраецца поўнае падабенства, аналёгія з апавяданьнем „У лазьні", дзе Кліма соцыяльныя пытаньні пачынаюць трывожыць таксама пасьля непасярэдніх сутыкаў з праявамі вясковае цемры, гразі і някультурнасьці. Стыхійнасьць гэтага захапленьня мы асабліва падкрэсьліваем, каб яшчэ раз нагадаць на тую акалічнасьць, што зьява пераходу пісьменьніка ад пытаньняў першага тэматычнага паверху „Руні" да другога, што адбываецца ў разгляданым апавяданьні „Роднае карэньне", не датычыць гэроя гэтага апавяданьня, які толькі зварочваецца да гэных пытаньняў.

На самым пачатку апавяданьня мы сустракаем нашага гэроя за чытаньнем бацькавага ліста, які ўжо падрыхтоўвае адзін з самых моцных сутыкаў яго з „патаёмным" ці „чартаўнёй", паводля характэрнай сялянскай тэрмінолёгіі ліста, апавядаючы пра незразумелыя праявы гэтае „чартаўні" у новапабудованай хаце. Пры гэтым, Архіп — студэнт-мэдык—зусім сьвядома і цалкам адмоўна ставіцца да гэтага „патаёмнага" ці „чартаўні", як форм, якія прыймае праяўленьне „праклятых" пытаньняў сярод сялянства. „У дваццатым вяку баяцца жыць у новай хаце? А чаго?—ну, пэўне, чэрці не даюць"[3]), іронічна думае ён, чыта-

---

[1]) „Рунь", ст. 57.

[2]) Апрача гэтага, ёсьць яшчэ паасобныя мотывы першага паверху ў гэтым апавяданьні, якія і будуць разгледжаны ў сваім месцы. Фактычна-ж, завяршэньне і завойстраньне сваіх соцыяльных поглядаў, жадан няў і імкненьняў пэрыоду „Руні" М. Гарэцкі дае ў невялічкім урывачку „Стогны душы", які ён ня ўключыў у зборнік „Рунь" і які па часу напісаньня і надрукаваньня займае месца якраз між драматычным абразком „Атрута" і апавяданьнем „Роднае карэньне" (напісаны ўлетку 1913 г., гл. „Нашую Ніву" № 20, за 1913 г.). Ён тут не пагаджаецца з жыцьцём, імкнецца змагацца з ім, вызваліць сябе і іншых ад уціску, ад „ланцугоў ...што робяць з чалавека скаціну, быдлё, што твораць „паноў" і „мужыкоў". Характэрна і заўвага аўтара аб „сусьветнай журбе" („я не хварэю ўсясьветнай журбой-жудою"..).

Што да пераходу ў „Родных карэньнях" ад першага да другога тэматычнага паверху „Руні", дык трэба агаварыцца, што ён толькі мотывуецца ў гэтым апавяданьні, а нікаліва не датычыць ані да гэроя, ані да яго гісторыі, што будзе відаць з далейшага.

[3]) Гл. „Рунь", ст. 43.

ючы ліста, і, пасумаваўшы над адсталасьцю вёскі, якую „як аброслы мохам камень каля шляху, з месца не скранеш", далей пачынае ўжо нават і злаваць, яму пачынае ўжо нават рабіцца і „троху сьмешна", якбы прабіваецца неўласьцівая ягонаму характару актыўнасьць, калі ён з дакорам кідае: „Выдумаюць сабе ўсякіх дурацкіх зданьнёў дый, быццам дзеці, забаўляюцца. Як-бы рабіць няма чаго; э-эх!". Тут-жа Архіп строіць правільныя здогады, спрабуючы вытлумачыць дзіўную „чартаўню": „Нячысьцікі завяліся там ці што?—злосна сьмяяўся студэнт і падумаў, што батрак пабіўся з хлапцамі за дзевак і паддурыў старыкоў чартаўнёй, як найлепей"[1]). Але дальш, пад уплывам ліста, ён пачынае глыбей загадавацца над гэтай „чартаўнёю", спачатку ставячы агульнае пытаньне: „што за народ наш беларусы?", а потым пачынаючы „ламаць галаву" і капацца ў сваіх ранейшых адчуваньнях: „Незразумела, уцяміць ня можна, што за штуковіна такая,—ламаў галаву мэдык, і на глыбіні яго душы пачалі капашыцца абразы таёмнага, страшнага, шчыра-беларускага"[2]). Ён успамінае, што і „сам... некалі даваў гэтаму веры", і дакопваецца аж да свае спадчыннасьці, правільна назначаючы гэтае „роднае карэньне", як захаваную прычыну свайго пазьнейшага захапленьня „таёмным, страшным, шчыра-беларускім": „Не дарма быў Архіп—выліты яго дзед, што да сьмерці заўсёды крэпка маліўся богу і тымчасам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных". Гэтая, ужо сапраўды „шчыра-беларуская" дваістасьць нашага народу, пачатак якой палажыла яшчэ хрысьціянства, гэтак дзіўна ўжываючыся ў беларускай сялянскай псыхіцы з паганскімі перажыткамі, праз спадчыну дзеда зьвязуецца з самым Архіпам, які ад гэтага часу пачынае, хоць і, праўда, крыху па інакшаму, паступова дваіцца.

Пастанавіўшы раптоўна „паехаць самому дамоў, на гэту чартоўшчыну" (у факце гэтае пастановы немалую ролю адыйгралі і тыя „эстэцкія" Архіпавы нахілы, пра якія мы ўжо гаварылі), і, едучы туды, Архіп ужо непасрэдна стыкаецца з першым выпадкам такое „чартоўшчыны": на полі неспадзявана ў некаторых мясцох пачынае шугаць полымя. Гэтая дзіўная зьява адразу ставіць нядаўняга скэптыка да „чартаўні" Архіпа ў ня зусім ёмкае палажэньне. „Ось так чартаўня. Ну й уцям тут, што за справа. І калі мне робіцца неяк нядобра, то што-б было з нашым батраком? І чэрці здаліся-б,—раздумляў студэнт, каб неяк выбачыць сабе сваё спужаньне"[3]). І нават пасьля свае разгадкі, якая аказалася вельмі-ж простаю—невядомыя злачынцы палілі ў ночы пакінутыя на полі сялянскія бароны—гэтая пракудная зьява прымушае яго, хоць, праўда, і ў абстаноўцы начаваньня ў новай „патаёмнай" хаце, першы раз больш моцна і сур'ёзна загадацца над „праклятымі" пытаньнямі, што ўжо проста вядзе да насьпяваньня ў ім глыбокага псыхолёгічнага крызісу.

Стараючыся дайсьці адказу на гэтыя пытаньні, Архіп у сваіх напруджаных шуканьнях-думках перш за ўсё сунімаецца на навуцы. Добра разумеючы на пачатку, што „навука ніколі ня дасьць, бо ня можа даць, адказу на праклятыя пытаньні",[4]) разумеючы агульную мэту навукі, якая не дазваляе ёй даць такі адказ („Ды ў яе і цэль зусім іншая"), ён далей, пры ўспамінах аб сваіх першых пачатках „укушэньня" ад гэтае навукі, зараз-жа забываецца на гэта і пачынае закідаць навуцы тое, што яна падманіла яго, ня даўшы адказу на каноднае пытаньне

[1]) Гл. „Рунь", ст. 44.
[2]) Там-жа, ст. 45.
[3]) Там-жа, ст. 50.
[4]) Там-жа, ст. 53.

„ня толькі, як яно, але і адкуль яно?“. Такім шляхам, грунтуючыся на няпэўнасьці здабытых навукаю адказаў, дзякуючы іхнаму людзкому пахаджэньню („пэўнасьці аніякай няма, няма. Хто даў гэтыя адказы?— Тыя-ж людзі. Угу!—Бог адзін, а вер колькі на зямельцы Божай“), Архіп напруджваецца ў сваіх думках і падыходзіць ажно да агностыцызму, да адмаўленьня навукі, зайздруючы тым, „хто мірыцца лёгка з гэткім будаваньнем жыцьця, або хто бадай што ня думаець аб гэтых „шалёных“ пытаньнях, ці ў беганьні за кавалкам хлеба забываець аб іх“, тым, што, як ён разчэй выказваецца пасьля,—знаходзяцца ў стане „сьвінячага супакою“.

Гэтак зьняверыўшыся ў навуцы, Архіп пачынае шукаць ключа да разгаданьня „праклятых“ пытаньняў у факце сьмерці і, сьледам за некаторымі гэроямі расійскага пісьменьніка Ф. М. Дастаеўскага прыходзіць да таго выніку, што „адзін шлях к разгадцы, шлях страшны і, галоўнае, няпэўны, няпэўны шлях...—сьмерць“ [1]). Побач з гэткімі пэсымістычнымі вывадамі, Архіп зварачае ўвагу і на шырокую распаўсюджанасьць і ўселюдзкасьць „праклятых“ пытаньняў: „І то йшчэ дзіва: няхай-бы людзі далікатныя, чуткія, не запрацаваныя ад цяжкае працы, няхай-бы яны гібелі ад гэткай мукі; дык не, дык-жа народ просты, народ, каторага лаюць „цёмным“, чаго ён, гэты шэры, аднатонны народ, па глухіх кутках, у лясох сваіх сярод балот і пнёў, чаму ён мучыўся і мучыцца ад тэй-жа болькі?“[2]). Прадстаўнікі гэтага народу часта ставяць сваймі пытаньнямі ў няёмкае палажэньне і яго, студэнтамэдыка (ст. 53).

Далей, паўтараючы сваё агностычнае: „нічога ня ведаем, ня ведал, і ведаць ня будзем“..., Архіп засынае і бачыць сон, дзе, як звычайна ў сьнеі дзівосна пераплятаюцца „сялянска-соцыялістычныя“ лятуценьні з „родным карэньнем “— забабонамі (кажан, якога Архіп баіцца, каб ён не схапіў воласу з галавы, бо „занясець ён той валасок на скрыпучае сухое дрэва, зашчэміць яго там паміж скабак калючых... І будзе сохнуць, як дрэва тое, Архіп: датуль будзе хварэць—прападаць, пакуль дрэва скрыпець будзе: зваліцца, бахне аб зямлю яно,—і Архіп памрэць [3]). кашмарнымі „патаёмнымі вобразамі ідзе Архіп ужо другі раз стыкаецца з гэтым „патаёмным“: у часе найвышэйшае ступені напруджаньня Архіпавага кашмару ў хату, дзе ён начаваў, раптам ударае пярун і запальвае яе. „Немалыя клубкі дыму чорна-сівога выбіваліся праз стрэху новую саламяную, чырвоныя язычкі полымя са хцівасьцю і прагавітасьцю рупліва лізалі бярвеньні, кідаліся ў бок і наводзілі сваёй маўклівай і неразумелай руплівасьцю—рухавасьцю думку аб вечным і безадказным, думку: адкуля ўсё і што яно?“ [4]). Адгэтуль тое каноднае „адкуля ўсё“ і што яно?“ пачынае ўжо суздром валадаць Архіпавымі думкамі.

Незразумеласьць гэтага самага моцнага і вялізманага Архіпавага сутыку с „патаёмным“ канчаткова яго раздвойвае. Гэтая раздвоенасьць пачынае ўжо нават ужывацца ў ягонай псыхіцы так, што яму часам ужо і „некалі за працаю ці то за чым другім“ чапаць яе, так ці іначай парадкаваць. „Зданьні гэтыя .. Пытаньні дрэнныя... Туга тая“, як ні супакойвае сябе Архіп—„А што! Нічога, нічога... До“, усё больш і больш яго трывожаць. Паддае жару агню і тое замоўчваньне сялянамі

[1]) Гл. „Рунь“, ст. 54.
[2]) Там жа, ст. 54.
[3]) Там-жа, ст. 55.
[4]) Там-жа, стр. 59.

апошняга дзіўнога здарэньня перад Архіпам, якое прымушае яго выказаць думку, зусім процілежную выказанай ім нядаўна: „Яны спакойны: яны ведаюць, што нячыстая сіла ёсьць, але калі яна не дакучаець, то ім і дзела мала да яе. Што ім даходзіць, адкуля яна?“.[1])

Увесь псыхолёгічны процэс у Архіпа завяршаецца трэцім і апошнім сутыкам з „патаёмным“, што адбываецца па дарозе на станцыю, калі на Архіпа і старога дзеда, свата Яхіма, які адвозіў яго туды, нападаюць ваўкі, але, дзіўным чынам, не чапаюць іх. Гэтая зьява прымушае Архіпа ўспомніць усе папярэднія праявы „патаёмнага“, з якімі яму прыходзілася стыкацца, і канчаткова яго зьбянтэжвае: „ А з Архіпам штосьці рабілася асаблівае. Успомнілася яму і новая хата, як батрака нехта скінуў, пажар ад пяруна, прыпомніў ён і страшныя апавяданьні аб ваўкалаках, ведзьмах, чараўніцтве. Усё яму было ня ў цям. Аж тут і гэтыя ваўкі... Дзіва! У лесе набеглі, круціліся, морды конскія нюхалі, а не завалілі. Што гэта? Загавор? Чараваньне? Гіпноз?“.[2]) Адылі, „загавор“ аказаўся толькі адмыслова для Архіпавага заспакоеньня прыдуманым дыплёматычным прыёмам дзеда Яхіма, а ўся справа тлумачылася таксама проста, як і першы выпадак Архіпавага сутыку з „патаёмным“ (добра вядомая дзеду Яхіму „ваўчыная павадка“). Архіпава затрывожанасьць прымушае дзеда Яхіма зьвярнуць увагу на ягоны стан і даць яму цэлы шэраг практычных „наказаў“. Але ўсё-ж Архіп не згаджаецца з дзедам, які стараецца прышчапіць яму тыповую сялянскую абыякавасьць у дачыненьні да „праклятых“ пытаньняў, якой у маладосьці, паводля Архіпавае заўвагі, і сам дзед ня меў. Але „машына глушыць апошнія словы студэнта“.—„А не-е дзед! Чаму-ж тады...“ [3]) і ў гэткіх сымболічных і алегорычных абставінах, з маркотнай пэсымістычнай думкай аб нязьменнасьці ўсяго існуючага, сялянскі выхадзец Архіп пакідае апавяданьне.

У такім выглядзе, у змаганьні з адвечнымі „праклятымі“ проблемамі, у вечных сутыках з незразумелым, „патаёмным“, Архіп Лінкевіч, са сваёй рэфлексыйнасьцю псыхолёгічнай трагэдыяй, з такімі вынікамі, як духовая раздвоенасьць, агностыцызм і пэсымізм, выяўляе з сябе як-бы зародак беларускага тыпу Фаўста. Апрача таго, ўсе гэтыя рысы, у спалучэньні яшчэ з палажэньнем сялянскага выхадца, робяць з яго яшчэ й тыповага „гэроя свайго часу“. У крыку машыны, якая глушыць апошнія Архіпавы словы,—першая, хоць і аддаленая яшчэ, пагроза гэтаму гэрою, пагроза ад новага часу, з новымі імкненьнямі і пытаньнямі... Дзеля гэтае тыповасьці і алегорычнасьці Архіпавага вобразу, разгорнутага на фоне тых космогонічна-гносэолёгічных пытаньняў, пра „надзённасьць“ якіх у свой час мы ўжо заўважалі ў сваім месцы, мы гэтак шмат і спыніліся на ім, каб мець адпаведны матар'ял для агульнага меркаваньня пра творчасьць М. Гарэцкага.

(*Працяг будзе*)

---

1) Гл. „Рунь“, ст. 62—63.
2) Там-жа, стр. 69.
3) Там-жа, стр. 74.

**А. Бабарэка**

# Творчасьць Ул. Дубоўкі[1]

*Нататкі*

### 1. Наджыданьне ад „Трысьця“

Трысьцё—гэта расьліна, на берегах рэчкі або возера, што вечна шуміць і шуміць ад самага лёгкага подыху ветра. Яно ў сабе зьмяшчае і тое, што нясуць карэньні к тэй мяжы, на якой стыкаюцца вада і зямля, і тое, што ад вады і што ад зямлі. Трысьцё расьце ў прасторы над і зямлёю і вадою, дык яно мае у сабе і тое, што йдзе ад гэтых прастораў, што йдзе з паветра, [2]) што вецер прыносіць сюды.

Мова-шум трысьця, пераказаная моваю мастацтва наджыдаецца і ад Трысьця Ўл. Дубоўкі. Наджыдаецца, што поэта з хаосу гукаў-шуму вызваліў нешта цельнае,—падобнае да блізкага і добра знаёмага вобразу трысьця, што вырасла на даліне сучаснасьці з глыбінь духу беларускага селяніна і рабочага на мяжы „вады і зямлі“ гэтай сучаснасьці. Гэта трысьцё таго „іншага сьвету“, вакно ў які расчынена папярэдняй беларускай поэзіяй, з якога імклівіла Строма, і пра які М. Багдановіч казаў, як пра возера, што

Жыцьцё сабою адбівае
І ўсё, што згінула даўно.
У цёмнай глыбіне хавае. [3])

Такое наджыданьне таму, што поэзія—гэта сапраўды „іншы сьвет“. Яна сьвет творчасьці чалавека, у аснове якое ляжыць адчуваньне сьвету, адчуваньне жыцьця.

Усё, што ёсьць, падзяляецца на два моманты ў сваім станаўленьні: 1) прырода і 2) культура. Прырода - гэта некаторае адзінства ўва ўсёй рознастайнасьці свайго выяўленьня, якое дадзена адвеку. Сам чалавек—гэта продукт прыроды ў першую чаргу. Відомая прырода зьяўляе сабою формы самаорганізацыі адзінай існасьці—матэрыі. У такім разе і сам чалавек—гэта толькі адна з формаў гэтай самаорганізацыі.

Культура (і яе продукты)—гэта ўжо вынік дзейнасьці чалавека, яго творчасьці. Культура тая-ж прырода, толькі ў тых формах, якія ёй нададзены рукою і думкаю чалавека. Яна зьяўляе сабою вынік адвечнага ўзаемадзеяньня прыроды, яе сіл і чалавека, гэта вынік барацьбы чалавека з прыродаю за сваё існаваньне, за сваё вечнае станаўленьне ў сьвеце.

Чалавек, гэты продукт прыроды, адна з формаў самаорганізацыі матэрыі, у пэўны момант свайго разьвіцьця становіцца ў супярэчнасьць з тэй формаю, у якой ён нарадзіўся,—чалавек становіцца ў супярэчнасьць прыродзе і праз яе адмаўленьне імкнецца да свайго вечнага станаўленьня, імкнецца з становішча „пад“ у становішча „над“ рэчамі. Адгэтуль і адвечныя думкі, што выражаюць нязьміранасьць чалавека з сьмерцю, адгэтуль барацьба з ёю, барацьба з часам і прасьцягам

[1]) Пач. гл. Узвышша, № 5 і 6.

[2]) Грэцкі філёзаф Гэракліт вучыў, што „ў паветры носяцца ісьціны“.

[3]) „Вянок“, стар. 10.

(вынікі: цягнік, самалёт, радыё) і г. д. і г. д. Тут крыніца ўсіх навук і ўсіх мастацтваў, тут наогул крыніца ўсякай творчай дзейнасьці чалавека (праўда, гэта крыніца бывае пасрэднаю і непасрэднаю).

Палажэньня, што чалавек продукт прыроды, не выключае другога палажэньне, што чалавек, апроч таго, продукт яшчэ і соцыяльных дачыненьняў, продукт грамады з яе соцыяльна-эканомічнымі дачыненьнямі, з яе культурна-гісторычным станам. Як продукт грамады, чалавек таксама становіцца ў супярэчнасьці з формамі організацыі гэтай грамады ў пэўныя моманты свайго разьвіцьця, як вытворчае сілы. Гэты момант зьяўляецца галоўным у вызначэньні крыніц і характару разьвіцьця як навук, так і мастацтваў, а таксама іх накіраванасьці.

Поэзія зьяўляецца аднэй з галін культуры ў тым сэнсе гэтага апошняга паняцьця, у якім яно тут ужываецца. З аднага боку, поэзія вынік барацьбы чалавека з прыродаю (у яе слоўным і гукавым выяўленьні), з другога, яна сама ў пэўны момант становіцца зброяй у гэтай барацьбе (у тым сэнсе, што поэзія зьяўляецца адным з фактараў выхаваньня чалавека). Вось чаму поэзія, сама зьяўляючыся формаю выражэньня і выяўленьня станаў сьвядомасьці асобы, формаю беспасрэднага выяўленьня яго перажываньняў, адначасна ў сабе адбівае і ўсякі іншы зьмест творчай дзейнасьці чалавека ці, інача́й кажучы, усякі іншы зьмест барацьбы чалавека з прыродаю. Выходзячы адгэтуль мы і кажам, што поэзія—гэта „іншы сьвет“ і адначасна вакно на перажытае чалавекам за час свае барацьбы (у сэнсе перайначваньня) з прыродаю.

„Іншы сьвет“ у вобразах поэзіі адкрываецца тым-жа спосабам, што і ў жыцьці чалавека, у яго барацьбе з прыродаю,—гэта цераз адмаўленьне тых формаў, якія перажыты, цераз адмаўленьне, якое ўтвараецца на падставе супярэчнасьцяў паміж матэрыяй, што вечна самаорганізуецца, і формаю яе організацыі. Тое, што, скажам, праяўляецца ў форме поэзіі, урэшце становіцца ў супярэчнасьць з гэтай формаю і імкнецца самаорганізавацца ў вышэйшай форме, прыкладам, у форме грамадзкага жыцьця.

І мастацкі твор тым каштоўней, чым глыбей і шырэй адбіваюцца ў ім чалавеччыя перажываньні, і чым шырэй у ім адчыняецца вакно ў сьвет чалавеччых творчых магчымасьцяў, што захаваны ў самым чалавеку і яго дачыненьнях з вакольлем. Поэзія тады вяліка і значна, калі яна зьяўляе сабою, т. ск., „эвангельле новага завету“, калі яна нешта адкрывае. Адкрываць-жа гэта значыць—паказаць і сказаць нешта новае ад таго, што крыецца ў глыбі людзкой істоты і яго дачыненьнях з вакольлем.

Дык вось і ад „Трысьця“ чакаецца такое адкрыцьцё. Сама назва мае значэньне назвы таго, што здабыта ўнутраным вопытам поэты над людзкімі і сваімі перажываньнямі.

Сам поэта ў прэлюдыі да „Дзяўчыны“ кажа:

Там,  
на Беларусі,  
дзе пачаў жыцьцё,—  
чуў я,  
колькі чуў я,—  
як шуміць трысьцё.

І далей поэта там-жа адкрывае, што чуў казкі „ў шэптах тых радоў, песьні чуў у звоне“.

Шуміць трысьцё. Шумела і будзе шумець. Але хто чуў у яго шуме казкі, хто чуў у звоне яго песьні? М. Багдановіч у вершы „Па-над белым пухам вішняў“, казаў, што ў паветры

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны вольны сьвет.
Але хто яе пачуе?
Хіба толькі сам поэт. [1])

І сапраўды, толькі поэт. Толькі ён можа разумець і гаворку „неба, сонца“ і г. д., аб чым казаў Я. Купала, і пачуць гэту песьню „па-над белым пухам вішняў“, і пачуць казкі і песьні ў шэптах і звоне трысьця. Толькі ён можа расказаць пра ўсё гэта людзям, якія мо' таксама ня раз чулі, як шуміць і трысьцё, але не заўсёды разумелі гэты шум. Толькі сапраўдны поэта-мастак сваімі творамі можа даць нам магчымасьць перажыць у момант век, да чаго заклікаў М. Багдановіч, калі казаў:

Жывеш ня вечна, чалавек,
Перажыві ж у момант век,
Каб хвалювалася жыцьцё,
Каб больш разгону ў ім было.
Каб цераз край душы чуцьцё
Ня раз, ня два пайшло. [2])

Адгэтуль наджыданьне, што-ж за песьні і казкі, чутыя ў шэптах і звонах трысьця, кажа поэта Ул. Дубоўка, і ці даюць яны магчымасьць перажыць у момант век?

## 2. Зачын.

У Алеся Гаруна ёсьць верш „Адбітак“, у якім выказваецца думка аб тым, што факт няведаньня адбіваецца ў пачуцьцях сумам. Верш гэты канчаецца такімі радкамі:

Дзіўлюся я на зораў ясных зьзяньне,
На сьцежкі іх, ўсё тыя-ж, як прад вєкам,
І сумна мне, і родзіць сум пытаньне:
На што пачаўся я ад бога--чалавекам? [3])

Адгэтуль: радасьць жыцьця эквівалентна знаньню. Пазнаньне-ж ня бывае без змаганьня, а змаганьне—без пакут. А. Гарун кажа: „няма пакуты, дзе няма пазнаньня“ [4]) І як-бы адказам на выказанае А. Гаруном гучыць першы верш у „Трысьці“, што пачынаецца такімі словамі:

Ня дзівіся: нікольkі на сьвеце
без змаганьня жыцьцё ня дынаміць.
Што такога,— і зоры сьвецяць,
і зямля, як была пад нагамі...

Калі сум—адваротны бок нязнаньня, то адгэтуль вынікае: пазнавай (а значыць, змагайся)—і будзе радасьць. І калі сум родзіць пытаньне: „нашто пачаўся я ад бога-чалавекам“, то радасьць ня ўзьніме гэтакага пытаньня.

„Асалоды ня возьмуць, ня зганяць:
хай сьляды твае зайздрасьцю точаць“,

сьцьвярджае ў тым-жа вершы Ул. Дубоўка.

---

[1]) „Вянок“, стар. 32.
[2]) „Вянок“,—глядзі ўвесь верш на ст. 76.
[3]) „Матчын дар“, стар 57.
[4]) Там-жа, стар. 51.

Радасьць, як кажа К. Чорны ў апавяданьні „Буланы“, канчатковы пункт людзкіхі мкненьняў. Канца-ж людзкому пазнаньню, ня можа быць, а значыць, ня можа быць канца і суму, і радасьці. Людзкое жыцьцё, шлях чалавека, гэта то ўзьніманьне на ўзвышшы, то прыспусканьне ў даліны з узвышшаў, „каб узьняцца ізноў, і—вышай“. У гэтым „адвечная казка“, што „сьціскала міліённыя грудзі народаў“. Вось такім адказам гучыць верш „Ня дзівіся“.

Радасьць і сум жыве ў чалавеку, у самым жыцьці. Па-за межамі жыцьця яны ня існуюць. Трэба ўмець радавацца, каб бачыць радасьць, і—сумаваць, каб бачыць сум. Трэба самому змагацца, каб адчуваць змаганьне і ўсё, што з яго выплывае. Гэта зачын песень Трысьця.

## 3. Скала ў хвалях.

„Адвечная казка сьціскала міліённыя грудзі народаў“, кажа Ул. Дубоўка ў вершы „Ня дзівіся“. І выплываюць пытаньні: ці ня ў гэтым і ўся „трагэдыя“ жыцьця, уся праўда жыцьця. І што гэта за адвечная казка, як і чым яна сьціскае міліённыя грудзі народаў? а што-ж гэтыя народы, якавы яны ў шчымлётках гэтай казкі? які вопыт набыты імі за адвечнасьць? што крышталіцца ў іх вачох: сум, смутак, туга ці радасьць, што крынічыць з іх сьціснутых казкаю грудзей?

У А. Гаруна ёсьць верш „Ідуць гады“, які прадстаўляе сабою якбы дыалёг між двума асобамі. Адна, кажучы: „ідуць сабе гады, ідуць... і чалавек за імі“, пытае: „Куды цябе яны вядуць і сьцежкамі якімі?“ Другая адказвае поўным няведаньнем і заключае: „пачалося гэта, браток, не на мне“. Тады першая зноў пытае: „на што, скажы мне, ты жывеш і з думкамі якімі?“. Другая адказвае, што, узяўшы сабе настаўнікам прыроду, робіць прысуджаны ёй шлях дарагім і красуецца на радасьць сабе і другім. [1])

Пасьля гэтага сьмешнымі выдаюцца пытаньні, што часта выплываюць у моладзі пасьля першай чаркі „культуры“, прыкладам, такія, як „нашто жыць?“, „на што рабіць тое ці іншае?“, якія зараз-жа і вырашаюцца ў адмоўным сэнсе. Жыцьцё не пачалося і не канчаецца на тым, што вось дайшоў чалавек такога пытаньня і вырашыў, што жыцьцё ня мае аніякай цаны. Яшчэ не апазнаны ўвесь вопыт вякоў. У моманты не пражыты ўсе вякі, ўся бесканцовая адвечнасьць. Ды ці можна ўсё гэта пражыць у форме, якая мае, як кажа Я. Купала, „пачатак, бытнасьць і канец“? І сколькі мудрасьці, глыбокай мудрасьці ў словах другой асобы ў вершы А. Гаруна, якая кажа: „пачалося гэта, браток, не на мне“, і якая бярэ сабе настаўнікам „і лес, і траву, крыніцы і кветкі, і цемру, і сьвет, і месяц, і зоры, і сонца прывет“, словам, тое, пра што Я. Купала сказаў: „усё да сэрца штось гавора, усюды бачу моц жыцьця“, і што вучыць харастве і змаганьню! Сапраўды, народная мудрасьць! Якая моц жыцьця! Яго сіла б‘ецца нявычэрпнаю крыніцаю ў гэтай асобе. Бо ясна, калі ўсё „пачалося не на мне“, калі ўсё жыло адвеку і жыве цяпер (дый будзе жыць), то значыць, ёсьць нешта мацнейшае за саму, нават, „сьмерць“, ня кажучы ўжо пра такія пытаньні, як „нашто жыць?“ (у сэнсе „ня варта жыць“).

Дык вось, ці-ж апазнана гэта моц жыцьця і яго сілы, ці пазнаны ўжо ўсе формы іх выяўленьня і выражэньня; ці пражыты гэтыя формы

---

[1]) „Матчын дар“, стар. 51.

того, што больш не засталося аніякіх магчымасьцяў на існаваньне гэтай моцы жыцьця і на далейшае выяўленьне і выражэньне яго сіл. І якою моцай гучаць у Ул. Дубоўкі радкі:

Бабілён, Эгіпэт, Фінікія
ці ня дыхалі тым самым паветрам.
Бамбукі і лотасы ў гымнах маўклівых..
Мы ў сасоньніку ці пад паветкай.

Сьціскласьць і сіла, насычанасьць і глыбіня перажываньня! Менавіта, „мы ў сасоньніку ці пад паветкай", „мы", тыя, якіх так доўга калыхала шалёная Азія, як скажа потым Ул. Дубоўка ў „Credo". „Мы"— тыя, у каго такая моц жыцьця, такія творчыя сілы, якіх ня здолелі перамагчы аніякія перагасы гісторычнага жыцьця!..

Хваля імкнецца на скалы
і назад адыходзіць заўсёды.

Гэта вопыт вякоў. Толькі нам здаецца слабым гэты вобраз у параўнаньні з тым, што ён сабою адкрывае. Хіба можна параўнаць моц жыцьця, нявычэрпную крыніцу творчых жыцьцёвых сіл з скалою? Скала ўсё-ж т'кі скала, а капля і камень прадзёўбвае, як кажа лацінская прыказка. Зрэшты, „скала"—гэта вобраз сталага, цьвёрдага, непарушнага і вялізманага ў стыхійным станаўленьні формаў жыцьця, а „хваля"—гэта часовае, пераходнае. Часоваму-ж не перамагчы сталага. У гэтым адвечная казка.

Адвечная казка яшчэ ў тым, што ёсьць моц жыцьця і яго творчыя сілы, як закон, дадзены ад веку сталым, цьвёрдым, непарушным, і ёсьць часовае, пераходнае, як „паветра", якім адвечная казка сьціскала міліённыя грудзі народаў. „Паветра" праходзіць, жыцьцё толькі мяняе формы свайго выяўленьня і выражэньня пры ўзьніманьні чалавека ўсё на новыя і новыя ўзвышшы.

І калі адзін з самых найвыдатнейшых сучасных украінскіх поэтаў Паўло Тычына кажа:

Я знаю: вас не раз ще прокленуть
нові співці, нова краса—голота—
за те, що з рідного свого болота
не зразу вайшлі ви на вольну путь.

Спитають вас, до суду поведуть:
ви прославляли лінь, а де-ж робота?
Чого замісьць човна пускали плота,
жахаючись того, що зветься Суть?

Так годі спать! Виходьте на дорогу!
Людині гімн! Людині, а не богу!
Майбутньому всю душу—славний дар!

Горіть! Дивіться сонцю просто в вічі!
Бо стогне світ од „геніїв-нездар".
І жить сами не будете ви двічі...[1]),

то трэба сказаць, што будзе тое і ў нас, за выключэньнем нямногіх. У ліку гэтых нямногіх будзе і поэзія Ул. Дубоўкі. Калі ў ёй няма яшчэ „людині гімну", то першыя ўжо крокі „Трысьця"—гэта гымн тэй моцы жыцьця і яго творчым сілам, якія разьліты шырокаю хваляю ў тым краі, дзе шуміць трысьцё—у маладой Беларусі, хоць гэтая моц і сілы яшчэ не цалкам адкрыты для людзкога вока і ня зусім усьвядомлены самім насіцелем іх—беларускім „убогім людам". З далейшага ўгледзім, што душа поэты—„май бутнёму—слаўны дар". Яна сама-гымн непарушнай скале ў хвалях гістарычнага жыцьця.

[1]) „Плуг"—выд. III. ДВ Украіны 1925 г., стар. 41.

### 4. Залежы для розьведаў.

„Трысьцё“ зьмяшчае ў сабе такія разьдзелы: „Асабовае“, „З вандраваньня“ і разьдзел ліра-поэм: „Дзяўчына“, „Студэнт“, „Брагінь“, „Кляновыя лісты“ і „Грахі чубатыя“. Усё гэта рознастайнае выяўленьне „казкі“ на Беларусі.

У беларусаў ёсьць прыгожая казка пра тое, як тварылася зямля.[1]) Там апавядаецца, што была вада, а па вадзе на чаўне езьдзіў бог і сеяў зямлю.[2]) Сьледам за богам цікаваў чорт, які ўрэшце ўкраў ад яго жменю насеньня зямлі і, каб схаваць яго ад бога, праглынуў. У нутры чорта насеньне стала расьці. Чорт пачаў бляваць, і вось там, дзе ён бляваў, і ўтварыліся балаты з куп'ем, лазою і інш. Пасяліўшыся-ж тут, паляшук пачаў карчаваць лазу і вырабляць зямлю на поле. Такі, прыблізна, зьмест гэтай казкі. Тут цікава, якое значэньне надае казка чалавечай асобе. Чалавек у асобе паляшука-беларуса зьяўляецца ў гэтай казцы самастойна-незалежнаю ад вонкавага аўторытэту істотаю, якая орыентуецца ў жыцьці, якая мысьліць і дзейнічае. Значэньне вялікае. І нам здаецца, што вось сюды, у глыб народнай творчасьці, павінен усходзіць гісторычны разгляд усіх старон беларускай сучаснай культуры. Якая моцная матарыялістычная аснова ёй заложана беларускімі працоўнымі гушчамі яшчэ ад веку! І якая рэальная самасьвядомасьць чалавека ў асобе паляшука! Якая глыбокая прасячнасьць у яго магчымасьці!.

Чалавек у гэтай казцы выводзіцца на адным узроўні з богам і чортам, нават больш таго, мацнейшым за апошняга. Беларус толькі адводзіць кожнаму з іх сваё месца і ролю ў жыцьці. Ён бога прымушае працаваць (сеяць зямлю), чорта—рабіць пакасьці, але ня ставіць іх над сабою; у лепшым выпадку ён ставіць іх толькі поруч з сабою, як асобаў настолькі-ж самастойных у сваіх галінах дзейнасьці, наколькі самастойны і сам чалавек.

Вядома, народная творчасьць не абмяжоўваецца аднэю казкаю, як не абмяжоўваецца ёю і выяўленьне матарыялістычнага ў сваёй аснове сьветаразуменьня беларускага працоўнага люду. Тут можна было-б прывесьці шмат іх, але ня ў гэтым зараз наша задача. Наогул трэба сказаць. што беларуская народная творчасьць чакае яшчэ сваіх і дасьледчыкаў, і пісьменьнікаў, чакае выяўленьня сваіх глыбінь і мудрасьці, якія набыты працоўнымі ў выніку шматвяковага жыцьцёвага вопыту, у выніку працы і змаганьня з прыродаю, ды выражаны словам. Тут важна толькі зазначыць на той „духоўны“ капітал, з якім беларускія працоўныя масы зараз выходзяць на гісторычную сцэну творчасьці новага жыцьця, на той капітал, які павінен быць скарыстаны будаўнікамі новай соцыялістычнай культуры. Ён павінен быць скарыстаны, менавіта, як капітал, як тое „духоўнае“ багацьце, якое можна праціўставіць буржуазнай „духоўнай“ галоце, як багацьце, якое павінна легчы ў аснову для замены вось той самай пустоты, і ўрэшце, як капітал, што павінен стаць асноваю назапасеньня элемэнтаў соцыялістычнай культуры ў галіне мастацкай творчасьці.

Дарэмна некаторыя думаюць, што пролетарыят у хаўрусе з бяднейшым сялянствам і прыгнечанымі нацыямі,—прышоўшы на зьмену буржуазіі і шляхэцтва, каб выканаць вялікую гісторычную місію—да

[1]) „Сказки и рассказы белоруссов-полещуков“. Зб. Сержпутовского.

[2]) Параўнуй з вучэньнем аб першапрычынах сьвету мілецкага (старажытная Грэцыя) філёзафа Фалеса, які лічыў асноўным пачаткам „ваду“, а таксама і наогул з вучэньнем так званых грэцкіх гілёзоістых. Беларускія казкі таксама асноваю сьвету лічаць матарыяльнае.

зьнішчэньня эксплёатацыі чалавека челавекам і вызваленьня ўсіх сіл чалавецтва, дзеля таго, каб усе іх накіраваць на змаганьне з прыродаю і творчасьць і церaз гэта апанаваць сіламі прыроды ў інтарэсах усяго чалавецтва ды перайсьці з становішча пад у становішча над прыродаю,—дык вось дарэмна думаюць, што гэтыя клясы ня маюць аніякага жыцьцёвага вопыту і багацьця, якія-б давалі ім права на выкананьне вызначанай місіі. Гэтае багацьце ня толькі дае права, але вызначае сабою бясстрашную рэволюцыйнасьць і ўпэўненасьць у свае сілы і моц гэтых клясаў. Багацьце гэта вялікае, і яно толькі што яшчэ пачынае рэалізавацца, яно чакае яшчэ таго часу, калі будзе пушчана ў абыходак цалкам на карысьць разьвіцьця элемэнтаў будучай соцыялістычнай культуры. І каму, як не поэтам, у першую чаргу, ўзьнімаць гэтыя залежы, адкрываць скарбы гэтага багацьця і пускаць яго ў абыходак.

Першым сярод маладых беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, які аценіў народную спадчыну і які гэту спадчыну расчыняе і пускае яе каштоўнасьці ў абыходак, які ёю замяняе формы мінулага, зьяўляецца Ул. Дубоўка.

### 5. Форма і зьмест.

Існасьць культуры, да якой мы йдзём, зьмяшчаецца ў тым, што яна павінна быць пролетарскаю па зьместу і нацыянальнаю па форме, як гэта выражана формулаю Сталіна. Гэта формула не заўсёды правільна разумеецца ў абыходку і не заўсёды надаецца ёй тое значэньне, якое крые яна ў сабе. Часта тлумачаць „нацыянальная па форме“ толькі як выражанае на мове тэй ці іншай нацыі. Гэта пры дапасаваньні дадзенай формулы да літаратурна-мастацкай творчасьці. Сама „мова“ разумеецца, як пэўны комплекс слоў, якія адрозьніваюцца ад словаў другой нацыі толькі сваім фонэчным гучаньнем і ня больш. Пры такім разуменьні лічыцца, што калі літаральна, слова ў слова, перакласьці што-небудзь, скажам, з расійскай мовы на беларускую, то гэта ўжо і будзе пераклад, і сэнс ад замены слоў расійскіх беларускімі ня зьменіцца і не зьмяняецца. У гэтым вялікая памылка, з аднаго боку, а з другога, выяўленьне павярхоўных, абывательскіх поглядаў на рэчы і зьявы: яны, ўрэшце, даводзяць культурнае разьвіцьцё да застою, да заняпаду.

Мова тэй ці іншай нацыі, бязумоўна, гэта форма будучай соцыялістычнай культуры ў першую чаргу. Але што значыць форма? Няўжо гэта толькі гукавое ці слоўнае адзеньне? Чаму-ж тады беларус-селянін не зразумее і не паверыць, калі яму сказаць ну, хоць бы такую рэч: „бога няма, ёсьць толькі адна прырода, аснова якое матэрыя, і большага за яе ці другога чаго няма“, ды не паверыць гэта ў той час, калі ён у сваёй творчасьці мастацкай скэптычна адносіцца да гэтага самага бога, калі ён знае ў сваёй творчасьці ўсе шальмоўствы і штукі яго служкаў[1]), калі ён ня надта спадзяецца на сілу і міласьць самога бога, а працуе сам, сам арэ, сее, жне, косіць, малоціць і ня жыве, як „пціцы нябесныя“. А мусіць, толькі таму, што, так сказаўшы, гэта значыць—нічога яму не сказаць. Думка такая ня выказана на яго мове. Сказаць „бога няма“, гэта значыць, сказаць не ў конкрэтнай форме, а ў адцятай, не ў нацыянальнай, а ў інтэрнацыянальнай форме. Вы, сказаўшы: „бога няма“, быць можа, накіроўвалі свае стрэлы супроць рэлігіі і, напэўна, разумелі і адмаўлялі таго бога, якога стварыла рэлігія, скажам, хрысьціянская ці якая іншая, таго бога, які лічыцца за пачатак і творцу

---

[1]) Глядзі хоць бы казку „Прошча“ у зб. Сержпутоўскага, а таксама і інш. у тым-жа зборніку.

ўсяго сьвету, які ўвасабляецца, скажам, у трох асобах, або таго, што называюць абсолютнай ідэяй ці абсолютным духам і г. д. Словам, вы сказалі, што няма бога-абсолюта і, ўрэшце, дзівіцеся, што беларус ня верыць гэтаму, а часам яшчэ, наадварот, пачынае больш верыць і ненавідзіць тых, хто яму гэта кажа. Дык от-жа, няма чаго дзівіцца, бо гэтага бога, якога вы адмаўлялі і пра якога казалі, што яго няма, беларус і ня знае, і ня знаў. Вось чаму ён можа палічыць вас нават за „спакусіцеля“, бо вы ў яго вачох апынаецеся ў становішчы таго, хто нешта адкрывае новае, невядомае. У лепшым разе гэта пашырае толькі яго сьветагляд на бога, ён пачынае адкідаць аднаго, каб учапіцца за другога, каб свайго замяніць тым, якога адмаўлялі. Сапраўды, бо-ж ён апынуўся ў такім становішчы: ён верыў у свайго бога, у бога такога, як і сам, толькі больш за яго мацнейшага, у бога такога, які займаецца сваёй работаю і які, калі яго добра папрасіць, як просяць і суседа, або яму ўгадзіць, то ён не мяшаецца ў гаспадарскія справы, а, наадварот, нават можа часам і пасобіць што-якое,—і вось раптам яму кажуць, што няма бога, але такога, якога ён і ня ведаў. Ага, тады ён заключае, значыць, людзі ведалі большага бога, як мой, а калі людзі ведаюць, то ён, мусіць, і ёсьць. У выніку ў яго абуджаюцца шуканьні гэтага бога, бо ён ня ведае, што такое і прырода і матэрыя, пра якую яму казалі. Ён можа, нават, прыняць, калі хочаце, і іх за багоў, злучыў-жа ён сваю паганскую веру з хрысьціянскай, і ў яго сьвядомасьці ўжыліся мірна Ян і Купала, Улас і Велес, Нараджэньне Хрыста і Каляды і г. д. Адгэтуль становіцца ясным, што значыць форма. Фактычна бог таго беларуса, якому гаварылася, што бога няма, гэта толькі форма, у якой матарыялізавалася яго сьвядомасьць, вызначаная пэўным гісторычна-працоўным быцьцём, яго бог толькі форма, ў якой рэалізаваны яго жаданьні і імкненьні, скажам, быць добрым гаспадаром, мець добрую гаспадарку, мець вагу і значнасьць у сваім грамадзтве, сярод тых людзей, сярод якіх ён жыве, словам, наогул, імкненьні падпарадкаваць на сваю карысьць, у сваіх інтарэсах рэчы і зьявы тэй самай прыроды, а таксама зьявы людзкіх дачыненьняў. І вось калі ўзяць, скажам, такі выраз, як „бог цябе пакарае“, то, што гэта значыць у вуснах таго, хто так кажа ў дачыненьні да другой асобы? Гэта значыць застрашваньне другога, абсяканьне выяўленьня яго волі, тармажэньне тэй супярэчнасьці, перад творам якой апынуўся чалавек, які намерыўся нешта рабіць і нечага дасягнуць, які разьвязвае паўстаўшую перад ім жыцьцёвую задачу. „Пакарае бог“,—гэта сродак, пры дапамозе якога адзін чалавек становіцца над воляю другога. Пры дапамозе гэтага сродку дзейнасьць аднаго чалавека становіцца формаю выяўленьня волі і дзейнасьці другога. Вось чаму і такія словы, як „бога няма“, беларус-селянін успрыймае перадусім, як форму таго, што нехта хоча нешта зрабіць і для гэтага хоча скарыстаць і таго, каму кажа гэтыя словы. Тут ужо, як бачым, выяўляецца разуменьне і зьместу.

Ня будзем на гэтым больш спыняцца, бо для нашай мэты ўжо можна вызначыць, што такое і зьмест і форма. Зьмест—гэта тая жыцьцёвая задача, якая паўстае перад чалавекам, або грамадою, нацыяй, клясаю, і тое яе разьвязваньне, якое вызначаецца быцьцём. Форма—гэта процэс разьвязваньня гэтай задачы як-бы ў застылым яго стане, гэта, так сказаць, другі момант самой задачы і яе рэалізацыі. У дачыненьні мысьлі, зьмест гэта тое, што жыве ў сьвядомасьці, вызначанай пэўным быцьцём, а форма—гэта тое, што жыве ў быцьці, вызначане сьвядомасьцю. З разьвязаньнем пэўнай жыцьцёвай задачы

зьмест (тое, што жыве ў сьвядомасьці), зьнікае, і застаецца толькі форма, ужо як пэўны об'ект, які можа ўплываць на нашы пачуцьці і выклікаць тыя ці іншыя адчуваньні, а цераз гэта вызначаць сьвядомасьць тэй ці іншай асобы, нараджаць у ёй зьмест, інач ай кажучы, ў яго пераходзіць.

Дык вось усе тыя назапасеньні, увесь той капітал, які застаўся пролетарыяту ад разьвязваньня тэй ці іншай нацыяй задач, што паўставалі перад ёю ў процэсе гісторычнага жыцьця, усё гэта для яго форма. Гэты капітал для пролетарыята зьяўляе сабою той об'ект, якім павінна вызначацца сьвядомасьць у сродках, неабходных і карысных пры разьвязаньні тэй гістарычнай задачы, што перад ім паўстала ў нашу эпоху. Нацыянальная форма—гэта капітал, неабходны для рэалізацыі пролетарскага зьместу. Вось чаму можна зараз казаць пра мастацтва пролетарскае, як адну з галін пролетарскай культуры. Соцыялістычная-ж культура будзе культураю, якая стане над пролетарскаю культураю. Для гэтай культуры тыя назапасеньні, што застаюцца ад разьвязаньня задач нашай эпохі, будуць толькі формамі, і формамі пролетарскімі, як для нас назапасеньні мінулых вякоў зьяўляюцца формамі буржуазнымі. Вось чаму можна сказаць, што пролетарыят рэалізуе свой зьмест у пролетарскай форме. Гэтыя формы будуць вызначаць зьмест сьвядомасьці будучай грамады, сьвядомасьці, накіраванай на разьвязаньне задач, што паўстануць у змаганьні толькі з прыродаю, як матарыяльнай стыхіяй, бо-ж у будучым соцыялістычным грамадзтве падзел людзей на клясы зьнікае.

Вось чаму асаблівае значэньне набывае творчасьць таго пісьменьніка ці поэты, які для матарыялізацыі пролетарскага зьместу поўнай жменяй выкарыстоўвае нацыянальныя формы, выкарыстоўвае беларускі нацыянальны „духоўны“ капітал. У ліку такой творчасьці знаходзіцца і поэзія Ўл. Дубоўкі. Яна, сапраўды, пролетарская творчасьць у вышэй пададзеным сэнсе, а цераз гэта носіць у сабе элемэнты таго назапасеньня, якое адбываецца ў сучасную эпоху для культуры соцыялістычнай.

Поэзія Ўл. Дубоўкі, кажучы мэтафорычна, не гаворыць: „няма бога, апроч адзінага бога і Магомэт—прарок яго“. Яна кажа, што ёсьць нешта большае, якое крыецца ў нас-жа самых і нашых дачыненьнях у грамадзтве. Яна ня кажа: глянь, вунь твой бог, яму маліся і яго слухай. Яна кажа: твой бог у табе самым, у тваіх дачыненьнях да вакольнага: яна кажа: заглянь у прадоньне самога сябе і сваіх дачыненьняў да вакольля, і ты пазнаеш, што сіла ў гэтых дачыненьнях, што ты сам, пазнаўшы іх, можаш тварыць. І яна апавядае, які ўжо вопыт мае поэта, а таксама, які вопыт кажуць мінулыя вякі. Вось у гэтым яе і каштоўнасьць, у гэтым яе вялікае выхаваўчае значэньне для сучаснага чалавека. Адначасна-ж яна паказвае на „духоўнае“ багацьце тэй клясы, якая зараз прышла на зьмену буржуазіі і творыць новае жыцьцё; яна паказвае на вытокі новай пролетарскай культуры, паказвае на тое, чым трэба і льга замяніць, здавалася незаменнага, ідала буржуазнай культуры, яе шчыгільство „формамі“, яе вонкавы бляск і пустэчу за бляскам, якою яна сталася на „закаце“ таго ладу, у якім разьвілася была да таго стопню, калі стала годнасьцю агульналюдзкаю, гэта ладу капіталістычнага. Крыніцамі выражаньня такога зьместу зьяўляецца і тое, што зьмяшчаецца ў такім разьдзеле „Трысьця“, як „Асабовае“.

## 6. Адчуцьцё.

Гукі і гукавыя вобразы на ўзрокавым фоне—вось тое, ад чаго выходзіць кірунак творчасьці Ўл. Дубоўкі. Гэта якраз тое, чаму мала аддавалася ўвагі поэтамі мінулага, а часам і цяперашняга часу.

Творчасьць Ул. Дубоўкі зьяўляецца поэтычным выражэньнем таго вакольнага гучаньня, якое разьліта ў сучаснасьці на фоне імгліста-туманнага далягляду. У „Строме“ мы наглядалі, як гукі „кроў крынічаць“. Лейт-мотывам і „Трысьця“ зноў такі зьяўляюцца гукі. Гэтыя-ж гукі зьяўляюцца асноваю і „Credo“.

„Помню і помніць буду да жвіру
словы і сьпевы, дзе слоў ня было—

кажа поэта ў першым вершы з разьдзелу „Асабовае“. Прадметнае, рэчавае (словы і сьпевы), як бачым, тут толькі ахварбоўка таго, што некалі было чута і што зараз помніцца. Гэта ахварбоўка урэшце сьціраецца адмаўленьнем („дзе слоў ня было“ [1]). Такім чынам, застаецца нешта як-бы абязрэчанае, як гук, як здань. Гэта нешта ад таго, што

„Сенажаці зорак маўклівых
Турбавала на хвалях вясло,—

ад таго што

Соўкала човен нямое прадоньне.
Месяц і сонца цьвятлівілі шлях.

Цікава зьвярнуць тут увагу на эпітэты „маўклівыя“, „нямое“, якімі характарызуюцца крыніцы слоў і сьпеваў, дзе слоў ня было.

Гэтыя „словы і сьпевы, дзе слоў ня было“ ня столькі ад зрокавага або слухавога ўспрыманьня вакольнага сьвету, сколькі ад чуцьця формы разьвіцьця таго, што бродзіць у жыцьці, што і „ад подыху жывіцы сасновай, а таксама хварэе чым дуб“. Гэта-ж зьяўляецца прычынаю і таго, што поэта выражае словамі: „ёсьць, як быў, адзін“. Вось чаму поэта з моцнай упэўнасьцю заканчвае першы верш „Асабовага“ вітаньнем заўтрашняга і сьцьвярджэньнем:

Вясна мая, жыцьцём маладая,
Табе я ня здрадзіў, з табою быў,—

Гукі, гукавыя вобразы, чуцьцё формы разьвіцьця, усё гэта для свайго выяўленьня і выражэньня вымагае асобых сродкаў, бо-ж і гукі гэта таго, што ўзрастае на глебе сёньняшняга і верхавінаю сваёю расьце ў заўтрашняе, гукі таго, што красавацьме заўтра. Ня дарма і ў фонічным дачыненьні часта ў вершах Ул. Дубоўкі паўтараюцца гукі складанага зычэньня („У *прась*цягах *празр*ыста нязнаных“, „*спр*ыяла *здрант-в*еласьцю млець“, „неа*бс*яжных, не*пр*алетных, як лёс“; часта гучаць *пр*, *стр*, *спр*, *тр*, *ск*, *ст*, *сп* з пераходамі да гукаў санорных *л*, *н*,—„*сьп*яваць будзе з *намі* ў *тры*сьці між *сьц*юдзёна-*лі*лёвых туманаў“, „толькі *дрв*івасьць, нявыра*зн*ая мара не*прад*о*н*ныя це*пл*івіць зірку агні“ і інш.). Гэта абумоўлівае сабою асобыя словы і іх конструкцыі. Поэта сам кажа:

Ці знайду шурпавата-звычайныя словы,
лятуценьні заістужыць шлях іі знайду?
Аб подыху жывіцы сасновай,
А таксама хварэе чым дуб?

Якая тонкая іронія ў гэтым „шурпавата“! Звычайнае не для ўсіх бывае звычайным, а бывае і шурпаватым. І поэта як-бы выказвае сваё мастацкае credo аб неабходнасьці новага слова дзеля выяўленьня таго, што кінутае ў зямлю новае семя прарастае новай руньню, дзеля выражэньня самога росту „маўклівага“ і „глухога“ (для маўклівых і глухіх).

То-бо-то нурцуюць вочы ў прасторах
неабсяжных, непралётных, як лёс.

[1]) Параўнуй выраз М Горкага: Чалавек гэта ты, я, ён, чалавек гэта ня ты ня я, ня ён.

І ня важна, хто, „які і каторы“ кінуў гэта семя, важна тое, што ўсход ужо ёсьць і „сіньшы за неба ад соку лён“. Адгэтуль:

> Разьліюся струною дажджоў доўгазвонных
> І прыкленчу едлянцовым куп'ем,—

кажа поэта. Гэта і будзе „малодзіва сэрца“, гэта і будзе пасьціланьне ніц лістамі дрэў лясных, пасьціланьне шляху для прыходу другога, які выявіць і выразіць вось гэтыя гукі, што напаўняюць сабою прасторы, ува ўсёй іх паўнаце і велічы.

Я падкрэсьліў „струною дажджоў доўгазвонных“ таму, што ў гэтым, менавіта, і дэвіз кірунку творчасьці Ул. Дубоўкі. Струна—дождж—доўгазвоннасьць—вось гэта трыадзінства тонкага вохкага і звоннага (зрокавае, слухавое і ашчупальнае) і мысьліцца ў дакляраваньні таго, што выказана словамі „прыкленчу едлянцовым куп‘ем“.

Гэта і мысьліцца як дар тэй босай, занядбанай зрэб‘ем дзяўчыне—лілеі—каліне, у зірку якое прадоньне, што крые шмат чаго ад вока людзкога. Крые нявычэрпныя магчымасьці нарадзіць новы сьвет—красу заўтрашняга. Ясна, што гэта дзяўчына, якая апяваецца ў гэтым вершы, толькі вобраз вакольных гукаў, вобраз, якім выражаецца адчуваньне формы разьвіцьця таго, што кінута і бродзіць у жыцьці. Тут выяўляецца імкненьне поэты зьліць у вадзіным вобразе рэальнае выяўленьне рэчаіснасьці з ідэальным выражэньнем творчае існасьці чалавека ў асобе беларускае дзяўчыны.

---

Беларуская літаратура да Кастрычніка ў пераважнасьці, а таксама ў асобе некаторай плыні і пасьля Кастрычніка, мела на мэце выяўленьне беларускай рэчаіснасьці ў слове, і ўжо цераз асіленьне гэтай мэты яна станавілася выражэньнем творчай беларускай існасьці. Такі характар творчасьці і Ф. Багушэвіча, і Я. Купалы і Я. Коласа і інш. Цераз выяўленьне рэчаіснасьці—да адраджэньня, такі шлях беларускай мастацкай літаратуры канца XIX і пачатку XX стагодзьдзяў. Цераз выяўленьне ўсіх цёмных старон рэчаіснасьці—да абуджэньня протэсту супроць яе, і цераз выяўленьне сьветлых бакоў Беларусі—да яе замілаваньня, да любасьці к ёй, да абуджэньня творчых сіл, што ў ёй крыюцца. Гэтаму адпавядала творчасьць адраджаністых, калі давала ў сваіх творах такія жудасныя малюнкі стану Беларусі, якія знаходзім у Багушэвіча або Купалы, і такія малюнкі, скажам, прыроды, як у Коласа, зачарованасьці і старажытнасьці, як у М. Багдановіча, або перажываньняў, як у А. Гаруна або З. Бядулі і, урэшце, палітычнай рэволюцыі ў маладнякоўца М. Чарота. У мастацкім слове адраджалася беларуская рэчаіснасьць, каб тым самым стварыць умовы для нараджэньня і самога „духу беларускага“ ў быцьці, ці праўдзівей не нараджэньня, а вызваленьня з той турмы—забітасьці, у якую ён быў загнаны гістарычнымі ўмовамі. У гэтым адраджанізм беларускай літаратуры. Ён адчуваецца, як кірунак, у шмат якіх творах і сучасных маладых пісьменьнікаў, калі яны ставяць сваёю задачаю выяўленьне ў слове рэволюцыйнай рэчаіснасьці на Беларусі. У дадзеным выпадку дык гэта толькі зьмена об‘ектаў выяўленьня, а насьлядоўнасьць—ад дакастрычнікавага кірунку творчасьці.

Рэволюцыяй ў дачыненьні да гэтага кірунку беларускай літаратуры ёсьць кірунак творчасьці, выяўленьнем якога зьяўляецца і поэзія Ул. Дубоўкі, асноўная задача якое вызначаецца ўтворанымі адраджанізмам умовамі быцьця беларускай літаратуры і выражаецца ў поэме „Там, дзе кіпарысы“ словамі: „хто дайлідзіць духу трыкліні?“ З гэтага

боку па праву і заява поэты: „Можаце лаяцца“... і далей: „Вока маё ня міргне палахліва, хоць і ёсьць, як быў адзін“. Тут і корань „асабовага“, як падыходу да мастацтва, так і наогул да проблем сучаснасьці, асабліва да пытаньня аб формаваньні цэльнага сьветагляду, а таксама, да пытаньня аб шляху беларускай творчасьці ў будучыну соцыялістычнай культуры.

„Асабовае ў Ул Дубоўкі ня мае характару асабістага выяўленьня рознастайнасьці сваіх уласных перажываньняў, гэта не індывідуалізм, а выражэньне таго асабовага „бражэньня“ ў сьвядомасьці сучаснай беларускай рабочай і сялянскай моладзі, якое яе мучыць усімі вялікімі пытаньнямі сучаснасьці, што пастаўлены ў пяршыню Кастрычнікавай рэволюцыяй ва ўсіх галінах жыцьця, ня выключаючы і літаратурна-мастацкай творчасьці.

## 7. Імкнённасьць.

У кожнага чалавека ёсьць свой уласны жыцьцёвы вопыт. У аднаго ён большы, а ў другога меншы. Адзін ведае жыцьцё шырока і глыбока, другі яго ведае павярхоўна і вузка. Усё гэта залежыць ад таго кола быцьця, у якім той ці іншы чалавек жыве, залежыць ад тэй жыцьцёвай практыкі, якую чалавек праходзіць за свой век. Нядарма-ж ёсьць на гэта і беларускія прыказкі, прыкладам:

„Якая матка. такое і дзіцятка,
„Якая прыправа, такая і патрава,
„Які куст, такі і адростак,
„Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі й сын“

і іншыя такога-ж роду.

Так народны вопыт сьведчыць аб тым, што якасьцю атачэньня, як творчага фактару, вызначаецца і якасьць твору, як факту вытворнага. І, вядома, чым больш чалавеку даводзіцца ў змаганьні за свае існаваньне (барацьбе і працы) выяўляць сваю волю ці то дзейнасьцю ці якім іншым спосабам, у адказ на плыні, што накіраваны на яго з атачэньня (з „не-я“), тым у чалавека большы жыцьцёвы вопыт, тым большае ў яго пазнаньне гэтага атачэньня і, наогул, вакольнага быцьця, тым большае ў яго назапасеньне фактаў і вывадаў з іх, якія для чалавека, ўрэшце, становяцца ў той ці іншай меры нормаю або законам яго звычаёвасьці, яго абыходжаньня з людзьмі, яго дачыненьняў да „не-я“ і яго крытэрыем у ацэнцы фактаў выяўленьня „не-я“. У залежнасьці зноў-жа і ад умоваў жыцьця і ад становішча чалавека ў гэтым жыцьці яго назапасеньні жыцьцёвага вопыту формуюцца ў некаторае адзінства і складаюць у сьвядомасьці як-бы ўласны вобраз сьвету. Але хоць і ўсім жыцьцёвым вопытам вызначаецца гэты вобраз сьвету, усё-ж-т‘кі ў яго склад уваходзяць ня ўсе элемэнты назапасеньняў гэтага вопыту. У кожнага чалавека шмат якія з гэтых элемэнтаў ападаюць якбы на „дно душы“ і ляжаць, тояцца ў засьвядомасьці, аж пакуль якінебудзь прамень не разарве яе заслоны і такім чынам ня выкліча іх да жыцьця ў сьвядомасьці. Бывае так, што такім праменем зьяўляецца той ці іншы жыцьцёвы факт, а бывае так, што адно слова нават прабівае заслону і пачынае вакол сябе, як каля якога моцнага, з вялікім зарадам прыцягальнай і адпіхальнай энэргіі, цэнтру формаваць *за*бытыя (тыя, што знаходзіліся *за* быцьцём) элемэнты жыцьцёвай практыкі. І далей ужо ясна, што ў сьвядомасьці адбываецца свайго роду пераварот-рэволюцыя. Гэты процэс перавароту можа праходзіць у двух кірунках: 1) або „вобраз сьвету“, які панаваў у сьвядомасьці, разбураецца дашчэнту і яго месца заступае другі, або 2) толькі

разбураюцца рамкі старога „вобразу сьвету“, без зьнішчэньня таго, што яны ў сабе зьмяшчалі, і гэты зьмест злучаецца з новым у больш шыршы ці глыбшы „вобраз сьвету“. Адгэтуль вынікае ўся веліч значэньня і мастацкай творчас ці, як фактара творчага, як чыньніка ў фармаваньні жыцьцёвага вопыту чалавека.

Творчасьць мастака, такім чынам, раскрываецца перад намі ў новым сьвятле. Чым рознастайней па якасьці (у сэнсе значэньня) словы, з якіх складаецца мастацкая будова, чым шыршыя і глыбшыя дагляды чалавечага „я“ яны здольны з сабою асоцыяваць, тым мастацкі твор каштоўней у выхаваньні (у шырокім сэнсе гэтага разуменьня) новага чалавека, чалавека соцыялістычнай грамады.

Нам уяўляецца, што чалавек соцыялістычнай грамады павінен быць шырокім і глыбокім у сэнсе знаньня жыцьця, бо чым шырэй і глыбей ён ведацьме жыцьцё, ведацьме сьвет, тым над шыршым і большым кругам існага ён здолее выяўляць сваю волю, тым над большым колам сьвету ён будзе гаспадарыць, а значыць, будзе бліжэй да шчасьця ўсяго чалавецтва.

Ф. Дастаеўскі вуснамі аднаго з сваіх гэрояў калісь быў сказаў, што „чалавек зашырок, я-б яго звузіў“. І калі гэта праўдзіва ў дачыненьні чалавека ў асобе адзінак, то гэтага нельга сказаць у дачыненьні да чалавека, як масы. Не дарма сучасны расійскі поэта В. Казін кажа, што „профессией повеял человек“ у нашы дні. Гэта пашырэньне агульнага, але не асабовага, пашырэньне, я-б сказаў, таго, што выражаецца словам „мы“, але не таго, што зьмяшчае „я“. Без пашырэньня-ж „я“ ня можа быць якаснага пашырэньня і „мы“.

Вось-жа, імкнённасьцю, з аднаго боку, выразіць і выявіць творчыя магчымасьці і перажываньні беларускага селяніна і рабочага, што яшчэ ўчора быў пастухом, а сёньня ўжо яму кажуць „інтэлігэнт“ (верш „Нікне ўсё“ у зб. „Credo“), а з другога боку, даць моцны чыньнік у справе якаснага пашырэньня „я“ сучаснага чалавека ў асобе працаўнікоў новай культуры, даць чыньнік у справе выхаваньня новага чалавека,—гэтай імкнёнасьцю адзначаецца і творчасьць У. Дубоўкі. Другая справа, як гэта дасягаецца. Гэта пытаньне другога парадку, і разьвязаньне яго залежыць ад выяўленьня разуменьняў мастацтва рознымі станамі нашага грамадзтва. Ад гэтых разуменьняў будзе залежаць і падыход. Цяпер-жа аб імкненнасьці. Яскравым фактам, што сьцьвярджае вышэйпададзеную думку, зьяўляецца і такі факт, як сынтаксычна-рытмічная композыцыя Ул. Дубоўкі ў межах асобнага сказу, а таксама і ў межах цэлага твору. Аснова гэтай композыцыі ў злучэньні слоў у адно цэлае з такім разьлікам, што словы, з якімі зьвязаны звычайныя прадстаўленьні або разуменьні, злучаюцца ў такім парадку, каб сынтэзаваць разуменьні з рознастайных галін і пазнаньня і адчуваньня і тым самым выразіць адпаведнае перажываньне. Адгэтуль як вынік—сакавітая, а часамі і аціжаная сэнсам, мэтафорычнасьць, што складае адну з стылістычных адзнак творчасьці Ул. Дубоўкі. Гэта гучаньне рознастайных куткоў „беларускай душы“, вызваленай Кастрычнікам ад тых пут і ланцугоў, што з добрай ласкі розных „дабрадзеяў“ называліся такімі іменьнямі, як „мужык“, „хлоп“, „быдла“, або „земнаводнае“ (Рэклю) і г. д. Зазначым тут яшчэ, што гэтыя куткі пакуль што абмяжоўваюцца ў творчасьці Ул. Дубоўкі такімі рамкамі (у сэнсе спосабаў сродкаў выражэньня), як: 1) прырода (у пераважнасьці), 2) народная творчасьць (як дух), 3) гістарычныя зьявы (як эпізоды бунтаў), 4) праявы сучаснага жыцьця (як фактары выяўленьня і фармаваньня новых імкненьняў у сучаснасьці).

Прыкладам вышэйназначанага прынцыпу композыцыі ў межах сынтаксычна-рытмічнага сказу могуць быць першыя радкі з Трыпціху:

Журавінамі плача восень.
Апавіўся тугою абшар.

Вось цэлы, але сьцісклы малюнак. Восень, абшар, плач, апавіваньне, журавіны і туга—гэта матар'ял, з якога збудованы малюнак. Але калі ўзяць пад увагу значэньне слова, то становіцца ясным, чаго выражэньнем зьяўляецца і восень, і абшар, да якіх дапасованы дзеяньні і станы плачу і апавіваньня і якія верхнімі свамі вокрыўкамі—выяўляюцца, як журавіны і туга (у дадзеным злучэньні). Гэта выражэньне таго-ж, што ў другім вершы выказана словамі: „Плач душою, а часіны прыдуць, сьлёзы завіюцца у каралі“—гора, пакута пераходзіць у радасьць. Кожная зьява крые сама ў сабе і сваё адмаўленьне,—у горы ёсьць і радасьць, а ў радасьці гора.

Парадак слоў у вышэйпададзеных радкох такі, што дзейнікі у глыбі сынтаксычнай будовы, а вытворнае ад іх на перщым плане,як-бы на версе. Сярэдзіну-ж займае самы працэс дзеяньня. Гэтым самым поэта як-бы вядзе чытача ад узьверхняга, ад відомага ў глыб, ад знадворнага ва ўнутранoе і, такім чынам, як-бы паказвае дзьве стораны аднэй зьявы, праўдзівей, два моманты яе выяўленьня ў адзіным процэсе руху. У гэтым—трыадзінства зачыну дадзенага вершу. Першая частка (першы радок),—процэс „плачу“ у цяперашнім часе выражэньня, у ім, з аднаго боку, „журавіны“,з другога, „восень, як дзейнік. Другая частка—процэс „апавіваньня“, і ў ім, з аднаго боку, „абшар“, з другога, „туга“, гэта ўжо ў прошлым скончаным часе. У гэтым апошнім дзеяньне замыкаецца ў самым дзейніку, у першым-жа яно адходзіць ад дзейніка ў выглядзе як-бы пэўнага выніку за межы дзейніка („журавіны“). Выходзіць,—размыканьне цяперашняе йдзе ад замыканьня ў прошлым: што замыкалася ў сабе ў мінулы час, тое зараз раскрываецца цэльнасьцю як-бы назапасеных каштоўнасьцяў. Якія гэтыя каштоўнасьці, гэта пытаньне другое. Мо' гэта толькі пакуль што „журавіны“. Віна тут ужо не поэта. Важна пастаноўка пытаньня аб выяўленьні і яго разьвязаньне, дадзенае поэтам.

Спакойна-апавядальны тон зачыну цалком адпавядае форме Трыпціха. Гэта форма—разгортваньня ў трыадзінай постаці некаторага адзінства перажываньня, некаторай адзінай існасьці. Так яно і ў Дубоўкі, праўда, з зрывамі на выклічы і на правяшчаньні. Спакойна-апавядальны тон ня вытрымліваецца да канца. Але гэта ўжо наогул адна з асаблівасьцяў творчасьці Ул. Дубоўкі, тлумачэньня якой трэба шукаць у бурна-дзейным духу нашай эпохі. Там, дзе выражаецца само дзеяньне, самы рух, там і адпаведныя сродкі выражэньня, выклічы, пытаньні, недаказы, антытэзнасьць і да г. п.

Дзе бурная актыўнасьць, там няма спакою. Вядома, што з пераходам да ўзглядна спакойнага і разьмеранага тэмпу будаўніцтва новага жыцьця і творчасьць мастацкая, адбіваючы ў сабе гэты тэмп, будзе набываць ўсё больш спакойна-эпічныя і апавядальныя тоны, будзе ўсё больш і больш набываць мэлёдыйнага гучаньня, але гэта, бязумоўна, не адмовіць сабою напружнасьці і цьвёрдасьці ў сэнсе характару творчасьці, якое будзе цягнуцца яшчэ доўгі час. Віхурнасьцьжа і бурнасьць з узрывамі і зрывамі будзе адыходзіць у мінулае. З прычыны гэтага кругабег рэволюцыйнай лірыкі ў беларускай літаратуры пачне зараз уступаць месца кругабегу рэволюцыйнага пролетарскага і сялянскага эпосу, пазьней крыху прыдзе драма. Вядома, мы кажам тут толькі аб пераважнасьці таго ці іншага віду творчасьці, а гэта ня значыць, што ў сучасную пару не разьвіваецца той ці іншы від.

## 8. Грунт.

На чым-жа грунтуецца конструкцыя разуменьняў з розных галін людзкога пазнаньня і адчуваньняў у творчасьці Ул. Дубоўкі? Усе віткі мастацкай творчасьці Дубоўкі ў асноўным выходзяць ад двух *крыніц: „не-я“ і „я“, прырода з яе праявамі і чалавек з сваімі,—як* асабовага, так і грамадзкага парадку. Кожная з гэтых крыніц падзяляецца ў сваю чаргу на некалькі ручаек. Так другая крыніца выбіваецца то асабовымі перажываньнямі, то фактамі гістарычных падзей, то фактамі мастацкіх народных каштоўнасьцяў, то фактамі сучасных грамадзкіх падзей і інш.

У якім-жа дачыненьні знаходзяцца прырода і „я“ ў творах Дубоўкі? Прырода ў іх выступае то як об‘ект, які зьяўляецца фактам (сродак) выяўленьня або выражэньня эмоцый і волі „я“, то як фон для гэтага выяўленьня. Той ці іншы душэўны стан як-бы адлучаецца ад „я“ і прыпісваецца зьявам прыроды, як асобам. Асабовае становіцца агульным, суб‘ектыўнае выражаецца ў форме об‘ектыўнага.

„Журавінамі плача восень“. Плач—гэта праява чалавечага. Восень і журавіны—стан і праява прыроды, праява об‘ектыўнага. Першае злучаецца з другім, асабоваму надаецца агульнасьць у постаці пары. Апроч таго, цераз такое злучэньне, цераз гэту форму выражэньня асабовага выражаецца яшчэ і некаторае вышэйшае адзінства, менавіта, адзінства „духоўнага“ і „матар‘яльнага“, унутранога і знадворнага. Пэўны стан псыхікі—гэта што пара году, у дадзеным выпадку—восень. Праявы псыхічнага ўпадобны праявам прыроднага (сьлёзы-журавіны). Журавіны—сьлёзы восені. Адгэтуль вывад: ад падобнага да восені стану псыхікі, стану асобы, павінны быць „журавіны“. Далей гэты вывад дадзены ў словах:

> Калі песьня журбу не прагоніць,—
> яе не адкіне далонь.

Восень і журавіны, журба і песьня—вось дзьве пары трэцяга адзінства. Боль душы—гэта плач восені і наадварот. Адгэтуль выражэньне стану асабовага ў форме ўзаемадзеяньня „я“ і прыроды. Тое, што зазвычай выражаецца словамі „сэрца разрывеацца“—гэта „верасень сэрца калечыць пальцамі жоўтых кляновых лістоў“. Настроі, жаданьні і імклівасьць да нечага, зьмена аднаго стану сьвядомасьці другім—гэта верасень з пальцамі лістоў. Сэрца разрываецца—гэта абапіраньне гэтымі пальцамі, боль—гэта сьляды іх.

Калі першы верш Трыпціху прадстаўляе сабою выражэньне стану асабовага („надзвычайна баліць душа“), то другі зьяўляецца выражэньнем працэсу, якім вызначаны гэты стан, а трэцім вершам выяўляецца той як-бы дзейнік, якому прысвойваецца дзеяньне. Гэта падобна да таго, што наглядалася ўжо ў сынтаксычна-рытмічнай будове зачыну Трыпціха.

„Журавінамі плача восень“. Адпаведна гэтаму першы верш выражае відомы пакроў, тое, што непасрэдна ўспрымаецца пачуцьцём; ён як-бы ўвасабленьне постаці „журавін“. Другі верш зьяўляе сабою выказьнік, якім вызначана першае. Трэці ўвасабляе сабою дзейнік або асобу, ад якое адыходзіць дзеяньне. Боль душы выражаецца першым вершам, другім выказваецца тое, што арадзіла гэты боль душы, праўдзівей, самы працэс гэтага нараджэньня („Наша доля павінна быць з намі, бо дагэтуль яе ня было“), і, нарэшцэ, трэці верш выражае дзейніка—гэта песьня („І засохне прыбалотны хмызьняк, калі песьня журбу не прагоніць“).

Зьварочвае на сябе ўвагу і тое, што ў першым вершы фігуруе „я“ у стане цяперашняга часу, у другім ўжо „мы“, і ў стане ўжо жаданага, будучага, у трэцім—зноў „я“, але ўжо ў стане прошлага часу. Такім чынам, аснова композыцыі тут дыалектычная: 1) знадворны выгляд таго, што ёсьць, 2) гэтым „ёсьць“ вызначаецца імкненьне і шлях у тое, што будзе,—вызначэньне гэта—унутраны працэс самога „ёсьць“ і 3) крыніцы таго, што ёсьць і яго працэсу-руху ў глыбі прошлага, ў тым, што было. Ад „я“—шлях к „мы“, якім вызначаецца зьмест самога „я“.

Калі ў Трыпціху наглядаецца выражэньне асабовага цераз агульнае (у дадзеным разе праз зьявы прыроды), то ў апошнім вершы „Асабовага“ гэтае адзінства выражаецца ў праявах „я“ з праявамі другой асобы, у праявах унутранога з выглядным. У вершы „Ты руку сваю забінтавала“ выражаецца „разрываньне сэрца“. Але калі вышэй гэта было пададзена ў вобразе „верасень сэрца калечыць“, то тут у вобразе „ты руку сваю забінтавала, маладая“. Рука паранена,—адкідала журбу. Раніцца і сэрца, адганяючы „вялікую тугу“, але не разрываецца, хоць і „рвецца на кавалкі“, бо „сьціскаецца тугой вялікай“. Яна—туга—гэта што бінт на руце. Адгэтуль роднасьць:

Вусны пацалую шчыра, моцна,
Прытуліся . . . .

Рука паранена і забінтована ў „маладой“, але журба не прагнана,—яе можна асіліць толькі песьняю. Вось чаму

„Плач душою, а часіны прыдуць,
Сьлёзы завіюцца у каралі“.

Гістарычнае назапасеньне жыцьцёвага працоўнага вопыту перат твараецца ў магутны гісторычны фактар.

Вершам „Ты руку сваю забінтавала“ і завершаецца нізка вершаў „Асабовага“, а разам з тым завершаецца і тое, што выказана ў Трыпціху словамі:

Наша доля павінна быць з намі,
бо дагэтуль яе ня было.

### 9. „Камень“.

„Ёсьць толькі тое, што ёсьць“. І калі мы кажам „няма“, або „ня было“ чаго-небудзь, то гэта яшчэ ня значыць, што таго, аб чым так гаворыцца, зусім няма, а бо ня было. Яго можа ня быць у тым коле быцьця, якое мы наглядаем ці пра якое кажам: гэтае кола як-бы ня мае яго (адгэтуль „няма“). Але кажучы, што чаго-небудзь няма, мы тым самым кажам, што мы яго ведаем. І тут паўстае пытаньне: адкуль-жа ў нас зьявілася гэта веданьне, і, наогул, ці можам мы ведаць і знаць тое, чаго няма або ня было?

Ёсьць ўсё. І справа толькі ў тым, у якой форме гэтае „ёсьць“ выяўляецца або выражаецца, будучы абмяжованым праз наша ўспрыйманьне усяго ў колах прастору і часу. Што-небудзь адмаўляючы, мы фактычна хочам гэтым самым паказаць або проста выражаем яго дачыненьне да таго, што нам вядома, што мы лічым за норму або за гэткую прыймаем. Адмаўленьне выражае дачыненьне. Нават, калі што-небудзь мы адзначаем як адмоўнае, то гэтым мы толькі выражаем дачыненьне, а не ўласьцівасьць. Нішто ня ёсьць ні адмоўнае, ні станоўчае: „ўсё такое, якое ёсьць“, як кажа К. Чорны. Нашаму-ж пазнаньню

ўсе рэчы і зьявы, наогул сьвет об'ектыўнага, адчыняюцца толькі ў дачыненьні між сабою двух дадзенасьцяў, двух постацяў. І ўсякае наша разуменьне гэта ёсьць выражэньне гэтых дачыненьняў між рэчамі і зьявамі.

Наша мова—гэта выражэньне дачыненьняў. Яна ўласьцівасьць чалавека (як факта асабовага, соцыяльнага, нацыянальнага, клясавага і г. д.). Адгэтуль—мова выражае ў першую чаргу дачыненьні таго, што складае „не-я", да таго, што зьмяшчае „я", пры гэтым выражае яго так, як гэтыя дачыненьні азваліся ў адчуваньнях, пачуцьцях і думках. Выражае мова таксама і адваротныя дачыненьні. Далей ужо на фоне дачыненьняў у чалавека ўтвараюцца прадстаўленьні аб об'ектах. Прадстаўленьні гэтыя зьяўляюць сабою некаторае сынтэтычнае ўяўленьне ўласьцівасьцяў што раскрыліся ў дачыненьнях між суб'ектам і об'ектам. На аснове дачыненьняў утвараюцца і вобразы, а ўрэшце і паняцьці. Усё гэта ў выніку жыцьцёвай практыкі непадзельна як-бы зростаецца з пэўным комплексам гукаў.

Фактычна самі прадстаўленьні, вобразы, і нават паняцьці зьяўляюцца ня больш ня менш, як выражэньнем станаў сьвядомасьці ~~ча-~~ чалавека, станаў яго псыхікі ў моманты дачыненьняў да яго сьвету об'ектыўнага. Бязумоўна, гэта ў сэнсе непасрэднасьці значэньня выражэньня. На выражэньні гэтым грунтуецца і воля чалавека да дзейнасьці, яго імклівасьць, накіраваная або ад чаго-небудзь або да чаго-небудзь. У вызначэньні-ж характару волі галоўную ролю адыгрывае назапасеньне прадстаўленьняў, вобразаў і паняцьцяў. Я не кажу тут пра характар яе накіраванасьці, бо ён вызначаецца ў першую голаў фактамі соцыяльна-экономічных дачыненьняў.

Чалавек за свой век, за сваё мінулае перажыў столькі станаў сьвядомасьці, сколькі ў яго мове слоў і сколькі „статуй" з гэтых слоў ім выкавана за час свае гісторыі, а перажыве яшчэ столькі, сколькі льга ўтварыць новых слоў і новых пабудаваньняў, нават з тых слоў, што ўжо ёсьць. Абодвы канцы гэтай лініі губляюцца ў бесканцовасьці. У гэтым сэнсе чалавек—прадоньне і ў ніз, і ў верх.

Такім чынам, і „няма" гэта толькі форма выражэньня, якую мы называем адмоўнаю ў процілегласьць другой форме—станоўчай або станавітай („ёсьць"). Дачыненьне між гэтымі формамі такое: „няма", якое выражае „я" (асабовае), тым самым ужо выражае „ёсьць" „не-я" (агульнае) і наадварот. Адгэтуль „туга вялікая" поэты, якою сьціскаецца сэрца, зьяўляецца адначасна выражэньнем вакольнай імклівасьці і характару волі агульнага ў яе сучасным праяўленьні. Вось чаму праз гэту „тугу" ня тугою захопліваецца чытач, а імпэтам, я-б сказаў, нацыянальнай і клясавай волі, накірованай да творчасьці новага жыцьця, захопліваецца ёю часта, быць можа, зусім для сябе бесьсьвядома. Іначай нельга тлумачыць абуджэньня волі да дзейнасьці ад чытаньня лірычных вершаў Ул. Дубоўкі, замест тугі, суму ці якога-небудзь хныканьня.

Усе людзі адчуваюць. Усе перажываюць. Але ня кожны ў аднолькавай меры і форме, даступнай усім, можа выразіць або выявіць гэта і адчуваньне і перажываньне. З прычыны гэтага ня кожны ўласьцен над сваімі пачуцьцямі, ня кожны ў сілах кіраваць сваю волю (стыхійную), кіраваць самім сабою. Ня дарма і народ ведае такую прыказку: „жыць, як набяжыць", гэта значыць ведае жыцьцё, якое складаецца па волі вакольнага, па волі набягаючага на асобу з вонку без адваротнай імклівасьці.

Форма выяўленьня і выражэньня адчуваньняў, пачуцьцяў, думак і волі самой заўсёды вызначаецца тым соцыяльным атачэньнем, у якім знаходзіцца тая ці іншая асоба. Чалавек апаноўвае гэтымі формамі выражэньня. З імі ён часта змагаецца і перамагае, падпарадкуе сваім задачам і інтарэсам, але гісторыя чалавецтва ня ведае фактаў перамогі над пачуцьцём або адчуваньнем. І калі-б гэта сталася калі-небудзь, то тады павінны-б былі зьнікнуць усе мастацтвы і, наогул усялякая дзейнасьць чалавека, бо ня было-б таго, чым яна абуджалася-б (цераз што перадавалася-б абумоўліваньне дзейнасьці).

Поэтычны вобраз або поэтычнае разуменьне зьяўляецца перш за ўсё аднэй з формаў выражэньня чалавечых пачуцьцяў, адчуваньняў, перажываньняў, волі, думак, таксама як іх выражэньнем зьяўляюцца і іншыя галіны творчасьці чалавека. Сама дзейнасьць чалавека ёсьць ня больш ня менш у гэтым сэнсе, як форма выражэньня пачуцьцяў, як форма выяўленьня волі. У сваю чаргу воля ўжо ёсьць выяўленьне пачуцьцяў. Тут дзейнічае адзін закон—закон „ператварэньня энэргіі“.

Поэтычны вобраз—мова пачуцьця. Ён перадусім параўнаньне невядомага з вядомым,—такая яго прырода. Толькі ў параўнаньні сябе самога са зьявамі, рэчамі, іх уласьцівасьцямі і дачыненьнямі між імі, што вядомы чалавеку, што ім апазнаны ў выніку шматвяковага жыцьцёвага вопыту, толькі ў гэтым параўнаньні пачуцьцё або адчуваньне выказвае сябе і сябе выяўляе.

На вошта-ж гэта выказваньне? Ды на тое-ж самае, нашто чалавек радуецца або сумуе і г. д. Словам, на тое-ж, нашто энэргія з аднаго стану ператвараецца ў энэргію другога стану. Тут ня столькі трэба пытаць пра мэту, колькі аб прычынах, што выклікаюць сабою выказваньне пачуцьця, менавіта, аб прычынах, што штурхаюць чалавека на выказваньне.

Чалавек—гэта як бы зарад энэргіі, сіла якога абумоўліваецца сілаю тэй энэргіі, што разьліта вакол яго. Энэргія вакольля, пераходзячы ў чалавека, пад дзейнасьцю гэтага-ж вакольля ператвараецца ў вышэйшы стан свайго быцьця, які мы называем культураю (культурныя каштоўнасьці). Накапленьне пэўнага характару ў тэй ці іншай постаці (асоба, грамадзтва, кляса, нацыя, чалавецтва) пад узьдзеяньнем або пры злучэньні з энэргіяй процілежнага характару разражаецца ўзрывам (гром, маланка, трэск-іскра, рэволюцыя, творчасьць і г. д.). Зарад разражаецца—і тады зноў пачынаецца накапленьне энэргіі да новага ўзрыву. Крыніца яе—жыцьцё—гарэньне—рух.

З гэтага боку поэтычны або мастацкі вобраз—гэта ператвораная ў стан потэнцыі (у „камень“) жыцьцёвая энэргія. У творах Ул. Дубоўкі гэта адкрываюць такія вобразы, як „камяніцца ў істоце шэрань“ (верш „Нават мора зьмяніла свой колер“), а таксама—другога характару: „разьлію душу і згіну ў нірване“. Адпаведна гэтаму ў П. Труса: „пазьбіраем мы сьлёзы-расу“ і г. д.

### 10 З вандраваньня.

Каб „разьліваць“, трэба мець што. Каб мець гэтае што, трэба яго зьбіраць. Вобразам такога зьбіраньня ў творчасьці Ул. Дубоўкі зьяўляецца нізка вершаў „З вандраваньня“. Гэта сабранае з вандраваньня, з яго вылучанае, з яго адкрытае. Вандраваньне, яго глыб і шыр! Вандраваньне не каго і чаго, вандраваньне ня дзе і па чым, а проста з самога факту вандраваньня. Як яго назваць? Як назваць тое, што „пачынаецца з-пад хмараў вандроўных, пачынаецца з лясоў шумлівых“? Поэта выражае яго вобразам.

Абуджанае ў пачуцьцях і адчуваньнях вандраваньнем поэта выражае праз суладзьдзе вобразаў, аднесеных да пэўных об'ектаў. Вось малюнак, які „пачынаецца з-пад хмараў вандроўных“:

Захадзіла сонца ціха-роўна.
а на захадзе чырвань нехта валіў.
І замоўклі дразды над балотам,
і ў лесе сівакракі замоўклі.

Дразды і сівакракі замоўклі. Але яны ёсьць, іх галасы толькі як-бы заліты „чырваньню“. Мы бачым гэту „чырвань“, а за чырваньню ня бачым і ня чуем драздоў і сівакракаў. Ня бачым і таму, што

Ноч пацягнула бяліць палотны,
разьвіваючы непразрыстыя столкі.

Гэта туман, а мо' што большае. Але, напэўна, каб столкі былі празрыстыя, то колькі-б нашаму зроку адчынілася таго, што імі зацягваецца, што імі атуляецца і хаваецца ад вока людскога! Прачытайце „Вечар“ К. Чорнага, і вы угледзіце некаторае з гэтых сховаў праз расчыненае вакно ў адзін толькі момант жыцьця—вечар.

З-за тых самых непразрыстых столак, кажа далей Ул. Дубоўка,

Выхадзілі істужкаю цьвятлівай
маладзіцы й дзяўчаты з дажынкаў...

і выносілі адтуль свае песьні, у якіх пяецца:

Пабіралі на загонах сьлёзы жалю,
вырасьлі што сёлета ў Палесьсі.

Вынасілі яшчэ скаргі стромкіх хваляў Прыпяці, вынасілі сум вялікі, бо ад сярпа за дзень „у паясьніцы ім коліць, і пякельна смыляць іх пяты“. І ў песьнях іх тое, што выражаецца словамі „жыта яны жалі“, называецца зьбіраньнем сьлёз жалю, што ўзрасьлі на загонах. Напаўняецца прастора ад хмар вандроўных і да лясоў шумлівых вось гэтымі гукамі „суму вялікага“. Пралятаюць вятры—разносяць гукі. І яны чутны. Чутны мо' таму, што замоўклі дразды і сівакракі, якія ў дзень сваімі галасамі ўсёроўна што заглушалі гэты боль у паясьніцы і смыленьне пятаў, ад чаго песьня-крык і разносіцца ў прасторы.

Праляцелі ветры, а сярпа не забралі з сабою. І ў поэты вырываецца з грудзей кліч:

Серп гарбаты на хмары ўскінуць
Хай ускінуць яны сягодня.

Зробіцца там ён для людзей месяцам. „Людзі скажуць, што гэта месяц, што зубілі яго там дзе зоры“. І засьмяецца на яго электрычная жнейка,— так канчае гэты верш поэта.

Боль паясьніцы і смыленьне пятаў ператвараецца ў гукі, ператвараецца ў песьню, якая плыве з-за непразрыстых столак начных палацён і якая ня хваліць жыцьця. Гэты боль узрастае сумам. Яго ня відаць пры сьвятле сонца, яго ня чуваць у дзень за галасамі драздоў і сівакракаў. Ён адкрываецца людскому воку і вуху толькі тады, калі „на захадзе чырвань нехта выліў“. Сум на гэтай чырвані ўсплывае на поверх. Вось першае, што з вандраваньня вынесена і выражана поэтам. І ня дарма поэта ў другім вершы той-жа нізкі кажа:

Будзем слухаць, як гамоняць
каласы ў купальскай хвілі.

І шмат, бязумоўна, можна пачуць таму, хто ўмее слухаць і чуць.

Поэта ўмее чуць, умее і бачыць. Бачыць ён, як „нават і мора зьмяніла свой колер: стала ня сінім шэрым“ (другі верш у нізцы „З вандраваньня“). І гэтая шэрань камяніцца ў яго істоце: каменем кладзецпа ў яго грудзі, у яго сэрца, якое нагбом п‘е гукі прастораў. Чаму?

Успамінаецца верш М. Багдановіча, у якім ён, зьвяртаючыся да зязюлі, казаў:

Прыляці-ж тады ты на магілу,
закувай, як ў бары.[1])

Успамінаецца і другі верш, у якім поэта, хворы „целам і душою“' песьціў адзіную надзею на родны край, на яго крыніцу жывой вады, каб пазбыцца ад нуды свае, надзею на тое, што па сьмерці для яго будзе лёгкаю родная зямля.

Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.[2])

І вось надзеі ня спраўдзіліся. І ці знайшлі яго грудзі спакой там, дзе „горы Крымскія неба хлудзяць і ў блакіце хмарамі кадзяць“? Напэўна, не, бо „не зязюля—сьвіргочыць цыкады“, як кажа Ул. Дубоўка. Гэта з вандраваньня!

З вандраваньня і тая жалоба, што ня знойдзе сабе выйсьця, „нават песьню пачуўшы другую“. У беларусаў ёсьць звычай насіць па нябожчыку жалобу аж да году ў некаторых мясцох. Пасьля-ж году жалоба зьнімаецца, Ляжыць яна потым крыжамі і каменьнямі на магілках сярод „рыжых пырнікаў“! І колькі гэтай жалобы, што знайшла сабе выйсьце з грудзей! Не такая яна, абуджаная ў поэты магілкаю М. Багдановіча ў далёкім Крыме. Яна—камень з тэй шэрані і сьвіргатаньня цыкадаў (а ня зязюлі, як спадзяваўся нябожчык М. Багдановіч), якія паўсталі над пройдзеным шляхам поэты. Так доўга будзе сеецца і ўзыходзіць гэта жалоба, доўга будзе насіцца яна ў прасторах над Беларусьсю, пакуль камень не паўстане на магілцы „у пырніку рыжым“, і пакуль не закувае над ім зязюля. Вось другое, што з вандраваньня.

З вандраваньня і „сінія вочы дзяўчыны, бы туману сьцюдзёныя столкі“. І ў іх поэта бачыць, як і за палотнамі начы, жалобу, бачыць жаль і—„песьні няма“. У дзяўчыны як-бы няма таго, што выражала-б яе нутро, выражала-б тое, што творыцца ў грудзёх.

Змрок імклівіў наўсьцяж даліны,
цені слаліся—біліся долу.

І сінія вочы дзяўчыны—гэта цень, гэта „туману сьцюдзёныя столкі“. Холад яшчэ ў іх, бо не сагрэты агнём, бо ніхто яшчэ грудзей не расчыніў. Ніхто шчырым словам не дайшоў яе сэрца,—больш усё ашуканства. На каго-ж тады спадзявацца? Толькі на сябе самую. І ня сьлёзамі выражаць сябе, „бо на сьлёзы ня будзе спагады“.

— „Засьпявай, хоць вярбу над вадою“—кажа поэта. Песьня—адзіны сродак, як быў ён адзіным і тады, калі „сьпявала каліну“ дзяўчына. Цераз песьню сінія вочы для людзей „узрочыстай казкай крышталяць“. Гэта трэцяе, што выносіць поэта з вандраваньня, „пачуўшы песьню другую“.

[1]) „Вянок“, стар. 37.

[2]) „Там-жа“, стар. 73.

Сінія вочы—цень. У сініх вачох—яшчэ сьлёзы. Неабходна песьня, што расчыняе грудзі і дае магчымасьці ўвайсьці ў іх нутро новаму сьвятлу, каб вочы крышталілі „узрочыстай казкай“.

З вандраваньня выносіць поэта і тое, што ўбачыў у прадоньні „вачэй чараўнічых“ наперакор тым, хто кажа, што ня варта пісаць пра каханьне,

„бо ня нам на сьвеце першым
цісьне траўнем жыцьцё на грудзі“.

Яно, кажуць, ня нова і—лепш з ім разьвітацца. Аднак „сэрца татахае нясьціхана“, бо хоць каханьне і ня нова, але-ж яно ёсьць. Гэта-ж яноператвараецца ў песьню „Ой рана, рана“... ды „Іх гэй аройс афн ганэкул ды штэтэле банукун“... Ёсьць каханьне, і ёсьць песьні—„словы чужыя песьні дзікай“. А свае родныя?

Раскалыхайся, сін е мора,
распарасонься, вада-ваданіца.

Яны такія, як раскалыханае мора ў запале, што „пенаю плача, іглініць пырскі“. Яны такія, што ад іх узьнімаецца злосьць у „нашай варты“:

І напілася салёнаю злосьцю
наша варта—шых кіпарысаў.

І далей, у другім вершы, бачыць поэта нафарбаваныя вусны і маску з пудры, як верхнюю вокрыўку гэтай „злосьці“, а ня любасьці да мужыцкага сына. Поэта як-бы іронічна заканчвае верш:

Лістом кляновым на жвір пакачуся,
а ты даланямі з радасьці ляскай...

Ён адчувае за маскаю і нафарбаванымі вуснамі жаданьне бачыць мужыцкага сына лістом кляновым на жвіры. І гэта выклікае адваротнае. Гэта выклікае неабдымнае імкненьне і ўпартасьць жыць, а не жаўцець на жвіры. Усё гэта з вандраваньня, бо вочы поэты „сьвідруюць дол“, адкрываюць за непразрыстымі столкамі крыніцы акавіты не асабовай, не індывідуалістычнай, а агульнай, ды ня толькі нацыянальнай, але і агульна-людзкай. І за гэта—

Пагалоска дзіка звоніць
як аб згвалчанай дзяўчыне.

Пагалоска пра таго, хто сьвідруе дол вачыма, хто апускаецца ў даліны, каб адтуль вынесьці наповерх тое, што назапасена вякамі, што там крыецца працоўным жыцьцём і што ім здабыта за часы паднявольнага існаваньня працоўных. Ад гэтай пагалоскі ня сум і туга апаноўваюць поэтам. Ня кідаецца ён у роспач, бо адчувае, што „імпэту засталося“. Туга і журба—гэта перашкоды на шляху да сьветлага і новага. Поэта знае лёс беларускіх поэтаў—сваіх папярэднікаў. З іх вопыту ён ведае, што можа жывіць поэтычную ліру. Толькі агульнае, толькі тое, што выражае думкі, пачуцьці, надзеі і адчуваньні не індывідуалістычна-вузкія, а такія, якімі напоўнена прастора, якімі жыве грамада! Жывіць ліру тое, да чаго імкнецца гэта грамада, тое, ад чаго дрыжыць і стогне зямля, калі яе слухаеш, прылажыўшы вуха да долу.

Будзем рытмам думкі песьціць:
што загіне, то загіне.

Такі дэвіз у творчасьці Ўл. Дубоўкі. Так „пакуль ня мілямі, а на сажонкі“,—як потым скажа поэта ў „Credo“.

Каб выражаць-жа агульнае, трэба быць самому напоўненным гэтым агульным. Поэта ўсьвядомлены ў гэтым з вандраваньня і ведае дзеля гэтага сродкі і способы:

„Прылажы да долу вуха"...

Так выражаецца гэты способ. Сам па сабе ён ня новы. Успомніць хоць-бы беларускія казкі, у якіх гэроі ўмелі чуць далёкае, умелі чуць тое, што набліжалася, умелі чуць заўтрашняе; і чулі ўсё гэта яны дзякуючы таму, што „прыкладалі вуха да долу-зямлі". Зямля казала ім, яны ўмелі яе слухаць і разумець, а дзеля гэтага ўмелі адпаведным чынам спатыкаць і прыгоды і нягоды, якія іх чакалі на іх шляху. Адгэтуль і поэта выносіць навуку, як трэба свае сілы павялічваць і як іх выхоўваць. Сілу нараджае сіла, а не „калупаньне ў носе". Вось чаму ён і кажа:

Жыць аднойчы давялося:
Налівай атруты корац.
„Калупаць ня трэба ў носе",
бо у вочы пальцам порань.

Моцы надае моц, што крыецца ў дрыжаньні і стогне зямлі („аж зямля дрыжыць і стогне"), што крыецца ў пpacторавых гуках, а не ў асобным вузкім „я". І гэта вынесена з вандраваньня.

Навокал рух, усюды ймкненьні, кругом дынаміка, а не статыка. У гэтым жыцьцё. Гэта яго існасьць. Ад яго і пыл над шляхам, што „цярушыцца на вочы", ад яго і „бярозавыя сьцены" і „волаты-дубы". „Імкнёмся мы, імкнуцца нашы сьцені". Вось таксама навука, вынесеная з вандраваньня.

Імкліўіў змрок і цені слаліся долу. Цяпер ня змрок, а „мы". Ад гэтага „мы" імкнуцца таксама „сьцені"—лажыцца іх адбітак—сьлед. Была ноч, і сьцень ляжала доўга—цэлыя стагодзьдзі, і ў сьцені гэтай зьвіваліся клубком мары, хадзілі ў пpacторах на загонах здані. Цяпер—прышоў дзень—„раньні прачын траўня", і цені ажылі. Цені самі зрабіліся сьвятлом. „Мы"—гэты агонь. Ад яго таксама лягуць—імкнуцца сьцені. Яго адбітак паўстане на зямлі. Ад вялікага нараджаецца вялікае, як яго адбітак. Самы Кастрычнік, ці ня сьцень ён адвечнай гістарычнай ночы, што ператварыўся ў сьвятло. І сам ён сьцень для таго вялікага, што выражаецца словамі „Вялікая комуна", аб якой далей будзе сьпяваць Ул. Дубоўка.

І вядома, ці трэба казаць, куды імкнуцца „мы" і сьцені, ці трэба пытаць, куды й нашто, ці трэба тужыць, ці трэба казаць, хто і што такое „мы", якая іх мэта, калі навука, вопыт мінулага, кажа, што мэта гэта тое-ж самае, што і вынік пэўных прычын (мэта-вынік). Пэўныя прычыны заўсёды выклікалі пэўныя вынікі. Вось таму і „мы" ў вершах Дубоўкі—гэта прычына таго, што будзе,—вялікага і ў цяперашнім часе нязнанага. Адгэтуль ужо вынікае непатрэбнасьць вызначэньня „мэты", непатрэбнасьць крыку і ляманту на конт таго, што мы і тое, і тое зробім, што мы імкнёмся вось да таго і таго. Самы факт імкненьня „мы" для поэты кажа ўжо многа. Ён для яго об'ект прыгожага і вялікага. І Ул. Дубоўка канчае апошні верш у нізцы „З вандраваньня" такімі словамі:

„Нас перашкоды—цягам спатыкалі,
шляхі да мэты—як вялі, вядуць...

Гэтым і замыкаецца кола вопыту, вынесенага поэтам з вандраваньня. Гэты вопыт зьмяшчае ў сабе апазнаньне пераходу жыцьця

з аднаго стану ў другі, апазнаньне закону прычыннасьці ў разьвіцьці агульнага і апазнаньне асабовага, як аднэй з частак агульнага і як спосабу і сродку выражэньня гэтага агульнага дзеля захапленьня апошнім і рэшты частак. Гэта навука аб тым, як, выражаючы якаснае, захапляць ім або разьліваць яго на колькасьць, каб нарадзілася новая якасьць, якасьць вышэйшай ступені на ўсходах, як асобы, так і клясы, і нацыі, і ўсяго чалавецтва. Вандраваньне дало гэту навуку ў конкрэтным выражэньні.

## 11 Туга.

Усё жыве. Нічога ня зьнікае бяз сьледу. І тое, што перастала жыць, фактычна жыве (у сэнсе існуе) ў сваіх сьлядох, у формах свайго жыцьця. Жывое, пераходзячы ў мёртвае, пакідае пасьля сябе сваю форму. Лёс гэтай формы залежыць ужо ад новага жыцьця, якое прышло на зьмену старому. Уложыць яно ў яе жывы зьмест—тады форма становіцца жывою, яна жыве; ня ўложыць—форма застаецца мёртваю, яна толькі існуе, пакуль не ажывіць яе што жывое Але стаўшы жывою, яна фактычна перастае ўжо існаваць, як форма, а становіцца зьместам новай вышэйшай формы жыцьця. У гэтым сэнсе, мяняюцца толькі формы, і нічога на сьвеце ня зьнікае. Мяняюцца формы, у якіх выяўляецца жыцьцё, мяняюцца й тыя формы, у якіх мы гэта жыцьцё пазнаём, і ў якіх выражаем.

Конкрэтным выражэньнем гэтай думкі зьяўляецца ліро-поэма Ул. Дубоўкі „Дзяўчына“. Усе відомае—гэта вокрыўка таго, што жыве або жыло пад ёю—у нутры і што звычайнаму воку ня відно, а вуху ня чутно. Яно адчуваецца толькі нутром, успрыймаецца толькі праз унутраное чуцьцё. Вось і ў поэме лірнік у сьпевах гару кліча „Дзяўчынаю“, а вось растуць два дубы і бяроза між імі. Гэта чуюць і бачаць усе, але ці ўсе адчуваюць тое, што крыецца за гэтай верхняй вокрыўкай, ці адчуваюць, якія сілы арадзілі гэтую зьяву, ці адчуваюць, чаго выяўленьнем і выражэньнем яна зьяўляецца. Ці была-б песьня лірніка, каб ня было калісьці падзеяў, якія ўжо зьніклі, заставіўшы пасьля сябе форму, што жыве цяпер зьместам песьні; ці былі-б бяроза і дубы, калі-б ня было глебы і зернят, кінутых у гэту глебу. І вось поэта ўзьнімае заслону, глядзіць сам і паказвае ўсім нутро зьявы.

Ёсьць песьня і бяроза з дубамі, бо былі дзяўчына і дзяцюкі, што загубілі сваё жыцьцё, бо былі падзеі, было жыцьцё жывое. І між волі набягае параўнаньне з сучаснасьцю. Ёсьць падзеі вялікія, б'е жывое жыцьцё крыніцаю, выяўляецца і выражаецца вялікая энэргія працоўных, што назапасілася ў вякох. Пройдзе час, і ўсё сягоньняшняе зьнікне „у нейкай шэрай мгле“, або „ўсё ахутае твань“, як кажа Яз. Пушча. Будзе новы, заўтрашні дзень. Але ня зьнікне тое, што народжана сёньня вялікімі падзеямі, ня зьнікне думка і форма жывога сёньня. Яна будзе жыць у новых днёх, будзе жыць у новых вобразах і песьнях. Гэтых песень яшчэ няма, і „Дзяўчына“ Ул. Дубоўкі—гэта **т у г а а б н о в ы х п е с ь н я х**. З другога боку, тое, што сёньня відно, што ёсьць сёньня ў дачыненьні да мінулага—гэта трысьцё, дубы і бяроза, гэта гара (над мінулым), што лірнік дзяўчынаю кліча. І тое, што сёньня чутно—гэта гукі і шум трысьця, шум таго, што расьце і жыве.

Але ці ўсе разумеюць сёньняшнее, ці ўсе чуюць і разумеюць новае слова, што нарадзілася ад вялікіх падзеяў сучаснасьці. Каб зразумець яго, мала бачыць і чуць, трэба ў сваім нутры мець жыцьцёвы вопыт, насіць яго зьмест, хоць-бы і раздроблены, хоць-бы і ня вызначаны і не аформованы, але трэба яго мець, каб магло бачанае і чутае

ўзьняць, абудзіць гэты нутраны зьмест жыцьцёвага вопыту і надаць яму гармонію, надаць суцэльнасьць адзінства. Трэба мець уласны, асабовы („суб'ектыўны") зьмест, каб ім зрабіць поўнакроўным тое, што відно і чутно новага. І дзе няма гэтага зьместу, дзе няма ўнутранога жыцьцёвага вопыту, там няма і разуменьня новага, што кідаецца ў нашы вочы й вушы.

За сучасьнасьцю, за яе верхняю вокрыўкай крыюцца глыбіні мінулых падзей. Нутро сучаснага—гэта мінулае з сваімі назапасеньнямі ўва ўсіх галінах жыцьця; у сваю чаргу само сучаснае зьяўляецца нутром будучага. Яно само ў будучым акрыецца новай вокрыўкай. Сучаснае ў будучым акрыецца новаю песьняю, яно вырасьціць новыя „дубы і бярозу між імі". Якава будзе гэта вокрыўка—песьня? „Аповесьць гэту растлумачаць часіны". Так кажа поэта. Мы ў сваю чаргу толькі зазначым, што чым больш гарэньня ў сучасным, чым больш кіпіць сучаснае жыцьцё, тым большай пекнатою і хараством для людзей наступнага будзе вокрыўка іх сучаснасьці, будуць мілагучнейшымі тыя гукі і песьні, і казкі, якія ім будзе апавядаць і сьпяваць і „трысьцё", і „дубы", і „бяроза" і г. д. А каб яны казалі сэрцу людзкому—задача поэтаў сучасных „удыхнуць у іх дыханьне сёньняшняга жыцьця", насыціць іх нашым жыцьцёвым вопытам. Трэба нашы адчуваньні, пачуцьці, перажываньні, думкі, жаданьні, надзеі і, наогул, наша сьветаадчуваньне і сьветагляд об'ектывізаваць, трэба насыціць імі ўсё, што бачым і чуем вакол сябе. Тады ўсё будзе жыць у творчасьці, у мастацтве. А толькі-ж жывое можа гаварыць, мёртвае маўчыць. Мо' таму і зараз чалавек любуецца прыродаю, упіваецца хараством тэй ці іншай яе зьявы, або зьявы і з жыцьця клясы, народу, асобы, што народ за вякі свайго жыцьця ў гэтых зьявах об'ектывізаваў свае пачуцьці і думкі. Што-ж гэта так, сьведкаю таму багацьце параўнаньняў, паралелізмаў і сымболяў у народнай творчасьці, узятых ад прыроды. Затым і хараство, што адчувае чалавек жыцьцё; затым разумее, што ў ім дыханьне векавога жыцьцёвага вопыту.

Вялічава бяроза, вялічавы дубы, вялічавы і іншыя расьліны ці зьявы таму, што народ у іх форму ўлажыў свой конкрэтны зьмест і тым самым стварыў новыя формы, якімі выражаўся яго душэўны стан—стан яго сьвядомасьці на пэўнай ступені свайго разьвіцьця. У дадзеным выпадку ўзьдзячным матар'ялам зьяўляюцца народныя песьні і казкі. Успомнім тут, якое значэньне мае хоць-бы бяроза або каліна ці калінавы мост, або сакол, галуб і галубка і інш. у народных песьнях, або ўспомнім казку, у якой апавядаецца, як сёстры забілі сваю меншую сястру, і на магілцы гэтай апошняй вырасла каліна, з якой пастушок зрабіў сабе дудку, і дудка сама апавядала пра жыцьцё дзяўчынкі. Усё гэта—формы выражэньня пэўных станаў сьвядомасьці народу, дзякуючы якім дадзеныя зьявы ажыўлены дыханьнем даўно праміналага жыцьця і цяпер цераз тое жывуць у народнай творчасьці, у народным мастацтве слова. І чым больш зьместу самагарознастайнага ўложана як найбольшым лікам асоб у тую ці іншую зьяву, тым сама зьява становіцца вялічавей і значнейшай.

Вялік той поэта, ці наогул мастак, які здолее стварыць такія мастацкія творы, як формы, якія дадуць магчымасьць выражэньня нутранога зьместу як мага шыршаму колу асобаў: нацыі, клясе, чалавецтву, і якія тым самым адкрыюць прастор магчымасьцям новай творчасьці—творчасьці масавай (той, хто чытае, таксама творыць).

Чаго-ж выражэньнем зьяўляецца „Дзяўчына" Ўл. Дубоўкі, як форма? Дзяўчына—красуня. Яна ў сабе мае што агонь нутраны, якім

саграецца ўсё вакольнае, ад чаго слава яе пашла далёка навокал Беларусі. Да яе робяць залёты два дзяцюкі маладыя, адзін заходняга боку, другі ўсходняй стараны, але атрымліваюць адказ: „Надзею ты кінь, няхай расквітаець на лядах“.... Дзяўчына як-бы ставіць сабе мэтаю жыць толькі для лядаў і належыць толькі ім, хоць на гэтых лядах і не расквітаюць надзеі. Дзяўчына сярод пакрыўджаных, сярод тых меж, што скаргамі галосяць.

Заўсёды нечага шукае навокал
і ў самоце хварэе душа.

Яе не здавальняе тое, што ёсьць. Яна смуткуе, пяе песьню-жальбу на сваю долю. Яна жаліцца ў песьні, што прападае ў непакоі, што занядбана, што цяжка зрэбная кашуля, што сваю долю пашукае на чужыне. Так, маркота нарадзіла і песьню маркотную. Затым дзяўчыне апрыкралі шэрыя хаты і песьні маркотныя. Яе цягне на прыхамаць, каб сьцежку знайсьці зваротную. Яна хоча вярнуць мінулае і загадвае дзяцюкам, што той будзе выбраным яе,

... хто прабегчы першым здолее
да узгорку ад хвой баравых.

Дзяўчына варожыць. Дзяцюкі бягуць і прыбягаюць да... сьмерці.

На каменьні сваё і дзяўчыні нажыцьцё
дзяцюкі загубілі тады.

Гэта здарэньне - жудасны сьпеў ля ракі, які „схаваўся ў аірнай траве“! Людзі хаваюць дзяцюкоў і Дзяўчыну, і на тым месцы ўзрастаюць і шумяць два дубы і бяроза між імі. Вось і ўсе падзеі. Так вось імкненьне ад маркоты не наперад, а назад, у мінулае, прыводзіць да сьмерці. Каменем завалена мінулае, камень—яго варта. Мінулае і сьмерць гэта роўназначнае. Назад звароту быць ня можа, бо назад—гэта значыць—да сьмерці. І людзі пахавалі імкненьні назад у мінулае на гары. Помнік гэтым імкненьням—дубы і бяроза. Яны з мінулага вырасьлі, каб казаць, што чакае тых, хто шукае „сьцежку зваротную“.—Не назад, а наперад!—вось што выражае сабою „Дзяўчына“. Яно ўсё тое, што зьмяшчае ў сабе розныя ўзоры жыцьця на такой канве: зварот назад адрэзан сьмерцю, жыцьцё наперадзе; мінулае—сьмерць, будучына—жыцьцё ідэальнае, а сучаснасьць—жыцьцёвыя падзеі—змаганьне, дзейнасьць і творчасьць.

Лірнік у паданьні сваім гару Дзяўчынаю кліча. І ўспамінаецца тут беларускі праклён: „каб ты гарою стаў“. Ці не зьяўляецца гэты праклён выражэньнем боязьні і не жаданьня беларуса стаць гарою, на якой-бы ўзрасталі, нават, „дубы і бярозы“. А гэта, я-б сказаў, лейтмотыў усяе беларускай поэзіі нашаніўскага часу. Адгэтуль—дзейная творчасьць і імкненьне на гару, імкненьне наперад. Такімі песьнямі шуміць і трысьцё. Лепей быць „трысьцём“, лепей быць самім „дубамі“ і „бярозамі“, але жыць, чым быць „гарою“ і толькі існаваць,—такі дух гэтых песень.

З другога боку, бяром сьмерць дзяўчыны і дзяцюкоў, як факт жыцьцёвы. Дзяўчыны і дзяцюкі, як жывыя постаці, памерлі, пакінуўшы пасьля сябе сьлед—форму, якая жыве ўжо, як зьмест у форме новага жыцьця—у постаці дубоў і бярозы, гэтых об'ектаў народнай творчасьці. Дзяўчына і дзяцюкі жывуць у народным мастацтве. Такім чынам сама сьмерць гэта як-бы пераход жывога з аднэй формы існаваньня ў другую, гэта нараджэньне новых формаў жыцьця. Такі ўжо вопыт народны ў вяках, які знаходзіць сваё выражэньне ў „Дзяўчыне“.

## 12. Дзеяпесьні.

Песьня жыве ў сьпяваньні (дзейнасьць утварэньня) і ў успрыйманьні сьпеву (дзейнасьць зразуменьня або вытворная). Па-за гэтымі двума момантамі песьня ня жыве, хоць і можа існаваць, як знак (скажам, графічнае яе выяўленьне). З гэтага боку цікава абрамленьне—аправа ліра-поэмы „Дзяўчына", яе запеўка і канцоўка. Гэта песьні пра трысьцё.

Трысьцё тут выяўляецца, як творца, як дзейнік. Яно творыць шапаценьне і звон. Гэта яго песьні і казкі. Поэта-ж тут уяўляецца ў постаці ўспрыймаючага гэтае гучаньне трысьця. Але каб успрыймаць і разумець, патрэбен свой уласны жыцьцёвы вопыт, патрэбна самому нешта падобнае перажыць-пераадчуваць або мець магчымасьці падобнае—да сьпеваў трысьця ў дадзеным выпадку—стварыць. Поэта гэты вопыт мае, а таму і шапацёньне і звон трысьця ўспрымае, як казкі і песьні. Гэта значыць—поэта чуў казкі і песьні ў жыцьці, бачыў жыцьцёвыя факты і зьявы, бачыў дзейнасьць людзей, што тварыла гэтыя сьпевы. І вось цяпер шум трысьця як-бы абуджае гэты вопыт перажываньняў і пераадчуваньняў з глыбінь творчае істоты, з глыбінь сьвядомасьці і яго організуе, надае, быць можа, самым раздробленым яго часткам і лусткам гармонічнасьць і суладжвае іх у а д з і н с т в а. Поэта гэтае адзінства і называе казкамі ды песьнямі. Такім чынам, тут ускрываецца палажэньне, што бяз жыцьцёвага вопыту перажываньняў і пераадчуваньняў, якія магчымы толькі ў д з е й н а с ь ц і, у дачыненьнях як з прыродаю, так і з людзьмі, іх групоўкамі, клясамі і наогул з культурным атачэньнем, і без таго вонкавага чыньніка, абудзіцеля, які прыводзіць элемэнты жыцьцёвага вопыту ў суладжанае адзінства рознастайнасьцяў, бяз гэтых умоваў творчасьць мастацкая не магчыма. Вось чаму поэта канчае песьню клічам: „Зашумі, трысьцё!" Пасьля таго, як вышэй у той-жа песьні пытаньнем: „Што-ж палаеш сэрца, што крынічыш кроў?" назваў быў зьмест свайго нутранога дзейнаганазапасеньня.

Жыць песьні—гэта значыць, жыць дзеяньню. Без апошняга няма і першага. Дзейнічаць (змагацца, тварыць) і песьні сьпяваць—гэта ў творах Ул. Дубоўкі сынонімы. Дзе ёсьць дзейнасьць над стварэньнем і само стварэньне—вялікага і моцнага, там ёсьць і вялікія песьні ды казкі. Песьня ці казка гэта-ж толькі выражэньне ў слове і адначаснае называньне ці назва самой дзейнасьці, самых вялікіх і малых падзеяў і зьяваў жыцьця-руху.

Такімі песьнямі (хоць сам поэта, нідзе ня кажа, што ён творыць гэтыя песьні, ён толькі кажа, што разьлівае душу ў песьнях, пакідае „гукі ў новым барваваньні"), песьнямі—дзеямі (д з е я п е с ь н і)) зьяўляюцца поэтычныя творы Ул. Дубоўкі аб тых падзеях, якія захованы народнай памяцьцю („Дзяўчына" і „Бра... гінь"...), песьні аб тым, што „ў архівах паснула", як кажа сам поэта („Грахі чубатыя"), а таксама песьні аб тых дзеях, якія адбываліся і адбываюцца на нашых вачох („Студэнт", „Кляновыя лісты", а таксама поэма „Там, дзе кіпарысы").

Гэтыя творы я называю дзеяпесьнямі і не без падставы на тое. Ніводзін з названых твораў не зьяўляецца творам чыста лірычным у тым сэнсе, як мы, зазвычай, разумеем лірыку (выяўленьне ці выражэньне чыстых эмоцый), і ў той-жа час яны ўсе глыбока лірычны. Ніводзін з гэтых твораў не зьяўляецца выражэньнем асабовых толькі пачуцьцяў (каханьне, сум, туга, радасьць і інш.), і ў той-жа час яны выражаюць і іх, выражаюць адчуваньні і асабовыя. І далей, ніводзін з

іх не зьяўляецца творам чыста эпічным у сэнсе слоўнага выяўленьня рэчаіснасьці—сьвету об'ектыўнага, і ў той-жа час яны і эпічны, бо малююць сабою дзеі, што мелі месца ў жыцьці або сучасным, або мінулым. На першы погляд тут нязьмірымыя супярэчнасьці, але гэтыя супярэчнасьці толькі ўзглядныя. Справа ў тым, што гэтыя песьні—гэта гукі самых дзеяў, выражаныя словам. Калі возьмем гэту песьню і глянем, якую ролю адыгрываюць у яе суцэльнасьці элемэнты лірычнага, эпічнага і драматычнага, нават, то пабачым, што гэтыя элемэнты часта служаць замяшчэньнем адзін аднаму: эпічнае служыць выражэньнем лірычнага і наадварот. Іначай кажучы, поэта часта карыстае об'ектыўнае, карыстае тыя ці іншыя дзеі або падзеі жыцьця сучаснага або мінулага, як сродак і спосаб выражэньня асабовага адчуваньня ці перажываньня або наадварот. Пры гэтым трэба зазначыць, што асабовае заўсёды вызначаецца, як дзейнае, імклівае, актыўнае, словам, **дынамічнае**, а не статычнае. Яму адпавядае характар і падзеяў або гэрояў жыцьця як сучаснага, так і мінулага. Гэта дзеі, што былі выяўленьнем сілы і моцы духа чалавека (беларускага працоўнага люду), гэта падзеі бурныя і з вялікімі ўзьлётамі. Іх поэта і карыстае для сваіх твораў. Пры выяўленьні об'ектыўнага цераз асабовае („суб'ектыўнае") гэта апошняе заўсёды вызначаецца агульнасьцю свайго зьместу, бо яно як-бы напоўнена тымі гукамі, якія ўвайшлі ў яго нутро з вакольля і якія напаўняюць сабою вакольную прастору. Яно само як-бы згустак об'ектыўнага. Вось чаму і „я" твораў Ул. Дубоўкі, „я" яго лірычных вершаў зьяўляецца выражэньнем ня толькі „я" поэты, а выражае яно сабою і дух сучаснай рабочай і сялянскай моладзі, якая імкліва ідзе наперад, творачы новыя каштоўнасьці ўва ўсіх галінах жыцьця і творчасьці, праўда, часта „вобмацкам" і прабіваючы „свае далоні", як кажа поэта ў „Credo", як-бы адказваючы на „Сямімільныя крокі"[1]), што:

Пакуль—ня мілямі, а на сажонкі
і нават вобмацкам... Ну што-ж пакуль!
Выразна вірны гук вандруе вонках,
істужкай гукавой кладзецца на таку.

Вось гэта гукавая істужка „на таку", гэты „вірны гук" вонкавых дзеяў і ёсьць аснова тых твораў Ул. Дубоўкі, якія мы называем дзеяпесьнямі. Гэта мы наглядаем у „Дзяўчыне". Тое-ж самае бачым і ў рэшце. Вось „Бра... гінь..." Прыгожая дзяўчына Алеся. На яе ўзіраецца войт, цікавіцца ёю і пан. Ноччу адбываецца панскі наезд. Браты Алесі, не жадаючы аддаць сястру на зьдзек, шлюбуюць яе з долам—забіваюць. „Сьмерць і вам,—пан шалёна загойкаў", але браты ўцякаюць „за помстай". За імі панская пагоня. Па дарозе ў меншага брата адбіраюцца сілы.

І сьлязьмі заліліся вочы,
Застагнала цяжка зямля.
Стуль крыніца цяпер плюскочыць;
Да Дняпра яе хвалі шумяць...

Большы брат кажа, што сьлёзы значаць ім шлях; узьнімае брата, і яны йдуць далей, на Украіну, „і пайшлі да лоняй Дняпровых". Пагоня йдзе. Брат брата ўзьвёў на балота, на якім урэшце і тонуць абодвы з словамі на вуснах: „бра... гінь"... На тым месцы вырас Брагін—мястэчка, а навокал рака—Брагінка. Гэта і ўсё. Тут няма разьвіваньня дзеяньня, тут толькі **композыцыя** самых фактаў дзеі—іх

[1]) Ёсьць поэма м Грамыкі: „Сямімільнымі крокамі".

занізка. Па такім-ж прынцыпу пабудована і рэшта твораў. Розьніца толькі ў featnastaйнасьці самых фактаў, дзеяў і зьяў. Гэта сапраўды дзеяпесьні. Іх можна было-б яшчэ назваць занізкамі дзей, зьяваў і фактаў з гістарычнага або сучаснага жыцьця і ўласных перажываньняў. Гэта песьні „фабульныя“, апраўленыя найчасьцей „сюжэтам“ асабовых адчуваньняў. Вось чаму пра сюжэт гэтых песень кажуць, што ён якбы „замаскіраваны“. Фактычна-ж тут наглядаем такое зьявішча: „сюжэт“ у гэтых дзеяпесьнях адыгрывае ролю ўнутраной, часта цяжкай для вылучэньня і вызначэньня, мэлёдыі эмоцыйнага перажываньня. Гэта асабліва яскрава выяўляецца ў поэме „Там, дзе кіпарасы“, у якой „сюжэтам“ фактычна зьяўляецца гамма адчуваньняў прыгожага і вялічавага ў жыцьці, гамма ніспадаючых гукаў ад далёкага да блізкага, ад нязвычайнага да звычайнага, у якім „хіжыць вялікая сіла“. Цераз гэта ніспаданьне адчуваньняў прыгожага і вялікага ў далекім і нязнаным узмацняецца захапленьне і ўзьнімаецца чуцьцё высокіх таноў прыгожага і вялічавага ў звычайных праявах блізкага, вакольнага. Словам, у поэме „Там, дзе кіпарысы“ за „сюжэт“ мы маем мэлёдыю пераходу чуцьця прыгожага ў невядомым да тонкага чуцьця прыгожага ў вядомым—блізкім. Вось тон пачатку гэтай мэлёдыі, які вызначае сабою і заключны тон песьні:

Жыў сабе ў балотах і—годзе.
Цягнуўся на сьвету край.
І чаго? Гора таксама ходзіць
тут, аж да гор, да хмар.

А да гэтай прыстані, што трапілася адначасна са словам: „Крым!“, чулася: „інося там, дзе кіпарысы“... чулася пра прыгожасьць гэтага „там“. І вось пераход чуцьця,ападаньне таго, што чулася, бо „зусім ня тое на паперы“, што ў рэчаіснасьці жыцьця. Галоту стрэхі туляць і тут. І тут змагаюцца штодзённа або гінуць у хвалях.

Што прыгажосьць ім навакольля,
праменьне сонца, казка ўся,—
пытаньне катаваньнем коліць:
каторы будзе дзень сьсякаць...

І далей пасьля апавяданьня гісторыі прыгожай дзяўчыны, што загінунула ў хвалях мора, і наогул жыцьця яе сям'і, якая вяла штодзённае змаганьне за жыцьцё і ў гэтым змаганьні бачыла і радасьць, а больш гора, думка поэты ў высі, у заключным акордзе гучыць ужо такім тонам:

На вазёрах таксама хвалі,
хвалі і ў нас на пярэсты жвір..
Дык хай барвуюцца і крышталяць,
Можа ў іх напаткае прыгожае зірк...

Вось гэта нітка—„істужка гукавая“, што вядзе ад мараў аб прыгожым і вялікім у невядомым да адчуваньня, што „ў звычайнай прояве хіжыць вялікая сіла“, што прыгожае ёсьць і ў хвалях на блізкіх вазёрах ды „пярэстым жвіры“ роднага краю,—гэта формуючы пачатак, аснова конструкцыі поэмы „Там, дзе кіпарысы“, гэта яе „сюжэт“.

Наогул, усе дзеяпесьні Ўл. Дубоўкі прадстаўляюць сабою **канву** з дзеяў і зьяваў жыцьця, якую будучы поэта, напэўна, скарыстае для вышыўкі багатых і вялічавых узораў выяўленьня духу працоўнага люду („убогага люду“, па выражэньні Гаруна) маладой нацыі беларускай, што вызвалена з векавога прыгнёту Вялікім Кастрычнікам і зараз адраджае сваю культуру, як форму будучай соцыялістычнай культуры, насычаючы яе пролетарскім зьместам.

Поэта дадзенымі песьнямі як-бы кажа: вось факты-дзеі з жыцьця як сучаснага, так і мінулага працоўнай Беларусі. Гэтыя факты адышлі ўжо ў гісторыю, але памяць аб іх не загінула. То бяроза і дубы, то мястэчка, то архівы, то яшчэ сьвежыя зьявы ўчарайшага дню, то проста шум трысьця і голас ветру—усё гэта памяць аб велічы і сіле духу працоўных беларускіх мас, усё гэта жывыя помнікі яго вялічавых і прыгожых сваею вялікасьцю, сваёю волёю, сваёю адвагаю на „вялікія дзерзанія“, выяўленьняў ці праяваў. Усе гэтыя песьні кажуць аб адным, менавіта, аб тым, што дух беларускі жыве, як дух вялікіх уздымаў:

У цёмныя ночы галосіць туман,
у ночы васеньнія—„бра...гінь“...

Жыве дух, што—ад крыўдаў векавых, як нацыянальных, так і соцыяльных, якімі пануючыя клясы спавівалі працоўных людзей. І поэта у „Бра...гінь“... кажа, што рэчка, якую людзі назвалі Брагінкаю ў чэсьць загінуўшых дзяўчыны і дзяцюкоў,

Ня кіне яна на паноў наракаць:
да помсты і звала і будзе.

Жыве дух змаганьня і творчасьці беларускіх працоўных мас і чакае сваіх выразіцеляў. Аніякія перагасы ня здолелі яго загасіць. А вытрываўшы столькі, ці-ж не расьцьвіце ён цяпер вялікай творчасьцю культурных каштоўнасьцяў, калі путы скінуты, калі перанесены ўсе нягоды паднявольля, калі пяражыты страшэнныя перагасы. Парасткамі яго зьяўляецца і творчасьць Ул. Дубоўкі.

Вось песьні пра тое, што паснула ў архівах і чакае, калі яго разбудзіць рупная рука ці то поэты, ці гісторыка, ці наогул чыя гаспадарная рука. А паснула-ж у архівах моцнае і вялікае, а цераз гэта і прыгожае. Устане—будзе сіла вялікая. Вось гэроі: Іван Вашчула, што

Пасьцілаў паноў на балотах,
Крычаватку прудзіў панамі.
Ну, вядома, хадзіў у ботах
І нічога ня чуў аб панаме.—

Пярвуша Шэршань, што

Ня схіліўся перад царскай Масквой...
Шэсьцьсот пяцьдзесят чацьверты...
Пракалолі сэрца селяніна наскрозь,
зьвінавацілі ў подлым ізьвеце...

Загінулі яны абодвы,

Беларусам галовы сьціналі,
каб арлы сілкавалі арламі.—

Так кажа поэта Але ня толькі з архіваў абуджана тое, што „арлы сілкавалі арламі“ ў даўно праміну́лыя часы. Гэтых арлоў поэта бачыць і ў сучаснасьці. Гэта Станіслаў Дрозд з Нясьвіжу, як за праўду сваю

Руку на калоду,
сякерай вострай....
Чатыры пальцы—
вам.

Гэта значыць польскім панам, якія яго катавалі. Гэта і Янка Глушка (у „Credo“), які адмовіўся прасіць міласьці ў паноў:

... спагады мы ня хочам, вашаць:
жыць без цябе, ці сьмерць з табою.
І літасьць такжа мы ня хочам
прыняць з паганых вашых рук.
Страляйце, беце: мае вочы
над краем бачаць ўжо зару.

Так адказваюць гэтыя нязнаныя гэроі на панскія зьдзекі, так умеюць яны стаяць за сваю праўду. Гэта тыя гэроі жыцьця, што перажылі і ведаюць, як „гэта лёгка з роспачы зубы шчыльна заціснуць“, гэта тыя, ў каго „думкі не папалам“, хто ведае „вялікі жаль“, не шкадуючы за праўду ні пальцаў, ні галавы.

Поэта выхапляе з жыцьця праявы, у якіх выяўляецца моцны дух чалавека, у якіх выяўляюцца суцэльныя натуры, натуры з аднэй мэтай у жыцьці. Ён не абмалёўвае гэтыя характары, ды гэта не ўваходзіць у поэтычныя задумы дзеяпесень. Тут на першым пляне тая ці іншая дзея, як выяўленьне моцнага і жывучага, а таксама вытрываўшага шмат у жыцьці чалавека, чалавека, які пераносіць шмат і гора і нядолі. „Лёс ня песьціў яго, ня соўкаў“,—так кажа поэта пра „аднаго чалавека“ і ў „Студэнце“. Гэты чалавек пераносіць цяжар і войнаў і грамадзкага змаганьня на сваіх плячох. І якое дзіва, што гэты чалавек „трэці раз радзіўся на сьвет“ і што „сотняй зваць яго, тысячай клікаць, міліёны ідуць у сьлед“... Якое дзіва, што гэтаму чалавеку зараз унівэрсітэты асьвету даюць. У гэтым : „новыя словы, новыя рытмы, поўнаю жменяй жыцьцё дае“.

І сапраўды: „Хто там якоча? Якое дзіва?“—што босыя ногі вясковай дзяўчыны даганяюць долю („Кляновыя лісты“), што ад зьбіраньня на аселіцы лістоў кляновых пад хлеб пры змаганьні „нашых з панамі“ Ганна „саветы пашла бараніць“. Яе шлях

Вільня, Гародня і Варшава...
Казначэйства і упрадком...
Здужала сваёй кучаравай
Мудрасьць друкаваных радкоў.

А цяпер працуе ў друкарні і „на курсы ўвечары ходзіць“. Гэта выяўленьне сілы ў звычайнай праяве. Вось чаму „ня кожная быль песьняй звоніць“. Ёю звоніць толькі тая, што хіжыць вялікаю сілаю. Ёю звоняць „сасонкі, дубы, лісьцё кляновае“. Яны сьведкі і помнікі нараджэньня нясьмелай песьні „у полі, на лядах між згорбленых дрэў“. Сярод іх песьня „расла, калыхала прасьцяг, шчамлёткамі грудзі сьціскала“... „сітавала душу, нурцавала ў вершалінах сосен,

Казала: прыдзі, так цябе я прашу,
прыдзі, пурп ровая восень.“

І сапраўды гэта так. Песьня-дзея, песьня-быль да Кастрычніка была нічым іншым, як закліканьнем „пурпуровай восені“, закліканьнем такім-жа, як па беларускаму звычаю дзяўчата гукаюць вясну. Аб гэтай пурпуравай восені і ўся беларуская творчасьць тужыла. І звоняць песьняю толькі тыя зьявы, што зьяўляюцца выяўнікамі сілы і моцы беларускага духу ў яго напорнасьці, яго імклівасьці, яго велічы, яго сьвежасьці, яго вынёсласьці, яго загартованасьці ў перагасах і нядолі. Звоняць песьняй тыя праявы, што выражаюць набракласьць сьвежаю маладою сілаю, што выражаюць перажытае „убога люду“, як трыпутніку на сьцежцы: „праходзяць, а сьлед застаецца“, што выражаюць гарэньне, як каліны ў „сьцюдзёным агні“. І палае дух гэтых праяваў, калі

Ніхто не казаў, не дазволіў,
Самохаць пажар агарнуў.

Дык якое дзіва, што ў юнацкіх шчырых душах жыве „мы будзем стагодзьдзямі кратаць“. Так дух цьвёрдае волі, дух вялікіх імкненьняў і узьлётаў ня згас. І яго гарэньне—гэта гарэньне і поэты, яго паланьне—гэта паланьне і поэты, яго полымя—гэта песьні для поэты. Гэта

шчырыя і сьмелыя песьні беларускага духу, узгадованага творчасьцю Янкі Купалы, Алеся Гаруна, М. Багдановіча. Гэтыя песьні не ад тых, каму „ані шум баравы да галоўкі маёй“.

Адчуваньне і чуцьцё таго, што бурліць і ўзьнімаецца, таго, што расквітае „на лядах“, таго, што выразна вірным гукам вандруе вонках,—вось гэта і зьяўляецца асноўным дзеяпесень Ул. Дубоўкі. Яно той формуючы пачатак, што цэментуе асобныя дзеі і праявы—вобразы вялічавых перажываньняў, што мелі і маюць месца на беларускіх загонах, вобразы сілы і магутнасьці, якая яшчэ не адкрыта ўва ўсёй сваёй вялічавай прыгожасьці людзкому воку, не адкрыта ня толькі для пролетарскай клясы сьвету, але не адкрыта яшчэ і для самога беларуса-рабочага і селяніна, а таму як-бы знаходзіцца яшчэ „ў туманах лілёвых“. І, быць можа, таму поэта не называе і сваіх твораў песьнямі, а заве іх гукамі ў новым барваваньні, заве разьлівам душы свае, або проста новым словам і новым рытмам, што дае жыцьцё поўнай жменяю. Так, гэта гукі, гэта істужкі гукавыя, ад якіх пойдуць песьні, бо гэта гукі выражэньня духу беларускага ў новым барваваньні, гэта гукі новай маладой рабоча-сялянскай Беларусі, гукі яе сілаў, яе новых веяў, якія, быць можа, і ня ўсякаму чутны, і, каб чуць іх для некаторых, як ня памятую ўжо хто выразіўся, патрэбны акуляры на вушы.

Цікава тут зазначыць яшчэ на тое, што тыя дзея-песьні, якія выражаюць імкненьне зрабіць уплыў на вакольны сьвет, гучаць трохдольным або двухдольным разьмераным тэмпам з націскамі на апошніх складох стапы, а тыя, што павяваюць гымнам, гучаць спакайней і пявучай: яны аснованы або на амфібрахіях, або на хорэях. У першым выпадку поэта пераконвае ад паўнаты абурэньня, у другім дзейнічае-творыць ад паўнаты захапленьня. У першым - паўната „бунту“, у другім—паўната радасьці перамогі. І зразумела чаму чаму і абурэньне і захапленьне, чаму рэальнае і ідэальнае ў нейкім гармонічным адзінстве.

У другіх народаў былі Дантэ, былі Шэксьпіры, былі Шыльлеры і Гётэ, былі Пушкіны, Толстыя і Дастаеўскія, а ў беларусаў?—„няхай будзе хоць Янка Купала“, як сам казаў Купала ў пачатку свайго выступленьня ў літаратуры. Цяпер ужо й беларусы маюць і Я. Купалу, і М. Багдановіча, і А. Гаруна, і Я. Коласа і інш. Але гэта ўсё здабыта так нядаўна, што ўва ўсіх яшчэ сьвежа памяць аб тым, калі беларусы „нічога ня мелі“. У іншых-жа народаў былі вялікія поэты і мастакі, што далі мастацкае жыцьцё і Гамлетам, і Фальстафам, і Фаўстам, і Онегіным, і Аленіным, і Раскольнікавым, і Карамазавым і г. д. і г. д. Былі такія, што ўдыхнулі дыханьне мастацкага жыцьця ў мёртвыя ўжо формы быцьця, і якія цераз гэта жывуць і да сёньнешняга дню. А ў беларусаў? Тут толькі пушчы да гаі складалі гымны ды казкі-песьні.[1]) Пра тое-ж кажа і Дубоўка ў „Credo“.

Поэты гымны ўсім складаюць,
а беларусам – пушча, гай.

Толькі дубы ды бярозы станавіліся помнікамі жывымі, толькі ў іх удыхалася жыцьцё мастацкае, а то ў архівах паснула, а то ў вятрох, у шуме сосен ды трысьця укрылася. А ці-ж усякі можа разумець іх мову? Ці ўсякі здолен адчуць, аб чым шуміць і трысьцё, і дубы, і сасоньнік, і лісты кляновыя, і курганы, і архівы і г. д.? Вось чаму ў

[1]) Глядзі вершы Я. Купалы „Мая навука“ („Спадчына“, стар. 103—104).

Беларусі ня было вялікага поэта, бо сама яна вялікая у сваёй прастаце, бо сам народ яе—пясьняр, як сказаў А. Гарун. Яна вялікая ў сваёй звычайнасьці. Але-ж людзі ня ўсе ўмеюць бачыць вялікасьць у „звычайнай праяве". Шмат хто імкнецца ў надзвычайнае, шмат каму хочацца такога, што-б па галаве іх агрэла, як абухам, і тады яны скажуць „але". Ня дарма Язэп Пушча кажа: „Душа людзкая халадзее". [1]) Вось чаму—і абурэньне, і бунт, і захапленьне. Вось адкуль—і рэальнае, і ідэальнае.

Так, з прыроды йшлі творчыя сілы і ў „прыроду" адыходзілі. Усе яны тут—і сьвету ня выяўлены, і сьвету ня сказаны. Дух беларускіх працоўных мас яшчэ ня выразіў сябе. І песьні Ўл. Дубоўкі гэта толькі яго гукі. Гэтыя гукі родзяць і песьню. І мо' сапраўды гэтых гукаў няпрывычнае вуха людзкое і не зразумее, а скажа, як сам поэта прадчувае, кажучы:

Ці-ж я буду скардзіцца на крыўду:
У душы поэта—чорт зламае карак.

І сапраўды, хіба зразумець простае, кужэльнае і зрэбнае звычайнага таму, хто прывык толькі бачыць прыгажосьць у надзвычайным або „ў захмарных краёх"? І калі сягодня гэтыя гукі яшчэ не зьяўляюцца годнасьцю шырокіх працоўных мас з прычыны агульнай нам культурнай адсталасьці, як кажуць, і калі іх сёньня цяжка ацаніць сучасьнікам, як гэта належыць, то і гэта зразумела. Іх цалком ацэняць наступныя пакаленьні, ацэняць тыя, што йдуць ад сох і варстатаў, тыя, каму раней і ня верылася, што „унівэрсытэты асьвету дадуць", а цяпер „на курсы ўвечары ходзяць", каб тварыць новую культуру і мастацтва, каб тварыць соцыялістычнае жыцьцё.

## 13. Асноведзь.

Творчасьць Ул. Дубоўкі ў новай будове пролетарскага беларускага мастацтва зьяўляецца яе асноведзьдзю, культурнаю цаглінаю таго муру, які кладуць маладыя пісьменьнікі. Мо' некаторыя гукі яе й „грубыя" і часам шорсткія для вуха („што загіне. то загіне", кажа сам поэта), але яны зьяўляюцца неабходным элемэнтам у суладжаным адзінстве ці то паасобнага твору, ці ўсёй творчасьці. І гэта суладжанасьць ня толькі ў гуках, яна і ў прыёмах творчасьці. Песьні Ул. Дубоўкі—гэта гукі. Гэтаму адпавядае і будова, як сынтаксычная, так і рытмічная. Кароткія сьціслыя сказы, часта як-бы ўцятыя, не закончаныя і абрыўныя, часта падобныя на мову тэлеграм. Тое-ж і ў стылі: поруч з так званымі „прозаізмамі"—і моцная вобразнасьць, як канва рэальных падзеяў, зьяваў, натур, настрояў і адчуваньняў, канва вобразаў і формаў. І вядома, ня трэба забываць, што дух беларускіх працоўных мас навуку свайго выражэньня браў перадусім з прыроды, бо першай постацьцю яго выяўленьня быў той, каго завуць „мужыком". А „мужыцкае"—гэта-ж не шляхэцкае. У „мужыцкасьці" яго годнасьць і яго недахваты.

Творчасьць Ул. Дубоўкі глыбока нацыянальная творчасьць. Дубоўка—поэта нацыянальны. У гэтым кірунку яго творчасьць увабрала ў сябе дух творчасьці Янкі Купалы. Асноўнае Я. Купалы—гэта тое, што ён выразіў у адным з сваіх вершаў словамі: „мы ня зломкі, мы ня сноскі, мы народ магутны" і гэта сьцьвярджаў і сьцьвердзіў самым

[1]) Глядзі зб. „Vita".

фактам свае пладавітай творчасьці. Вось гэтым купалаўскім нацыянальным духам прасякнуты і творы Ўл. Дубоўкі. Ён глыбока адрозьніваецца ад нацыянальнага ў Я. Коласа. У гэтага нацыянальнае—гэта перадусім нешта мяккае, пяшчотнае, нешта асабліва-чулае да ўсяго таемнага, часта нясьмелае і з некатораю доляю разважлівай лятуценнасьці, а таксама, задумёнае і сумліўнае. Купалаўскае яму амаль супроцьлежна, яго асноўная адзнака—гэта нешта сьмелае, адважнае і суцэльнае ў сваёй рашучасьці і сьвядомасьці наконт свайго месца сярод іншых народаў, гэта бурнае і мяцежнае.

Калі нацыянальнае ў творчасьці Ўл. Дубоўкі ад Я. Купалы, то соцыяльнае ад А. Гаруна ў першую голаў. Як для А. Гаруна соцыяльнае было ў першую чаргу клясавым, так яно і ў творчасьці Ўл. Дубоўкі. Для А. Гаруна ў гэтым выпадку асноўным было тое, што выражана ў вершах „Думы на чужыне“—

Беднасьць—ня гора саўсім мне бесскарбнаму,
Я багацей, замажней за другіх..

Гэта багацьце для Гаруна зьмяшчалася ў працы рук скарэлых, гэта багацьце бяз грошай, бяз золата для яго там,

... дзе пад націскам роднага молата
жыцьцё куецца у глыб і ў шыр.[1])

Клясава-пролетарская сьвядомасьць, як характар соцыяльнага духу твораў А. Гаруна, выражаецца яшчэ і ў тым, што Гарун адрозьнівае сапраўдных прыяцеляў народу працоўнага ад ілжывых, якія прыкрываюцца прыгожымі „рэволюцыйнымі“ лёзунгамі. Гэтаму сьведкаю вершы „Юдам“, „Мулчру“, „Эх, сягоньня ў гэту ночку“, „Хто сказаў: „і я з народам“ і інш. Соцыяльна-клясавае А. Гаруна ў тым адказе, які ён дае на гэтае пытаньне, і які зьяўляецца як-бы прадказаньнем жыцьцёвага разьвязаньня яго ў рэволюцыі:

„Устануць, рушаць:“ Прэч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы, люд убогі,
Усё узяць ці ўсё згубіць.

Вось гэтыя думкі аб багацьці бесскарбнага пад націскам молата, аб багацьці ў паўстаньні „узяць усё ці ўсё згубіць“ А. Гарун сьцьвярджае фактам свае творчасьці ў той час, калі быў адарваны ад непасрэднай працы сярод работнікаў і цярпеў „за веру кару“ ў далёкім Сыбіру. Сам „бесскарбны“, ён стварае мастацкія каштоўнасьці вялікай вартасьці і тым самым багаціць беларускую мастацкую літаратуру, а цераз гэта і культуру наогул. Вось дух гаруновага соцыяльнага ў клясавым разрэзе, паглыблены рабочаю клясаю ў вопыце рэволюцый, і прасякае творчасьць Ул. Дубоўкі. Выражаецца ён у сьвядомасьці, што „ніколі на сьвеце без змаганьня жыцьцё ня дынаміць“, іначай кажучы, што ў аснове жыцьця палягае клясавае змаганьне, далей у бясстрашнасьці і адважнасьці, з якою спатыкаецца ўсё, што жыцьцё ставіць на шляху да мэты: „Ня страшна ўсё—няма чаго губляць“, таксама ў комсамольскім духу асабовага, у актыўным удзеле ў барацьбе, у ня чураньні патроннай торбы, у пагатоўнасьці, як будзе трэба, на гэту-ж торбу парваць зрэбную кашулю і г. д.

[1]) „Матчын дар“, стар. 37.

Творчасьць Ул. Дубоўкі, апроч вызначаных момантаў нацыянальнага і соцыяльнага гучаньня, вызначаецца яшчэ і культурнасьцю, дух якое ўвабраны поэтам у свае творы ў першую голаў ад М. Багдановіча, а таксама ад расійскіх поэтаў А. Блока, В. Брюсава і інш. Для М. Багдановіча поэзія ў першую голаў была культураю думкі, культураю формаў яе мастацкага выяўленьня. Гэту культуру і разьвіваў поэта сваёю творчасьцю, утвараючы ўзоры рознастайных і багатых дум у мастацкім выяўленьні, тым самым давёўшы гібкасьць і багацьце беларускай мовы, а таксама інтэлектуальнае багацьце таго, хто гэту мову захаваў, як адзіны скарб ад дзядоў і прадзедаў, „у сялянскай аграбленай хаце“, як кажа А. Гарун [1]) Вось гэтым Багдановічавым духам культурнасьці прасякнуты і творы Ўл. Дубоўкі.

Нарэшце яшчэ адзін момант, як аснова ўсяей творчасьці Ўл. Дубоўкі—гэта народная сказавасьць. Яна выражаецца ў тым, што ў народнай беларускай казцы, а гэтак сама і ў песьні, за аснову мастацкага пабудаваньня бяруцца ў першую голаў конкрэтныя дзеі. Казачнік, калі кажа казку, то апавядае дзеяньні тых ці іншых гэрояў і зусім унікае ад падрабязных характарыстык іх і доўгіх апісаньняў усяго, што мае другазначнае месца ў фактах дзеяў гэроя. Тое самае і ў песьнях. Там няма адцятых называньняў тэй ці іншай рэчы. Усялякія адчуваньні і пераживаньні выражаюцца цераз малюнкі конкрэтных фактаў ці, праўдзівей, цераз композыцыю гэтых фактаў. Пры гэтым дзейнымі асобамі як у казках, так і песьнях бываюць, апроч людзей, расьліны і жывёлы, але зазвычай гэтыя апошнія адыгрываюць ролю замесьнікаў людзей, або самых падзеяў. Такім духам народнай сказавасьці прасякнуты ўсе творы Ўл. Дубоўкі. Гэта сказавасьць у культываваным выглядзе зьяўляецца ў творчасьці Ўл. Дубоўкі прынцыпам пабудаваньня як лірычнага вершу, так і ліро-поэмы (дзеяпесьні). З гэтай крыніцы бярэ пачатак тое, што пры далейшым разьвіцьці можна будзе назваць беларускім ліроэпічным жанрам. Правесьнікамі гэтага жанру зьяўляюцца Дубоўкавы дзеяпесьні.

У суладжаным адзінстве вызначаных элемэнтаў нацыянальнага (Купалаўскага), соцыяльнага (Гаруновага), культурнага (Багдановічавага) і жанравага (народнага), у адзінстве, асноваю якога зьяўляецца выражэньне сьветагляду рабоча-сялянскай моладзі ў яго дзейным выяўленьні ў эпоху соцыялістычнага будаўніцтва (асабовае), у гэтым адзінстве і выступае перад намі творчасьць Ул. Дубоўкі ад часу прыблізна 22 году да 25 году ўключна.

## 14. Адлюстровак абуджэньня і ажыўленьня.

Быў час, калі ў навуцы аб літаратуры (іншакраёвай, вядома, бо беларускай яшчэ няма) лічылі, што тлумачыць мастацкія і поэтычныя творы азначала перакладаць іх ідэі з мовы мастацтва на мову адцятых разуменьняў, на мову філёзофіі, альбо на мову псыхолёгіі, альбо на мову культурна-грамадзкіх ці гісторычных фактаў (школы гісторычныя розных кірункаў), альбо на мову конкрэтных вобразаў зрокавага парадку, адкуль і тэрміналёгія ў крытыцы ад плястычных ці выяўленчых мастацтваў. Цяпер формальнаю школаю ўводзіцца яшчэ адзін прынцып тлумачэньня—гэта прынцып перакладу ідэй мастацкіх твораў на мову вобразаў і паняцьцяў слыхавога парадку, адгэтуль прыстасоўваньне да літаратуры тэрміналёгіі музычнага мастацтва. Нарэшце

---

[1]) Гл, „Матчын дар“, стар. 16.

социялёгічная школа ставіць перад крытыкай задачу перакладу ідэй мастацтва на мову социялёгіі (В. Плеханаў), што фактычна азначае параўноўваньне мастацкіх твораў з фактамі і зьявамі соцыяльнага жыцьця, з формамі дачыненьняў у грамадзтве і г. д. Кожная з гэтых плыняў фактычна разьвязвала і разьвязвае адзін бок мастацкай творчасьці, вырашала і вырашае адну задачу—гэта вызначэньне ролі і значэньня мастацкіх твораў, як дзейных чыньнікаў у справе абуджэньня і гармонізацыі „суб'ектыўнага" вопыту, назапасенага (у тэй ці іншай дзедзіне мысьленьня) успрыймаючым твор, у справе суладжаньня гэтых назапасеных думак у пэўнае адзінства, як сродку для разьвязаньня некаторай іншай жыцьцёвай задачы.

Такою задачай ў першую голаў зьяўляецца выхаваньне чалавека ў галіне „духоўнай" культуры (яе лепей называць формальнаю для адрозьненьня ад матарыяльнай). Падзяленьнем гэтай культуры на галіны ў залежнасьці ад тых мэтаў, якія ставіліся тэй ці іншай эпохаю ў выхаваньні чалавека, вызначалася накірованасьць крытычнай думкі. Так, выхаваньне чалавека ў галіне філёзофскай выклікала і кірунак філёзофічны ў крытыцы і навуцы аб літаратуры.

Сучасная эпоха на першы плян ставіць социяльнае выхаваньне, адгэтуль аддаваньне перавагі кірунку ў крытыцы социялёгічнаму. Пры гэтым мастацкія творы ў большасьці вывучаюцца, як адбіткі тых ці іншых социяльных зьяваў, часта зусім абмінаючы або, ў лепшым выпадку, пакідаючы на другім пляне вывучэньне літаратурных твораў, як твораў мастацтва. Зусім ня вывучаюцца мастацкія ўласьцівасьці і здольнасьці твору, а значыць не разьвіваюцца і эстэтычныя пачуцьці чытача, і крытыка ня ставіць задач мастацкага выхаваньня, якія ў злучнасьці з задачаю социяльнага выхаваньня складаюць агульную задачу—гэта задачу культурнага социяльнага выхаваньня новага чалавека. А як кажа-ж украінскі поэта Паўло Тычына:

За плугом ходити наші нащадки готуватимуться
не менш, як зараз готуються в балетній студії.
*І на людину, що не вмітиме пісні, дивитимуться, як*
на справжнього конт-революцьонера [1]).

„Іще в нас музики не досить. І серце в кожного глухе" [2]).

І нам здаецца, што ў будучым комуністычным грамадзтве мастацтва для чалавека будзе мець такое значэньне і адыгрываць у яго жыцьці такую-ж ролю, якую мела вера для веруючага. Мастацтва павінна заменіць рэлігію. Яно павінна будзе стварыць рытм жыцьця, як была стварыла яго рэлігія або народная культура. Калі мы кідаем свой узрок на народныя звычаі і абрады (народная культура), то нам здаецца, што зараз у жыцьці селяніна яны маюць значэньне організатараў рытму народнага жыцьця. І звычаі, і абрады, і нават забабоны выражаюць сабою гэты рытм, па якім ўсё жыцьцё, як-бы загадзя вызначнае ўва ўсіх сваіх драбніцах, працякае срога разьмераным тэмпам. Прыкладам, у вадзін час пяюцца адны песьні, у другі--другія, вясьнянкі, скажам, ніколі не пяюцца восеньню. Нават больш, беларус лічыць, што сьпяваць тую ці іншую песьню ня ў прызначаны для яе час проста ня можна. Альбо ёсьць такія сьвяты, калі ня можна нічога рабіць, апроч як схадзіць у лес, нарэзаць вецьця і навязаць венікаў. І кепскі той гаспадар, які, не назапасіўшы за гэты дзень венікаў сабе на год або на паўгода, будзе ў другі час бегаць у лес і, такім чынам, адрывацца

[1]) П. Тичина. „Замісць сонетів і октав.". Київ. 1920 г. стар. 18.

[2]) П. Тичина. „Жывем" комуною. Поэма. Выд. „Червоний Шлях".

ад пільнейшай работы, якую трэба ў гэты час рабіць. Ня будзем тут падрабязна спыняцца на гэтым пытаньні, толькі зазначым, што і звычаі і абрады ў народным жыцьці маюць значэньне тычак на жыцьцёвым шляху, па якіх чалавек срога разьмяркоўвае сваю энэргію і цераз гэта дажывае да глыбокай старасьці, што сярод іншых станаў грамадзтва вельмі і вельмі рэдкае зьявішча. Вось чаму нам здаецца, што культурна-мастацкае выхаваньне моладзі набывае асаблівае значэньне. Без культурна-мастацкага выхаваньня і культурна-мастацкай творчасьці немагчыма ўтварэньне новага рытму жыцьця, які-б замяніў сабою стары рытм, утвораны пануючымі клясамі на працягу шмат стагодзьдзяў. У гэтым сэнсе і П. Тычына кажа:

..."Доречі: соціялізм без музики ніякими гарматами не встановити [1])

Але вернемся назад. Калі-б дапасаваць усе вышэйпамянёныя прынцыпы тлумачэньня мастацкіх і поэтычных твораў да творчасьці Ул. Дубоўкі, то перад намі-б разгарнуўся малюнак сучаснага стану беларускай формальнай культуры ў яе жывым барваваньні, якое выяўляецца ў сучасных формах быцьця, што маюць крыніцаю „пурпуровую восень“—Кастрычнік. Перад намі-б у першую чаргу паўстаў-бы малюнак абуджэньня творчых народных сіл (сіл рабочых і сялян, галоўным чынам, моладзі), якія выкліканы тварыць на новых асновах ува ўсіх галінах жыцьця, а галоўным чынам, малюнак напорнага імкненьня абудзіць гэтыя сілы там, дзе яны яшчэ не абуджаны. Мы ўгледзілі-б ажыўленьне, якое праходзіць ня толькі ў мастацтве слова (яно зьяўляецца толькі найяскравейшым выразьнікам узаемадзеяньня ўсіх галін культуры), але і ў іншых галінах чалавечай дзейнасьці (гаспадарка, навука і г. д.). Гукамі гэтых зьяваў і фактаў,—фактаў, што зьяўляюцца выяўнікамі моцнага і напорнага духу беларускіх рабочых і сялян,—шуміць і звоніць творчасьць Ул. Дубоўкі.

Бязумоўна, нельга адмаўляць таго, што ў сучаснай беларускай літаратурнай рэчаіснасьці ёсьць творы, якія зьяўляюцца яскравымі паказальнікамі да некаторага стопню ўпадку інтарэсаў да мастацкай культуры і якія прадстаўляюць сабою, я сказаў-бы, консэрватызм і занядбаньне самога мастацтва. Ня будзем рабіць тут іх пералічэньня толькі зазначым, што супроць такога зьявішча Ул. Дубоўка паўстае сваімі вершамі, асабліва ў „Credo“. Ён кажа:

Вы мэлёдый ня слухаеце.
а я прыкладаю вуха да долу:
З Над'язер'я, над лугам
вясна завілася столкамі.

Гэта зьявішча прымушае яго непакоіцца і трывожыцца—

Задумаешся непакойна часам
і закалоцішся лісьцём асін.

Я сказаў, што Дубоўка паўстае сваімі вершамі, гэта значыць самымі фактамі творчасьці. Не абавязкова паўставаць у вершы. Важна тое, што за матарыялы для творчасьці выкарыстоўваюцца настроі непакою, тугі і інш. Дык вось у гэтых настроях і адбіваецца тое літаратурнае зьявішча, пра якое мы паміналі вышэй, поруч, вядома, са зьявішчамі іншага парадку, што ў супольнасьці сваёй вызначылі і самы настрой. І тут, вядома, важна паўстаць ня ў вершы, а вершам—творам, гэта

[1]) „Замісць сонетів і октав“, стар. 15.

значыць, самым фактам творчасьці, які-б сьведчыў аб поступе наперад і цераз гэта адмаўляў-бы таптаньне на адным месцы, у якой-бы галіне жыцьця яно ні было. Так робіць і Ўл. Дубоўка.

Поэта, ў першую чаргу,—гэта творца, будаўнік мастацкай культуры, а *за* творцаю—поэта ўжо не поэта, а проста чалавек. І поэта, калі ён сапраўды поэта, паўстае творамі, а не ў творах. У творах можа буяніць і той, хто мастацкага ніколі не тварыў і ня думае тварыць. Самымі-ж творамі будзіць людзкую думку можа толькі поэта. З гэтага боку творчасьць Ул. Дубоўкі заўсёды рэволюцыйная. Яна фактамі сваіх твораў ставіць жыцьцёвыя задачы, якія паўстаюць перад беларускім рабочым і селянінам у галіне будаўніцтва культуры і дае на іх пэўныя адказы. Гэтым яна пролетарская, як „зьмест“, і нацыянальная, як „форма“, у сваёй асноведзі, у сваім імкненьні да назапасеньня соцыялістычных элемэнтаў у мастацтве (у нашым разуменьні—зьместу і формы). У гэтым-жа і яе ажыўленства беларускага мастацтва нашай пары.

**Зьм. Сьнежка**

# Бэльгійская літаратура [1]

Бэльгійская літаратура зьяўляецца аднэй з маладых эўропейскіх літаратур. Бэльгійская літаратура прайшла вельмі кароткі шлях свайго разьвіцьця і скора стала ў шэрагі эўропейскіх літаратур. Гэта адбылося таму, што сама Бэльгія, як дзяржава, пачала існаваць толькі з 1830 году, калі яна рэволюцыйным шляхам адкалолася ад Голяндыі.

Да гэтага часу трэба аднесьці і ўтварэньне бэльгійскай літаратуры. Першыя творы бэльгійскіх пісьменьнікаў былі напісаны пад уплывам францускай літаратуры таго часу. І гэта зразумела, бо Бэльгія карысталася францускай мовай, як літаратурнай, і літаратура з першых крокаў пачала запазычаць у суседняй, ужо багатай у той час, францускай літаратуры. У гэты час выходзяць творы бэльгійскіх пісьменьнікаў Адольфа Шарль-Матье і Ван Гассэля; першы пісаў у духу францускага клясіцызму, другі знаходзіўся пад вялікім уплывам творчасьці вядомага пісьменьніка Віктара Гюго. Але гэты „запазычальны“ пэрыод у бэльгійскай літаратуры быў вельмі кароткі (25-30 год). Бэльгія, як краіна прамысловая, дзякуючы свайму інтэнсыўнаму політычнаму жыцьцю, пачала выходзіць з-пад культурнай апекі Францыі. Зьяўляюцца свае пісьменьнікі, якія ўжо даюць шмат свайго асабістага, якія ўжо пачынаюць гісторыю бэльгійскай нацыянальнай літаратуры, якая аж дагэтуль яшчэ друкуецца на францускай мове. Зачынацелем бэльгійскай нацыянальнай літаратуры трэба лічыць пісьменьніка Шарль-дэ-Костэра.

Шарль-дэ-Костэр (1827-79) зьяўляецца аўтарам вядомай поэмы-романа „Легэнда аб Ціль-Уленспігэле“. Гэта поэма апісвае старажытныя часы, калі фландрцам у 17 ст. прыходзілася весьці барацьбу з Гішпаніяй за сваю незалежнасьць ад апошняй. Гэты твор, з яскравымі малюнкамі з жыцьця Фландрыі таго часу, з прыгожымі апісаньнямі фландрыйскіх пэйзажаў і з соцыяльнымі мотывамі, зьяўляецца вельмі характэрным творам для маладой літаратуры Бэльгіі. У творы—протэст супроць клерыкалізму, які, асабліва ў Бэльгіі, быў вельмі моцным.

У Бэльгіі дэ-Костэра лічаць бацькам, зачынацелем ня толькі наогул бэльгійскай літаратуры, але і пролетарскай літаратуры Бэльгіі. Костэр у сваіх творах—на баку прыгнечаных, эксплёатуемых. Яго творы, як кажуць у Бэльгіі, напісаны мовай Рабэле [2]). Ен мала напісаў твораў, але яны вельмі характэрны для пісьменьніка Костэра.

У 80-х гадох утвараецца ў Бэльгіі група маладых пісьменьнікаў, на чале якой стаў Макс Валер, што ўтварыў часопіс „Маладая Бэльгія“. Такую назву насіла і ўтвораная група. Да групы далучыліся А. Жыро, Яс. Родэнбах, Ж. Жылькэн, Э. Верхарн і шэраг іншых пісьменьнікаў.

Група ставіла сабе мэтай—утварэньне сваей нацыянальнай бэльгійскай літаратуры, не залежнай ад францускай, а таксама і ад яе ўплываў.

---

[1]) У напісаньні гэтага артытулу мне значна дапамог бэльгійскі сучасны крытык-пісьменьнік Леон Берж'е, якому я і прыношу сваю шчырую падзяку.

[2]) Мова вядомага францускага пісьменьніка Рабэле.

Пісьменьнікі „Маладой Бэльгіі“ зьявіліся правадырамі двух моцных плыняў у літаратуры Бэльгіі—сымболізму і урбанізму.

Капіталістычнае разьвіцьцё Бэльгіі (разьвіцьцё індустрыі, шпаркі рост гораду, напруджаны характар барацьбы за існаваньне) ішло шляхам ломкі грамадзкасьці таго часу. Гэта ломка, руйнаваньне старога, нарадзіла новыя соцыяльныя групы, зьнічтажаючы старыя. Кожная такая група, як „адыходзячых“, так і „прыходзячых“, мела сваіх літаратурных прадстаўнікоў-пісьменьнікаў, альбо поэтаў.

Дробная буржуазія высунула з сваіх колаў даволі таленавітага пісьменьніка Каміля Лемонье (1845-1913). Лемонье выступіў на літаратурную ніву, як натуралісты. Яго творы, з якіх больш вядомы „Мужчына“, „Мярцьвец“, „Апошні пан“, „Канец буржуа“, „Мясалоўка“,—гэта соцыяльна-бытавы роман, дзе ён паказвае розныя грамадзкія групоўкі і іх уплыў на формаваньне характару і псыхікі людзей свайго кола. Застаючыся дробным буржуа і ў сваіх творах, ён усё-ж даў у некаторых з іх праўдзівыя месцы апісаньня цяжкага жыцьця рабочага.

Натуралізм Лемонье быў нейкім „хворым натуралізмам“, з ухілам у бок патолёгічнасьці, у бок родавых пытаньняў з адлюстраваньнем псыхічнага і соцыяльнага выраджэньня буржуазіі. За натуралізм Лемонье завуць бэльгійскім Золя. Лемонье першы ўводзіць у бэльгійскую літаратуру, як тэму, завод і адначасова адзначае цяжкае становішча рабочага на заводзе. Я ўжо казаў, што на ўсё Лемонье глядзіць праз акуляры „дробнага буржуа“,—вось чаму і сялянства ў Лемонье нейкае прагавітае, цёмнае („Мярцьвец“), і псыхічна выраджаецца буржуа, вышаўшы з рабочага („Канец буржуа“), вось таму і ідэалізуе ён дэклясаванага сялянскага хлопца, які робіцца „вольным басяком“ („Самец“).

Прадстаўніком адыходзячага шляхэцтва быў сябар групы „Маладая Бэльгія“ Жорж Родэнбах. Яго творчасьць прасякнута мясцовым колёрытам, яго пэйзаж—гэта горад „Мёртвы Бругэ“. На фоне гэтага гораду адбываецца нязначная гісторыя аднаго гэроя. Горад Бругэ—мёртвы, „маўчаньне валадарнае пануе ўсюды. Яно ўрачыстае, магутнае і заразнае. Над прыходзячымі кружыцца неадвязна. Ї пранікае іх, як у царкве фіміам“. Гэты горад, дзе ўсё мёртва, дзе застыла жыцьцё, маюць намер перабудаваць у партовы горад. Гэрою прадстаўляецца новае жыцьцё, дзе зносіцца ўсё старое і будуецца новае.

Ї романы, і лірыка Родэнбаха поўны пэсымізму. Яго гэроі нейкія „лішнія людзі“, яны шукаюць сьмерці, хочуць уцячы з „мёртвага гораду“, з „нуднага жыцьця“ ў мінулае, як гэрой „Мёртвага Бругэ“; альбо, яшчэ радыкальней, кідаюцца галавой уніз з званіцы („Званар“). Гэроі Ж. Родэнбаха неяк адарваліся ад жыцьця, жывуць сваім асабовым жыцьцём. Ї яго званар кідаецца галавой уніз з званіцы ў час, калі ў „мёртвым“ горадзе адчыняюць порт. Гэроі Родэнбаха—ныцікі-пэсымісты, іх ідэал—вызваленьне ад жыцьця, і гэтым вызваленьнем абвяшчаюць яны лятуценьні і сьмерць („У царсьцьве маўчаньня“). Поэзія Родэнбаха—поэзія пэсымізму, поэзія адыходзячага шляхэцтва.

Ж. Родэнбах зьявіўся, такім чынам, зачынацелем сымболізму ў бэльгійскай літаратуры. Сваё роднае, бэльгійскае пачынае займаць у бэльгійскай літаратуры ўсё большае і большае месца. Бэльгійскі пэйзаж, бэльгійскія гарады, іх мінулае, фландрыйскі быт—усё гэта стала сюжэтам літаратурных твораў, прыняла нейкую орыгінальную, багатую колерамі афарбоўку і ўтварыла нейкую сваістую па настроях поэзію. Ї ў поэзіі Родэнбаха відаць ужо пачатак гэтай сваістасьці і орыгінальнасьці.

Шэраг поэтаў з „Маладой Бэльгіі“: Ж. Родэнбах, Ван Лербэрг, Эльскан, Ле Руа і Мэтэрлінк,—былі яскравымі прадстаўнікамі сымболізму ў бэльгійскай літаратуры.

Морыс Мэтэрлінк[1]), як і Лемонье, паходзіў з дробна-буржуазнай сям'і, але ён крыху больш павярнуў у бок соцыялізму, чымся Лемонье.

Мэтэрлінк пісаў і вершы, і драмы, і публіцыстычныя артыкулы. Яго вершы, як і драмы, зьяўляюцца вельмі орыгінальнымі па спосабу выяўленьня ў лірычнай і драматычнай форме „настрояў“. Так піша В. Фрычэ. Каб выразіць настрой маркоты, ён піша верш, дзе шмат разоў паўтараюцца словы „павы“ і „белы“ (paon, blanche); гэта паўтарэньне павінна вызваць адпаведны настрой у чытача, а з другога боку, „белыя павы“ робяцца „сымболямі“ пачуцьця маркоты. Гэта ў вершах. Драмы і невялікія п'есы таксама маюць сваістасьць. Яны паказваюць ня дзеяньне людзей, а настроі. Так, яго драмы адбываюцца ў „нейкай невядомай краіне“ ў „некі невядомы час“; выводзяцца „нейкія дзіўныя людзі, што ня маюць ні характару, ні бытавых, соцыяльных рысаў. Яны ня маюць ні мэтаў, ні жаданьняў. Яны ні завошта не змагаюцца, а жывуць, як „сьляпыя“, знаходзячыся нібы ў лесе гушчэрным, дзе ўсё палохае іх.

П'есы Мэтэрлінка ўтвараюць настроі ў глядача, паказваючы трагізм чалавечага жыцьця. Скрыты гэрой яго п'ес—сьмерць, якая, як „няпрошаны госьць“ прыходзіць да гэрояў Мэтэрлінка і ўносіць іх з жыцьця. „Ад яе ня ўцячэш“, так думаюць гэроі Мэтэрлінка, а таму і страх за сваё існаваньне, пакінутасьць, нікчэмнасьць іх жыцьця.

Што рабіць?—Цярпець. І яны церпяць, чакаюць, пакуль іх не схваціць сьмерць. Гэтак напісаны такія драмы Мэтэрлінка: „Сьляпыя“, „Няпрошаная госьця“, „Там унутры“, „Пелеас і Мелісанда“, „Сьмерць Гэнтажыля“ і інш. дробныя п'есы.

„Настраёвасьць“ п'ес Мэтэрлінка, якая выклікае нэрвознасьць у глядача, зьяўлялася продуктам агульнай нэрвознасьці таго часу. Гэта нэрвознасьць была рэзультатам капіталістычнай перабудовы грамадзкасьці, асабліва перабудовы гарадзкога жыцьця. Але потым гэта нэрвознасьць зрабілася зусім нікчэмнай, і новыя п'есы Мэтэрлінка атрымалі ўжо іншую афарбоўку. Нэрвознасьць, жуда, страх зьніклі і з п'ес таксама, як зьніклі і з жыцьця.

Страх перад сьмерцю зьмяніўся змаганьнем з ёю. Мэтэрлінк зьмяніў і характар і асноўную тэму творчасьці. Яго драмы: „Монна Ванна“, „Жузэль“, „Сіняя птушка“, „Цуд св. Антонія“ і інш., значна адрозьніваюцца ад першых яго твораў. У іх ён ужо ня „нэрвуе глядача“, а паказвае яму жыцьцё буржуазіі з усімі інтрыгамі, дробнасьцю, дразгамі, скупасьцю і эгоізмам.

Ён дае, праўда неяк туманна, вобраз будучыны, „нейкага блакітнага царства“, але гэта „царства“ туманна, блакітна і далёка было для самога Мэтэрлінка. У публіцыстычных сваіх творах („Розум кветак“—зборнік) ён піша аб неабходнасьці рэволюцыі, аб руйнаваньні ўсяго мінулага, каб гэтым „расчысьціць шлях да будучыны“, якая і ў публіцыстычных творах, як і ў літаратурных, засталася для Мэтэрлінка туманнай.

Побач з поэзіяй „адыходзячых“, з поэзіяй страху сьмерці і прадсьмертнага брэду ўтваралася другая поэзія, поэзія „прыходзячых“,— поэзія машын, заводаў, руднікаў. Гэта поэзія з бадзёрасьцю будаўнікоў нясла новыя мотывы, новую лірыку, новый рытм і новыя адносіны да ўсяго.

[1]) Нарадзіўся ў 1862 годзе.

Поэзія машын, поэзія заводаў, стала поэзіяй будуючыхся гарадоў з іх „туманам ад дыму фабрычнага“, „з ровам гудкоў аўто“, з шумам людзкім і з горным струменем рабочых мас.

Найбольш яскравым прадстаўніком гэтай поэзіі урбанізму быў Эміль Верхарн (Emile Verhaeren).

Эміль Верхарн ня толькі ў бэльгійскай, але наогул у сусьветнай літаратуры зьяўляецца першым поэтам-урбаністым. Ён першы адарваў поэзію ад традыцыйнага супакою, ад гармоніі, ад мілагучнасьці і прынёс у поэзію грукат машын, гудкі заводаў, трэск аўто, цяжкія ўздохі цягнікаў, ліхаманачнасьць жыцьця, што ў мінуты руйнуе старыя будынкі і будуе вялізарныя гмахі. Верхарн першыя творы свае пісаў пад уплывам Рубэнса. Яго „Фламандцы“, „Манахі“, „Старыя майстры“ былі напісаны ў рэалістычна-натуралiскім тоне. „Вёска ў „Фламандцах“ Верхарна“, кажа П. Коган, „носіць рэалістычны характар, часамі ў вельмі грубых фарбах (сьвет скотніц, кароў і сьвіньняў)“.

Супярэчнасьці жыцьця яшчэ не зачапілі поэту. „Разгром“ і „Чорныя факелы“—гэта ўжо кніжкі, якія сьведчаць, што ў ціхае жыцьцё Верхарна ўварваліся „супярэчнасьці жыцьця“. І вось з гэтага часу пачынаецца „ліхаманачная“ творчасьць: ён кідаецца з аднаго боку ў другі, шукаючы выхаду з гэтых супярэчнасьцяў.

Сялянская Бэльгія адыходзіла, на яе месца прыходзіла другая—капіталістычная Бэльгія. Верхарн з жалем апісаў вёскі, адкуль ўсе цягнуцца ў горад і гарады, якія, як спруты, „з іх фабрыкамі і заводамі, біржай, тэатрамі і лябораторыямі“, засмоктвалі, убіралі сялянства і мялі яго пад калёсамі індустрыі. І ён прышоў за сваімі гэроямі ў горад, і гэты горад аглушыў яго, засмактаў.

Капіталізм, што пабудаваў вакзалы, фабрыкі, парты, чыгунку, гарады, зруйнаваў вёскі, ажывіў жыцьцё—вось гэрой Верхарнаўскіх твораў. Яму Верхарн і пяе свае гімны. Верхарн надзвычайна захапляецца „вялікім“; для яго, прадстаўніка дробна-буржуазнае клясы, ўсёроўна якое гэта вялікае па сваім соцыяльным зьмесьце. Ён аднакава захопліваецца і „грукатам машын“, і „капітанамі індустрыі“ і выхваляе рабочых, аднакава малюе ўладараў багацьцяў—банкіраў і паўстаўшых на барыкадах рабочых.

Верхарна захапіла наогул капіталістычнае жыцьцё з усімі атрыбутамі. Верхарн з вялікім захапленьнем піша аб „паўстаньні“:

Убіваць—
твoрыць,
аднаўляць!
З ненасытнай прыродай усадзіць
зубы ў сьвятую мішэнь!
У вялікі шалёнствам дзень
Пражу для жыцьця радаснага прасьці
Альбо ахвярай будаўнічай згінуць!
Паміраючы—тварыць
аднаўляць!

Яго захапіла гэта „вялікае“, што

„коціцца ў ярысным шуме
да мігу шалёнстваў
Але і да
ажыцьцяўленьня
надзей,
і да помсты“.

І таксама з захапленьнем ён пяе аб імпэрыялістых, што захапляюць новыя калёніі:

„Эўропы плямёны і новых дзьвёх Амэрык
О, раса белая! Табе мае жаданьні,
*Калі праз акіян, на невядомы бераг,*
Праясьнены цяпер, нясеш пераможна ты“!

А несьлі яны вядома што: эксплёатацыю, аграбленьне краіны, беднасьць і г. д. А Верхарн з такім-жа захапленьнем, як і ў час паўстаньня, пяе аб „перамогах“.

Праўда, Верхарн быў на баку прыгнечаных, любіў рабочых і сялян, некаторы час быў і ў шэрагах бэльгійскай рабочай партыі, але, што галоўнае, ён ня меў „глебы пад нагамі“, ня меў выразнай клясавай установкі. Ён ня здолеў правесьці розьніцы паміж эксплёататарамі і эксплёатуемымі.

Змаганьне гораду і вёскі, дыфэрэнцыяцыя сялянства, змаганьне гарадзкога пролетарыяту з буржуазіяй і соцыяльная рэволюцыя („Зоры“)—усё гэта напісана суб'ектыўна з налётам дробна-буржуазнай ідэолёгіі. Інтэрнацыяналізм Верхарна—буржуазны інтэрнацыяналізм, інтэрнацыяналізм капіталіста, які аднакава эксплёатуе і яўрэя, і нэгра і рабочага ангельца. Братэрства народаў Верхарна—мыльная бульбанка, якая лопнула ў яго на вачох, калі пачалася вайна.

І Верхарн з гораду йдзе ў вёску, дзе „загнілыя хаты“, ў якіх „на падлозе валяецца расьпяцьце“, „дзе разбураная пуня стаіць з заржавелымі засаўкамі...

27 лістападу 1916 году на станцыі Руан Верхарн быў раздушаны цягнікам.

Верхарн ня толькі прынёс новыя мотывы ў зьмест, але і ў форму, якая павінна была быць сугучнай сучаснасьці таго часу. Старым ямбам і хорэям не пад сілу абняць гураганнасьць рэволюцыйнай эпохі. Яе рытм—гэта бурны струмень, маючы сваю асабістасьць. Бурны струмень ня можа прайсьці па раней прыгатаваных канаўках—ён сваёй энэргіяй робіць свае канавы.

Верхарн быў рэволюцыянэрам формы, ён утварыў гэтак званы „Vers libere“ („свабоднае вершаваньне“). „Ня думка для формы, а якраз наадварот: форма для думкі, словы—гэта працяг дзеяньня“—вось сэнс Верхарнаўскай „рэволюцыі“ формы.

У час росквіту групы „Маладой Бэльгіі“ пачынаецца значнае ўзмацненьне рабочага руху. Утварэньне соцыялістычнай рабочай партыі, шэраг забастовак сярод рабочых, значнае пагоршаньне матар'яльнага становішча рабочых, эксплёатуемых ва-ўсю капіталістымі, прыдушэньне паўстаньняў рабочых, —усё гэта зьявілася прычынай таго, што ў поэзіі, ды і наогул у літаратуры, пачалі гучэць соцыяльныя мотывы. Заклік да змаганьня гучыць ужо ў сьпевах фландрскага бедняка Эльканса. Эльканс добра вывучыў жыцьцё партовых рабочых, дзе некаторы час працаваў і сам, і яго сьпевы адбіваюць жыцьцё, жаданьні і заклік партавых рабочых. Яшчэ яскравей высьветліў жыцьцё рабочых розных груп і сялян пісьменьнік Жорж Экоўт (Georges Eckkoud).

Нарадзіўся ён у 1854 годзе ў сям'і дробнага буржуа (чыноўніка) у Антвэрпэне і з раньніх гадоў рос нібы бяспрытульны, „ня ведаючы ні радасьці, ні каханьня“. Ужо ў маленстве, гадуючыся „на вуліцы“, ён навучыўся любіць бедных бяспрытульных, да якіх ён крыху быў падобен. У яго творах усюды адчуваецца вялікая любоў да прыгнечаных, эксплёатуемых. Ён вельмі мастацка малюе жыцьцё беднякоў

рабочых і сялян і „быўшых людзей“. Жорж Экоўт займае такое месца ў бэльгійскай літатуры, як у францускай Ромэн Роланд, а ў расійскай М. Горькі; яго так і завуць „бэльгійскі Горькі“.

Гэрої Экоўта—гэта басякі, якія заняты самай бруднай чорнай працай, апрануты ў рызьзё і лічаць сябе шчасьлівымі. Яны здаволены тым, што перавышаюць „быўшых людзей“, якія сталі ў іх шэрагі („З сьвету быўшых людзей“—роман).

Ж. Экоўт пагараджае, ненавідзіць гарадзкую культуру, якая руйнуе „супакойнасьць“ вясковага жыцьця. Гэта нянавісьць яскрава апісана Экоўтам у романе „Смага любві“, дзе вёска гатова ісьці крыжовым паходам на горад, зруйнаваць яго сумесна з нянавіснымі гараджанамі, якія ўсе—альбо „эксплёататары, альбо паразыты“.

Гэтыя адмоўныя адносіны пісьменьніка да гораду прыводзяць яго да „народніцтва“, да адыходу ў вёску, дзе яшчэ сьвята захаваліся звычаі старажытных часоў („Апавяданьні“).

З іншых твораў Экоўта трэба адзначыць апавяданьні „Годзен“,—дзе даецца малюнак салдацкага жыцьця (асабліва яскрава апісана жыцьцё ў казарме), „Маркус Цібу“, „Аўкцыён жабракоў“ (апавяданьне апісвае жыцьцё жабракоў) і інш.

Для характарыстыкі Экоўта характэрнымі з'яўляюцца гэтакія дэталі з яго асабістага жыцьця.

„У час вялікай вайны, калі ўся Бэльгія была акупавана нямецкімі салдатамі ў тым горадзе, дзе быў Экоўт, нямецкімі афіцэрамі быў дан загад салдатам расстраляць бязьвінных старыкоў і некалькіх дзяцей.

Салдаты адмовіліся гэта зрабіць. Ім пагражалі сьмерцю, але, ня гледзячы на гэта, яны ізноў адмовіліся. І салдат расстралялі. Ж. Экоўт падняў голас у абарону памяці гэтых салдат. Ён называў іх вялікімі гэроямі, большымі, чымся тыя, што гінуць на фронце. І калі скончылася вайна бэльгійскі ўрад звольніў са службы Экоўта, які ў той час ужо займаў профэсарскую катэдру ў аднэй з вышэйшых устаноў Брюсэля. Гэта быў вялікі ўдар Экоўту. Была організавана спэцыяльная дэмонстрацыя протэсту, у якой прымала ўдзел больш трох тысяч чалавек. Урад спалохаўся і павінен быў аднавіць у правах Экоўта, але апошні адмовіўся займаць катэдру і жыў апошнія гады, зарабляючы на жыцьцё літаратурнай працай“ [1]).

Да апошніх часоў Экоўт не пакідаў сваёй літаратурнай працы. Ён памер у канцы 1927 году.

Ж. Экоўт меў уплыў на творчасьць пазьнейшых поэтаў, як П'ер Бродкурэнс і Жан Туссэль, якія лічаць Экоўта сваім „літаратурным бацькам“.

У 1913 годзе быў апублікован твор П'ера Бродкурэнса „Чырвоная кроў фландрцаў“, які зьявіўся протэстам супроць існуючай палітычнай сыстэмы. Гэты твор выклікаў шмат шуму. Сьледам за ім Бродкурэнс піша „Boule Carcasse“ („Буль Каркас“), які быў надрукаваны толькі ў 1919 годзе ў часопісі „Le peuple“ („Народ“). Гэты твор трэба лічыць за лепшы твор Бродкурэнса. У гэтым творы ён гаворыць супроць вайны значна мацней, чымся Барбюс у сваім творы „У вагні“.

Гэты твор шмат гадоў заставаўся нявыданым. Яго не хацелі выдаваць ні бэльгійскія, ні францускія, ні нямецкія выдавецтвы.

Асноўны гэрой усіх твораў Бродкурэнса—рабочы, селянін на фоне беднай зруйнованай у часе вайны Бэльгіі. Бродкурэнс не шкадуе фарбаў, ён малюе ўсё ў вельмі сакавітых праўдзівых вобразах.

[1]) Факт паведамлен Л. Берж'е.

Жудасьцю вее ад старонак, дзе Бродкурэнс апісвае вайну на фландрыйскіх нівах. Ён перажыў яе сам, ён шмат бачыў, шмат чуў.—Малюнак зруйнаваньня краіны, вайна, напісаны з вялікім мастацтвам. З іншых твораў Бродкурэнса трэба адзначыць „Сьляпы кароль“ (Le roi aveugle), п‘есу „Квартал ткачоў“ (Le Coin des tisserands), „Алегорыю бясплоднага фігавага дрэва“ (La parabole du figuer sterie). Бродкурэнс напісаў і некалькі вершаў, сабраных у зборнік „Званары духаў“ (Le Carillonneus des espris).

Вось, што пісала Роза Люксембург аб творах Бродкурэнса сваёй сястры:

„Ці любіш ты Бродкурэнса? Ці ты ведаеш аб ім? Ці думаеш, як і я, што па багацьці фарбаў яго кніжкі напамінаюць Рэмбранта? Ці думаеш ты, як і я, што адценьне ўсяго цёмнага, ў якім зьмешана шмат залатога, што рэалізм вельмі праўдзівы—робіць вялікае ўражаньне, якое выходзіць нібы само сабой з усяго легендарнага і таемнага“.

Таксама поэзія Бродкурэнса вельмі мастацкая. Найбольш прыгожыя мы сустракаем у зборніку „Званары духаў“, пад назваю „Жыцьцё“ „Песьня рабоў“, „Чырвоны гімн“. З мастацкага боку вельмі каштоўным зьяўляецца верш „Алегорыя дзіцяці, што памылілася“.

Бродкурэнс дапамагаў усяму, што зьбліжае рабочых розных краін паміж сабою. Ён вельмі цікавіўся проблемамі культурнае сувязі паміж пролетарамі розных краін.

12 жніўня 1924 г. ён павінен быў рабіць даклад на тэму „Задачы пролетарскага пісьменьніка ў сучаснай буржуазнай грамадзкасьці“. Гэты даклад ён павінен быў рабіць Усясьветнаму конгрэсу рабочых, эспэрантыстых адзінага фронту... Але яго яму зрабіць ня прышлося. У гэты дзень яго пахавалі.

Яго зьмяніў Жан Туссэль, малады яшчэ пісьменьнік. Сам ён стары рабочы, які ў маладыя гады драбіў каменьне на берагох Мёзы, прабіваў каменныя муры ў шахтах Бэльгіі. Зусім нядаўна (у 1920 г.) ён пачаў пісаць свае творы. Дагэтуль бэльгійская літаратура ня мела твораў, напісаных непасрэдна рабочымі. Да гэтага трэба адзначыць, што гэроі ранейшых пісьменінькаў насілі вельмі індывідуалістычныя рыскі нагляданьня. Жан Туссэль мае мэтай утварыць мастацтва, якое-б намаўляла нянавісьць да вайны і любоў да сваіх братоў па кірцы. У Туссэля ёсьць яшчэ налёт сэнтымэнтальнага ідэалізму і пацыфізму. Але гэта зьяўляецца спадчынай ад ранейшых пісьменьнікаў, на творах якіх вучыўся Туссэль.

Туссэль мае ўжо некалькі твораў: „Сьмерць малога Бланша“, „Авантура мелянхоліка“, „Ячэйка 158“, „Этап“, „Нямы чалавек“, „Кар‘ера“, „Згублены дом“ і інш. Галоўным чынам, гэта ўсё апавяданьні.

У „Сьмерці малога Бланша“ Туссэль на агульным фоне рабочага жыцьця дае апісаньне сям‘і рабочага, дзе амаль усе мужчыны п‘юць гарэлку. Сям‘я жыве дрэнна. Сын ведае, што ўсё гора ад гарэлкі, і ён руйнуе карчму.

Карчма ў Туссэля—сымболь капіталістычнай сыстэмы. Яго сьвядомыя гэроі поўны агнём паўстаньня, руйнаваньня ўсяе сыстэмы.

У іншых апавяданьнях ён малюе, галоўным чынам, розныя бакі з жыцьця рабочых.

З іншых сучасных пісьменьнікаў Бэльгіі трэба адзначыць маладога пісьменьніка Леона Бэрж‘е. Цяжка яшчэ што-небудзь сказаць аб яго творчасьці, бо ён яе яшчэ толькі пачынае. Некалькі апавяданьняў:

„Другія“, „Назад“, „Любі“ і інш., сьведчаць аб упартай працы Л. Бэрж‘е. Цяпер ён піша роман „Выбірай“, дзе апісвае жыцьцё бэльгійскага салдата ў акупаванай Бэльгіяй Нямеччыне. Ня гэтак даўно сам адбываў сваю вайсковую службу ў Нямеччыне,—і там ён знайшоў шмат матар‘ялу для свайго твору.

„Усё перажытае, пераадчутае, тое, што я бачыў“, піша Бэрж‘е ў сваім лісьце, „пакінула нейкі цяжкі асадак. Бэльгійскі ўрад думае адпомсьціць немцам за акупацыю Бэльгіі, за крывавыя дні на фландрыйскіх палёх.

Цяпер чарга Бэльгіі заплаціць за ўсё... І каб вы пабачылі, як расплачваюцца нямецкія пролетары, якія і ў час вайны расплачываліся за грахі імпэратараў. Мой твор—гэта эпопея фактаў жудасных па сваім зьмесьце“.

Акрамя вышэйназваных пісьменьнікаў, у Бельгіі ёсьць яшчэ цэлы шэраг поэтаў, пісьменьнікаў і драматургаў, якія высьвятляюць у розных вобразах і па рознаму супярэчнасьці сучаснага жыцьця. Сярод іх ёсьць некалькі даволі здольных пісьменьнікаў і поэтаў, як Жорж Вірэс, Раўдо, Поль Спак, М. Гошэ, Демольдэр, Поль Андрэ, А. Гарді і інш.

Вельмі цяжка цяпер рабіць якія-небудзь вывады, бо пролетарская літаратура Бэльгіі яшчэ толькі пачынае расьці. Цяжка казаць і аб мастацкай пролетарскай творчасьці, бо бельгійскі пролетарыят кінуў свае галоўныя сілы на фронт палітычнага і экономічнага змаганьня. Таму зразумела, што слабейшым фронтам змаганьня зьяўляецца трэці культурна-літаратурны фронт.

Зьяўленьне твораў Ж. Туссэля і інш. сьведчыць, што і на гэтым фронце ўжо пачынаюць зьбірацца сілы для культурнай эмансыпацыі бэльгіскага пролетарыяту.

А гэта культурная эмансыпацыя магчыма разам з палітычна-экономічным вызваленьнем.

Менск, студзень 1928 г.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

## Шануйце мову

Вядомы на Беларусі філёлёг Мікола Байкоў у сваім артыкуле „Да пыта ьня аб чужаземных словах у нашай мове“ (гл. „По ымя“, № 4, 1927 г,) шмат каму мыліць галаву за розныя злачынствы адносна беларускае мовы. У ліку гэтых няшчасных, якія падпалі бязьлітасна-глыбокаму аналізу М. Байкова. знаходзіцца між іншымі „укладальнік музычнае тэ міно ёгіі“ Ю. Дрэйзін (гл Белар. нав. тэрміналёгію, вып. 7, Музычныя тэрміны), які адважваецца даць свой скромны адказ і хоць крыху абараніцца ад абвінавачваньняў строгага навуковага пракурора Байкова.

Шмат злачынстваў нарабіў Ю. Дрэйзін у музычнай тэрміналёгіі, але Байкоў спыняецца на наступных.

Першае злачынства: укладальнік тэрміналёгіі выявіў „вельмі скромную слоўную творчасьць“, бо абсолютна перакладзены толькі 10 тэрмінаў пад №№:

1. Аббревиатура—Скарачэньне.
2. Акколада—Дужка.
3. Виртуоз—Мастак.
4. Реплика—Адказ.
5. Респирация—Дыханьне.
6. Фраза—Сказ.
7. Фразировать—Выражаць.
8. Фразировка—Выражэньне.
9. Хордометр—Струнамер.
10. Экспрессия—Выразістасьць.

Гаворачы аб гэтым, тав. Байкоў дадае з патосам: „запраўды, вельмі скромная слоўная творчасьць аўтараў тэрміналёгіі“!

Павінен рашуча зазначыць, што ў галіне ўтварэньня новых слоў я ня толькі не зьяўляюся такім мастаком, як філёлёг Байкоў. але сьвядома ня хочу і сьцерагуся быць такім. Калі-б Байкоў не абмежаваўся толькі статыстычн ым падлікам слоў, перакладзеных і неперакладзеных у музычнай тэрміналёгіі, ён адразу-б заўважыў, што рабіць па яго рацэпце адносна ўтвар эньня новых слоў, гэта значыць скласьці такую тэрміналёгію, якая будзе зразуме ая т лькі.. для аўтара [1]. Калі мне прыходзілася укладаць тэрміналёгію, я не зачыніўся шчыльна ў сваім габінэце, не адгарадзіўся ад усяго сьвету (як хоча, здаецца, адгарадзіць ад усяго сьвету беларускую мову Байкоў) і ня ўпаў у нейкі словатворчы „транс“, але раіўся шмат з кім спаміж як музычных дзеячоў, так і беларусазнаўцаў. Спамж першых знаходзіліся і філёлёгі ў сгылі Байкова і раілі такія, напрыклад, тэрміны:

дыез—звышок,
бэмоль—зьніжок,
(націск)—моцка,
гама—тонаход і да г. п

На такія „тэрміны“ ні я, ні тыя, з кім я раіўся, не згаджаліся і ня згодзімся ніколі і ахвоча дазволім Байкову рабіць самому та ія словатворчыя „подвігі“, бо яны зусім ня горай яго „праціножнікаў“ (антыподы), „воднікаў“ (акварыум) і г. д. Я ня бачу, чым „звышок, зьніжок і праціножнікі“ горай за славутныя „мокроступы“.

Другое злачынства: як наогул апошнія выпускі „Навуковае тэрміналёгіі“, так у прыватнасьці музычная тэрміналёгія адзначаюцца адсутнасьцю мэтодолёгічных прынцыпаў. „Адсюль, піша Байкоў,—нядзіўна, што перакладаецца, прыкладам, пад № 151 „Дисгармония—рознагучнасьць“ (побач з „дысгармонія“), а „гармония“ застаецца без перакладу (пры чым укладальніка тэрміналёгіі тав. Дрэйзіна, як знаўцу грэцкае мовы, трэба папікнуць за тое, што ён забыўся значэньня слова harmos (лад), якое ў перакладзе на нашую мову будзе адзначаць ня „гук“, а менавіта „лад“).

Адносна адсутнасьці мэтодолёгічных прынцыпаў у вапошніх выпусках „Навуковае тэрміналёгіі“ наогул я гаварыць ня буду, а што тычыцца музычнае тэрміналёгіі, дык скажу, што якраз т в. Байкоў і ня трымаецца тых мэтодолёгічных прынцыпаў, якія сам-жа і высоўвае На старонцы 162 пад літарай „г“ тав. Байкоў піша: „Не належаць таксама перакладу лацінскія і грэцкія тэрміны, якія ў сучасным навуковым ужываньні страцілі свой першапачатковы сэнс ды набылі характар умоўных тэрмінаў“. Вось-жа якраз мы і ма м тут гэты выпадак. Калі-б тав Байкоў, крытыкуючы музычную тэрміналёгію, патурбаваўся заглянуць хаця-б у які-колечы падручнік па гісторыі музыкі, ён бы адкрыў для сябе цікавую Амэрыку, што слов „гармонія“ якраз „у сучасным навуковым ужываньні страціла свой першапачатковы сэнс ды набыла характар умоўнага тэрміну“. Справа ў тым, што грэкі гарм ніяй называлі зусім ня злучэньне гукаў і іх адначасnae гучэньне. Такой гармоніі (у цяперашнім сэнсе) грэкі ня мелі і яе ня ведалі, бо... выкладаць, аднак, тут прычыны гэтага зьявішча ня буду, адашлю тав. Байкова да крыніцы па гэтым пытаньні (ну, хаця-б да прац проф. Петра аб старагрэцкай музыцы,

---

1) Заўважыў-бы ён таксама, што ў муз. тэрміналёгіі, апрача прыведзеных прыкладаў. ёсьць і іншыя абсолютныя пераклады (volta, віртуоз і інш.), ёсьць і слоўныя новатворы (форшлаг, нахшляг і інш.).

альбо да адпаведнага тому Ambros'a Musikgeschichte). Гармоніяй грэкі называлі тое, што мы цяпер называем „тональнасьць“. Такіх гармоній у грэкаў было ня мала: гармонія лідыйская, іонійская, бэотыйская, фрыгійская і г. д., судзячы па помніках, да 16-і. Мы цяпер часта побач з тэрмінам „тональнасьць“ ужываем і тэрмін „гама“ і гаворым, прыкладам, тональнасьць C-dur або гама C-dur. Але і тэрміну „гама“ грэкі ня ведалі, а зьявіўся ён толькі ў XI сталецьці нашай эры, калі музычны-тэорэтык, манах Гвідо д' Арэццо, дадаў да грэцкае поўнае музычнае сыстэмы (teleion) наперадзе яшчэ адну ноту, якую назваў грэцкай літарай „гама“, можа быць, як ініцыялам свайго ўласнага імя[1]. Потым гэты тэрмін перашоў на ўвесь шэраг гукаў, а першая нота сыстэмы атрымала назову, адпаведную грэцкай „гаме“—лацінскае g, тым болей што папярэднія лацінскія літары для назоў гукаў (a, b, c, d, e, f) былі ўжо выкарыстаны.

Гэткім чынам, лічыць адсутнасьць перакла у слова „гармонія“ адсутнасьцю мэтодолёгічных прынцыпаў ніякім чынам нельга ўжо таму, што гэтая адсутнасьць перакладу якраз адпавядае таму мэтодолёгічнаму прынцыпу, які высоўвае тав. Байкоў. А калі ён ня турбуецца пазнаёміцца з тым прадметам, які ён крытыкуе, дык я-ж тут не вінаваты.

А для якой мэты тав Байкоў прывёў слова „harmos“, я ўжо зусім ня ведаю. Калі-б ён зазірнуў у які-колечы старагрэцкі слоўнік (ну, хаця-б у славутнага Вэйсмана), ён зноў-бы адкрыў для сябе Амэрыку, што, апрача слова harmos, ёсьць і слова harmonia, але абодвы словы не першапачатковыя, а паходзяць ад аднаго кораню ar (ад якога і вядомы ўзмацнены дзеяслоў ararisco). Зразумела, і корань ar і выводныя словы harmonia і harmos абазначаюць ня „гук“, а „лад“, але, як я ўжо гаварыў, лад ня ў сэнсе акорду (наша гармонія), а тэй ці іншай пасьлядоўнасьці таноў і поўтаноў (а ў старых грэкаў часам і чвэрцяй таноў). Я добра разумею, што, калі тав. Байкоў досыць не цэрамоніцца з жывой беларускай мовай, на абарону якой хто-небудзь як-ні-як можа і падняцца (ды яна і сама абароніцца ад яго, выкінуўшы яго „проціножнікі“), дык з старагрэцкай можна тым болей не цэрамоніцца.

Такую-ж бесцэрамоннасьць я наглядаю ў тав. Байкова і да лацінскай мовы. На старонцы 166-ай ён піша: „для прыйменьнікаў трэба прыняць аканьне без выключэньняў“ і для прыкладу дае слова „пралетар“. Тав. Байкоў, значыцца, думае, што слова „пралетар“ паходзіць ад дзеяслова „пралятаць“? Я пэўны, што да гэтага справа не даходзіць, і што Байкоў ведае, што „пралетар“ ёсьць лацінскае слова proletarius. А якая яго філёлёгічная пабудова? Калі-б тав. Байкоў патурбаваўся заглянуць у лацінскі слоўнік (ну, хаця-б у славутнага Шульца), ды яшчэ дадаў 1-ю кнігу Ціта Лівія Ab Urbe condita і комэнтары да яе хаця-б Нетушыла, дык адкрыўбы яшчэ адну Амэрыку (ужо трэцюю), што ў слове proletarius часьціна pro зусім ня прыйменьнік, а ўваходзіць у корань prol, ад якога паходзіць і слова proles—дзеці, патомства, і што па констытуцыі Сэрвія Тулія гэта была тая кляса, якая засталася па-за цэнзам, тыя людзі, якія ў цэнзавыя сьпісы не маглі ўнесьці якой-колечы маемасьці, бо яе ў іх ня было, а маглі, апрача сябе, унесьці ў гэтыя сьпісы сваю адзіную ўласьнасьць — дзяцей. Бедная лацінская мова! Ну што-ж, яна сястра грэцкай і павінна ад Байкова цярпець аднолькавую долю. Валяй, тав. Байкоў!

Трэцяе злачынства: „Некаторыя пераклады,—піша тав Байкоў,—вельмі няўдалыя, напрыклад, „какофонія — ліхагучнасьць“. Ю. Дрэйзіну павінна было-б быць вядомым, што нашаму „ліхі“ адпавядае ў грэцкай мове poneros (понэрос), а тутака „kakos“ (какос) мае значэньне „благі“, „паганы“, „кепскі“ лепш за ўсё „какофонія—бла агучнасьць). Ізноў бедная грэцкая мова! А ці помніць (лепей спытацца: ці ведае) тав. Байкоў у грэцкай гісторыі такія назовы грамадзкіх клясаў, як kakoi і agathoi? Ці ведае выраз kakoi chronoi? У першым выразе kakoi процістаўляецца agathoi, што абазначае добры ў моральным сэнсе, значыцца, kakoi тут ужываецца як раз у сэнсе „ліхі“. У другім выразе kakoi chronoi зусім дакладна перакладаецца на беларускую мову „ліхія часы“. Як у беларускай мове слова „ліхі“ мае актуальны і неактуальны сэнс, так стаіць справа і ў грэцкай мове з словам „kakos“. Магу толькі (пародыруючы словы тав Байкова) папікнуць яго за тое, што ён, унівэрсальны мовазнаўца, ня турбуецца пазнаёміцца з тым прадметам, які ён крытыкуе.

„Аднак,—піша тав. Байкоў,—недахоп музычнай тэрмінолёгіі патрабуюць спэцыяльнага разгляду“. Шчыра прызнаюся, што ад гэтых слоў мне робіцца адразу і зімна, і горача. Калі пры неспэцыяльным разглядзе Байкоў знайшоў у мяне столькі злачынстваў, дык што-ж будзе пры спэцыяльным?

Жарты жартамі, але, кажучы паважна, трэба параіць тав Байкову (а калі ён парад не патрабуе, дык хоць папрасіць яго), каб ён больш шанаваў мову, як жывую (беларускую), так і мёртвую (грэцкую і лацінскую), каб ён лепей знаёміўся з тым прадметам, які ён крытыкуе, і каб кінуў займацца філёлёгічным сьпірытызмам.

**Ю. Дрэйзін.**

---

1) Слова „гама“, як назова ноты, сустракаецца, праўда, ужо ў Оддо з Клюньні (памёр у 942 годзе) але канчаткова гэты тэрмін, як назова ўсяго шэрагу гукаў, усталіўся дзякуючы Гвідо д' Арэццо (памёр у 1050 г.)

# Аб слове „савет“

Ёсьць беларускае слова „рада“, якое на расійскую мову перакладаецца словам „савет“ (і наадварот)

З замацаваньнем на Беларусі савецкае ўлады ў адзначэньні паняцьцяў „совет рабочих и крестьянских депутатов“, як і „совет народных комиссаров“ ня было еднасьці, і ўжывалася беларускае слова „рада“ і расійскае „савет“. Зусім правіловай была пастанова ўраду, якая п апанавала ўжываць слова „савет“, слова расійскае, але набыўшае значэньне тэрміну, які тлумачыў пэўнае паняцьце дзяржаўнага ладу. Гэты тэрмін (як і „бальшавік“) набыў інтэрнацыянальнасьць, ён ужываецца і ў іншых, ня маючых савецкага ладу, старонках.

Але, прыняўшы тэрмін „савет“, у нас пайшлі залішне далёка, пачалі затуманьваць яго сэнс тым, што мэханічна пачалі ўжываць яго ўсюды, замяняючы ім слова „рада“. Але робяць гэта таксама бяссыстэмна. Так. у нас пішуць: „цэнтральны савет Асо-Авіяхіму“, „цэнтральны савет профэсыянальных саюзаў“, але ў тойжа час знойдзеце і „навуковая рада Інбелкульту“ і да г. п. Нельга сказаць і ўразумець, дзе пачын е.. ца „рада дзе канчаецца „савет“.

Слоўнікі тут таксама ала тлумачаць. У бел.-расійскім слоўніку Б..кова і Некрашэвіча ёсьць слова „рада“, але няма слова „савет“. У слоўніку Байкова і Гарэцкага (рас.-беларускі) слова „совет“ мае два пераклады: 1) рада; 2) савет (народных камісараў) Далей ідуць пераклады: „совет военный—вайсковая рада“, „совет школьный—школьная рада“. Тут ёсьць толькі намёк на розьніцу паміж словам „савет“ і словам „рада“. Але няма тлумачэньня гэтае адмены іх ужываньня. Да рэчы, у жыцьці як раз ужываюць „вайсковы савет“ і „школьны савет“, грунтуючыся не на слоўніку, а на шаблённай звычцы.

Трэба гэтую звычку, якая шкодна адзываецца і на чыстаце мовы і на яскравасьці тэрміну „савет“, зжыць, як і ўсякую іншую загану.

Слова „савет“ трэба ўжываць у яго ўласным сэнсе як тэрмін, што азначае аняцьце дзяржаўнага ладу (СНК, сельсавет, ВСНГ і да т. п), а слова „рада“ ува ўсіх іншых выпадках (навуковая рада, рада профсаюзаў, рада Авіяхіму і да г. п.).

Ад гэтага як літаратурная, так і разгаворная мова толькі в.. адае, набудзе акрэсьленасьць паняцьця

**Хв. Шынклер.**

---

# Аб слове „цягнік“

Вось сапраўды слова, якому што далей, то болей не шанцуе.

Зьявілася яно яшчэ ў дарэволюцыйнай беларускай літаратуры; яно было жывым, народным, ня штучным словам і мела пэўны выразны сэнс. (Рас.—„поезд“).

Але з цягам часу сэнс яго пачалі заблытваць, пачалі ўжываць яго для азначэньня такога паняцьця, як „паравоз“ (рас.—„паровоз“). Слова „цягнік“ набыло два сэнсы. Так яго і пачынаюць часта ўжываць у літаратуры. І калі чытаеш „цягнік“—дык ня ведаеш, ці то гаворацца аб „поезде“, ці аб „паровозе“. Дайшло да таго, што той, хто не жадае блытацца, пачынае ўжываць русіцызм—„поезд“ (напр у беларускай укладцы „Гудка“).

Калі маеш якое сумненьне ў справе ўжываньня таго ці іншага слова, дык знаходзіш сабе конкрэтную і моцную дапамогу ў слоўніку. Але... з „цягніком“ і тут не шанцуе. Так у рас.-беларускім слоўніку Байкова і Гарэцкага (выданьне 2-ое, 1926г.) „паровоз“ перакладаецца словам „паравоз“, што трэба лічыць правільным, а слова „поезд“ мае ўжо два пераклады: „цягнік“ і „поезд“. Тут залішне даны русіцызм, у якім наша мова ня мае патрэбы. Куды горш стаіць справа з беларуска-расійскім слоўнікам Байкова і Некрашэвіча (на тыт. аркушы—1925 г., на вокладцы—1926 г.). Тут мы не знаходзім слоў „паравоз“ і „поезд“, але за тое слова „цягнік“ перакладаецца тут як „паровоз“. Такім чынам, нашыя мовазнаўцы не знайшлі адзінага тлумачэньня злаш.асnаму слову „цягнік“, а апошнія два (Байкоў і Некрашэвіч) з лёгкай рукі пусьцяць у ўжытак недакладнае тлумачэньне.

А між тым у народнай гутарцы заўсёды слова „цягнік“ ужываецца ў сэнсе „поезд“ (што падобна да украінскага „поцяг“ і польскага „pociąg“) а ў сэнсе „паровоз“ ужываецца слова „паравоз“ (што пагоджваецца з словам „параход“, як словы, якія тлумачаць блізкія разуменьні).

І залішне зусім выраблянь мудрагелі, тлумачачы словам „цягнік“ зусім іншае паняцьце, а то, нават, і надаючы яму два сэнсы.

Трэба, каб у літаратуры, як і ў жывой гутарцы, слова „цягнік“ ужывалася ў належным яму сэнсе.

**Хв. Шынклер.**

# Пра беларускія словы—вопратня, замыканьне і высновы[1)]

1. У беларускай літаратурнай мове ўсталяваўся зараз тэрмін **„разьдзявальня“** ў сэнсе азначэньня пакою, дзе распранаюцца і захоўваюц верхнюю вопратку—тое, што ў расійскай мове азначаецца словам **„раздевальная“**.

На гэтым месцы ўжываньне такога „беларускага“ сл ўка ёсьць нішто іншае, як літаральны перанос к нам расійскага тэрміну толькі ў беларускай транскрыпцыі і, як такое, зьяўляецца штучным. Такога слова ня ведаюць беларускія народныя гутаркі, і яно зусім не пасуе да беларускай мовы.

Дапраўды. Слова „разьдзявальня“ відавочна паходзіць ад слова „адзежа“ (адзявацца, разьдзявацца). У народнай беларускай мове тэрмін „адзежа“ азначае найчасьцей адзежу ў агульным сэнсе і радзей—адзежу споднюю (бялізну, гарнітур), але ні ў якім разе ня верхнюю (як паліто); у такім разе народныя гутаркі ўжываюць тэрмін „вопратка“ (часам „апратка“ або „апранаха“), адгэтуль—апранацца, распранацца. І эта, папершае. Падругое: тэрмін „разьдзявальня“ няўдалы і па сваім сэмасыялёгічным зьместу Такая форма ў нас выклікае ўяўленьне ня гэтулькі аб мейсцы захоўваньня (пакоі) адзежы (вопраткі), колькі аб самой падзеі (працэсе) разьдзяваньня (распрананьня) ды мае нават водцень прымусу. Выходзіць—„разьдзявальня“—гэта той пакой, дзе разьдзяваюць (распранаюць), а можа нават і самое „разьдзяваньне“, як гульня, бегатня і д. г. пад., а ня дзе захоўваецца вопратка.

Гэтыя меркаваньні змушаюць нас запрапанаваць дзеля ўжытку, замест тэрміну **„разьдзявальня“,—„вопратня“**. Наш наватвор мае перавагу над ранейшым з трох бакоў.

А менавіта: ён зьяўляецца чыста беларускім, а не наносным—папершае; мае філёлёгічную крэўнасьць з словам „вопратка“, а не „адзежа“—падругое; зьвязваецца з разуменьнем пакою, дзе распранаюцца і захоўваюць вопратку, а не з самім распрананьнем—патрэцяе.

2. Таксама шчапіўся і бытуе ў беларускай літаратурнай мове тэрмін **„заключэньне“**, як азначэньне высноў (вывадаў) з раней казанага або пісанага—тое, што ў расійскай мове адпавядае слову **„заключение“**.

Гэты тэрмін—таксама пераклад на наш правапіс расійскага звароту. хаця гэтае слова і паходзіць ад кораню праславянскага (а значыць і агульна-славянскага).

„Заключэньне“,—гэта мэтафора ад слова „ключ“, але мэтафора няўдалая, і ў гэтым выпадку больш прыпадае вытварыць мэтафору ад слова „замок“, і мы ўносім ва ўжытак, замест тэрміну **„заключэньне“,—„замыканьне“**.

Запрапанаваны намі наватвор-мэтафора больш удала адбівае сэмасыялёгію тэрміну, і паколькі тэрмін „заключэньне“ яшчэ ня мае ўсталяванай традыцыі, ён можа лёгка падмяніць сабою фактычна чужы зварот.

3. Запанав ў у нашай літаратурнай мове і расійскі тэрмін „вывод“—у нас пад уплывам аканьня—„вывад“,—які азначае выснову з ранейшага.

Можна казаць, што гэты тэрмін усталяваўся цьвёрда, але тым ня меней гэты тэрмін для нас чужы, няўдалы і ня зусім ужываецца на сваім мейсцы.

Дапраўды. Беларуская мова, праўда, ведае гэты корань — вадзіць, выводзіць, адгэтуль і вывад,—але не ў такім сэнсе. У жывой мове можна пачуць: птушка вывела птушанят—адгэтуль кажуць „вывад птушанят (часам-вывадак) - або „вывад коняй“ (як выгнан жывёлы) і д. г. пад., але нашай жывой мове невядомы тэрмін „вывад“ у сэнсе расійскага „вывод“, як выснова з папярэдняга. Загэтым мы запрапануем, замест яго, наватвор **„выснова“**, адгэтуль высанаваньне і д. г. пад.

**С. З.**

---

1) Ад рэдакцыі. Не падзяляючы некаторых меркаваньняў аўтара гэтай нататкі, рэдакцыя падае яе на абгаварэньне чытачоў.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**„Чатырохсотлецьце беларускага друку“** *(1525 1926 г.) Зборнік. Вып. Інстытуту Беларускае Культуры.* Менск, 1926 г., стар VIII+360 (+61 укл. арк.) тыраж 1200 экз. 26×18 ст. Цана не паказана.

У апошнія гады навука СССР адзначыла шэраг гістарычных дат кнігадруку 300-лецьце друку ў Велікарусі (Масква), 350-лецьце друку на Украіне (Львоў), і, нарэшце, у 1925 годзе чатырохсотлецьце кнігадруку ў Беларусі. Беларусь па праву ганарыцца гэтай культурнай датай, бо ў ёй раней за другія краіны, што ўваходзяць у СССР, зьявілася друкаваная кніга ў роднай мове. Гэта было праз 80 гадоў пасьля вынаходжаньня Гутэнбэргам спосабу кнігадрукаваньня.

Уласна першая кніга ў беларускай мове выдана была Францішкам Скарынай у Празе Чэскай 6 жніўня 1517 г.—„Псалтыр“. Але пад уціскам каталіцкай рэакцыі, якая мела развой у Празе, ён перанёс сваю дзейнасьць на бацькаўшчыну і тут—у сакавіку 1525 г. выйшла першая беларуская кніга, надрукаваная на Беларусі (Вільня) – „Апостал“. 1525 год і паслужыў пачатковай датай беларускага кнігадрукаваньня.

Выдаючы кнігі „Людем простым посполитым к пожитку“ у іх роднай мове, бо „человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, может поразумети“, Скарына адбіваў сваёй дзейнасьцю той нацыянальна-культурны рух, які ахапіў беларускую шляхту і гандлёвую буржуазію ў XVI сталецьці. Ён зьявіўся пачынальнікам беларускае літаратуры, яго выданьні даюць пачатак беларускае літаратурнае мовы.

Кнігі, выданыя Скарынай, - кнігі рэлігійнага зьместу, дзеля гэтага гістарычная дата беларускага кнігадрукаваньня мае для нас не ідэолёгічнае, а выключна навуковае значэньне.

А апошняе, бязумоўна, аграмаднае. Нямала дробных і капітальных прац, ахвяраваных дасьледваньню жыцьця і дзейнасьці Скарыны, а таксама й яго эпохі, выдана расійскімі, украінскімі, чэскімі, польскімі і беларускімі вучонымі. Scoriniana—багатая літаратурай навука. Але чытачу серадняку, ды й не яму толькі, яна невядома, недаступна, бо ўсе гэтыя працы раскіданы па акадэмічных расійскіх і замежных выданьнях, апрача таго шмат якія выданьні аб Скарыне сталі бібліографічнай рэдкасьцю. К таму-ж яны не адзначаюцца адзінствам ацэнкі фактаў, адзінствам поглядаў аўтараў. Вось чаму гэтак своечасовы і пільна неабходны, выданы Інбелкультам у адзнаку сьвята беларускае культуры, зборнік, прысьвечаны вінавайцы гістарычнае даты —Скарыне.

Чатырохсотлецьце беларускага друку сьвяткавалася ў 1925 годзе, у тым-жа годзе Саўнаркомам БССР была вынесена пастанова аб выпуску гэтага зборніку, але выйшаў ён толькі к сярэдзіне 1927 г. (хоць тытульны аркуш і мае дату 1926 г.). Гэтае спазьненьне трэба аднесьці на рахунак тэхнічных перашкод — перагруз Менскіх друкарняў, не прыстасаваных да выдаваньня выданьняў акадэмічнага тыпу, але спазьненьне гэтае значна пазбавіла зборнік надзённасьці.

Францішак Скарына—сын сваёй эпохі, яго дзейнасьць—„продукт“ гэтае эпохі, эпохі адраджэньня. Каб зразумець мотывы дзейнасьці Скарыны, неабходна ведаць сутнасьць эпохі. На дзейнасьць Скарыны меў значны ўплыў італьянскі гуманізм. Яму і прысьвечана першая група артыкулаў (проф. Ул. Перцаў—„Гуманізм у Італіі“, проф. Зьм. Ягораў „Падуанскі унівэрсытэт у XV—XVI сталецьцях“, проф. Ант. Ясінскі—„З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVII сталецьця“). З становішчам Літоўска-Беларускае Дзяржавы, дзе нарадзіўся Скарына і дзе адбывалася значная частка яго дзейнасьці, знаёміць другая група артыкулаў (проф. Мацей Любаўскі—„Літоўска-Беларуская Дзяржава ў пачатку XVI сталецьця“, проф. Ул. Пічэта—„Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецьця“, Вас. Дружчыц—„Места Вільня ў першай палове XVI сталецьця“). Трэцяя група артыкулаў дае нам адбітак эпохі беларускага адраджэньня і дзейнасьці Скарыны (проф. Ул. Пічэта—„Беларускае Адраджэньне ў XVI сталецьці“, проф. Міх. Піотуховіч—„Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасьць“, Мік. Шчакаціхін —„Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны“, Язэп Воўк-Левановіч—„Мова выданьняў Францішка Скарыны“), і, нарэшце, чацьвертая група дае гісторыю беларускага друку вывучанай эпохі і бібліографію прац аб Скарыне (проф. Ул. Пічэта—„Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях“, проф. Ул. Пічэта —„Scoriniana (1776—1926 г.)“.

Усе гэтыя артыкулы зьяўляюцца апрацоўкай дасьледваньняў пытаньня, якія меліся да гэтага часу; у іх сабрана шмат цікавага матар'ялу, што ўсебакова асьвятляе гісторыю першых крокаў кнігадрукаваньня на Беларусі. Але компіляцыйны характар прац ня мог не адбіцца на адзінстве вывадаў аўтараў артыкулаў—яны ў сваіх заключэньнях часта-густа супярэчаць адзін другому, а гэта значна зьніжае

вартасьць зборніка, пазбауляе яго значэньня фундаментальнай, вычэрпваючай тэму працы.

Дамо некалькі прыкладаў гэтакіх, адбіваючыхся на цэласьці і складнасьці зборніка, супярэчаньняў.

1. У той час, як у прадмове да зборніку безадмоўна зацьвярджаецца, што „атрымаўшы пачатковую асьвету ў Полацку, Францішак Скарына вучыўся далей у Кракаўскім і Падуанскім унівэрсытэтах“, і выходзячы з гэтага даецца артыкул, які знаёміць нас з Alma Mater Скарыны—Падуанскім унівэрсытэтам (да рэчы, чаму такога гонару пазбаўлены Кракаўскі унівэрсытэт, дзе Скарына атрымаў годнасьць бакаляўра?),—Піотуховіч („Францышак Скарына“ стар. 168), грунтуючыся на тым, што Скарына атрымаў ступень доктара ў лекарскіх навуках у 1512 годзе, у пэрыод доўгага перапынку ў працы унівэрсытэту, дзякуючы чаму і ня лічыцца ў сьпісах студэнтаў унівэрсітэту, а толькі ў сьпісах ляўрэатаў—зусім рэзонна ставіць пад сумненьне магчымасьць атрыманьня Скарынай асьветы ў Падуанскім унівэрсытэце, устанавіўшы толькі бясспрэчнасьць атрыманьня ў ім доктарскай ступені, аб чым сьведчаць акты Падуанскага унівэрсытэту

2. Для высьвятленьня мэты распачатага Скарынай выданьня кніг рэлігійнага зьместу, не малое значэньне мае азначэньне рэлігійнага вызнаньня Скарыны. Вучоных інтрыгавала тое, што кнігі Скарыны прыстасаваны да праваслаўнага богаслужаньня, сам-жа ён меў два імя—„Францішак“ і „Юры“, што звычайна ў каталікаў, традыцыя-ж друкаваньня рэлігійных кніг у мове, зразумелай насельнасьці,—належыць протэстантызму. Адсюль і тры вэрсыі аб вызнаньні Скарыны. Як-жа гэтае пытаньне трактуецца ў зборніку?—Проф. Ясінскі („З культурнае гісторыі Чэхіі“ стар. 41), разабраўшы ўсе за і проці, кажа: „Як відаць па ўсім, Скарына быў і не каталіком, і не праваслаўным, а гарэтыкам, нахільным да гусызму, ці да яго адмены—чэскаго брацтва, ці нават да лютаранства“. Выходзячы з гэтага, аўтар і абгрунтоўвае прычынна дзейнасьць Скарыны.

— Проф.-жа Піотуховіч („Францішак Скарына“, стар. 163) таксама падрабязна і дакладна раскрытыкаваў вывады вучоных і катэгорычна заяўляе, што Скарына належаў да праваслаўнага вызнаньня.

— Проф. Пічэта („Scoriniana“, стар. 293), азнаёміўшы чытача з шматлікай літаратурай па гэтым пытаньні, не дае свайго заключэньня.

3 Істотным зьяўляецца пытаньне аб уплыве на выданьні Скарыны падобных-жа, выданых раней на Захадзе, выданьняў; цікава—у якой меры выяўлена Скарынай самастойнасьць у выкананьні сваіх выданьняў. І тут зборнік не дае грунтоўнага адказу. Так, проф Пічэта („Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях“, стар 235) гаворыць, што па думцы Уладзімерава, які выдаў найбольш фундамэнтальную працу, прысьвечаную дзейнасьці Скарыны, гравюры выданьняў Скарыны знаходзяцца ў залежнасьці ад нюрэнбэргскіх выданьняў біблії з малюнкамі—1483 г. („Скарына шырока карыстаўся нюрэнбэргскімі гравюрамі“, кажа Пічэта), ілюстраванай хронікі Шэдэля ў лацінскай і нямецкай мове (1493 г.) і Postilla Міколы Лірана (1481 г.), заключаючы ад сябе: „Гэткім чынам, праскія выданьні Скарыны былі найбольш зьвязаны з сучаснымі ім нюрэнбэргскімі і аўгсбургскімі нямецкімі выданьнямі“. Як бачым, Пічэта далучаецца да вы аду Уладзімерава.

Шчакаціхін-жа („Гравюры і аздобы ў выданьнях Скарыны“, стар 205) кажа, на падставе аналізу гравюр, што яны ні ў якой меры не маглі быць запазычаны з вышэйпамянёных выданьняў, і заключае што „высунутая ўпяршыню Уладзімеравым і пасьля яго традыцыйна пашыраная ў літаратуры думка аб найбольш інтэнсыўным уплыве ўласна нямецкае гравюры на мастацкі бок выданьняў Скарыны бязумоўна патрабуе вядомага перагляду“. І далей: ...„трэба прызнаць, што ўсе гэтыя зацьверджаньні Уладзімерава амаль што ня маюць пад сабай рэальных падстаў, асабліва ж, што „набліжэньні кніжак Скарыны да выданьняў Лірана і Шэдэля пагрунтаваны на нейкім асноўным непаразуменьні“. Шчакаціхін дапушчае толькі запазычаньне з „Хронікі“ Шэдэля і „Комэнтарый“ Лірана 6 тлумачальных рысункаў да Саламонавага храму з 3 кнігі „Царстваў“ (1518 г.), і 5 тлумачальных рысункаў да скініі з кнігі „Ісход“ (1519 г.), якія маюць другараднае, далёка не мастацкае значэньне.

Наогул, праца Шчакаціхіна выгадна вылучаецца з ліку іншых, не зьяўляючыся натолькі компіляцыйнай, як іншыя. Аўтар крытычна аналізуе працы папярэднікаў, не пакладаецца на іх—ён сам дасьледуе гравюры выданьняў Скарыны, як праскія, так і віленскія, дакладна апісвае іх, выказвае шэраг новых, сьвежых і цікавых думак, абвяргаючы тэндэнцыйныя заключэньні дасьледчыкаў-папярэднікаў. Іх працы паслужылі яму не адходным і падстаўным, а толькі дапаможным матар'ялам.

І ў артыкулах, якія маюць у зборніку другараднае, дапаможнае значэньне,—няма адзінства ацэнкі зьявішчаў. Так, проф. Перцаў („Гуманізм у Італіі“, стар 13) даказвае памылковасьць тэй думкі вучоных, што гуманізм Італіі меў сваім пачаткам перасяленьне бізантыйскіх грэкаў ў Італію (пасьля ўзяцьця Константынополю туркамі), якія прынесьлі з сабой веды грэцкае мовы і літаратуры. Ён даказвае, што грунтам для італьянскага гуманізму зьявілася разьвіцьцё вялікіх гандлёвых гарадоў, і зарадзіўся ён задоўга да ўзяцьця Константынополю туркамі Антычная культура грала толькі службовую ролю ў апрацоўцы новае індывідуалістычнае культуры. Проф-жа

Ягораў („Падуанскі універсытэт", стар. 27) гаво ыць, што Ўсхсд прыьёс у Італію ня толькі веды грэцкае мовы і літаратуры, але і н вую ідэолёгію, і згаджаецца з тым, што менавіта грэцкая культура ўкаранілася ў Італіі.

Зборнік падрыхтоўваўся да друку рэдакцыйнай комісіяй, створанай Інбелкультам. Ей трэ' былс-б улічыць супярэчнасьць заключэньняў аўтараў. прымаўшых удзел у зборніку, і даць сваё рэзюмэ Без яго-ж чытач заходзіць у тупік.

Да недахопаў трэба аднесьці і тое, што аўтары артыкулаў, карыстаючыся лі аратурай аб Скарыне, якая мелася, запамінаюць. што яе ня мае чытач, і. замест выкладаньня поглядаў дасьледчыкаў, часта даюць сухую зноску: „Аб гэтым глядзі ў такога-та, стар такія-та". Гэта пазбаўляе чытача зрэдку каштоўных і цікавых даведак.

З тэхнічнага боку зборнік выданы добра: дадзена 42 укладныя аркушы з здымкамі гравюр і шрыфтоў Скарыны і некаторых наступных выданьняў, якія навочна паказваюць высокі развой беларускага мастацтва таго часу, 19 укладных аркушоў ілюструюць дапаможныя артыкулы зборніку першай і другой групы. Усім ім дадзена ў канцы зборніку падрабязнае тлумачэньне, апрацаванае Шчакаціхіным, дадзены так сама паказьнік гэографічных назоў і уласных імён, што палягчае навядзеньне даведак па зборніку Шмат ў кнізе заставак, канцовак, загалоўных літар, выкананых у духу выданьняў Скарыны. Папера добрая, шрыфт ясны, хоць прыкметна адсутнасьць літары „Ѳ" (фита) і недахоп літары „Ѣ". У акадэмічным выданьні гэта вялікі мінус.

У вогуле, ацэньваючы зборнік неабходна сказаць, што ў поўнай меры ён ня вырашыў пастаўленай перад ім задачы. У некаторых выпадках супярэчнасьць трактоўкі пытаньня зацямняе яго. Высоўваецца ўва ўсю шырыню пытаньне аб пільным пераглядзе ўсяго, што ёсьць, матар'ялу (які пабудаваны часта толькі на дасьціпных дагадках), вывучэньні, дасьледваньні яго, адшуканьні новых дадзеных (бо шмат чаго ў дз йнасьці і жыцьці Скарыны яшчэ схована ад навукі, а між тым мае вялікае значэньне). Паўстае пытаньне і аб выданьні поўнае гісторыі кнігадруку на Беларусі. У рэцэнзуемым зборніку каротка ахарактарызавана толькі праца друкарняў XVI й XVIII сталецьцяў. Што вышла-ж „Гісторыя крыўскае (беларускае) кнігі" В. Ластоўскага (Коўна, 1926 г. VIII+776 стар.) на кніжным рынку ў БССР адсутнічае. Гісторыя кнігі ў Беларусі павінна ахапіць ня толькі працу беларускіх друкарняў, але тых, што друкавалі на іншых мясцовых мовах (цікава, напр., гісторыя яўрэйскіх друкарняў, якая зьявілася ў XVIII сталецьці).

Інбелкульт, які вядзе вялікую працу па зборы раскіданых зярнят беларускае культуры, які шмат ужо зрабіў у гэтым кірунку, павінен даць і грунтоўную, вычэрпваючую гісторыю кнігі на Беларусі.

**Хв. Шынклер.**

# ХРОНІКА

## Б. С. С. Р.

— Якуб Колас рыхтуе да друку першы том сваіх твораў. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва будзе выдаваць поўны збор яго твораў

— Поўны збор твораў Янкі Купалы выдаецца ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве другім выданьнем. Ужо друкуецца першы том. Чацьвёрты том першага выданьня выходзіць з друку неўзабаве.

— Другім выданьнем друкуецца поэма Якуба Коласа „Сымон Музыка". Яго-ж кніга апавяданьняў „На прасторы жыцьця" друкуецца ў перакладзе на польскую мову.

— Дру уецца кніга проф І Замоціна „Мастацкая літаратура", частка 2-я.

— Вышаў з друку зборнік ве шаў Уладзімера Жылкі„ З палёў Заходняй Беларусі".

— Вышаў з друку зборнік вершаў М. Грамыкі „Плынь".

— У Беларускім Дзярж. Выдавецтве друкуюцца кнігі: А. Моркаўка—зб рнік вершаў, Кляшторны—„Сьве ацені" зборнік вершаў, М. Зарэцкі— Сьцежкі-Дарожкі"—роман

— Т Кляшторны піша другую частку поэмы „Калі асядае муць" і перапрацоўвае поэмы „Сусьвет".

— Пры Цэнтральным Беларускім Клюбе ў Маскве організавалася асоцыяцыя па вывучэньні беларускае мастацкае літаратуры. Ініцыятарамі-заснавальнікамі зьяўляюцца т. т. Марыя Багдановіч, Юры Бярозка, Уладзімер Дубоўка, М. Дуброўскі, М Калевіч А. Труновіч, П. Шастакоў. К. Якаўчык і інш. Адбыліся організацыйныя сходы, на якіх разгледжаны і зацьверджаны плян бліжэйшае працы, а таксама выбраны адказны сэкратар асоцыяцыі (Юры Бярозка).

— Зважаючы на тое, што вытлумачэньне многіх фактаў сучаснае літаратуры (асабліва галіны формальна-мастацкай) немагчыма без дасьледваньня народнае творчасьці, асоцыяцыя і прыступіла да гэтага ў першую чаргу (першы цыкль—народная казка). Паасобныя тэмы, якія апрацоўваюцца членамі асоцыяцыі, такія: „Пабудова сужэту беларускае народнае казкі", „Фантастыка ў беларускай народнай казцы", „Вызуленчыя сродкі ў бел. н. к.", „Погляды на мастацтва беларускага народу", „Рытміка вершаваных беларускіх казак", „Элемэнты сатыры ў бел н. к." і г д.

Падрыхтаваныя досьледы будуць зачытавацца на агульных сходах асоцыяцыі, а пасьля гэтага будуць выдрукаваны ці паасобным зборнікам, ці ў аднэй з беларускіх часопісяй.

— Члены асоцыяцыі т.т.Бярозка і Якаўчык, апрача працы па дасьледваньні народнае творчасьці, апрацоўваюць сэрыю літаратурных портрэтаў сучасных беларускіх пісьменьнікаў. Портрэты будуць выдрукаваны ў часопісі „Узвышша".

— Юры Бярозка закончыў літаратурны портрэт Ул. Дубоўкі і апрацоўвае портрэты Я. Коласа, З. Бядулі, Крапівы і Я. Пушчы.

— К Якаўчык закончыў літаратурны портрэт М. Чарота і апрацоўвае портрэты Я. Купалы, К. Чорнага, Ул. Жылкі і М. Гарэцкага.

— А. Труновіч рыхтуе да друку монографію пра творчасьць Я. Купалы, паасобныя разьдзелы з якой, да выдрукаваньня кнігаю, будуць зьмешчаны ў часопісі „Узвышша".

— Ул. Дубоўка працуе над досьледам, прысьвечаным творчасьці Уладзімера Жылкі.

## Нямеччына.

— Г. Гауптман скончыў новы роман „Дэман". Роман друкаваўся часткамі ў газэце „Фосішэ-Цэйтунг".

— У Данцыгу знойдзена некалькі, дагэтуль невядомых, лістоў Шопэнгаўэра.

— У выдавецтве „Heroldo de Esperanto" выйшла з друку кніжка Тео Jung'a—„Краіна фантазіі". Гэтае-ж самае выдавецтва выдала першую сэрыю ілюстраванай бібліотэкі пад агульнай назваю „Усход", куды ўваходзяць пераклады на эспэранто твораў явайскіх, кітайскіх, індыйскіх і арабскіх пісьменьнікаў.

Т-ва імя Г. Клейста, якому споўнілася з дня на аджэньня 150 год, выдае яго драму „Пэнэзілея"

— Нямецкая часопісь „Pfaffenspiegel" зачынена за антырэлігійны артыкул. У хуткім часе адбудзецца суд. Абвінавачваць будзе біскуп Дайтнэр.

— У Штутгарце забаронены кніжкі пісьменьніка Макса Годан.

— Выдавецтва Mosse выдае на эспэранто „Бібліотэку ўсясьв тнай літаратуры", куды ўваходзяць лепшыя творы ўсіх літаратур.

## Францыя.

— У Мэнтоне памёр гішпанскі пісьменьнік Бласко Ібаньес. Перад сваёй сьмерцю ён напісаў ліст, у якім забараніў перавозіць яго цела ў Гішпанію, бо ён ня хоча знаходзіцца ні жывым, ні мёртвым у краіне, дзе пануе дыктатура сучаснага гішпанскага ўраду.

— Жюль Ромэн рыхтуе да друку зборнік апошніх і напісаных раней артыкулаў і крытычных аглядаў. Зборнік будзе называцца „Праўда ў бутэльках".

— Прэмія францускага роману ў 10.000 франкаў прысуджана ляўрэату францускай акадэміі Жозэфу Кэсэлю. Прэмія прысуджана за новы роман „Ле-Картіф".

Марсэль Арлан выпусьціў у выдавецтве Ашэт свае новыя творы „Les Ames en peine“ і „Etapes“.

— У выдавецтве Ашэт вышла кніжка П. Істраці і Ё. Егудa „Сям'я Пэральмутраў“.

— *А. Барбюс гвядзе падрыхтоўчую працу* па выданьню часопісі „Le Mond“.

— У Марсэлі адбыўся конгрэс інтэлектуальных работнікаў, у якім прынялі ўдзел Усеагульная асоцыяцыя францускага студэнцтва і шэраг іншых организацый. На конгрэсе былі заслуханы некалькі навуковых і літаратурных дакладаў. Потым конгрэс наведаў музэй Марсэлю.

— Цэнзурай забаронены наступныя кніжкі францускіх пісьменьнікаў: нарысы Ампа, пад назваю „Людзі“, аповесьць Рамюза „1918“ (з часу усясьветнай вайны), Роні „Падарожнікі і бясконцасьць“ і Дэрэна „У краіне лёду“ (з гісторыі Грэнляндыі 18 ст.)

— Француская газэта „Комэдіа“ організавала сярод пісьменьнікаў анкету на тэму „Што засталося ад Золя“?

## Бэльгія.

— Пісьменьнік Жан Туссэль працуе зараз над романам з жыцьця рабочых капальнікаў. Яго твор „Сьмерць малой Бланшы“ перакладзен ужо на некалькі моваў.

— Вядомы бэльгійскі грамадзянскі дзеяч д-р Шамельгут рыхтуе да друку другую кніжку сваёй працы „Народы Эўропы і барацьба нацыянальнасьцяй“. У другой кніжцы шмат месца зойме нацыянальнае пытаньне ў СССР азнаёміцца з якім аўтар прыяжджаў у СССР. Шмат матар'ялаў аўтар сабраў аб Беларусі і аб Украіне.

— Леон Бэргіерс піша свае ўспаміны аб пісьменьніках Е. Экгоўцу і Пьеру Бродкурэну, якія былі яго літаратурнымі настаўнікамі.

## Італія.

— У адным Мілане налічваецца каля 2000 настаўнікаў сьпеваў. З усіх краін сьвету ў Італію зьяжджаюцца, каб удасканаліць свой голас. Найбольшы лік прыежджых—з Амэрыкі, найменшы—рускія сьпевакі.

— З італьянскіх сьпевакоў бoльшым посьпехам карыстаюцца Тоці-Даль-Монтэ-Колор (сопрано), Гэлэфі (барытон), Джыльі (тэнар), Каваллініі (барытон). Большасьць-жа італьянскіх сьпевакоў знаходзіцца па-за межамі, галоўным чынам у „залатой краіне“—Амэрыцы.

— Вядомы сьпявак Бацьцісьціні пакінуў зусім сцэну.

— Проф. Л Бэнэдэтто рыхтуе да друку поўны збор твораў Марко Поло. Ня гэтак даўно італьянскі ўрад прадаў у Англію рукапіс Марко Поло.

## Швэйцарыя.

— Апублікаваны новы рукапіс Р. Вагнэра, які дагэтуль знаходзіўся ў прыватнай асобы. Рукапіс належыць да 1853 г.

— Жэнэўскі унівэрсытэт адчыніў на літаратурным аддзяленьні катэдру мовы эспэранто. Выкладаць мову запрошан вядомы эспэранскі дзеяч—пісьменьнік і акадэмік Э. Прыва.

## Англія.

— Памёр драматург Томас Хардзі на 87 г. свайго жыцьця Па профэсіі ён быў архітэктар. Лепшымі яго творамі трэба лічыць „Лясныя насельнікі“, „Гарадзкі галава Кастэрбрыдж“, „Юдэ невядомы“, „Пад зялёным лесам“ і інш.

— Пісьменьнік Шэн Лесьлі напісаў кніжку аб Свіфту, ангельскім сатырыку.

— У Лёндане выйшла ў сьвет кніжка Уайта і Клэя аб сучаснай ангельскай літаратуры.

— Т-ва культурнае сувязі з СССР і ангельскі саюз рабочых эспэрантыстых організоўваюць бюро культурнай сувязі паміж рознымі краінамі. Бюро мае мэтай дапамагчы культурнай сувязі паміж краінамі. Бюро мае намер выдаваць свой бюлетэнь на эспэранто і ангельскай мовах. Организатарам бюро выдзелен Марк Старр, старшыня саюзу раб. эспэрантыстых.

## Норвэгія.

— У шырокіх літаратурных колах рыхтуюцца да 100-гадовага юбілею з дню нарадженьня Ібсэна. У нацыянальным тэатры за месяц да сьвята пачнуцца пастаноўкі усіх п'ес Ібсэна. 20 сакавіка ў дзень юбілею ў актавай залі унівэрсытэту ў Осло адбудзецца ўрачыстае пасяджэньне. Да гэтага дню унівэрсытэт рыхтуе ібсэнаўскую выстаўку, а таксама і пачатак цыклю лекцый аб Ібсэне.

— Юбілейныя ўрачыстасьці будуць праведзены па ўсёй краіне ў ва ўсіх гарадох.

## Вэнгрыя.

— Акрамя „Саюзу Рэволюцыйных Пісьменьнікаў“ у Вэнгрыі існуюць яшчэ група пісьменьнікаў „Заход“ і група дробна-буржуазных анархістаў-пісьменьнікаў „Сёньня“.

— На чале „Саюзу Рэволюцыйных Пісьменьнікаў“ стаяць пісьменьнікі: Ілеш, Гіндаш і Залка.

— Рабочы эспэранто-саюз выдаў кніжку поэты Юлія Багіі „Скачэце марыянэткі“.

— У Будапэшце памёр вядомы вучоны пісьменьнік і журналіст Паўле Гойтсі.

## Польшча.

— Спэцыяльная комісія, ў складзе В. Жымоўскага, П. Хайноўскага, Дамброўскага, В. Завістоўскага, К. Іжыкоўскага і К. Врочынскага прысудзіла дзяржаўную літаратурную прэмію ў 10 тысяч злотых польскаму пісьменьніку Леопольду Стаффу за яго апошні том вершаў „Ucho igielne“. выданы Мортковічам у сэрыі кніжак пад агульнай назваю „Пад знакам поэтаў“.

— Выдавецкае таварыства Тржаскага, Эвэрта і Міхальскага выдае кніжку „Polska, jej dzieje i kultura“ пад рэдакцыяй проф. Антаневіча, Арнольда, Быстроніа, Яхімскага Каненбаха, Трэтэра і інш.

— У Варшаве і Вільні выдадзены да 10-годзьдзя з дню сьмерці вядомага яўрэйскага пісьменьніка Мэндэлэ-Мойхэр-Сфорым кніжкі „Яўрэйская літаратура да Мэндэлэ“ і „Мэндэлэ і яўрэйская літаратура“.

### Швэцыя.

— У Гётэборзе ідзе падрыхтоўка да 8-га ўсясьветнага конгрэсу рабочых-эспэрантыстаў, які адбудзецца ў пачатку жніўня. На конгрэс чакаецца прыезд дэлегатаў з 32 краін.

У час конгрэсу адбудзецца конфэрэнцыя культурных працаўнікоў (літаратараў, журналістых і інш.).

### Баўгарыя.

— У тэатры „Рэнэсанс“ баўгарскі тэатр „Родна сцэна“, пад кіраўніцтвам Матэя Ікономова, ставіць новую комэдыю „Да жывее лъжата“.

— У Баўгары быў урачыста адсьвяткованы 100-гадовы юбілей з дню нараджэньня пісьменьніка П. Славейкова.

— Буржуазныя пісьменьнікі Баўгары групуюцца навокал фашысцкай газэты „Родна Защита“ і манархісцкай „Кубрат“.

— Дагэтуль яшчэ літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Редрына“ не атрымала дазволу на выданьне сваё часопісі зачыненай па загадзе паліцыі. Яшчэ і цяпер шмат баўгарскіх пролет. пісьменьнікаў сядзяць у турмах. Пісьменьнікам забаронены літаратурныя сходы.

### Паўн. Амэр. Злучан. Штаты.

— Амэрыканскі тэатральны крытык і тэорэтык мастацтва Гербэрт Бібэрман піша кніжку „Тэатр будучыны“, дзе ён гаворыць, што толькі тэатр СССР мае будучыну, бо ў ім няма пагоні за рашыма...

— У групу графікаў-мастакоў Амэрыкі, якая гуртуецца пры левай часопісі „New Mosses“ уваходзяць вядомыя мастакі Робінсон Матулка, Гроппэр, Дэйн, Гэллерт, Лазовік, Бэйкон Фіні і цэлы шэраг іншых даволі значных мастакоў.

— Уптон Сінклер піша зараз вялікі роман „Бостон“. Тэма раману—забойства Сакко і Ванцэці.

— Вядомы амэрыканскі вучоны, прафэсар політэкономіі Дан знаходзіцца зараз у Маскве, дзе вывучае сур'ёзна савецкую літаратуру і тэатр.

### Японія.

— Організавана ліга пролетарскіх пісьменьнікаў, у якую ўваходзіць група маладых пісьменьнікаў: Х. Сано, Хісайта і інш.; група зьвязана з ком. партыей.

— Вышлі ў сьвет № 19-20 часопісі „Японасавецкае мастацтва“.

— У нумарох шмат цікавага матар'ялу аб літаратурным жыцьці СССР.

— Выданы на экспэранто „Народныя сьпевы“ Японіі.

### Аргэнтына.

— Аргэнтынскі ўрад нацыяналізаваў тэатр імя Сэрвантэса—самы найлепшы і найбольшы тэатр у Буэнос-Айрэсе. Гэты тэатр належыў прыватнай асобе. Цяпер урад мае на ўвазе адчыніць у нацыяналізаваным тэатры нацыянальную драму і комэдыю. Артысты гавінны быць аргэнтынцамі. Тэатру даецца субсыдыя ад ураду. Абвяшчаецца конкурс на лепшы драматычны твор аргэнтынскіх драматургаў і пісьменьнікаў

— Аргэнтынскі пісьменьнік-романісты Мануэль Угарэ рыхтуе да друку кніжку аб сваіх уражаньнях пасьля наведваньня СССР у дзень урачыстасьцяй 10-ае гадавіны Кастрычніка.

### Гішпанія.

— Організацыйны комітэт па скліканьню VII гішпанскага конгрэсу эспэрантыстых у Севільле абвясьціў міжнародны літаратурны конкурс на лепшы твор, напісаны на эспэранто. Прысуджэньне прэмій адбудзецца на конгрэсе, які склікан на 5 лістапада 1928 году.

## Хроніка яўрэйскага культурн. жыцьця.

— У лютым споўнілася 10 г. з дню сьмерці пісьменьніка—Мэндэлэ-Мойхэр-Сфорым (Абрамовіч) які паклаў пачатак мастацкай літаратуры на яўрэйскай новай мове. Пісьменьнік нарадзіўся ў м. Капылі, Менскай акругі. У Менску ў рабочых клюбах адбыліся вечары, прысьвечаныя памяці пісьменьніка. Ставіліся драмгурткамі яго п'есы. Пры НК Асьветы была ўтворана комісія, якая кіравала правядзеньнем вечароў памяці пісьменьніка, якія адбыліся ўва ўсіх гарадох БССР.

— У Капылі імем пісьменьніка будзеназван пляц у мястэчку. На хаце, дзе радзіўся і жыў Мэндэлэ прыбіта памятная дошка.

— Па СССР у шэрагу гарадоў адбыліся пасяджэньні, прысьвечаныя пісьменьніку. Выдавецтва „Школа і Кніга“, а таксама і Украінскае Д. Выдавецтва выдалі творы Мэндэлэ-Мойхэр-Сфорым.

## Беларусь у замежным друку.

### Фінляндыя.

— У рабочай газэце „Tiedonantaja“, № 16 за 1928 г., зьмешчан артыкул Зьм. Сьнежкі „Беларускі друк“. У гэтай самай газэце, ў № 26, зьмешчан артыкул „Народная гаспадарка БССР“.

— Газэта „Tiedonantaja“ ў № 302 (1) зьмясьціла артыкулы аб Заходняй Беларусі і аб „Беларускай Грамадзе“

— У тыднёвіку „Liekki“ № 34 зьмешчан артыкул Зьм. Сьнежкі „Палеская сялянка каля мікрафону.

— У часопісі „Kirjatyo-bokarbete“ зьмешчан ліст рабочых 1-ай дзяржаўнай друкарні Менску да рабочых-друкароў Гельсінгфорсу. У лісьце падрабязкова напісана аб жыцьці друкароў Беларусі.

— У цэлым шэрагу фінскіх рабочых газэт зьмешчан невялічкі артыкул Ф. Пэрго аб

часопісі „Узвышша“. дзе быў надрукован артыкул аб „фінскай літаратуры“ У артыкуле адзначаецца добрая тэхніка выданьня часопісі: „Дзякуючы Сав. уладзе, малыя нацыянальнасьці былой Расіі атрымалі магчымасьць мець такія добрыя свае выдан ні на сваёй мове“.

## Чэха-Славакія.

— У чэскай комуністычнай газэце гор. Млодэ зьмешчан артыкул ваенкора Бабруйскай сялянскай газэты „Комуніст“.

— У Пілзэнскай комуністычнай газэце „Праўда“ надрукован артыкул аб Беларускім Комуністычным Унівэрсытэце.

— На выстаўцы ў памяшканьні рабочага саюзу ў Вене адведзен куток для матар'ялаў з БССР. Бюро між. сувязі паслала ўжо шмат розных матар'ялаў для кутка.

## Бэльгія.

— У комуністычнай газэце „Драпо Руж“ зьмешчана нататка аб тым. што ў часопісі „Чырвоны Сейбіт“ надрукован артыкул Леона Бэргіерса аб „Пролетарскіх романістах Бэльгіі“. Рэдакцыя адзначае гэты факт, як пачатак больш сталых культурных адносін паміж Бэльгіяй і БССР.

## Вэнгрыя.

— У часопісі культурных організацый „Munkas Kultura“ зьмешчана некалькі нататак аб культурным жыцьці Беларусі.

## Аўстрыя.

— У часопісі „Cosmoglotta“ зьмешчана нататка аб газэце „Савецкая Беларусь“, дзе нядаўна было зьмешчана аб міжнароднай мове Окцыдэнталь.

## Француыя.

— У тыднёвай часопісі „Sennaciulo“ ў апошні час зьмешчаны наступныя артыкулы:

— У Льенскай газэце „L' Effort“ надрукованы за апошні час два артыкулы „Комвуз у Беларусі“ і „Беларускія хатнікі“.

— У рэдакцыю часопісі „Sennaciulo“ надаслан артыкул аб „культурных заваёвах у БССР“.

— Па просьбе рэдакцыі часопісі „Internacia Medicina Revuo“ бюро міжнароднай сувязі выслала артыкул аб працы па ахове здароўя на Беларусі, які будзе зьмешчан у № 3 часопісі.

— У № 2 мэдычнай часопісі „Internacia Medicina Revuo“ зьмешчан артыкул д-ра І. Іргера (Менск) „Слановасьць на глебе сухоты“.

— У прэс-бюлетэні міжнароднага прэс-бюро SAT зьмешчан артыкул Менскага школьніка Л. Мятліцкага „Як працуе мой піонэрі атрад“.

— У часопісі „Sennaciulo“ зьмешчана нататка аб усіх газэтах БССР, дзе надрукован быў матар'ял, атрыманы на мове эспэранто.

— У часопісі „Sennaciulo“ зьмешчан артыкул аб 2-гадовай сувязі рэдакцыі газэты „Бел. Вёскі“ з замежамі з дапамогаю эспэранто.

## Швэцыя.

— У Гётэборгскай газэце „Vast-Svenske Kuriren“ зьмешчан артыкул аб народнай гаспадарцы БССР і фотографія тав. Галадзеда.

— У цэнтральнай газэце Швэдскай ком. партыі „Volkets Dagblat Politiken“ зьмешчан артыкул з „Беларускай Вёскі“ селькора часопі і „Бел. Вёска“.

— У шэрагу швэдзкіх комуністычных газэт у студзені і ў лютым месяцы былі надрукованы артыкулы аб Заходняй Беларусі і аб процэсе Беларускай Грамады.

— У часопісі „Svenska-Arbetar Esperantisten“ зьмешчан першы ліст таварышаў дэлегатаў на 8-ы ўсясьветны конгрэс рабочых эспэрантыстых. Сярод іх 5 таварышаў з Беларусі.

— Згодна паведамленьню тав. Эйнар Адамсона брошура аб БССР будзе выпушчана да 8-ае гадавіны існаваньня БССР. Брошуру выдае Рабочы Эспэранто Саюз і Гётеборгскі комітэт ком. партыі Швэцыі.

— Бюро міжнароднай сувязі атрымала ліст ад Швэдзкага саюзу культурных рабочых організацый аб устанаўленьні сувязі і абмену хронікай і інш. культурнымі матар'яламі.

— Бюро між. сувязі прыняла гэту прапанову.

## Нямеччына.

— „Sächsische Arbeiter Zeitung“ у нумары ад 28 студзеня 28 г. зьмясьціла прывітальныя лісты зьезду чырвоных фронтавікоў Саксоніі, атрыманыя ад Бел. Аб. Вайск. школы і бюро міжнароднай сувязі эспэрантыстых.

— Рульскае таварыства культ. організацыі прапанавала клюбу ім. К. Маркса абмяняцца сьцягамі і ўстанавіць сувязь паміж організацыямі.

## Японія.

— Рэдакцыя часопісі „Япона-савецкае мастацтва“ згадзілася надрукаваць артыкул аб літаратуры Савецкай Беларусі. Бюро між. сувязі паслала патрэбны матар'ял.

*Рэдагуе* **Рэдколегія.** *Выдае* **„Узвышша“.**

# Зьмест „Узвышша“ за 1927 год.

## № 4.



## № 5.



## № 6.